Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



Камуністы трох пакаленняў працуюць на старэйшым прадпрыемстве беларускага станкабудавання — заводзе імя Кірава ў Мінску.

Вось сустрэліся на заводскім двары трое камуністаў: майстар Іван Пятровіч Ліпніцкі з кавальска-зварачнага цэха, токар Анатоль Шлопак з інструментальнага і майстар Леанід Сцяпанавіч Галкоўскі — з ліцейнага цэха. І пачалася гаворка на тэмы дня.

— Чаго яны задзіраюцца, паны імперыялісты з Захаду? Хіба ім пад сілу спыніць наш цвёрды поступ у камуністычнае заўтра! — гаворыць самы малады член партыі Анатоль Шлопак. І яго думку падтрымліваюць старэйшыя сябры.

Фота А. Дзітлава.

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

## У НУМАРЫ



Дакументальная аповесць двойчы Героя Савецкага Саюза Сцяпана Шутава «Чырвоныя стрэлы».



Вершы Сяргея Грахоўскага, Міколы Маляўкі, Хаіма Мальцінскага, Марка Смагаровіча, Алега Лойкі, Юрася Свіркі.



Апавяданне Міхася Міхайлава.



Нарысы і артыкулы Барыса Паўлёнка, Віктара Хліманава, Пятра Валкадаева, Віктара Каваленкі.



Рэпартажы Міколы Цімошака, Сцяпана Кухарава, Аляксандра Дзітлава.

**10 (104)**

Кастрычнік.
1961.
Год выдання IX.

Газетна-часопіснае выдавецтва
Галоўвыдата Міністэрства
культуры БССР.
Мінск.

На вокладцы малюнак Г. Скамарохава «Разведчыкі будучыні»

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**

Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Карла Маркса, д. 40. Тэлефон 93-8-54.

Фармат паперы 70 × 108¹/₁₆. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд арк. 14,5. Тыраж 7520 экз. Цана 40 кап.

АТ 12406. Здадзена ў набор 1.IX.61 г. Падпісана да друку 27.IX.61 Зак. 613.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 79.

**Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 79.**



**Першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў вітаецца з дэлегатамі XIII з'езда ВЛКСМ.**

Фота **С. Раскіна.**

## ТАБЕ, ПАРТЫЯ...




**Выдатнымі працоўнымі падарункамі сустрэла моладзь Савецкай Беларусі адкрыццё XXII з'езда роднай партыі.**

**1. Камсамольцы Беларускага аўтамабільнага завода ў пазаўрочны час зрабілі 25-тонны самазвал і ўручылі яго гарнякам Сакалоўска-Сарбайскага горнага камбіната ў Цалінным краі. На здымку, які зрабіў сакратар камітэта камсамола завода В. Казлоўскі ў г. Рудным, засведчана радасць маладых вадзіцеляў камбіната, што атрымалі такі цудоўны падарунак.**

# АРЫФМЕТЫКА ЭПОХІ

Калі ў жыцці пройдзен нейкі этап і будучыня адкрывае новыя далячыні, чалавек, перш чым ступіць цераз рубеж, абавязкова азірнецца. Што засталося ззаду? Чым адзначаны пройдзены шлях? Вось так, прачытаўшы праект Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, і я прыгадаў, чым былі багаты гады, што захаваліся ў памяці, гады, пражытыя пры савецкай уладзе, калі закладваўся падмурак камуністычнага грамадства. У памяці пакалення, што вырасла пасля Вялікага Кастрычніка, яны адбіліся не толькі так, як апісаны ў кнігах, і, вядома, не ў агульнай, абстрактнай форме. Яны засталіся ў памяці, праламіўшыся праз нейкія факты штодзённага жыцця, часам дробныя, непрыкметныя. Але яны ўвабралі ў сябе веліч тых дзён, нясуць на сабе адбітак нашай напружанай, надзвычай багатай падзеямі эпохі.

Канец дваццатых гадоў. Свет незвычайных, грандыёзных рэчаў пачынаўся кіламетрах у пяці ад нашай, схаванай у лясах вёскі. Недалёка была смалярня. Сяляне, праязджаючы міма, дзівіліся на чорную вежу, што ўзвышалася сярод разлапістых дубоў, у захапленні прыцмоквалі:

— Гэта ж трэба прыдумаць, пабудавалі такую штуковіну! — ківалі яны галовамі і ехалі далей.

А якім вялікім і прыгожым здаваўся горад Рэчыца! Брукаваныя вуліцы, двухпавярховыя дамы, бляск рамізніцкіх пралётак, урачысты цокат каваных капытоў... Цывілізацыя!

Успамінаецца і бязмежная Расія, праз якую давялося ехаць у далёкую Сібір: бацька адправіўся на пошукі шчасця. Бясконцыя гарады і гарадкі мільгалі за вокнамі вагона. Зіхатлівым востравам выплыла Масква, якая выставіла напаказ сорак-саракоў залатагаловых цэркваў. Пах свежаспечаных булак — такія нам, вясковым хлапчукам, і ў сне не сніліся, перазвон трамваяў, мітуслівая Сухараўка. Уласна і ўся Масква нагадвала кірмаш сваёй неверагоднай штурханінай, беганінай латочнікаў, грукатам фурманак па бруку... За Масквой ішлі лясы ды лясы. Да Навасібірска ехалі цэлы тыдзень. Поезд дні і ночы бег па зялёных калідорах, і здавалася, што канца-краю ім не будзе. Праляталі вёрсты, шэрыя світкі і белыя анучы змяніліся дубленымі кажухамі і высокімі ботамі, але ўсё такая ж краіна ляжала за акном — шэрая, няўтульная...

Няўжо ўсё гэта было? Так, было. І не так даўно, на памяці пакалення, якое яшчэ не запішаш да старых.

Калі я цяпер прыязджаю ў якую-небудзь далёкую вёску і бачу, як увішна завіхаецца хлопец-школьнік ля радыёпрыёмніка, я ўспамінаю, якім дзівам некалі, гадоў трыццаць назад, здавалася скрынка з навушнікамі не толькі нам, хлапчукам, але і людзям дарослым. Мы самым сур'ёзным чынам думалі, лазячы пад стол, што нехта сядзіць там і гаворыць, прыклаўшы да вуснаў правадок, а па ім гук бяжыць у навушнікі. Не менш настойліва шукалі мы ў электрычным патроне іскру, ад якой запальваецца лямпачка. Мы ўсім хлапечым гуртам бегалі за першым аўтамабілем, які з'явіўся аднойчы ў нашым горадзе. Мы, як на цуд, глядзелі на малатарню — адзіную на ўвесь раён, якая працавала ў камуне.

Вось так і прыходзіла новае ў жыццё. Спачатку нясмела: першым радыёпрыёмнікам, лямпачкай, аўтамабілем, малатарняй, потым хлынула ракою. У гутарках дарослых усё часцей чуліся словы: Кузнецк, Караганда, Турксіб, Магнітка. З газетных палос біла вялікімі літарамі хлёсткае і энергічнае: «Даеш!» Голас эпохі патрабаваў: Даеш Магнітку! Даеш Днепрагэс! Даеш Сталінградскі трак-

## ТАБЕ, ПАРТЫЯ...



**2. Адкарміць і здаць дзяржаве паўтары тысячы свіней — такі працоўны падарунак свінара-механізатара саўгаса «Лоеўскі», што на Гомельшчыне, Аляксандра Дароньki.**

Фота **В. Раманава.** (БелТА)

## ТАБЕ, ПАРТЫЯ...



3. Мінскія трактаразаводцы падрыхтавалі да серыйнага выпуску новыя мадэлі трактараў «МТЗ-52» і «МТЗ-50» і цяпер выпрабоўваюць іх на полі.
Фота У. Лупейкі. (БелТА).

тарны! Мы ўжо не здзіўляліся, убачыўшы аўтамабіль. Мы цягалі амартызатар, памагаючы запускаць планёры. Нам давялося сустракаць на вакзале чалюскінцаў, бачыць у палёце АНТ-25, наглядаць першы савецкі дырыжабль. Усе хлапчукі майстравалі авіямадэлі, усе марылі быць Леванеўскімі, Молакавымі, Чкалавымі. Надыходзіла эра крылатых людзей.

Многае яшчэ давялося пабачыць нашаму сучасніку. І многае вынес ён на сваіх плячах. Ці ж лёгка капаць катлаван пад домну ў саракаградусны мароз, калі ўвесь інструмент — рыдлёўка ды тачка. А ў сценах барака — шчыліны такія, што рука пралазіць. А спяцоўка — адна на дваіх, ды і тая дзіравая. А ў ларку, акрамя хлеба, нічога не купіш, ды і таго не ўдосталь, а па норме, па картках. Але рыдлёўка плюс тачка, памножаныя на энтузіязм, раўняліся датэрмінова пабудаванай домне. Такая была арыфметыка эпохі. І хоць з гэтай арыфметыкі здзекаваліся замежныя спяцы, што прыязджалі да нас па доўгі рубель, яна перамагла.

І тады ўжо мы смяяліся з іх. Ударнікі пяцігодак перакрывалі ўсе магчымыя і немагчымыя рэкорды, апярэджвалі ўсе тэрміны, падпарадкоўвалі сваёй арыфметыцы капрызныя машыны, зробленыя на капіталістычных заводах. І, відаць, не аднаго капіталістычнага жартаўніка хапіла «кандрашка», калі ён убачыў, як гіганцкі вырас «рускі Іван» за два дзесяцігоддзі савецкай улады! Сустракаючы савецкіх дыпламатаў за мяжой, паны заходнія дыпламаты сталі першыя здымаць шапкі. Паблажлівыя ўсмешкі зніклі з твараў буржуазных дзялкоў і камерсантаў. Прадстаўнікі замежных фірм гасцінна расчынялі дзверы, калі да іх прыязджалі супрацоўнікі савецкага знешняга гандлю. У ваенных акадэміях замежных армій сталі тэрмінова вучыць рускую мову. Аказваецца, гэтыя мужыкі і рабочыя, што ўзялі ўладу, не збіраюцца жартаваць, яны пабудавалі моцную дзяржаву...

Так, мы пачыналі з нуля. Наш народ упрогся ў разбітую фурманку, пакінутую ў спадчыну буржуазна-памешчыцкай Расіяй, і пабудаваў магутную дзяржаву рабочых і сялян. У гэтым свет пераканаўся, калі Савецкая Армія разграміла фашысцкія полчышчы, узгадаваныя міжнародным імперыялізмам. У гэтым свет пераканаўся, калі, залячыўшы раны, нанесеныя вайной, мы зрабілі новы гіганцкі скачок у развіцці эканомікі. У гэтым свет пераканаўся, калі, пераадолеўшы зямное прыцягненне, пайшоў у касмічную вышыню першы савецкі штучны спадарожнік Зямлі, калі савецкі чалавек маёр Гагарын першы абляцеў вакол Зямлі на касмічным караблі, калі следам за ім узмыў у прасторы сусвету яшчэ адзін савецкі чалавек — маёр Цітоў. І няхай кусаюць сябе за локці імперыялісты, няхай захлынаюцца злосцю ў шаленай нянавісці да нашай Айчыны. Яны не засмуцяць нашу радасць. Мы пачыналі з нуля, і мы падняліся да зорак!



Злосным паклёпам, раз'юшаным лямантам сустрэлі імперыялістычныя клікушы праект Праграмы КПСС, які будзе прымацца на XXII партыйным з'ездзе. Але гэта ўжо не тыя паклёпы, якімі сустракалі яны нашы першыя пяцігодкі. Тады яны скептычна ўсміхаліся: маўляў, не выканаюць, фікцыя, а не план. Цяпер жа паклёпнічаюць па дробязях, перакручваюць асобныя думкі, падтасоўваюць паняцці. Словам, спрачаюцца не з пазіцый моцнага, упэўненага ў сваіх сілах праціўніка, а з пазіцый жуліка, які ведае, што шляхам здаровай логікі і сумленнага дыспуту яму спрэчку не выйграць. Таму і даводзіцца задавальняцца брахнёй — можа, маўляў, пройдзе... Непрыгодны спосаб выявіць ісціну!

Праўду кажучы, гэта радуе. Калі вораг ужывае брахню, значыць ён слабы. На справе ж імперыялісты не сумняваюцца ў рэальнасці ўсяго таго, што запісана ў праекце Праграмы. Яны вельмі добра вывучылі савецкую арыфметыку. Яны ведаюць, што магутная аснова — сацыялістычная індустрыя плюс навукова распрацаваны план будаўніцтва камуністычнага грамадства, памножаны на веру і волю мас, якія вядзе партыя, прывядуць да камунізма. І нічым гэтага дзеяння не спыніць.

Камунізм прыйдзе, як бы ні злосьнічалі ворагі! Ён нараджаецца ў працы мільёнаў, у простых і будзённых справах рабочых і сялян, народнай савецкай інтэлігенцыі. Ці ж не сустракаем мы з вамі яго моцныя, поўныя жыццёвых сокаў парасткі кожны дзень, на кожным кроку? Для нас звычайным стала, напрыклад, што, рыхтуючыся да сустрэчы знамянальных падзей у жыцці савецкага народа, рабочыя заводаў і фабрык, калгаснікі, вучоныя, інжынеры становяцца на працоўную вахту, прысвячаюць Айчыне свае самыя вышэйшыя дасягненні. Вось цяпер, напрыклад, набліжаецца

## ТАБЕ, ПАРТЫЯ...



4. Калектыў будаўнікоў Мінскага маторнага завода абавязаўся да з'езда здаць пад мантаж корпус па вырабу дызеляў. На здымку перадавыя мантажнікі будоўлі Яўген Бандарэвіч, Анатоль Валошын і Мікалай Лапука.
Фота Ч. Мезіна. (БелТА)

## ТАБЕ, ПАРТЫЯ...



**5. Гэты здымак зроблен фотакарэспандэнтам БелТА А. Пераходам у калгасе імя Леніна Баранавіцкага раёна. Даяркі фермы камуністычнай працы Зіна Герман, Ніна Чэрнік, Кацця Саута і Яўгеня Сернагрэбень змагаюцца за пудовыя надоі малака ад кожнай каровы.**

XXII з'езд КПСС і адусюль — з гарадоў і вёсак — ідуць добрыя, радасныя весткі. Моладзь Беларускага аўтамабільнага завода ў падарунак з'езду зрабіла ў вольны ад працы час гігант-самазвал. Ён ужо ходзіць па дарогах, нясе сваё імя — «Камсамольскі». Ударнай працай на будаўніцтве пятай печы салютуюць з'езду камсамольцы і маладыя рабочыя Ваўкавыскага цэмэнтнага завода. Камсамолія Мінскага трактарнага завода многае зрабіла, каб стварыць новыя маркі трактароў. Воіны Савецкай Арміі, камсамольцы аднаго з падраздзяленняў у Беларусі, за сродкі, атрыманыя ад збору металалому, набылі тры самалёты для Грамадзянскага Паветранага Флоту. На заводзе «Гомсельмаш» сабраны камсамольскімі рукамі кукурузаўборачны камбайн. І ўсё гэта робіцца ў падарунак з'езду. Рыхтуючыся сустрэць вялікі форум партыі, моладзь, камсамольцы паказваюць узоры выдатнай працы на калгасных і саўгасных палях, будуюць клубы і стадыёны, камплектуюць бібліятэкі для новабудоўляў, памагаюць у абсталяванні школ.

Ну, а што ж у гэтым камуністычнага?

Давайце ўспомнім ленінскія словы: «Камунізм пачынаецца там, дзе паяўляюцца самаадданыя... клопаты радавых рабочых аб павелічэнні прадукцыйнасці працы, аб ахове кожнага пуда хлеба, вугалю, жалеза і іншых прадуктаў, якія дастаюцца не тым, хто працуе асабіста, не іх «бліжнім», а «дальнім», г. зн. усяму грамадству ў цэлым, дзесяткам і сотням мільёнаў людзей». А ці ж выпуск звышпланавага самазвала, камбайна, перавыкананне вытворчай нормы, датэрміновы ўвод у дзеянне цэментнай печы гэта не той клопат радавых працаўнікоў аб дабрабыце ўсяго грамадства, аб «дальніх», пра які гаварыў Ленін! Іменна такую бескарыслівую, добраахвотную, самаадданую працу меў на ўвазе Ільіч, ацэньваючы камуністычныя суботнікі, як цудоўны пачын.

Заслужана называем мы парасткамі камуністычнай будучыні сяброўскую ўзаемадапамогу ў працы. Для нас стала звычайным, што рабочы памагае рабочаму аваладваць прафесіяй, дабівацца большай выпрацоўкі. Не рэдка бывае, што і цэлы вытворчы калектыў — брыгада, цэх завод — памагае другому падняць тэмп вытворчасці. Нічога асаблівага? Так, з пункту гледжання нашай камуністычнай маралі, ва ўмовах нашай сацыялістычнай рэчаіснасці — гэта з'ява звычайная. Больш таго, калі б у цэху або ў калгаснай брыгадзе знайшоўся чалавек, які прымяніў нешта новае ў рабоце і не захацеў падзяліцца вопытам з іншымі, яго калектыў жорстка раскрытыкаваў бы. Падумаеш, маўляў, індывідуаліст знайшоўся!

А вось у капіталістычным свеце індывідуалізм, звярыная адасобленасць лічацца нормай паводзін. Ды і ці можна абвінаваціць рабочага капіталістычнага прадпрыемства за тое, што ён як святая святых захоўвае свой вытворчы сакрэт, таямніцу майстэрства? Пакуль ён валодае імі — ён чалавек незамянімы, і капіталіст плоціць грошы. Але няхай новы, прагрэсіўны метад працы стане здабыткам усіх, і тады тысячы рабочых вылецяць за вароты прадпрыемства, пойдуць на біржу прадаваць свае рукі.

Капіталіст не заўсёды зацікаўлены ў расшырэнні вытворчасці, затое ён заўсёды будзе рады папоўніць свой капітал за кошт скарачэння выдаткаў на заработную плату. Пра якую ўзаемадапамогу прадпрыемстваў можна гаварыць ва ўмовах капіталістычнай канкурэнцыі! Там калі і аб'ядноўваюць два прадпрымальнікі свае намаганні, дык толькі дзеля таго, каб праглынуць трэцяга. Не самога, безумоўна, а яго завод, фабрыку. І бушуе крывавы разгул канкурэнцыі, моцныя з'ядаюць слабых і самі гінуць ад больш моцных. А рабочы люд расплочваецца за гэта дарагой цаною галечы, беспрацоўя, страху перад будучым днём...

**Толькі ў нас, ва ўмовах сацыялізма,** вытворчае сяброўства і ўзаемадапамога ідуць на карысць усяго народа. У нас кожны дадатковы працэнт прадукцыйнасці працы — гэта звышпланавая здабыча тысяч тон вугалю, гэта дадатковыя машыны для сельскай гаспадаркі, гэта выпрацоўка звыш прадугледжанага мільёнаў пар абутку, тысяч метраў тканіны і іншых прадметаў прамысловага і народнага ўжытку. А стварэнне багацця — гэта абавязковая ўмова пабудовы камуністычнага грамадства. Вось чаму мы называем парасткамі камунізма праяўленне таварыскай узаемадапамогі ў працы.

Мы гаворым, што чалавек робіць па-камуністычнаму, калі ён аддае свой вольны час працы ў народнай дружыне па ахове грамадскага парадку, клапоціцца аб добраўпарадкаванні роднага горада або сяла, актыўна працуе ў грамадскіх арганізацыях, удасканаль-

## ТАБЕ, ПАРТЫЯ...



**6. Прыгожы і добраабсталяваны Дом фізічнай культуры атрымала моладзь Гомеля.**

Фота **Ф. Раманава.** (БелТА).

вае вытворчы працэс, непрымірымы да ўсякіх праяўленняў рутыны і коснасці, смела змагаецца за ўкараненне ўсяго новага, перадавога. І гэта ўсё ідзе на карысць народа, на карысць нашай сацыялістычнай Радзімы, а значыць — на карысць камунізма. І мы верым, што парасткі камунізма будуць развівацца, мацнець. Ці даўно нарадзіўся рух брыгад і ўдарнікаў камуністычнай працы? Якіх-небудзь два з палавінай — тры гады таму назад. А цяпер жа ён набыў сапраўды ўсенародны размах! Толькі ў прамысловых прадпрыемствах Беларусі налічваецца больш за 300 тысяч энтузіястаў гэтага пачыну.

Сёння матэрыяльна-тэхнічная база камунізма яшчэ ў праектах, у планах. Але яна будзе створана. Савецкі народ заклаў добрую аснову для яе збудавання — сацыялістычную эканоміку. І яна дасць нам магчымасць крочыць далёка наперад — проста ў камуністычную будучыню. Будучыня прыйдзе да нас праз працу мільёнаў людзей, праз магутны ўздым усіх прадукцыйных сіл краіны.

У праекце Праграмы запісана: павялічыць валавы выпуск прадукцыі за дваццаць гадоў не менш, чым у шэсць разоў. Многа гэта ці мала? Гэта так многа, што мы сабе і ўявіць не можам.

Узяць, да прыкладу, Мінск. Павялічыць выпуск прамысловай прадукцыі ў шэсць разоў — гэта ўсё роўна, што мець не адзін аўтазавод, а шэсць, не адзін трактарны, а шэсць, не адзін падшыпнікавы, а шэсць. Шэсць радыё, гадзіннікавых, мотавелазаводаў, камвольных камбінатаў, заводаў аўтаматычных ліній, запасных частак... Ды каб размясціць іх, не хопіць, бадай, і цэлага горада ў сучасных межах!

Але павелічэнне выпуску прамысловай прадукцыі, безумоўна, адбудзецца не за кошт закону, як кажуць, механічнага павелічэння прадпрыемстваў, хоць будаўніцтва і будзе вялікае. Наша рэспубліка стане, напрыклад, рэспублікай вялікай хіміі. На базе мясцовых запасаў хімічнай сыравіны, за кошт перапрацоўкі нафты і прыроднага газу будуць створаны прадпрыемствы для вырабу розных сінтэтычных матэрыялаў, мінеральных угнаенняў, штучнага валакна і г. д. Беларусь спецыялізуецца на працаёмкіх галінах вытворчасці — выпуску дакладных машын, станкоў, аўтамабіляў, найвышэйшых марак радыё- і электраприбораў, сродкаў радыёэлектронікі, г. зн. такой прадукцыі, якая патрабуе мала металічнага пракату, але многа кваліфікаванай працы.

Асноўны ж рост выпуску прамысловай прадукцыі будзе дасягнуты за кошт рэзкага павышэння прадукцыйнасці працы: за дваццаць гадоў яна павінна вырасці ў чатыры — чатыры з палавінай разы. Ці азначае гэта, што кожны рабочы стане ў чатыры — чатыры з палавінай разы больш працаваць? Безумоўна, не. Успомнім, што гаварыў наконт прадукцыйнасці працы Уладзімір Ільіч Ленін:

«Камунізм ёсць вышэйшая, супраць капіталістычнай, прадукцыйнасць працы добраахвотных, свядомых, аб'яднаных рабочых, якія выкарыстоўваюць перадавую тэхніку».

«Выкарыстоўваюць перадавую тэхніку...» Вось яна, аснова для росту прадукцыйнасці працы. На дапамогу рабочаму і селяніну прыйдуць цудоўныя разумныя машыны. Перш за ўсё будзе завершана электрыфікацыя народнай гаспадаркі. Ручная праца амаль цалкам саступіць месца працы машыннай. Калі мы цяпер маем далёка не на ўсіх прадпрыемствах аўтаматычныя лініі, дык у бліжэйшыя гады будуць ствараццa ў масавых памерах не толькі аўтаматычныя лініі, але і цэхі і заводы-аўтаматы. Завершыцца комплексная механізацыя як прамысловасці, так і сельскай гаспадаркі. Радыёэлектроніка, радыёактыўныя ізатопы, новыя віды энергіі — у тым ліку і атамная — стануць на службу вытворчасці ў самых шырокіх памерах. Мы пазнаем і будзем скрозь прымяняць новыя, цудоўныя матэрыялы, такія, як палімерныя злучэнні, пенапласты і шклопласты, штучныя валокны, пластычныя масы і многае іншае. Хімія прымусіць пацаснішца і цяжкі метал, і крохкую цэглу, і непадатлівы камень, і дарагое дрэва.

Тэхнічнае пераўзбраенне не толькі дазволіць рэзка падняць прадукцыйнасць, але і прывядзе да якаснага змянення самога характару працы. Праца на фабрыках і заводах, на палях і фермах стане фізічна лёгкай, гігіенічнай. Яна ператворыцца ў радасць, у творчасць, у жыццёвую патрэбу. У першым дзесяцігоддзі рабочы дзень скароціцца ўжо да 30 — 36 гадзін у тыдзень. І, разам з тым, павысіцца заработная плата.

Вялікія змены адбудуцца і ва ўмовах жыцця. Камуністычная партыя ў праекце Праграмы сваёй намячае грандыёзны план жыллёвага будаўніцтва. Кожная сям'я будзе мець асобную добраўпарадкаваную кватэру.

## ТАБЕ, ПАРТЫЯ...



**7. Маладыя будаўнікі, якімі кіравала выканаўца работ камсамолка Валянціна Татарыновіч, у вёсцы Опса на Браслаўшчыне збудавалі вучэбны корпус, інтэрнаты і падсобныя памяшканні школы-інтэрната.**
Фота **С. Капелькі.** (БелТА).

## ТАБЕ, ПАРТЫЯ...




**8. Воіны-камсамольцы Беларускай ваеннай акругі сабралі столькі металалому, што на выручаныя за яго сродкі набылі звяно самалётаў і перадалі яго Грамадзянскаму Паветранаму Флоту. Наш карэспандэнт А. Нікалаеў зрабіў гэты здымак у Мінскім аэрапорце, калі адбывалася ўручэнне камсамольскага падарунка.**

На месцы раскіданых вёсак узнікнуць пасёлкі гарадскога тыпу, забудаваныя зручнымі, прыгожымі дамамі. Машыны, электра-і радыёпрыборы трывала ўвойдуць у быт, ліквідуюць цяжкую працу хатняй гаспадыні. Высокі ўзровень прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці створыць сапраўдны свет багацця на савецкай зямлі. Мы ўшчыльную падыдзем да ажыццяўлення камуністычнага прынцыпу размеркавання — «Ад кожнага — па здольнасцях, кожнаму па патрэбнасцях».

...Калі я чытаю пра ўсё гэта ў праекце Праграмы КПСС, я зноў і зноў успамінаю тыя, не такія яшчэ далёкія часы. Успамінаю лясную вёску, смалярню — увасабленне «індустрыі» былой Беларусі, першую электрычную лямпачку, шэрую, драўляную Расію. Як далёка пайшлі мы наперад! Якія бязмежныя і радасныя даляглялы адкрывае перад намі будучыня! Колькі слаўных спраў зрабіў савецкі народ! Якія вялікія здзяйсненні чакаюць яго ў бліжэйшыя гады.

Камунізм стагоддзямі быў цудоўнай марай чалавецтва — не заўсёды яснай, зразумелай, акрэсленай, але заўсёды прываблівай, жаданай. Аб свеце, у якім усе будуць роўныя і ўсе будуць шчаслівыя, марыў і Спартак, і Сцяпан Разін, і сыны рэвалюцыйнага Парыжа канца XVIII стагоддзя, і рускія дзекабрысты. Марксу і Энгельсу было наканавана ўвасобіць гэтую мару ў навуку. Ленін ператварыў навуку ў дзеянне, стварыў Камуністычную партыю і заснаваў дзяржаву, якая паказвае прыклад камуністычнага пераўтварэння свету. Нам, савецкім людзям, выпала здзейсніць запаветныя мары, пабудаваць камунізм і жыць у ім.

І гэта будзе!

**Барыс ПАЎЛЁНАК.**

---

**Галоўная эканамічная задача партыі і савецкага народа заключаецца ў тым, каб на працягу двух дзесяцігоддзяў стварыць матэрыяльна-тэхнічную базу камунізма. Гэта азначае: поўную электрыфікацыю краіны і ўдасканаленне на гэтай аснове тэхнікі, тэхналогіі і арганізацыі грамадскай вытворчасці ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы; комплексную механізацыю вытворчых працэсаў, усё больш поўную іх аўтаматызацыю; шырокае ўжыванне хіміі ў народнай гаспадарцы; усямернае развіццё новых, эканамічна эфектыўных галін вытворчасці, новых відаў энергіі і матэрыялаў; усебаковае і рацыянальнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў; арганічнае спалучэнне навукі з вытворчасцю і хуткія тэмпы навукова-тэхнічнага прагрэсу; высокі культурна-тэхнічны ўзровень працоўных; значную перавагу над найбольш развітымі капіталістычнымі краінамі па прадукцыйнасці працы, што з'яўляецца важнейшай умовай перамогі камуністычнага ладу.**

*З праекта Праграмы КПСС.*



Хаім **МАЛЬЦІНСКІ**

# МОЙ ПАДАРУНАК


Хоць,
Партыя,
ў цябе
І без мяне
шмат спраў,
Ды веру, ты
Мне хвілю ўвагі ўдзеліш.
Я ж разумець прывык,
Што наліты
Пшанічны колас,
кузлачок кудзелі,
Паўметра толі,
Нават просты цвік —
Радзіме значаць болей,
Чымся маіх радкоў гарласты
вырай;
Ды ўсё ж я іх табе
Прыношу сёння шчыра.
Забрала сілу у мяне вайна—
З сякерай, з пілой
Я не работнік.
І песня — радасць у мяне
адна,
Прапахлая сасноваю смалой,
На мове матчынай табе
Прысвечана яна —
Пяступка дарагая,
Бо сэрца ў ёй чуваць біццё.
І сёння,
Партыя,
табе я прысягаю
За справу Леніна
аддаць жыццё!

**Пераклаў з яўрэйскай мовы Р. Барадулін.**

Марк **СМАГАРОВІЧ**

* * *


На барацьбу народы
Ўзняла пад сваім кумачом
Партыя
— сонца свабоды,
Запаленае Ільічом.

Навечна вялікая сіла
Нягаснучага святла
У будучынь шлях асвяціла,
Мільёнам свабоду дала.
Ідзе на зямлі змаганне
За шчасце, за лепшы лёс,
І ўжо камунізма ранне
Зарою ўстае да нябёс.

Алег **ЛОЙКА**

# ПЛОШЧЫ МІНСКІЯ, РОДНЫЯ ПЛОШЧЫ...



лошчы мінскія, родныя плошчы,
Вецер сцягі над вамі палошча;
Вольны, велічным горадам горды,
Я выходжу на плошчу Свабоды;

І вядзе мяне вуліца светлая
І праспект, як наш лёс, светлы, новы
Да той плошчы, дзе ў сонейку ветлыя
Вочы мружацца Ільічовы.

З плеч яго галубы белакрылыя
Мне на плечы зляцяюць проста,
І, здаецца, дужэю я сілаю
І, здаецца, большаю ростам.

Бачу ў заўтрашні дзень сцежкі ясныя,
Разумею больш сцежкі былога,
І ўжо толькі радасць нязгасная
Мяне кліча на пляц Перамогі.

Гэта вам, у баях непакорныя,
Хто не даўся народ наш запляміць,
Тут агнём вечным помнік азорвае
Наша ўдзячнасць, пашана і памяць.

Гэта вам і зямля сама краскамі
З лета ў лета тут расцвітае, —
Хто цябе, Беларусь партызанская,
Тут, спыніўшыся, не прывітае?!.

А ўжо іншыя плошчы ў далечы
Каштанамі цвітуць у маі:
Неабсяжным блакітам вітаючы,
Плошча Коласа наплывае.

А ўжо новыя плошчы будуюцца —
Касманаўтаў, Вучоных, Рабочых,
Шчасця плошча і Радасці вуліца
І Кахання светлая плошча!..

Я ўжо бачу, як сцягі палошчуцца,
Сцягі алыя ветрам успенены...
Там не можа не быць гэткіх плошчаў,
Дзе ёсць плошчы Свабоды і Леніна!..



Сяргей **ГРАХОЎСКІ**

# НАШЧАДКАМ

**Забяспечыць шчаслівае дзяцінства кожнаму дзіцяці — адна з найбольш важных і пачэсных задач будаўніцтва камуністычнага грамадства.**

З праекта Праграмы КПСС.



агчыма, вас яшчэ няма на свеце,
І вашы не сустрэліся бацькі
А ўжо для вас шуміць у садзе вецце
І сілай наліваюцца дубкі.

Яны сустрэнуць вас зялёным звонам,
Птушыным свістам, кропелькамі рос,
І стане свет блакітным і зялёным,
Каб кожны з вас спяваў, смяяўся, рос.

Для вас сягоння белыя палацы
Будуюць маладыя муляры,
Для вас ударнікі камуністычнай працы
Ужо саджаюць кветкі на двары.

Вас будуць няньчыць, гадаваць
і весці
Няўрымслівыя рукі мацярок,
Вас будзе сонца у дарозе песціць
І будзе лашчыць цёплы вецярок.

Усё, сягоння створанае намі,
Ад новай парты да касмічных трас,
Сагрэлі мы уласнымі рукамі
І самай светлай мараю пра вас.

Шуміць, шуміць у светлым садзе
вецце,
У небе зорка ранняя дрыжыць.
Мы разам пойдзем, будучыні дзеці,
Бо нам і вам пры камунізме жыць.

# ПАЛЕСКІЯ РЭКІ


не сняцца начамі палескія рэкі —
Струмень і Стыр, Стаход і Лань,
і Цна.
Па іх, нібыта шлях з вараг у грэкі,
Ізноў праклала звонкая вясна.

Да цнотнай Цны ніяк не падступіцца,
Ні нацяньківі, ні напраскі, ні ўброд,
І Лань, нібыта грозная ільвіца,
Накінуцца гатова на Стаход.

А Прыпяць настыраецца са Стырам,
Струмень, як мора грознае, гудзе,
І вербы нахіліліся над вірам,
Схаваўшыся па плечы у вадзе.

Зліліся рэкі ўсе ў адно разводдзе,
Шумяць, іскрацца, пеняцца, гудуць,
А ўжо дзядзькі на белым параходзе
Пра сенажаці гутарку вядуць.

Спадзе вада, і травы забуяюць,
Зашамацяць мурожныя стагі.
Куды ні глянеш, без канца і краю —
Зарэчныя, прырэчныя лугі.

Яшчэ туман курыцца над вадою
І бакены падміргваюць здаля,
А мне здаецца — пахам сырадою
Набракла ўся палеская зямля.

Я чую салаўёў каларатуру,
Гудуць суладна Прыпяць і Стаход,
І на світанні у туманны Тураў
Прыходзіць першы белы параход.

* * *


сё ў тваёй душы — і радасць,
і туга,
І смех, і боль, і ласкі, і дакоры,
То іскрачкі ў вачах, то мітульга
Трывожных дум або салодкай зморы.

А прыцемкам асеннім кожны раз
Ты рукі ціха мне кладзеш на плечы,
І мроіцца, што нават позні час
Не сцёр пачуццяў першае сустрэчы.

Ды толькі сэрца нельга ашукаць,
Хоць ты маўчыш, стрымаўшы
хваляванні,
Хоць і пяеш, а хочаш адшукаць
Адказ на ўсе трывогі і пытанні.

І расказаць аб клопатах сваіх,
Аб мітусні і дробязных турботах.
Ты хоць сягоння прамяняла б іх
На лёс дзяўчынкі у кірзовых ботах,

Каб толькі зноў спачатку ўсё пачаць,
Жыць на вадзе, на хлебе і павідле,
Каб вечары на вуліцы страчаць,
Каб золкія світанні не абрыдлі.

Калі б ты зноў спачатку ўсё прайшла,
Каго б ты выбрала, каго б
ты абмінула?
Каго б сагрэла промнямі святла,
Каму б руку ласкава працягнула?

Чаго ж маўчыш? Я ведаю, што ты
Не рада ні спакою, ні дастатку,
А каб вярнуць мінулыя гады
Ты пачала б ізноў усё спачатку.

Ізноў прайшла б са мною след у след
І сцежкі, і шырокія дарогі,
Каб у жыцці ўсё было як след, —
І смех, і боль, і шчасце, і трывогі.

# ЛЕРМАНТАЎ


ось тыя сцежкі, бездані і кручы,
І так шуміць, як некалі, рака,
Калі спяшаўся малады паручык
На ціхі схіл сівога Машука.

Смугой, нібыта буркаю, Бештау
Укрыў крутыя схілы і хрыбты,
Схіліліся алешыны і травы,
Ды толькі б'юць аб камень капыты.

Спяшаецца паручык, а у сэрцы —
Туга і боль і новыя радкі...
Не, ён яшчэ не думае аб смерці,
Пакуль маўчаць халодныя куркі.

Яшчэ глядзяць наўкола прагна вочы
На горы, на вішнёвыя сады...
Яшчэ далёка да бясконцай ночы,
Яшчэ рука сціскае павады.

Спяшаецца...
Калі б тады дарогі
Дазналіся, куды яны вядуць,
Яны б каню пятлёй скруцілі ногі,
Яны б назад паспелі павярнуць.

Калі б тады даведаліся горы,
Якое хутка напаткае гора,
Якога людзі страцяць песняра,
Між ім і смерцю вырасла б гара.

Каб ведала казачка, што з вадою
Ішла насустрач па тугім пяску,
Што гэты вечар кончыцца бядою,
Яна б каня спыніла на скаку.

А што далей?
Напэўна ўсім вядома:
Ля Машука, загорнуты ў шынель,
Ляжаў паэт пад лівнем і пад громам
І што забойства звалася «дуэль».

Яму не трэба гучных захапленняў,
Ні абеліскаў, ні прыгожых слоў,
Бо з кожным новым пакаленнем
Ён нараджаецца ізноў,

Ізноў жыве, пакутуе, смяецца,
Кахае, ненавідзіць, кліча нас.
Над ім ужо не мае ўлады час —
Жывы заўжды з жывымі застаецца.



Сцяпан ШУТАЎ,
двойчы Герой Савецкага Саюза

# ЧЫРВОНЫЯ СТРЭЛЫ

Дакументальная аповесць

*Слаўнаму Ленінскаму камсамолу прысвячаю.*

*Аўтар.*

Мал. Ф. Бараноўскага.

## АД АЎТАРА

*Вокны маёй кватэры выходзяць на Крашчацік. Сёння я наглядаю адсюль ваенны парад. Побач са мной — мой сусед, камсамолец Васіль Булаенка. Праз два дні гэты каранасты, смуглявы, як цыган, юнак пойдзе на зборны пункт для адпраўкі ў часць. Але ў думках ён ужо, мусіць, сёння там, сярод слаўных савецкіх воінаў...*

*Унізе, па святочнай ад чырвані сцягоў вуліцы, цвёрдым крокам ідуць курсанты танкавага вучылішча. Калі калона параўнялася з нашым домам, адзін з курсантаў на момант падняў галаву і зірнуў на нашы вокны.*

*— Сцёпа, гэта ж наш Толік... — усхвалявана сказала мая жонка.*

*Васіль паглядзеў на нас. Яго чорныя, як вугольчыкі, вочы затуманіліся, у іх бліснула ледзь прыкметная зайздрасць.*

*— Ты зайздросціш майму сыну? — спытаў я хлопца.*

*— Зайздрошчу, — шчыра прызнаўся ён.*

*— Нічога, хутка і ты будзеш такі.*

*Ігралі аркестры. Ад грамавога «ўра» дрыжэлі шыбы ў вокнах. Васіль глядзеў на бясконцую людскую раку нейкім невідушчым позіркам, відаць, у думках ён быў з тымі, хто цвёрдым крокам прайшоў нядаўна па вуліцы.*

*— Сцяпан Фёдаравіч, мне вельмі хочацца яшчэ раз глянуць на вашу карту, — нечакана сказаў ён, сарамліва апусціўшы вочы. — Пакажыце, калі ласка...*

*Мяне не здзівіла гэтая просьба. Я разумеў юнака. Я дастаў і разгарнуў перад ім старую пацёртую карту, якую пранёс у планшэце праз усю вайну. Падпёршы кулаком падбародак, Васіль доўга разглядаў каляровыя стрэлы, лініі, пункціры.*

*— Сцяпан Фёдаравіч! Расшыфруйце яе, калі ласка, — сказаў ён нарэшце. — Раскажыце пра ўсё. Вы ж яшчэ ў грамадзянскую вайну з ворагамі змагаліся, у Чырвоную Гвардыю дабравольцам пайшлі... І фашыстаў грамілі...*

*— Раскажу. Абавязкова. Толькі іншым разам.*

*...Прайшло два гады. З дапамогай пісьменніка Міхаіла Шмушкевіча я стрымаў слова, дадзенае Васілю Булаенку. Кніга напісана. І, зразумела, не толькі для яго, майго юнага сябра, але і для ўсіх юнакоў і дзяўчат, якія любяць нашу слаўную Савецкую Армію.*

# МАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ

## 1

Гляньце на карту Беларусі... На поўдні ўецца тоненькая сіняя нітачка. Гэта рака Пціч — левы прыток Прыпяці. Даўжыня яе — чатырыста з лішнім кіламетраў. Мясцінамі яна даволі шырокая. Тут, ля яе берагоў, прайшло маё маленства. Мой свет тады быў не вельмі вялікі: ад гарызонта да гарызонта. І я ведаў: куды ні кінь вокам — усюды гора, бяда ходзіць.

Рос я нелюдзімым хлопцам. Мой бацька, па характару чалавек вясёлы, часта скардзіўся маці: «Сцёпа наш — ваўкаваты нейкі...» Маці заступалася за мяне: «Не ведаеш ты яго...» Я быў вельмі ўдзячны ёй за гэтае заступніцтва.

Магчыма, на характар мой мела ўплыў тое, што я заўсёды хадзіў галодны, абадраны, што ў шэсць гадоў на маёй спіне ўжо гнаіліся глыбокія рубцы ад панскага бізуна...

У майго бацькі было адзінаццаць дзяцей. Пяцёра сыноў і шасцёра дочак. Уся наша сям'я працавала ў памешчыка Жылінскага. У нас не было ні сваёй хаты, ні зямлі. Жылі ў старым, спарахнелым хлеўчыку, які належаў гаспадару маёнтка Дварэц. За гэтую панскую «дабрату» нават мы, дзеці, вымушаны былі гнуць спіны ад цямна да цямна. Улетку я памагаў бацьку пасвіць кароў, а зімою даглядаў разам з ім панскую жывёлу.

Нам, батракам, не даводзілася мець справу з самім панам. Намі распараджаўся аканом Жураўскі — нізенькі таўсцяк з азызлым тварам і маленькімі калючымі вочкамі. Кат быў — якіх мала дзе сустрэнеш.



Аднойчы, помню, неслі мы з бацькам на доўгіх шастах два цяжкія цэбры пойла. Я ледзь перастаўляў ногі — ад страшэннага цяжару згіналіся калені. Прайшоў з паўсотні крокаў — і ўпаў. У гэты момант, як з-пад зямлі, вырас Жураўскі. «Пойла разліваць?!» — накінуўся ён на мяне і біў да таго часу, пакуль я не страціў прытомнасць. А бацька? Ён стаяў, моцна сцяўшы зубы, і маўчаў. Баяўся заступіцца за сына, бо пан мог прагнаць з двара ўсю нашу сям'ю.

На наступную зіму бацька ўзяў сабе ў памочнікі маіх малодшых сясцёр Волю і Соню, а мяне паслаў у суседнюю вёску Заполле да настаўніка Нікалая Палявога «набірацца розуму».

Маці дала мне дзве капейкі на сшыткі і, уздыхнуўшы, сказала:

— А на буквар, сынок, грошай няма.

— А як жа без буквара?

— Усе дзеці абыходзяцца без яго, і ты абыдзешся...

Стары залатаны бацькаў кажух па самыя пяты, падраная, з аўчыны, шапка, лазовыя лапці, якія сам сплёў, — у такім выглядзе з'явіўся я да настаўніка.

Палявы быў добрай душы чалавек. Ён вучыў бедных дзяцей, якія не мелі магчымасці хадзіць у школу. Да яго я хадзіў тры зімы і трохі падвучыўся грамаце. Дарослыя сталі паважаць мяне: пісьменны чалавек, гэта табе не жартачкі! Нават за руку са мною віталіся. Я быў шчаслівы. Але шчасце гэтае было нядоўгае.

— Сцёпа, — сказаў аднойчы бацька, — беднаму чалавеку вялікай граматы не трэба. Хопіць і гэтае... Будзеш даглядаць жывёлу. Жураўскі згодзен.

Вось тут я, адзінаццацігадовы хлапчук, і паспытаў гора... Бывала, яшчэ на досвітку спяшаемся з бацькам на гумно. У пана — сто галоў буйнай рагатай жывёлы. Тры разы ў дзень яе трэба накарміць, два разы — напаіць...

Часта, застаючыся адзін на лузе, ля статка кароў, я думаў пра несправядлівасць, што панавала скрозь у жыцці. Вось у пана Жылінскага — звыш дваццаці маёнткаў. На яго працуе столькі парабкоў... Чаму гэта? Таму што ён — паляк? Але ж з батракоў-палякаў ён здзекуецца не менш, чым з беларусаў!

Па той бок Прыпяці жывуць яўрэі. Я пасябраваў з адным яўрэйскім хлопчыкам. Яго звалі Эля. Гэты абадранец з хваравітым бледным тварам пераплываў на наш бок, каб выпрасіць у нас, пастушкоў, лусту хлеба.

— Самі галодныя, — звычайна гаварылі мы яму.

Ён спачувальна ківаў галавой.

Неяк Эля сказаў:

— Добра табе, Сцёпа: у цябе бацька, маці... А ў мяне нікога няма. Бабуля толькі. Жабрачка. Злосная! Сам, кажа, ідзі прасі...

— А многа ў вас там такіх, як ты, бедных?

— Многа... В-у-нь кузня... бачыш?

— Бачу.

— Каваль Эфроім з двума сынамі там працуе. Добрыя людзі. Зойдзеш да іх — заўсёды накормяць.

— А багатыя яўрэі ў вас ёсць?

— Ого колькі! Маці мая служыла ў аднаго... у Купермана. Бялізну мыла. Ён яе ў магілу ўвагнаў. Памёрла ад сухот. І бацька — ад сухот...

Я адвярнуўся, каб не глядзець яму ў вочы: баяўся, што не стрываю, заплачу.

— Пісьменны?



— Хто? Куперман? А як жа! Такія таўшчэзныя кнігі чытае! А я? Толькі адну літару ведаю. Напісаць?

Не чакаючы адказу, ён начарціў на зямлі трохзубыя граблі без грабільна, а потым на кожным зубцу дамаляваў круглыя мяшэчкі.

Я здзівіўся: што гэта за літара? Чаму Нікалай Палявы нам яе не паказаў? Эля растлумачыў: яўрэйская, «шын». Першая літара яго прозвішча — Шаміс.

У час размовы, стукаючы дзеравякай, да нас падышоў дзядзька Ягор. У нашым Дварцы ды і ў навакольных вёсках добра ведалі гэтага чалавека. Дзядзька Ягор — герой руска-японскай вайны. Яму — не больш сарака год, але ён ужо згорбіўся, пасівеў.

Дзядзька Ягор любіць дзяцей. Ён апавядае ім розныя цікавыя гісторыі пра смелых рускіх воінаў і палкаводцаў, пра далёкія краіны і пра мараходцаў. Але больш за ўсё ён любіць расказваць пра паўстанне Каліноўскага. Пачынае ён звычайна так: «Пра Кастуся, Канстанціна Сямёнавіча, чулі? Не? Як жа гэта!..» І заканчвае такімі словамі: «Калі б гэты бунт на гадкоў чатыры-пяць раней быў, то дзед мой нябожчык, царства яму нябеснае, не памёр бы такою страшнаю смерцю...»

Пра паўстанне беларускіх сялян у 1863 годзе ў нас мала хто чуў, а вось пры якіх акалічнасцях памёр дзед дзядзькі Ягора, усе ведалі. Здарылася гэта непадалёку ад маёнтка Завалочыцы, пад Глускам.

У гонар дня нараджэння пані давала баль. З'ехаліся госці з усёй Мінскай губерні. І кожны хацеў чым-небудзь здзівіць іншых. Адзін летнім часам прыехаў на санях, другі прыйшоў на высачэзных хадулях. А вось пан Гемба, дык той сапраўды ўсіх перахітрыў: ён запрог у раскошны фаэтон батракоў і трыццаць кіламетраў гнаў іх галопам. Адзін з батракоў — гэта быў дзед дзядзькі Ягора — не вытрымаў шалёнага бегу; у яго разарвалася сэрца, і ён мёртвы ўпаў пад колы панскага фаэтона. Фаэтон не спыніўся...

...Мы абрадаваліся дзядзьку Ягору:

— Сядайце, дзядзька, каля нас...

— Пастаю. Ногі ў мяне моцныя, дубовыя, — і ён пастукаў рукою па



дзеравяцы. Потым дастаў тытунь, скруціў цыгарку і пачаў шукаць запалкі. З кішэні выпаў кавалачак хлеба. Эля кінуў на яго вокам, глынуў сліну і адвярнуўся. Стары перахапіў гэты галодны позірк.

— Ты, малы, адтуль? — паказаў ён за раку. — Жыдок?

Эля нахмурыў бровы. І я незадаволена скасавурыўся на дзядзьку Ягора: навошта крыўдзіць малога?

— Дурненькі, не крыўдуй! Я — жартую, — сказаў ён мякка і працягнуў Элю хлеб: — На, бяры, еш...

Мы пераглянуліся. Эля ўзяў хлеб, разламаў яго на дзве роўныя часткі і адну даў мне:

— І ты ж галодны...

Дзядзька Ягор з жалем паглядзеў на нас, моцна зацягнуўся цыгаркай і задуменна сказаў:

— Эх, каб далі мне роту салдат, я б усіх да аднаго буржуяў перавешаў: і Жылінскіх, і Радзівілаў, і Куперманаў.

— Трэба, каб народ падняўся... Тады, канешне... — успомніў я словы падпольшчыка Міхаіла Сінкевіча.

— Глупства мелеш! Народ... Салдаты, узброеныя людзі — вось хто пераверне бочку ўверх дном. — Дзядзька выпусціў некалькі колцаў дыму і дадаў: — І чалавек з разумнай галавой патрэбен. Каб растлумачыў салдату, дзе праўда, а дзе — мана.

— Дык ёсць жа такі чалавек — Ленін. Гэта Сінкевіч гаварыў...

— Ціха ты, сукін сын! — сярдзіта перабіў мяне дзядзька Ягор. — Навошта чалавека выдаеш?! Трымай язык за зубамі, бо вырву — лішні ён у цябе.

Я змоўк.

А дзядзька Ягор загаварыў зноў, быццам нічога і не здарылася:

— Учора, кажуць, з Бабруйска адправілі на катаргу двух рабочых, што людзей бунтуюць. Шкада іх. Не, нічога не будзе без салдат!..

## 2

Як учора, як год назад, Пціч спакойна несла свае воды на поўдзень. Ды не было спакою на свеце. Ішла вайна. Страшная, крывавая. У вёсцы паявіліся калекі. Дзядзька Ягор на чым свет стаіць лаяў рускае камандаванне за няўдалыя аперацыі на фронце.

— Саюзнікам аддаём сваю кроў, а немцам — зямлю,— абурана гаварыў ён.

У гэтыя дні я, як і ўсе мае равеснікі, адчуў сябе дарослым. Пасля смерці бацькі ўсе клопаты пра сям'ю ляглі на мае плечы. Трэба сказаць, што быў я даволі дужы, рослы хлопец. Аднойчы я ўзяўся дужацца са сваім старэйшым братам — у нас яго звалі «Гразою мораў» — і паклаў яго на лапаткі. Мой аўтарытэт адразу падняўся. Нават у вачах Жураўскага. На другі дзень пасля гэтае прыгоды ён падышоў да мяне, паклаў на плячо цяжкую, пухлую руку і спытаў:

— Табе, Сцяпан, на самай справе колькі год?

— Чатырнаццаць. А што?

Ён агледзеў мяне з галавы да ног, быццам хацеў упэўніцца, ці праўду я сказаў.

— З цябе будзе добры салдат. Але гэта потым... А пакуль мы павінны паклапаціцца пра нашых братоў, якія недзе ў акопах можа сядзяць галодныя. Пан Жылінскі з самім гасударом размаўляў. Дык наш бацюхна так і сказаў: «Хлеба айчыне больш давайце...» Так што, я ж кажу, кароў няхай пасвяць твае сёстры, а ты, як пачнецца жніво,

выходзь у поле. Глядзі, можа і самога Пятра Радкевіча на лапаткі пакладзеш, як свайго старэйшага брата...

Я адчуў, што хітры Жураўскі падбіраецца да майго сэрца лісінаю сцежкай, але малады гонар быў мацнейшы за гэтае адчуванне. І я запальчыва сказаў:

— А што ж, і пакладу!

— Не падарвешся? — хітра прыжмурыў вочы Жураўскі.

— Пакладу! — паўтарыў я яшчэ з большай упэўненасцю.

З Пятром Радкевічам у мяне быў свой, асабісты рахунак. Вы папытаецеся, які ж гэта рахунак можа быць у жаўтаротага хлапчаняці са старым чалавекам, бацькам пяцярых сыноў-асілкаў і маленькай сінявокай дзяўчынкі? А вось слухайце...

Лепшы ва ўсёй ваколіцы касец Пятро Радкевіч і яго асілкі-сыны вельмі любілі гарэлку. Жураўскі гэта скеміў і пачаў цішком падсоўваць ім чарку за чаркай. Яны не заставаліся ў даўгу і так шчыравалі на панскім сенакосе, што даводзілі да знямогі ўсіх касцоў.

Неяк я папракнуў Любашу, што яе бацька і браты — панскія халуі, прадалі сваё сумленне за гарэлку. Дзяўчынка са слязамі кінулася да бацькі і крыкнула: «Ты — панскі халуй, п'яніца няшчасны!..»

У той жа дзень мяне два разы цягалі за вушы: Жураўскі і маці. А Радкевіч забараніў Любашы дружыць са мною. Калі я падыходзіў да яе, дзяўчынка бялела, як палатно, і палахліва аглядвалася па баках.

Пачалася касавіца. Мы, батракі, згаварыліся, чаго б гэта ні каштавала, зваліць Радкевіча з ног. Тры дні мы наступалі яму на пяты. Адзін за адным пачалі здаваць яго сыны, а ён усё трымаўся. На пяты дзень здаўся і ён.

— Адкуль у цябе такая сіла?..— сказаў ён мне, злосна бліснуўшы вачамі.

З таго дня важаком стаў я. Завёў іншы парадак: прайшлі пракос і назад вярнуліся — адпачынак, перакур. Жураўскі незадаволена бурчэў: «Зноў пасталі!»

— Ідзіце вы адсюль, — адказваў я з пагрозаю. — А то зусім кінем к чортавай матары!..

Неяк вечарам, добра намахаўшыся за дзень касою, мы з сябрам Міцем пайшлі на рэчку купацца. На ўсё жыццё запомніўся мне гэты вечар. Над лесам поволъна плыў круглы месяц. Пціч зіхацела, пералівалася,быццам залітая расплаўленым золатам. Халаднаватая вада паступова вяртала целу страчаныя сілы, і мы радаваліся гэтаму адчуванню. Раптам на спакойнай гладзі ракі я заўважыў лодку. Яна праставала сюды, відаць, з вёскі Гарадзішча. «Няўжо Сінкевіч?!»,— падумаў я, ведаючы, як любіць веславаць гэты адважны чалавек. Ён! Ды не адзін! Хто ж гэта з ім? Мужчына, жанчына? Чую знаёмы смех. Любаша?! Але чаму яна з ім прыехала? Дзіўна! Няўжо яна даўно знаёма з гэтым чалавекам? Калі так — то яна маладзец! Дзядзька Ягор праўду казаў: трэба ўмець трымаць язык за зубамі, бо інакш ён — лішні...

— Гэй, хлопцы, апранайцеся! Са мной — жанчына! — крыкнуў Сінкевіч.

Мы вылезлі з вады і хутка апрануліся. Лодка прыстала да берага.

— Любаша, ты? — здзіўлена прамовіў Міця.

— Не пазнаў? — засмяялася дзяўчына.

Мы памаглі Сінкевічу выцягнуць лодку на бераг і селі каля яе.

— Цябе, Сцёпа, можна павіншаваць з перамогай? — спытаў Сінкевіч. — Любаша мне ўсё расказала. Ты — малайчына. Але даказаў — і хопіць. Бо Жураўскі хітры, браце... У яго да кожнага свой подыход ёсць.



Я апусціў галаву. Ад сораму гатовы быў скрозь зямлю праваліцца. Вось як яно выйшла! Жураўскі адчуў маё слабае месца і націскае на яго... Хітры, гад!

Сінкевіч падсунуўся да мяне бліжэй і паклаў руку мне на калена.

— Нічога, не бядуй,— сказаў ён неяк цёпла, па-бацькоўску.— З гэтага промаху ты яшчэ можаш карысць мець. Ты заваяваў аўтарытэт у хлопцаў. Цяпер яны пойдуць за табой, куды хочаш...

Я не даў яму дагаварыць. Выпаліў:

— Мы заўтра Жураўскаму морду наб'ём, пабачыце!

— Наб'ём, — падтрымаў Міця.

Сінкевіч дакорліва пакруціў галавой:

— Гарачыя вы, хлопцы! Занадта гарачыя! Хоць сілы ў вас і многа, але яе берагчы трэба. Не лезьце на ражон. Лепш для пачатку зрабіце вось што...

Мы з Міцем слухалі, затаіўшы дыханне, гатовыя выканаць усё, што загадае нам гэты разумны, мужны чалавек...

## 3

Маці прыйшла дамоў рана. Яшчэ нават не змерклася. Мы ўстрывожыліся: Ці не здарылася чаго благога? Яна ўжо больш як дзесяць год даіла панскіх кароў. Дык няўжо прагналі з работы? Не! Яе худы, стомлены твар свяціўся ад радасці, у куточках вуснаў прыталілася таямнічая ўсмешка.

— Сцёпа, — прамовіла яна ўсхваляваным голасам, — заўтра мы з табой ідзём цара сустракаць...

Мы збянтэжыліся.

А мама, між тым, развязала клунак, што трымала ў руках, і дастала новыя чорныя штаны, вышываную сарочку, сінія ў чырвоную палоску шкарпэткі і... чаравікі. Сон дый годзе! Чаравікі!.. Іх жа насіў у нас толькі пан Жураўскі. Мы ж улетку хадзілі босыя, а зімою — у лапцях.

— Сцёпа, памерай... Гэта пан Жураўскі табе прыслаў...

Выходзіць, гэта не сон. Я і сапраўды пайду сустракаць цара... Але чаму гэта Жураўскі выбраў якраз нас — мяне і маму? На памяць адразу прыходзяць словы Сінкевіча: «У яго да кожнага ёсць свой падыход...» Дзе вы цяпер, дарагі Міхаіл Іванавіч?.. Вы мне параілі б, што тут рабіць... Я прачытаў тоненькую, зачытаную да дзірак, кніжачку пра першы з'езд РСДРП, які адбыўся ў Мінску... Я ўжо ведаю, хто такі Ленін, вывучыў напамяць «Інтэрнацыянал». І няўжо мне цяпер ісці на паклон да цара? Да таго, каго я ўжо навучыўся ненавідзець...

У хату, схіліўшы галаву, каб не ўдарыцца аб вушак, увайшоў Жураўскі. Ён акінуў усіх быстрым позіркам і павярнуўся да мяне.

— Сцёпа, мераў?

— І не думаю.

— Чаму?

— Так. Проста не пайду.

Жураўскі закусіў ніжнюю губу, але тут жа спахапіўся і загаварыў ласкавым голасам. Чаго, маўляў, табе саромецца, дурненькі. Цара-бацюхну ў Магілёве будуць сустракаць з хлебам-соллю тысячы людзей...

— Хоць ты і добры вісус, але працаваць умееш, як твой нябожчык-бацька, як твая маці. Вось табе і робяць гонар — пасылаюць сустракаць цара,— ласкава ўгаварваў Жураўскі.— Без цара, Сцёпа,— зямля сірата... Дык ты збірайся. Я пайду запрагаць коней і заеду па вас...

Хто ж мне параіць, што рабіць? Магу і адмовіцца: жандара Жура-

скі не пазаве. Але ж Сінкевіч сказаў: «Не лезьце на ражон». Цяпер Сінкевіч у турме. Высачылі, гады... З кім тут параіцца? З Любашай? Дык яна недзе ў Бабруйску, «у цёткі госціць», а на самай справе наладжвае сувязі з падпольшчыкамі. Міця! Вось хто мне скажа разумнае слова!

Міця Градзюшка быў мой лепшы сябар. Ён — з Украіны. Блукаў па свеце ў пошуках кавалка хлеба, пакуль не прыбіўся да пана Жылінскага. І тут яму было не соладка. Ён любіў сваю Украіну, сумаваў па ей, выліваючы гэты смутак у журботных песнях. Спяваў ён хараша. Слухаючы яго песні, я пераносіўся думкай у бязмежныя стэпы, бачыў магутны Дняпро, дыхаў водарам вішнёвых садоў. Але і там, у тым цудоўным краі, не было ў людзей шчасця. І там, як у нас, свістаў панскі бізун...

Міця ўважліва, не перабіваючы, выслухаў мяне да канца і задумаўся.

— Бачыш, тут справа такая,— пачаў ён.— Паны хочуць паказаць цару, што просты народ любіць яго. Хітрыя, сабакі!

— Гэта я і без цябе ведаю. Ты лепш скажы: ісці ці не ісці?

— Па-мойму, трэба ісці. Адмовішся — прагоніць Жураўскі з двара. Куды дзенешся з такою сям'ёю? Памруць малыя з голаду. Ісці — ты ідзі, але ручак цару не цалуй. Падсуне — плюнь яму ў морду.

Мы абодва засмяяліся.

— А ўсё-такі цікава глянуць, які ён, цар?.. — сказаў, памаўчаўшы, Міця.

Сказаць па праўдзе, і мяне разбірала цікавасць: хацелася паглядзець, які той Мікалай Другі. Яшчэ нядаўна нашы вяскоўцы глядзелі на яго партрэт, як на абраз Ісуса Хрыста.

І вось я еду сустракаць цара. У фаэтоне. Як пан. Сяджу, заціснуты паміж маці і Жураўскім. У Жураўскага гладка паголены шчокі, кароткія валасы акуратна прычэсаны. Чорную з лакавым казырком шапку ён далікатна трымае ў руках.

Час ад часу Жураўскі паварочвае да мяне свой тоўсты, аплывісты твар і пытаецца:

— ...А калі цар зробіць ласку пацікавіцца, як жывеш, што ты яму скажаш?

Я маўчу.

— «Добра, ваша вялікасць», — скажаш. — «Мы любім вас, ваша вялікасць. Народ — цела, цар — галава», — скажаш...

На станцыю, дзе знаходзілася стаўка вярхоўнага галоўнакамандуючага, мы прыехалі на світанні. Тут ужо стаяў велізарны натоўп, які жандары і казакі ўсё больш і больш адціскалі назад.

Жураўскі кіўнуў маёй маці, яна дастала вялікі бохан хлеба і вышываны ручнік. Гэта, па словах Жураўскага, павінна было стаць пропускам для ўсіх нас. Ды дзе там! Жураўскі паспрабаваў быў праціснуцца ўперад, але вусаты жандар ударыў яго каленам у жывот. Жураўскі пахіснуўся і асунуўся на зямлю.

— Што вы робіце? Гэта ж аканом пана Жылінскага, — крыкнула мая маці.

— Пайшла прэч! — жандар вылаяўся і павярнуў каня, наязджаючы на людзей.

Пачало прыпякаць сонца. У шчыльным людскім натоўпе стаяла такая гарачыня, што дыхаць не было чым. А цар усё не паяўляўся. Сям-там у натоўпе зашапталіся: «Ён ужо даўно прыехаў, ды баіцца паказацца...»

Жураўскі некуды знік.

— Мама, хадзем адсюль, — сказаў я.



Маці паглядзела на мяне, як на вар'ята.

— Ты што, цара чакаць не хочаш?! Глянь, колькі людзей яго чакае...

І тут нехта пстрыкнуў мяне па вуху. Я азірнуўся і вачам сваім не паверыў: студэнт Мікалай Нарэўскі з Гарадзішча! Як ён сюды трапіў? І навошта начапіў акуляры?..

— Гасудара-імператара сустракаем? — спытаўся ён, па-змоўніцку падміргнуўшы.

— Сустракаем, — адвёў я вочы ў бок.

— Не пакажа носа, пакуль шпікі не закончаць сваю работу, — ціха шапнуў ён. — Зашыўся, як тхор, у вагон...

Натоўп захваляваўся. Яго зноў адціснулі назад. Я падняўся на пальчыкі, каб паглядзець, што робіцца ўперадзе. Ля ўваходу ў вакзал было пуста. Па абодва бакі стаялі нерухомыя шарэнгі салдат. Раптам адчыніліся дзверы і адтуль, шоргаючы падэшвамі, выйшаў рыжабароды цар. За ім пацягнулася світа: генералы, палкоўнікі, штацкія, расфуфыраныя пані. Зайграў аркестр, грымнула шматгалосае «ўра».

У цара быў хваравіты, з нейкім шэрым адценнем твар, баязлівы позірк. Ён вітаў натоўп, квола памахваючы рукой.

Мая маці ціха, спалохана войкнула: «А божачка ж мой, цар!» і пабялела, як палатно. Увесь час хрысцячыся, яна тузанула мяне за рукаў і падалася да кардону казакоў з хлебам на выцягнутай руцэ.

— Назад! — крыкнулі ёй. — Назад!

У гэты час недзе ў сярэдзіне натоўпу некалькі звонкіх галасоў крыкнула:

— Далоў самадзяржаўе! Далоў вайну!

— Няхай жыве мір! — данеслася аднекуль ззаду.

— Гэта бальшавікі!.. Яны прадаліся немцам!.. — істэрычна завішчэла нейкая пані. — Арыштуйце іх!

Яе віск патануў у людскім гомане. Зусім блізка, амаль побач са мною, малады звонкі голас («Мікалай Нарэўскі!» — цюкнула мне) заспяваў:

Паўстань, прокляццем катаваны...

Сэрца маё страпянулася ад вялізнай, нязнанай радасці, і я на ўсе грудзі гукнуў:

Мы наш, мы новы лад збудуем,
Хто быў нічым...

Казацкі бізун абарваў маю песню...

## 4

Пацярпеўшы «за цара і айчыну», Жураўскі тры дні нікуды не выходзіў з дому. Некаторыя нават сумняваліся: ці выжыве ён, ці не «адсадзіў яму жандар пячонкі».

Але Жураўскі выжыў. І не паразумнеў, як можна было чакаць, а стаў яшчэ больш люты. За самую малую віну біў батракоў да смерці.

Ішла вясна 1916 года. Набліжалася першамайскае свята. Мы вырашылі адсвяткаваць яго як належыць: не выйсці на работу і наладзіць у лесе маёўку. Але як зрабіць, каб пра ўсё гэта не пранюхаў Жураўскі? Ён жа падыме трывогу на ўсю губерню і можа жандараў выклікаць...

Раімся мы гэта між сабою, а тут Любаша і кажа:

— Давайце мы яму перад самым святам «цёмную» зробім, каб ён з тыдзень на вуліцу не паказваўся.

Думка гэтая нам усім спадабалася. Толькі была ўнесена невялікая

папраўка: зрабіць «цёмную» не перад самым святам, а за некалькі дзён да яго, каб не ўзнікла падазрэнне, што гэта звязана са святкаваннем рэвалюцыйнага свята.

Выканаць волю таварышаў выпала мне і Міцю. І мы ахвотна яе выканалі. Нават крыху перастараліся.

Першамай адсвяткавалі як належыць. На маёўку сабралася многа батракоў і бедных сялян. З прамовай выступіў настаўнік Мікалай Сяргейчык. У той дзень я ўпершыню ўбачыў партрэт Уладзіміра Ільіча. Яго разумныя прыжмураныя вочы глядзелі на мяне і нібыта пыталіся: «Як жа будзем жыць далей, таварыш Шутаў?» «Па-новаму, Уладзімір Ільіч», — адказаў я яму ў душы.

Як толькі Жураўскі ачуняў, ён адразу ж расправіўся са мной і Міцем. За «падбухторванне да бунту» нас выгналі з маёнтка.

Жыхары Дварца праводзілі нас, як герояў. Калі я стаў развітвацца з маці, яна выцерла слязу, што кацілася па шчацэ, і ціха сказала:

— Не бядуй, сынок, на твае рукі хопіць мукі. Знойдзеш работу. А пра нас не трывожся. Як-небудзь пражывём. Чуе маё сэрца — пакутам нашым хутка настане канец.

Любаша праводзіла нас на той бок рэчкі. На развітанне Міця абняў яе за плечы і тут жа ўвесь зардзеўся. А Любаша, вырваўшыся з Міцевых рук, сказала звонкім, дрыжачым голасам:

— І выдумаў жа!

— А хіба нельга? Я...

— Нельга! Па-першае, ты яшчэ малы...

— Я ж старэйшы за цябе!

— Па-другое, сапраўдныя рэвалюцыянеры не абдымаюцца.

— Няўжо?

— Не абдымаюцца, — паўтарыла Любаша. — Сінкевіч, Разумаў... Яны ж дарослыя — і не жанатыя!

— Глупства, — запярэчыў я. — Калі ім было жаніцца — то катарга, то турма...

— А Ленін як? — пацікавіўся Міця.

— Ленін абдымацца не будзе. Жанчына для яго — проста таварыш, — адказала, не задумваючыся, Любаша. — Ён жа самы галоўны рэвалюцыянер!

Любашу мы лічылі самай адукаванай сярод нас і таму спрачацца з ёю не сталі.

Нам з Міцем пашанцавала: праз некалькі дзён мы знайшлі работу на гуце. Вось дзе было сапраўднае пекла! Шкладувы з жоўтымі худымі тварамі, з памутнелымі ад непасільнай працы вачамі былі падобныя хутчэй на жывых мерцвякоў, чым на людзей. Яшчэ цяжэй даводзілася тым, хто абслугоўваў печ. Каля яе мітусіліся да пояса голыя шкілеты.

На заводзе працавалі не толькі беларусы. Тут былі рускія, украінцы, яўрэі, палякі і нават адзін узбек. Гаспадар, таўсцяк з бычыным каркам, нікога не лаяў, ні на кога не павышаў голас. З усімі размаўляў салодкім голасам і заўсёды ўсміхаўся. Але пад гэтай маскай добразычлівца хаваўся халодны забойца. Прозвішча яго было Вульф, але рабочыя між сабой звалі яго «Воўкам».

Пазней ад рабочых я даведаўся, што летась тут, на гэтым заводзе, трагічна загінуў мой нядаўні сябар Эля Шаміс. Калі ён прыйшоў наймацца на работу, гаспадар адразу скеміў, з кім мае справу: малы вельмі нагараваўся і будзе рады кавалку хлеба.



— Што ж, не паміраць жа табе з голаду. Працуй у мяне,— ласкава сказаў «Воўк».— Буду цябе карміць, апранаць, а плаціць праз год пачну. Трэба ж апраўдаць расходы! Будзеш старацца — можа калі-небудзь гаспадаром гуты станеш. Дзяцей жа ў мяне сваіх няма...

Мякка слаў гаспадар, ды мулка было спаць. Элю паставілі да печы. Па дванаццаць гадзін у суткі працаваў знясілены, заўсёды галодны хлопчык. Аднойчы, стомлены, ён заснуў ля печы... А потым доўга пакутаваў ад страшэнных апёкаў і памёр ад іх.

На заводзе нам з Міцем падабалася тое, што ўсе рабочыя тут жылі дружнай сям'ёй. Два разы ў год аб'яўлялі забастоўку — патрабавалі павышэння заработнай платы — і перамагалі. Праўда, гэта абыходзілася ім дорага: аднаго арганізатара забастоўкі «Воўк» адправіў на катаргу, другога — на фронт, у штрафную роту.

Да мяне і да Міці «Воўк» ставіўся нядрэнна, але сачыў за кожным нашым крокам. Асабліва пасля таго, як убачыў нас на заводскім двары з бальшавіком Сакаловым.

Напярэдадні свята Першамая семнаццатага года «Воўк» прыйшоў на завод з чырвоным бантам на лацкане і сказаў, што пойдзе на дэманстрацыю разам са сваімі рабочымі. Усе адобрылі гэтую яго смеласць, але на дэманстрацыю з ім пайшла маленькая жменька людзей. Астатнія рушылі па другой вуліцы — з Сакаловым. Чацвёртага мая «Воўк» выгнаў Віктара Міхайлавіча Сакалова, Міцю і мяне за вароты свайго завода.

Была раніца. Ружавеў усход. На дрэвах пераклікаліся птушкі. Мы ўтраіх стаялі ля жалезных варот, не ведаючы, куды падацца.

— Я вас, хлопцы, хацеў бы ўзяць да сябе, пакуль работу знойдзеце, ды не магу... Каморка ў нас малюсенькая, а тут яшчэ мы з жонкаю малое чакаем.

Мы з Міцем здзіўлена пераглянуліся. Потым Міця прамовіў:

— А нам казалі, бальшавікі не жэняцца...

Віктар Міхайлавіч засмяяўся. Смяялася кожная рысачка яго добрага, адкрытага твару.

— Хто гэта вам сказаў? «Воўк»?

Міця пакруціў галавой:

— Не, не «Воўк». Лісіца!..— і, глянуўшы на мяне, дадаў: — А Ленін жа не жанаты...

— Няпраўда. — Твар Віктара Міхайлавіча стаў сур'ёзны. — У Леніна ёсць жонка. Крупская. Надзежда Канстанцінаўна. Адзін са старэйшых членаў нашай партыі, бліжэйшы памочнік Леніна.

— Выходзіць, што Любаша — збрахала? — спытаўся ў мяне Міця.

— А хто такая гэтая Любаша? — пацікавіўся Сакалоў.

Я расказаў.

— Дзяўчына, відаць, разумная,— пахваліў Віктар Міхайлавіч.— Яна проста не хацела, каб Міцевы думкі былі заняты толькі гэтым.

Развітваемся. Сакалоў, паціскаючы нам рукі, пытаецца:

— Што ж далей будзем рабіць, хлопцы?

— Новую рэвалюцыю, — адказвае Міця. — Балбатуна Керанскага прагнаць трэба.

— Вы ж самі, Віктар Міхайлавіч, казалі, што нічога не змянілася,— падтрымліваю я таварыша. — Пан Жылінскі, «Воўк», Радзівілы па-ранейшаму п'юць народную кроў, а на фронце ні за што гінуць салдаты. Вось мы і будзем гаварыць пра гэта людзям.

— Правільна, хлопцы. Памагайце нам, і такая рэвалюцыя, пра якую мы марым, абавязкова здзейсніцца.

## 5

25 кастрычніка (7 лістапада) 1917 года ўзброенае паўстанне ў Петраградзе перамагло. Днём адкрылася экстранае пасяджэнне Петраградскага Савета. На ім выступіў Ленін.

«Таварышы! — сказаў Уладзімір Ільіч. — Рабочая і сялянская рэвалюцыя, пра неабходнасць якой увесь час гаварылі бальшавікі, здзейснілася...»

Здзейснілася, кажучы словамі Уладзіміра Маякоўскага, і «мая рэвалюцыя». Агонь не мае ног, а ідзе хутка. Полымя рэвалюцыі — Савецкая ўлада — распаўсюджвалася імгненна. Ленінскія дэкрэты аб зямлі і міры, прынятыя II Усерасійскім з'ездам Саветаў, прыцягнулі на бок перамогшага пралетарыята мільёны працаўнікоў горада і вёскі.

У тыя дні мы з Міцем парабкавалі ў вёсцы Заполле, у кулака Марыча. Арэм мы аднойчы са сваім гаспадаром поле і раптам бачым — да нас бяжыць Любаша.

— Кідайце работу! — яшчэ здалёк крычыць яна. — Хопіць!

Мы збянтэжыліся, не ведаем, што і думаць.

— Рэвалюцыя,— трымаючыся рукою за сэрца, вымавіла Любаша. — У Петраградзе, Маскве, Мінску... Ёсць новы закон: зямлю адабраць у паноў і раздаць беднякам... Ну, чаго ж вы стаіцё?!

Мы разгублена глядзім на Марыча: ён быццам аглоблю праглынуў. У вачах яго то ўспыхваюць, то гаснуць злосныя агеньчыкі. Нарэшце ён перамагае сябе і з'едліва гаворыць:

— Ну, чаго ж стаіцё? Бяжыце! Хапайце чужую зямлю, пакуль вам рук не паадбіваюць.

Міця кінуўся да яго, але мы з Любашай стрымалі.

— Пачакай, сабака, дабярэмся і да цябе, — кінуў Міця на развітанне.

У маёнтку Дварэц усё кіпела, як у катле. Жылінскі ўцёк. Ніхто не выходзіў на работу. Батракі падпалілі панскія харомы. З Гарадзішча на ўзмыленым кані прыскакаў Мацвей Бузак, пра якога ўсе гаварылі, што ён спачувае бальшавікам.

— Што вы робіце? — закрычаў ён не сваім голасам. — Гасіце агонь! Гэта ж ваша дабро! Ваша!

— Не трэба, няхай гарыць, — стаяў на сваім дзядзька Ягор.

— Няма чаго шкадаваць панскае дабро. Сёння мы гаспадары, а заўтра зноў Жылінскі вернецца.

Старому салдату цяжка было паверыць, што зямля і панскае багацце навечна і без выкупу пераходзіць да батракоў. І толькі тады, калі яму паказалі надрукаваны на жоўтай абгортачнай паперы дэкрэт аб зямлі, ён здаўся:

— Загад — ёсць загад. Я за салдацкую дысцыпліну стаю.

Яго потым выбралі ў склад камісіі па раздачы зямлі.

Неяк неўзабаве пасля гэтага да нас дайшлі трывожныя весткі: на Маскву ідуць эшалоны казакаў. Контррэвалюцыйныя войскі захапілі Мінск, устанавілі на вуліцах і плошчах куляметы, гарматы. У Слуцку ідуць павальныя арышты. Нехта пусціў чутку, што ў Дварэц едзе пан Жылінскі, каб уласнаручна пакараць бунтаўшчыкоў.

На шчасце, у Гарадзішчы паявіўся Міхаіл Сінкевіч. Мы пайшлі да яго. Ён нас цёпла сустрэў і супакоіў:

— У нашых ворагаў — часовая перавага ў сілах. У бліжэйшы час Мінск зноў будзе ў нашых руках.

Ён сказаў праўду. Ваенныя бальшавіцкія арганізацыі Заходняга фронта паслалі ў Мінск браняпоезд імя Леніна і батальён пяхоты.



Горад быў ачышчаны ад меньшавіцка-эсэраўскай нечысці. Прайшло яшчэ некалькі дзён, і штаб Заходняга фронта перайшоў у рукі бальшавікоў.

Генерал Духонін, які ўзначальваў Стаўку, спрабаваў перакінуць з Заходняга фронта да Масквы і Петраграда надзейныя часці Карнілава. Але рабочыя буйнейшых чыгуначных вузлоў Беларусі, дзе важакамі былі бальшавікі, затрымалі прасоўванне карнілаўскіх войск.

Памятаю, непадалёку ад нашага Дварца спыніўся на кароткі адпачынак узвод «надзейных». Сінкевіч паслаў Міцю, Любашу, мяне і Васю распаўсюдзіць сярод салдат Дэкрэт аб міры.

— Толькі асцярожна, — сказаў ён. — Афіцэры там — кадэты, буржуйскія сынкі.

Прыйшлі мы да «надзейных». Стаім здалёк разам з дзецьмі, прыкідваемся разявакамі. І бачым: прапаршчык з рабым плоскім тварам прабірае за нейкую віну радавога. А той, бедны, толькі спалохана лыпае вачыма.

— Сто крокаў бягом да кучы гною — марш! — крычыць прапаршчык.

Салдат бяжыць. Узлазіць на кучу гною і хоча саскочыць з яе, але чуе каманду: «Стой!» Ён ляскае каблукамі, прыстаўляе вінтоўку да нагі і стаіць, як слуп.

— Двацц... трыццаць разоў прысесці з вінтоўкай на выцягнутых руках! Пачынай! Р-раз!

У салдата закіпае злосць: дрыжаць рукі, перасмыкаецца твар, на ілбе выступаюць кропелькі поту, але загад ён выконвае.

— Чатырнаццаць... пятнаццаць... шаснаццаць, — абыякава, з лёгкай пагардаю ў голасе лічыць прапаршчык. — Семнаццаць... вышэй рукі, вышэй!

Міця сціскае кулакі. Любаша ледзь не да крыві прыкусвае губу.

— Дваццаць восем... дваццаць дзевяць... трыццаць! Ка мне!

Салдат стаіць перад прапаршчыкам. Ён ледзь на нагах трымаецца.

— Дык хто, па-твойму, свіное рыла, Ленін?

— Правадыр, пан прапаршчык, — адказвае салдат ціхім, пакорлівым голасам. — Зямельку, кажуць людзі, бедным раздае, салдат дамоў адпускае...

— Ты зноў за сваё?! Ленін — нямецкі шпіён, вось хто! За золата немцам Расію прадаць хоча. Запомні гэта! А цяпер — кру-гом! На кучу гною — бягом марш!

Салдат зноў на кучы гною.

— Стаяць да абеду! — кідае прапаршчык і некуды знікае.

— Давайце пагаворым з ім,— шэпча Міця.

Азіраемся па баках — няма нідзе нікога.

— Гэй, таварыш, злазь адтуль, — гаворыць да салдата Любаша. — Прапаршчык пайшоў.

— Вернецца, халера...

— Ты адкуль? — пытаюся я.

— Сібірак.

Міця падыходзіць да яго і суе ў руку пачак лістовак:

— Схавай. Потым прачытаеш.

— Непісьменны я. Пра што тут?

— Пра мір. Таварышам пакажаш — прачытаюць.

— А пра зямлю? Праўда, што Ленін загадаў бедным сялянам усю зямлю раздаць?

— Праўда. Мы ўжо раздзялілі памешчыцкую зямлю.

— А як жа ў Сібіры будзе? Я тут у акопах гнію, а там, можа, зямлю без мяне дзеляць...

Увечары малыя нам расказалі, што самі бачылі, як салдаты распрavіліся з ненавісным прапаршчыкам. Мы падзяліліся гэтаю навіною з Сінкевічам .

— Добра, — сказаў ён. — Хутка ўсе салдаты пойдуць за намі. Вам, хлопцы, трэба будзе зрабіць яшчэ вось што...

— Гэта вы, Міхаіл Іванавіч, гаварыце ўжо Любашы са Сцяпанам, ды вось Васілю, — са смуткам гаворыць Міця.

— А ты што?

— А я пайду дамоў, на Украіну. А то што ж гэта выходзіць? Усюды Савецкая ўлада, а ў Кіеве яе няма... Ды і маці шкада. Адна яна там...

Сінкевіч на момант задумаўся, потым сказаў:

— Маці шкада — згодзен. Хто ж яе і пашкадуе, як не ты. Але ісці табе зараз у Кіеў, па-мойму, не варта. Там Цэнтральная рада лютуе. Як даведаюцца, што ты з савецкага боку — расстраляюць. Мы зараз ствараем атрад Чырвонай Гвардыі. Ідзі ў атрад, Градзюшка, і са зброяй у руках змагайся за сваю Украіну. А вы запішацеся ў Чырвоную Гвардыю? — звярнуўся ён да нас усіх.

— А як жа! — падхапіўся я. — Хто запісвае?

— А жанчын прымаюць? — спыталася Любаша.

— Не, — адказаў Сінкевіч. — Але цябе мы возьмем. Будзеш сувязной паміж нашай арганізацыяй і атрадам. Добра?

Любаша кіўнула галавой.

## 6

Штаб чырвонагвардзейскага атрада размяшчаўся ў Гарадзішчы. Прыходзім мы туды і ў нізенькай, урослай у зямлю хаціне знаходзім камандзіра атрада. Ён — малады, амаль наш равеснік. Шчокі круглыя, дзявочыя. Голас тонкі.

— Нас прыслаў таварыш Сінкевіч.

— Ясна. Запісацца хочаце?

— Хочам.

— А дзе вашы вінтоўкі?

Лыпаем вачыма. А дзе ж іх узяць? У полі не растуць...

— Для ўсіх зброі ў мяне няма. Здабудзеце вінтоўкі — прыходзьце, запішу... А цяпер — бывайце, таварышы, спраў у мяне — во! — ён праводзіць рукою па горле.

Зброю мы здабылі. У той жа дзень. Наган адабралі ў п'янага афіцэра, вінтоўкі — у дэзерціраў.

Прыходзім у штаб. Камандзір залічвае нас у свой атрад і кажа начальніку штаба:

— Збяру тысячу такіх арлоў і сам разаб'ю корпус Доўбар-Мусніцкага.

Я ўспомніў дзядзьку Ягора, які патрабаваў усяго адну роту, каб расправіцца з усёй сусветнай буржуазіяй, і ўсміхнуўся. Хлопцам сказаў:

— Па-мойму, хвалько ён.

— Хто?

— Наш камандзір. Корпус разбіць збіраецца...

Пра польскі корпус, разам з якім буржуазныя нацыяналісты Беларусі пачалі рыхтаваць узброенае выступленне супраць маладой Савецкай рэспублікі, нам расказаў Сінкевіч. Корпус гэты быў сфармаваны Часовым урадам з ваеннапалонных палякаў. У ім налічвалася звыш 25 тысяч легіянераў. Камандаваў корпусам генерал Доўбар-Мусніцкі.

— А па-мойму, ён не хвалько, — асцярожна запярэчыў Вася. — Яму так здаецца.

— Камандзіру нічога не павінна здавацца. Ён павінен дакладна ведаць, — адрэзаў я.

Праз тыдзень мяне і маіх таварышаў перавялі ў дзеючы Асіпавіцкі атрад, які граміў польскіх легіянераў. Тут я пераканаўся, што чырвонагвардзейцы, незалежна ад іх баявой падрыхтоўкі, змагаліся з ворагамі рэвалюцыі не горш, а лепш, чым вопытныя, «абстраляныя», добра ўзброеныя салдаты рэгулярнай арміі.

Аднойчы было так. Наш атрад павінен быў перарэзаць дарогу праціўніку і зайсці яму ў тыл. На флангах нас падтрымлівалі два палкі рэгулярнай арміі. Спачатку ўсё ішло добра. Восем атак адбіў праціўнік, а перад дзевятай не ўстаяў, пачаў адыходзіць. Многія польскія салдаты, супраць сваёй волі ўцягнутыя ў контррэвалюцыйную авантуру, пачалі пераходзіць на наш бок. Чырвонагвардзейцы, натхнёныя поспехам, прасоўваліся ўперад і ўперад.

Генерал Доўбар-Мусніцкі ў тэрміновым парадку перакінуў на гэты ўчастак яшчэ некалькі гармат і загадаў біць па флангах. Афіцэры размешчаных на флангах палкоў спалохаліся і кінуліся ўцякаць. А за імі — і салдаты. Многа ахвяр каштавала Асіпавіцкаму атраду гэтая здрада. Тут у баі загінуў Вася. А праз гадзіну на маіх вачах упаў смяртэльна паранены Міця Градзюшка. Я падбег да яго. Яго гімнасцёрка была ўся ў крыві.

— Ты? — спытаў ён, ледзь варушачы пасінелымі губамі. — У Кіеве маці... адна... Украіна...

Я зразумеў: цяпер мой абавязак — абараняць яго любую маці, яго родны край...

Я глядзеў у твар свайго сябра і бачыў, як згасае яго позірк.

— Сцёпа, — ён паспрабаваў падняць руку, але яна ўпала яму на грудзі. — На Украіне... хораша...

У грудзях маіх варухнулася нешта такое гарачае, такое балючае, што я не мог больш трываць. Я падхапіўся і гучна, на ўвесь голас крыкнуў:

— Уперад, таварышы! За ўладу Саветаў, ура-а-а!

Легіянеры ўзмацнілі агонь, а потым перайшлі ў контрнаступленне. Мы трымаліся да таго часу, пакуль не падышоў Гарадкоўскі атрад. Вось тут я і пераканаўся, што мой камандзір не быў хвальком. У баі яго не спынялі ні гарматы, ні кулямёты.

Рэвалюцыйныя войскі нанеслі корпусу Доўбар-Мусніцкага некалькі цяжкіх паражэнняў. Уцёкі на тэрыторыю, занятую немцамі, выратавалі яго ад поўнага разгрому.

Так быў ліквідаваны апошні ачаг контррэвалюцыі на Беларусі.

Трусасць і здрада афіцэраў двух палкоў рэгулярнай арміі выклікала ў нас, чырвонагвардзейцаў, абурэнне. Не згаварваючыся, амаль усе ў адзін голас заявілі: «Ваяваць сумесна з рэгулярнымі часцямі больш не хочам».

Да нас у атрад прыехаў адзін з кіраўнікоў бальшавіцкай арганізацыі Мінска. Ён расказаў нам, што Савецкі ўрад прыступіў да стварэння рэгулярнай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Чырвонага Флоту. Толькі такая армія, армія працоўных, строга дысцыплінаваная, узброеная сучаснай ваеннай тэхнікай, выхаваная на ідэях ленінізма, зможа адстаяць заваёвы Вялікага Кастрычніка.

Я ўзгарэўся жаданнем пайсці добраахвотнікам у Чырвоную Армію

і напісаў аб гэтым кароценькае пісьмо Любашы. Многа разоў перапісваў яго, устаўляючы падхопленыя на ляту чужыя словы і думкі. Хацелася, каб выйшла «разумна і прыгожа». Вось што я пісаў:

«Чырвоная Гвардыя, павінен табе сказаць, таварыш Любаша, праславіла сябе сваімі подзвігамі ў стагоддзях. Цяпер Уладзімір Ільіч Ленін кажа, што патрэбна другая армія, рэгулярная — Чырвоная Армія і Чырвоны Флот. Паведамляю табе, што я вырашыў добраахвотна запісацца ў гэтую новую армію і адпомсціць за смерць нашага сябра — Міці Градзюшкі. Кланяйся ўсім нашым.

Чырвонагвардзеец Сцяпан Шутаў».

Пошта хадзіла дрэнна. Маё пісьмо прыйшло ў Дварэц разам са мною. За гэты час я паспеў захварэць на тыф і каля двух тыдняў праляжаць у атрадным шпіталі. Толькі выздаравеў — дамоў адпраўляюць. Я запратэставаў. Паскардзіўся камандзіру на начштаба, на урача, назваўшы іх «тылавымі пацукамі», «буржуямі» і нават «контрай». Камандзір атрада толькі пасміхваўся сабе ў вусы. Калі я нарэшце змоўк, ён папрасіў мяне прайсці ад стала да дзвярэй і — назад.

— Ёсць прайсці ад стала да дзвярэй і — назад! — гукнуў я на ўвесь голас, каб хоць гэтым пераканаць камандзіра, што я — здаровы. Падвялі ногі. Я ступаў, як чалавек, які без прывычкі праскакаў верхам на кані сто кіламетраў.

— Едзь дадому, Сцёпка, — па-сяброўску сказаў камандзір. — Выздаравееш — вяртайся да нас. З радасцю прымем.

— Зброю здаць?

— Абавязкова.

— І наган?

— Можаш пакінуць сабе. У тваім раёне паявіліся бандыты. Ну, бывай здароў! — і ён працягнуў руку.

Я не крануўся з месца.

— Хочаш што-небудзь сказаць?

— Пра бандытаў расказалі, а што чуваць добрае?

— А цябе што цікавіць?

— Кіеў.

— Родзічы там?

— Родзічы.

— Днямі яго вызвалілі ад пятлюраўцаў.

— Праўда?! Дзякуй, таварыш камандзір, за добрую вестку!

Пакідаючы часць, я ўзяў з сабою Міцеў салдацкі мяшок. У дарозе ненарокам сеў на яго і адчуў, як нешта трэснула. Развязаў — фанерная скрыначка. У ёй ляжалі дзве фотакарткі, на адной з іх была Любаша, на другой — жанчына сярэдніх год, з разумнымі, вясёлымі вачамі. Гэта маці Градзюшкі, Марыя Піліпаўна.

Я адчуў сябе ў вялікім даўгу перад гэтай жанчынай, бо не адпомсціў ворагу за смерць яе сына ды і наогул мала — вельмі мала! — зрабіў для абароны рэвалюцыі.

## 7

Гучную назву — Дварэц даў нашай вёсачцы, відаць, нейкі злосны насмешнік. У гэтым Дварцы было дзесяць пахілых хацінак, панская сядзіба ды некалькі гаспадарчых пабудоў.

Наш Дварэц нагадваў мне кроплю вады ў неабсяжным акіяне. Ускалыхнуўся акіян — захвалявалася і крропля. Мітынгі, сходы. Вучацца ў школе дзеці. Старыя мужчыны і жанчыны зубрадь азбуку. Юры



Мяцельскі, які адзін з шасці вайскоўцаў вярнуўся з вайны, вучыць падросткаў страляць з вінтоўкі...

Кожны лічыць сваім абавязкам наведаць мяне, хворага, падзяліцца навінамі. Толькі нешта Любашы не відаць...

— Баіцца. Сорамна ёй, — гаворыць маці.

— Сорамна?!

— Бацька яе знюхаўся з кулаком Марычам. Разам пілі, елі, разам і ў бандыты падаліся. Марыч у іх за галоўнага, а Радкевіч — памочнікам у яго. Забіваюць, рэжуць усіх, хто за Савецкую ўладу. А малодшыя Любашыны браты — у Чырвонай Гвардыі. Міша загінуў пад Бабруйскам, Саша — паранены...

«Як усё перамяшалася, — падумаў я. — Сыны — за Савецкую ўладу, бацька — супраць...»

Ворагі рэвалюцыі — кадэты, эсэры, меншавікі, беларускія, украінскія, літоўскія, польскія, яўрэйскія буржуазныя нацыяналісты — уся гэтая контррэвалюцыйная погань аб'ядналася ў сваёй нянавісці да Савецкай улады. Пацярпеўшы паражэнне ў адкрытым баі, яны пачалі ствараць бандыцкія групы з кулакоў і тых, каго вабілі «вольнае жыццё», рабункі, рэкі «першаку». Такая бандыцкая група дзейнічала непадалёку ад Дварца, у Сінім Бары. Верхаводзіў у ёй кулак Марыч.

«Сінкевіч цяпер, мусіць, асцерагаецца Любашы», — падумаў я.

А маці прадаўжала сыпаць соль на маю рану:

— Пятро сказаў Любашы: «Калі ўбачу, што бегаеш у Гарадзішча да бальшавікоў, задушу».

Далей цярпець я не мог. Устаў, узяў кіёк і падаўся да дзвярэй.

— Сынок, куды ты? — спалохана крыкнула маці. — Ляжы, ты ж слабы яшчэ.

Што я мог ёй сказаць!

На дварэ быў мароз. Заходзіла халоднае зімовае сонца. На арцы, што вяла ў былую панскую сядзібу, развяваўся на ціхім ветры чырвоны сцяг.

«Яго летась прынесла Любаша з Бабруйска», — успомніў я. Што ж мне ёй сказаць цяпер? Што параіць? Ці пойдзе яна са мною супраць бацькі?

— Гэй, пане генерал!

Знаёмы голас! Азіраюся: дзядзька Ягор. Абдымаемся, цалуемся.

— Куля, значыць, не ўзяла? — дзядзькавы шэрыя вочы ўважліва аглядаюць мяне, нібыта ацэньваюць: чаго я варты.

— Як бачыце, не ўзяла.

— А як Міця?

— Загінуў, дзядзька Ягор. І Вася Лукаш...

Стары разводзіць рукамі:

— Вайна...

З хвіліну маўчым. У мяне заходзяцца ад холаду ногі.

— Дзе гэта вы былі, дзядзька Ягор? — пытаюся.

— У Леніна.

— ?

— Жартую. Быў тут у аднаго хадака. З-пад Слуцка ён.

Слова «хадок» у той час было такое ж папулярнае, як цяпер слова «спадарожнік». «Хадаком» называлі чалавека, які хадзіў да Леніна. У першыя ж дні Савецкай улады з усіх канцоў краіны ў Смольны пачалі прыходзіць сяляне, каб асабіста, «ад самога Леніна» пачуць пра новы зямельны закон. Нягледзячы на занятасць, Уладзімір Ільіч заўсёды знаходзіў час, каб пагаварыць з сялянамі-хадакамі. Потым з вуснаў у вусны перадаваліся расказы тых, каму пашчасціла пагута-

рыць з Ільічом. Тут, вядома, не абыходзілася і без домыслаў, якія часам даходзілі да анекдотаў. У нашым чырвонагвардзейскім атрадзе адзін таварыш расказваў, што ў Смольным — дзевяць тысяч пакояў бітком набіты хадакамі, і Ленін кожны дзень абходзіць іх. Калі мы спыталіся, як жа гэта Леніну ўдаецца абысці столькі пакояў, чырвонагвардзеец не разгубіўся і адказаў: «На тое ён і Ленін»!

— Дык што ж, дзядзька Ягор, сказаў вам Ленін?

— Бач, які хуткі! Мітынг будзе — раскажу.

— Які цяпер мітынг, у такі мароз?

— У хаце ў мяне цёпла. Цяпер, дзякаваць богу, дровы ва ўсіх ёсць.

Любашына маці, Анісся Сцяпанаўна, адчыніла дзверы і спалохана застыла на парозе.

— Любаша дома?

Яна пакруціла галавой: няма.

— А дзе?

— Не ведаю.

Мы стаялі ў сенцах. У хаце чуваць была ціхая гаворка, звон пасуды.

— У вас госці?

Анісся Сцяпанаўна, не ведаючы, што сказаць, паціснула плячамі.

«Ага. Значыць, Пятро прыйшоў. І не адзін», — мільгнула ў мяне думка.— «Зараз можна было б іх узяць. П'яныя. Эх, чорт... наган жа я пакінуў дома!»

— Анютка-а-а! Ты чаго там марудзіш? — пачулася з-за дзвярэй.

Анісся Сцяпанаўна заспяшалася:

— Ідзі, Сцёпа, ідзі... Заб'юць яны цябе... Ідзі, кажу!..

У мяне — душа ў пяткі. І ўцёк бы, ды сорамна было.

— Анют-ка-а! — дзверы адчыніліся, і на парозе паказаўся Радкевіч. Яго пасалавелыя вочы сталі круглыя: ён пазнаў мяне.

— Здароў, камісар, — паздароўкаўся ён. — Заходзь у хату, госцем будзеш.

— Адчапіся ты ад яго, — стала паміж мной і мужам Анісся Сцяпанаўна. — Ідзі, Сцёпа, дадому. Любашы няма, у Бабруйск паехала.

— Пастой, браток, — учапіўся ў мяне Радкевіч. — Спалохаўся? Баішся?

Я павёў плячом, адштурхнуўшы ад сябе Радкевіча, і задзірыста кінуў:

— Каго гэта я буду баяцца?! Вас? — і пераступіў парог хаты.

За сталом сядзелі п'яныя Марыч і Лёнька. Радкевіч з-за маёй спіны падаваў ім нейкія знакі. Яны ківалі галовамі: разумеем...

— Ты чаму шапку не здымаеш, калі ў хату зайшоў, — спытаўся Лёнька, акінуўшы мяне доўгім пагардлівым позіркам.

— Прадаўся, таму і не здымае, — кінуў Марыч, скрывіўшы губы.

Побач з Марычам на лаўцы ляжаў абрэз. «Вось каб дацягнуцца да яго!»

— Лёнька, налі яму вялікую, — буркнуў Радкевіч з-за маёй спіны.

Лёнька працягнуў мне шклянку з самагонкай. Я адхіліў яго руку.

— Чаму не бярэш? — задыхаючыся ад злосці, падняўся з-за стала Марыч.

— Не хачу з вамі піць...

Гэтага здалося мне мала, і я дадаў:

— Вы — бандыты!

Лёнька ўдарыў мяне па твары. Я размахнуўся, каб даць здачы, але



не паспеў: Марыч ударыў мяне абрэзам па галаве. Далейшае я ўжо чуў, як скрозь сон.

— Прыстрэліць, ці што?..

Анісся Сцяпанаўна загаласіла.

— Ціха ты, п-паскуда!.. — цыкнуў Марыч.

— Ідзі вон, п'яная морда! — закрычала ў істэрыцы Анісся Сцяпанаўна. — Пятро, чаго ты маўчыш? У тваім доме забіваюць дзіця, сірату...

— Маўчы, Анютка! Не заб'юць. А правучыць трэба...

Ён падышоў да мяне, нагнуўся:

— Гэй, ты, чуеш?.. Уставай...

Я нават не мог паварухнуцца.

— Запомні,— аднекуль здалёк данёсся пагрозлівы голас.— Раскажаш, дзе быў, — каюк! Хату спалім і сям'ю ўсю перастраляем.

Мяне паднялі. Скрыпнулі дзверы, забрахаў сабака... А потым — снег. У вушах. У роце. У ноздрах. Ціха... Я расплюшчыў вочы: нада мной было цёмнае неба.

...Хочацца спаць, а мяне нехта тармосіць. Гэта прыйшоў фельчар, Сінкевічаў сябар. Яны разам адбывалі ссылку. І Міхаіл Іванавіч тут. Як ніколі, сур'ёзны, заклапочаны.

— Хто гэта цябе? — пытаецца ён.

— Марыч з хэўраю...

— Я так і думаў! Бандыты! Папраўляйся хутчэй, Сцёпа. Справы важныя ёсць.

## 8

Ноччу бандыты падпалілі нашу хату. Згарэла толькі страха, а сцены паспелі патушыць.

Камандаваў Юра Мяцельскі.

Юра быў старэй за мяне і дружыў з маім старэйшым братам. Калі яму было дванаццаць гадоў — памёр бацька. Праз чатыры гады пахавалі і маці. На Юравых руках засталіся брацік і дзве сястрычкі. Юра быў для іх і бацька, і маці.

Да нас Юра заходзіў рэдка, хіба толькі ў святы. Але калі ён прыходзіў, то, здавалася, у хаце станавілася неяк святлей і цяплей.

— Юра, гляджу я на цябе і думаю: у чалавека столькі гора, а ён носа не вешае, — сказала аднойчы мая маці.

— А чаго хадзіць, як мокрая курыца!.. Пацерпім яшчэ трошкі. Няпраўда, загляне сонца і ў наша аконца! Не век жа будуць панаваць Жылінскія.

— Ой, сынок, не звернеш гэты камень з дарогі...

— Адзін не звернеш, а калі разам узяцца, то чаму не звернеш...

Пачалася вайна. Юру ўзялі ў салдаты. А праз два гады ён стаяў перад ваенным трыбуналам.

— ...Салдат Мяцельскі, што вы можаце сказаць у сваё апраўданне.

— Нічога, пан старшына. За лета наша армія страціла шэсцьсот тысяч забітых і раненых. Няхай тыя, хто вінаваты ў гэтым, апраўдваюцца...

— Так-с, — сказаў, праціраючы хусцінкай пенснэ, старшына. — Для арміі вы чалавек небяспечны.

«За бальшавіцкую агітацыю сярод салдат у ваенны час, за падбух-

торванне апошніх да непаслушэнства» салдат Мяцельскі быў прыгавораны да расстрэлу, які быў заменены адпраўкай у штрафны батальён.

Увосень таго ж года Юру Мяцельскага бачылі ў мінскім гарадскім парку. Ён сядзеў на лаўцы побач з цёмнавокім, круглатварым маладым чалавекам і вёў невясёлую гаворку пра жанчыну, якая памірае ў бальніцы. Але як толькі аддаляліся крокі прахожых, цёмнавокі вяртаўся да перапыненай размовы:

— ... мы, бальшавікі, дабіваемся, каб вайну, пачатую ўрадам, закончыў народ. Толькі ў такім выпадку настане справядлівы мір. Наш лозунг: «Далоў імперыялістычную вайну! Няхай жыве вайна грамадзянская!» Вы мяне зразумелі, таварыш Мяцельскі?

— Зразумеў, таварыш Міхайлаў!

Яны развітваюцца. Вайсковец ідзе ў адзін бок. Мяцельскі — у другі...

Скажу адразу: гэтым вайскоўцам быў не хто іншы, як Міхаіл Васільевіч Фрунзе. Ён служыў у штабе Дзесятай арміі і па заданню бальшавікоў стварaў нелегальную рэвалюцыйную арганізацыю. Ніжэй я больш падрабязна раскажу пра гэтага выдатнага бальшавіка, з якім мне выпала шчасце сустрэцца ў сваім жыцці. А цяпер — пра Юрыя Мяцельскага. Праз год ён стаў адным з тых бальшавікоў-важакоў 623 палка, якія разам з чырвонагвардзейцамі ўстанавілі ў Оршы сваю ўладу і не прапусцілі ніводнага контррэвалюцыйнага эшалона на Маскву і Ленінград.

...Пажар пагасілі. Людзі разыходзяцца па хатах. Маці і сёстры завуць мяне ў хату. Я моцна цісну Юрыю руку.

— Дзякуй, Юра.

— Не варта, — адказвае. — Заўтра ты будзеш тушыць маю хату, калі не пераловім гэтых бандытаў.

Неўзабаве Мяцельскі арганізаваў маладзёжны атрад і акружыў Сіні Бор, у якім заселі бандыты. Тры разы хадзілі мы на бандытаў, але без поспеху. Вораг быў мацнейшы за нас і лепш узброены.

Раніцай Мяцельскі пакінуў частку людзей на ўзлессі, а мне і яшчэ двум хлопцам загадаў сачыць за Радкевічавай хатай.

— Калі хто-небудзь з Пятровай сям'і будзе ісці ў лес — не затрымлівайце. Ідзіце следам,— сказаў ён, а сам з астатнімі людзьмі пераправіўся за раку, каб з тылу ўдарыць па бандзе.

Праходзіць гадзіна, другая. Ніхто з Радкевічавага дома не паказваецца. Раптам адчыняюцца дзверы і выходзіць... Любаша! У руках — кошык. Мінаваўшы суседскі двор, яна выйшла на дарогу, што вяла ў лес.

Любаша заадно з бандытамі!.. У кошыку, відаць, есці ім панесла... Не памятаючы сябе, я ўскідваю вінтоўку.

— Ты што, з глузду з'ехаў?

— Заб'ю!..

— А загад?

Я апускаю вінтоўку. Так... Загадана не затрымліваць. Калі я парушу загад камандзіра, то мяне засудзяць, як здрадніка. А калі... а калі я ёй дам па мордзе?..

Я кідаюся наўздагон за Любашай. Яна паскарае крокі.

— Стой, — крычу я, зноў ускідваю вінтоўку. — Стой, страляць буду!

Дзяўчына спыняецца і чакае, пакуль я падыду.

— Чаго табе? — пытаецца яна з лёгкай насмешкай.

Варочаю сківіцамі, скрыгачу зубамі, а язык — не слухаецца. З сініх Любашыных вачэй праменіцца знаёмае, цёплае, мяккае святло.



— Страляй, калі ў цябе загад такі ёсць. Але, па-мойму, такога загаду не было...

Збіты з панталыку, я не ведаю, што рабіць.

— Дурненькі, — паказвае яна кончык языка і спакойна ідзе сваёю дарогай.

Групай, што засталася на ўзлессі, камандаваў фельчар з Гарадзішча, той самы, што лячыў мяне ад Марычавых кулакоў. Убачыўшы Любашу, ён падаў знак, і ўсе мы ціха падаліся за ёю ў лес. Прайшлі невялікую палянку, мінавалі сажалку. Любаша спынілася, паставіла кошык на зямлю і, заклаўшы ў рот пальцы, свіснула некалькі разоў. Неўзабаве ёй адказалі такім жа моцным свістам.

— Кладзіся! — ціха скамандаваў фельчар.

Мы залеглі.

Любаша ўперадзе прытаілася за кустамі. Яна некага чакала. Хвілін праз пяць з гушчару паказаўся бандыт. Ён падышоў да дзяўчыны і ўшчыпнуў яе за шчаку.

— Ну, якія навіны?

— Дрэнныя, — знарок гучна адказала Любаша. — Мяцельскі вядзе сюды ваенную часць. З гарматамі.

— Праўда?

— Сама бачыла.

— Колькі гармат?

— Шэсць.

— Уцякаць трэба, пакуль не позна, — сказаў ён і кінуўся ў лес.

А мы — за ім. Вось адкрытая палянка. Бандыты ў паніцы кідаюцца ўзад-уперад, як табун дзікіх коней, якіх застала сярод стэпу навальніца.

— Агонь!

Побач са мною ляжыць Любаша. Яна страляе з нагана.

У бой уступае Юры Мяцельскі. Бандыты адстрэльваюцца. Любаша раптам знікае і, як здань, паяўляецца на кані сярод ворагаў. Шэрык! Марычаў конь!.. Шэрык становіцца на дыбы і крута паварочваецца на задніх нагах.

— Яны ідуць! Два палкі салдат і чырвонагвардзейцы! — крычыць Любаша, наводзячы паніку сярод бандытаў.

У мяне дыханне заняло: яны ж заб'юць яе!..

Марыч устанаўляе кулямёт. Яму памагае Радкевіч. Цэлюся ў іх. Адразу не пацэліў. Кулямёт дае дзве кароткія чаргі і захлёбваецца.

Марыч неяк няцвёрда падымаецца з зямлі і перад тым, як упасці, ступае некалькі крокаў убок, нібы яму хочацца памерці на другім месцы.

За кулямётам умошчваецца Радкевіч.

— Не чапаць! — крычыць Любаша, настаўляючы на бацьку дула нагана.

Адно імгненне яна змагаецца з сабой. Адно толькі імгненне! Змярцвелы твар, вар'яцкі позірк Радкевіча... Агіда ў сініх Любашыных вачах... Стрэл. Рэвалюцыя — даражэй!

## 9

Банда разгромлена. Мы вяртаемся дамоў. Уперадзе калоны ідуць Мяцельскі і Любаша. Я здалёк назіраю за імі. Пытаюся ў сябе: ці змог бы я зрабіць так, як Люба. Ці хапіла б у мяне мужнасці?

Раптам Мяцельскі кліча да сябе фельчара. Фельчар дастае з санітарнай сумкі нейкую бутэлечку і дае Любе. Яна нюхае.

Я праходжу міма іх. Юра загадвае мне выйсці са строю.

— Па вашаму загаду...

— Сцёпа, адвядзі Любашу дадому. Нядобра ёй...

Любаша — белая, як палатно. Яна дрыжыць.

— Адвядзі яе к сабе дадому, — гаворыць Юры. — Вечарам я яе адвязу ў Бабруйск. Тут ёй заставацца нельга.

Калона аддаляецца. Мы застаемся з Любашай удваіх. Я закідваю вінтоўку за плечы і бяру дзяўчыну пад руку.

— Пайшлі.

Я хачу яе суцешыць, але не ведаю, як.

— Не бядуй, Любаша, у жыцці ўсяк бывае.

Яна спыняецца, вызваляе сваю руку і глядзіць мне ў вочы.

— Што бывае?

— Усякае...

— Ты мяне суцяшаеш?

— Ну, што ты...

— Дзівак!

Нейкі час ідзём моўчкі. Вось ужо і Дварэц.

— Думаеш, я каюся, што так зрабіла? — пытаецца раптам Любаша.— Не. Мне шкада маці. Не зразумее яна мяне, Сцёпа, мне ж так крыўдна было. З кім ён ішоў? З Марычам! Супраць каго? Супраць сваіх, супраць рэвалюцыі. Каго ён абараняў? Жылінскага!..

«У Мяцельскага таксама такая звычка: задае пытанні — і сам адказвае»,— падумаў я.

— Сцёпа, ты будзеш прыязджаць да мяне ў Бабруйск?

— Буду.

— І Мяцельскі абяцае. Падабаецца ён мне. Добры чалавек, разумны. Вось бы нам, Сцёпа, быць такімі. А як ён многа ведае ўсяго! Сінкевіч кажа, што яго вельмі цэніць Фрунзе. Сцёпа, а хто такі Фрунзе?

... Вечарам я праводзіў Любашу і Мяцельскага да Заполля. А калі вярнуўся дамоў, то застаў жахлівую карціну: дом Мяцельскага згарэў да тла. Бандыты аблілі яго газай, падпалілі і нікога не падпускалі тушыць: стралялі. І з дому не выпусцілі нікога. Сярод галавешак людзі адкапалі абгарэлыя трупы брата і сясцёр Мяцельскага...

## 10

Цяжкія дні настапі для маладой Рэспублікі Саветаў. Здрадніцтва Троцкага, які сарваў мірныя перагаворы ў Брэст-Літоўску, развязала рукі германскім імперыялістам. Іх дывізіі перайшлі ў наступленне. У той час старая руская армія ўжо не існавала, а новая, савецкая, яшчэ не была створана.

У ноч з 21 на 22 лютага тэлеграф разнёс па ўсёй краіне: «Сацыялістычная айчына ў небяспецы!» Ленін гаварыў народу суровую праўду і заклікаў усіх, каму дарагая савецкая ўлада, грудзьмі стаць на яе абарону.

Адозва Савета Народных Камісараў была расклеена ў Заполлі, Дварцы, Гарадзішчы. Тут і там узнікалі стыхійныя мітынгі.

Заполле. Выступае незнаёмая мне пажылая сялянка. Ад хвалявання яна ўвесь час развязвае і завязвае хустку.





— ...Два мае сыны загінулі за савецкую ўладу. Застаўся адзінадненькі — Мішка, мой кармілец. Вось ён стаіць... Ён дарагі мне, як вам вашы дзеці. Але я яму кажу:«Бяры, сынок, стрэльбу і ідзі немцаў біць. Ленін цябе заве. Ён за нас, бедных людзей, гарой стаіць.» Грамадзяне, біце праклятага немца!..

— Далоў немцаў! Ура-а-а!

— Ур-р-а-а-а!

У Дварцы. Выступае дзядзька Ягор.

— Грамадзяне-таварышы! Юра... таварыш Мяцельскі праўду кажа: трэба ўсім ісці супраць немца. Цар наш бацюхна народу брахаў — меры не знаў. А Ленін ад нас сакрэтаў не хавае. Ён нам праўду гаворыць. Дык як жа, грамадзяне-таварышы, не сказаць таварышу Леніну: «Ты наш, савецкі начальнік, правадыр. Камандуй, мы за табою — у агонь і ў ваду!» — Дзядзька Ягор хвіліну перадыхнуў і прадаўжаў: — Грамадзяне-таварышы! Прыходжу я, значыцца, да таго хадака з-пад Слуцка, што да Леніна хадзіў, і пытаюся...

— Хопіць! Надакучыла слухаць! — крычыць падкулачнік Бантыш.

Дзядзька Ягор глядзіць на яго суровым позіркам і дакорліва ківае галавой.

— Той, хто не хоча слухаць пра Леніна,— контр... рэвалюцыя... Дык вось, значыцца, прыходжу я да таго хадака і пытаюся: «Скажы мне, чалавеча, ты і праўда бачыў Леніна ці брэшаш і не папярхнешся?» Хрысціцца: «Бачыў, гаварыў з ім. Просты ён... Пра сям'ю пытаўся, пра дзяцей... Ці маю карову». А можа, пытаюся, то быў не Ленін? Зноў хрысціцца: «Каб я з гэтага месца не сышоў! Ён!» Грамадзяне-таварышы! Хто за Леніна — падыміце рукі!..

Дзядзька Ягор задаволена ўсміхаецца:

— Вось яно як!

Нямецкія часці акупіравалі нашу мясцовасць. У Гарадзішчы арганізаваўся партызанскі атрад. Камандаваў ім Юры Мяцельскі. Дзядзька Ягор сумна ўздыхаў, праклінаючы сваю «казённую» нагу.

— Не бядуй, бацька, знойдзецца і для цябе работа!

— Якая? — злаваўся ён.— Бабы і тыя ў лес ідуць. А я ж — салдат!

— Дык вось табе і работа салдацкая: будзеш тут, у нас, ахоўваць Савецкую ўладу. За гаспадара застанешся.

Партызаны рушылі насустрач ворагу. На адным з участкаў фронта дзейнічаў нямецкі браняпоезд. Камандаванне паставіла перад нашым атрадам задачу: знішчыць яго.

— Браняпоезд,— сказаў начштаба,— птушка вялізная, цяжкая, але гнёзды свае мяняе часта.

Мяцельскі пастроіў атрад і загадаў:

— Хто працаваў на чыгунцы — два крокі наперад!

Выйшла пяць пажылых чыгуначнікаў і зусім малады чалавек у старым, падкарочаным да кален салдацкім шынялі.

— І вы, таварыш Машэра, на чыгунцы служылі? — пільна паглядзеў Мяцельскі на былога салдата.

Той апусціў вочы:

— Схлусіў, таварыш камандзір.

— Навошта?

— Браняпоезд узарваць хачу.

— Гэта добра. Толькі хлусіць камандзіру не трэба. Аперацыя вельмі рызыкоўная.

— Ведаю. Але я ўжо меў справу з браняпоездам.



— Калі?

Замест адказу Машэра скінуў бот з правай нагі, раскруціў анучу. На назе было ўсяго два пальцы.

— Самастрэл, таварыш камандзір. У шаснаццатым. Браняпоезд нямецкі пасылалі ўзрываць...

— Вось як! Струсіў, выходзіць?

Машэра закруціў галавой.

— Не, не струсіў. За цара паміраць не хацелася. Іншая справа — цяпер...

Я трапіў у адну групу з Машэрам. Камандаваў намі пажылы чыгуначнік з апухлай ад зубнога болю шчакой. Гаварыць ён не мог. Загады аддаваў вачамі.

— Баліць, таварыш камандзір? — спачувальна пытаўся Машэра.— Дроцік ёсць? Давайце вырву...

Чыгуначнік не адзываўся.

— Дарэмна пакутуе чалавек,— уздыхнуў Машэра.

І выгляд у яго быў такі, нібы не ў камандзіра, а ў яго самога балелі зубы.

«Добры,— падумалася мне.— Такія людзі і ворага пашкадуюць».

— Машэра, на фронце ты страляў?

— А як жа гэта на фронце быць і не страляць? — спытаў ён.— Увесь час на пазіцыі тырчэў. Больш чым год...

— Колькі ж ты немцаў забіў?

— Можа тысячу, а можа і ніводнага. Не да таго было, каб па пальцах лічыць. Увесь час, як ракі, назад сунуліся.

— Хутчэй за ўсё — ніводнага,— даймаю я яго.

— Немца, можа, і ніводнага, але аднаго свайго дык пэўна адправіў.

— Каго ж гэта?

— Камандзіра ўзвода. Дрэнь афіцэрык быў. Нас усіх быдлам зваў. Мы з ім у адзін вагон для раненых трапілі. Поезд імчыць, як шалёны... Дык я яго за ножкі — і ў акно.

У поўдзень мы падышлі да маленькай чыгуначнай станцыі. Нідзе нікога. На пуцях круціць пазёмка. Праз нейкі час з-за станцыйных будынкаў выходзіць стары ў кажуху з настаўленым каўняром. У руках у старога — ліхтар. Камандзір дае каманду залегчы, а сам ідзе да стрэлачніка. Закурваюць. Пра што гавораць — не чуваць, але стары паказвае рукою на захад. Камандзір заве нас:

— Таварыш Шутаў! Захапіце станцыю! З вамі пойдуць Васкабойнікаў, Машэра, Ваксман. Выконвайце!

— Ёсць выконваць!

Станцыю «бярэм» без адзінага стрэлу. Урываемся ў памяшканне, адчыняем адны дзверы, другія — ні жывой душы!

— Рукі ўгору! — чую зычны голас Машэры.

Кідаюся туды. У малюсенькім пакойчыку для тэлеграфнага апарата стаіць з паднятымі рукамі перапалоханая дзяўчына.

— Вы хто такая? — пытаюся з напускною суровасцю.

— Ліда,— адказвае яна ціха, баючыся павярухнуцца.

— «Ліда»,— гэта не адказ.

— Гавары, прадажная дзеўка, а то застрэлю,— падступаецца да яе Машэра.— Дзе немцы?

— Не ведаю,— заплакала дзяўчына.— Яны сюды не заходзілі.

— Можаце апусціць рукі.

З кароткага допыту даведваемся: дзяўчына не тутэйшая. Немцы прывезлі яе сюды з Беластока. Ёй няма дзе жыць, і пасялілася яна тут жа, на станцыі.

— Вы партызаны, праўда? — пытаецца яна. — Вазьміце мяне з сабою...

Я пакінуў з ёю Васкабойнікава, а сам з хлопцамі вярнуўся да камандзіра, які паспеў ужо на пуці ў двух месцах вырваць кастылі.

Мы залеглі за насыпам. Неба нечакана пацямнела. Разгулялася завіруха. Вецер выў, стагнаў, скуголіў, быццам галодная зграя ваўкоў.

Холад прабіраў нас да касцей.

— Лезь сюды,— пацягнуў мяне нехта за рукаў тонкага салдацкага шыняля. Азірнуўся: стрэлачнік. Мяне доўга ўгаворваць не трэба было: палез пад дзедаў кажух.

«Маладзец,— пахваліў я ў думках старога.— На наш бок перайшоў». Аднак не выгаварыць яму не змог — такі ўжо ў мяне характар. Пад кажухом пачалася такая размова:

— Ты, дзед, беларус, а немцам служыш. Да сценкі б цябе за такую справу...

Стары сярдзіта зашыпеў мне ў вуха:

— Галава без розуму, што ліхтар без свечкі. Ты адкуль ведаеш — можа я парцейны!

— Дык чаму ж ты...

— Не твая сабачая справа. Ты лепш ву-унь туды глядзі. Браняпоезд нямецкі ідзе.

Нічога не відаць. Толькі чуваць глухі гул рэек. З кожнай секундаю ён нарастае. Кароткія, прарэзлівыя гудкі.

— Вадзіцы просіць, — тлумачыць дзед. — Пары без вады не бывае, а калёсы без пары...

— Падрыхтавацца! — чуем голас камандзіра.

Гул рэек павольна сціхае. Дзе ж ён, той браняпоезд?

— Не відаць нічога. Вось ён, як сляпы, ідзе вобмацкам.

I раптам — выбух. Аглушальны грукат і ляскат. Скрозь замець бачна, як паравоз, уздыбіўшыся, нахіляецца і ляціць пад адхон, цягнучы за сабою браніраваныя пляцоўкі, вагоны, рэйкі.

— Уперад!

Выбягаем на насып і адкрываем агонь па акупантах.

— Уперад, за Леніна,— чую побач з сабой знаёмы голас стрэлачніка.

Бой прадаўжаўся не больш дзесяці мінут.

— Стройся!

Падыходжу да камандзіра і пытаюся, што рабіць з дзяўчынай, якая просіцца ў атрад. Нельга ж яе пакідаць немцам на расправу.

Ён па-ранейшаму трымаецца за шчаку, але выгляд у яго ўжо не такі пануры.

— Яна ўжо тут,— усміхаецца ён.— Вунь, строіцца...

У атрад вяртаемся з перамогай. Машэра, які ідзе ўперадзе, заводзіць:

Эй, ухнем, эй, ухнем...

Усе падхопліваюць:

Еще разик, еще раз!

## 11

Сустрэліся мне нядаўна мае знаёмыя Надзежда Ільінічна і яе дачка дзесяцікласніца Оля.

— Што ў цябе новага, Оля? — пытаюся я.

— Нічога такога...



— Цябе ж нядаўна ў камсамол прынялі! — пляснула рукамі маці.

— Падумаеш...— паціснула плечуком Оля.

Мне стала горка і крыўдна. Я ўспомніў, як ствараўся камсамол, калі навокал лютавала контррэвалюцыя, колькі маладой, гарачай камсамольскай крыві было праліта за тое, каб абараніць ад ворагаў нашу першую на свеце дзяржаву рабочых і сялян.

Мае дарагія юныя чытачы! Давайце з вамі паглядзім на карту размяшчэння франтоў маладой Савецкай рэспублікі.

Вось карычневыя стрэлы. Гэта — асноўныя напрамкі наступлення германа-аўстрыйскіх і турэцкіх войск. А вось — сінія: у гэтых напрамках наступалі войскі чатырнаццаці дзяржаў і яшчэ ў дадатак — белагвардзейцы. I ўсе гэтыя стрэлы мецілі ў сэрца Савецкай краіны — Маскву. Краіна знаходзілася ў вогненным кальцы.

Вось у гэты грозны час і пачаў зараджацца камсамол — першы памочнік камуністычнай партыі. З кожным днём, месяцам, годам рос аўтарытэт камсамола сярод рабоча-сялянскай моладзі. У самых далёкіх кутках нашай краіны ствараліся камсамольскія ячэйкі.

Паявіліся і ў нашым раёне першыя чатыры камсамольцы, у тым ліку і я. Да нас прыехаў прадстаўнік павятовага камітэта партыі, стары бальшавік, таварыш Міронаў. Ён сабраў нас і коратка сказаў:

— Вы — правая рука партыі. Разумееце, што гэта азначае?

— Разумеем,— адказалі мы.

— Вы — іскра...

— Ёсць іскра, будзе і полымя, — запэўнілі мы яго. — Кожны з нас арганізуе камсамольскую ячэйку.

— Правільна. I дзяўчат уцягвайце. Ды паболей.

Мы ўзяліся за работу. За тры дні ў мяне запісалася ў камсамол восем хлопцаў. I ніводнай дзяўчыны. Я гаварыў з дзяўчатамі, расказваў аб задачах камсамола. Яны з усім згаджаліся, але калі справа даходзіла да запісу — адгаворваліся або хаваліся ад мяне. Асабліва запомнілася адна — Лена Забалотная. Цяпер яна — доктар тэхнічных навук.

З Ленай я пазнаёміўся, калі служыў разам з яе бацькам у кулака Марыча. Лена прыносіла ў поле бацьку есці. I вось калі я перабіраў у памяці ўсіх дзяўчат, каго можна запісаць у камсамол, я перш за ўсё ўспомніў Лену. Яна — з беднай сям'і. Бацька загінуў у партызанскім атрадзе. Маці і брат славяцца сваёй працавітасцю. Вось за Ленай пайшлі б і астатнія нашы дзяўчаты.

Прыходжу да яе. Клічу на вуліцу. Садзімся на прызбе, гаворым. Лену доўга ўгаворваць не трэба.

— Я згодна,— кажа яна.

— Дык запісаць? — дастаю аловак і паперу.

— Ой, не... Сёння не трэба. Лепш заўтра. Прыходзь раней...

Прыходжу назаўтра. Мяне сустракае яе маці. Глядзіць так, нібыта я наставіў на яе дула нагана.

— Лены няма,— кажа яна злосна.— I не хутка будзе.

Зачыняю за сабой весніцы і неяк незнарок гляджу на палявую дарогу. Лена! Бяжыць, як апантаная. Я зразумеў: яна ўцякае ад мяне.

Чаго? Кідаюся наўздагон.

— Лена! Лена! Пачакай!

А яна яшчэ прыбаўляе кроку. Даганяю. Плача.

— Ты чаго? Не хочаш ісці ў камсамол — не трэба. Абыдземся без такіх...

Супакойваецца і расказвае: учора ў царкве было аб'яўлена, што ўсіх, хто за савецкую ўладу, анафеме аддадуць.

— I ты спалохалася?

— Не я — мама. Кажа, што прагоніць мяне з дому, калі ў камсамол запішуся.

Амаль тое ж самае сказала і другая дзяўчына, з якою я загаварыў пра камсамол. І яшчэ дадала:

— У камсамоле, кажуць, дзяўчат вучаць спаць пад адной коўдрай з мужчынамі.

Я да болю сціскаю кулакі. Вось як на нас паклёпнічае вораг. Баіцца ён нас!

І дома мяне чакала непрыемнасць. Маці расказвае, што з розных вёсак да яе прыходзілі кулацкія і папоўскія пасланцы і страшылі: калі мяне не пакарае бог за тое, што «псую» чужых дзяцей, то знойдзецца каму выканаць яго волю. Маці верыла ў бога, і яе напалохалі гэтыя пагрозы. Ледзь толькі я пераступіў парог, як яна кінулася да мяне са слязамі.

— Сцёпа, чаму ты бога гнявіш? Пакарае ён цябе, сынок, пакарае...— І злосна закрычала: — Не дазволю! Не трэба мне камсамол! Не дазволю!

— Мама, я ўжо не маленькі і буду рабіць тое, што гаворыць мне маё сумленне.

— Не пасмееш!

— Ну, што ж, тады бывайце. Пайду ад вас.

Падзейнічала! Яна ўзяла «грэх» на сябе, каб толькі я застаўся з ёю.

Клуба ў нас не было. Камсамольскія сходы па чарзе праводзілі то ў аднаго, то ў другога. Першыя сходы адбываліся ў нашай хаце. Памятаю, маці і яшчэ адна суседка цэлымі гадзінамі, затаіўшы дыханне, прастойвалі ля дзвярэй і прыслухоўваліся да нашых размоў.

Пра што ж мы гаварылі на сваіх сходах? Пра гаспадарчыя справы, пра ліквідацыю непісьменнасці, пра міжнароднае становішча і гатоўнасць да барацьбы. Сходы, як правіла, заканчваліся песнямі.

Пазней, без аніякага матчынага пярэчання, у камсамол уступілі мае малодшыя сёстры.

Аднойчы вечарам на камсамольскі сход прыйшла Лена Забалотная.

— Можна? — спыталася яна нясмела.

— Можна.

— Але ж я не камсамолка.

— Будзеш,— адказаў я ёй.

Яна з удзячнасцю паглядзела на нас і села ў кутку. Моўчкі прасядзела да канца. Я яе праводзіў у Заполле.

— Запішы мяне ў камсамол, Сцёпа,— сказала яна на развітанне.

Калі мы разглядалі яе заяву, Лена хвалявалася так, што ёй было дазволена адказваць на пытанні, не ўстаючы з месца.

— Хто «за» — прашу падняць рукі,— сказаў старшыня сходу.— Аднагалосна.

— Дзякуй, таварышы! — прамовіла Лена дрыжачым голасам.— Дзякуй! — і заплакала ад радасці.

Калі белапалякі занялі нашу мясцовасць, Лена добраахвотна ўступіла ў Рудабельскі партызанскі атрад. Яна была залічана ў групу дзяўчат-разведчыц, якою кіравала маладая камуністка Любаша.

## 12

Дваццаты год. Пачаўся трэці паход Антанты. На гэты раз імперыялісты рабілі стаўку на армію панскай Польшчы. Палкі белапалякаў без аб'яўлення вайны перайшлі граніцу, занялі Кіеў. Іх мэтай было: захапіць Украіну і разам з арміяй Врангеля рушыць на Маскву. Цэнтральны камітэт партыі і Савецкі ўрад заклікалі народ даць адпор ворагу. Наша камандаванне распрацоўвае план разгрому праціўніка. Згодна гэтага плана галоўны ўдар меркавалася нанесці ў Беларусі сіламі Заходняга фронта.

У ліпені 1920 года я станаўлюся байцом Чырвонай Арміі. Не чырвонагвардзейцам, не партызанам, а — чырвонаармейцам! Мне выдаюць форму. На галаўным уборы — рэвалюцыйны знак: пяцікутная чырвоная зорка з перакрыжаванымі сярпом і молатам. Гляджу на зорку, працiраю яе рукавом: хочацца, каб яна гарэла яркім агнём.

«Бывалыя» байцы па-сяброўску пакепліваюць з мяне:

— Ну, цяпер Варшава, лічы, наша...

— Вусы, Шутаў, адгадаваў бы для саліднасці.

Да нас, навічкоў-добраахвотнікаў, падыходзіць высокі бландзін у акулярах. Знаёмімся: камісар палка. Ляонаў. Масквіч.

— А вы беларусы?

— Беларусы, таварыш камісар.

— Адкуль?

— З Дварца.

Камісар глядзіць на мяне са здзіўленнем.

— З дварца? У вас свой дварэц?

Пасыпаліся жарты ў мой адрас.

— Адразу відаць, што з буржуяў...

— Хітры! Ён, таварыш камісар, замаскаваўся...

Камісар падымае руку. Смех сціхае. Я тлумачу: Дварэц — вёсачка такая, былы маёнтак пана Жылінскага.

— Значыць, у вас там няма ніякага дварца? — усміхаецца камісар.

— Няма.

— Дык будзе. Абавязкова,— гаворыць ён і звяртаецца да чырвонаармейца Марчанкі: — Таварыш Марчанка, раскажыце маладым воінам аб статуце ўнутранай службы.

Пачынаецца знаёмства з нялёгкай салдацкай навукай.

Я вырас на вёсцы. З малых год любіў ездзіць конна. Часта заходзіў на стайню памешчыка Жылінскага. Мне падабалася, як коні паварочваюць галовы, калі пачуюць чалавека, як пахне сухое сена. Нават пах конскага поту быў мне прыемны.

І вось цяпер камандзір разведкі ва ўрачыстай абстаноўцы ўручае мне баявога каня — Каштана. Высокага. Стройнага. З бліскучай шаўкавістай каштанавай поўсцю, з быстрым позіркам.

— Твой,— кажа камандзір.— Беражы яго.

— Ёсць берагчы,— адказваю. Адной рукой бяру Каштана за аброць, другой спрабую пагладзіць яго па спіне. Куды там! Ні прыступу. Адразу — на дыбкі!

— Сядай! — загадвае камандзір.— Падружыцеся.

Каштан намагаецца мяне скінуць. Стаіць на задніх нагах, а пярэднія задзірае ўсё вышэй і вышэй.

— Падружыцеся! — падбадзёрвае камандзір.— Шага-ам марш!..

Той, хто служыў у кавалерыі, ведае, калі пачынаецца і калі заканчваецца дзень у конніка. У час адпачынку, у паходзе, на маршы конь павінен быць чысты, накормлены, у поўнай баявой гатоўнасці. Гэта — у мірны час. А на фронце, ды яшчэ калі ты амаль усе ночы ў разведцы!

Тут табе не да сну і не да яды. Усё аддаеш свайму надзейнаму сябру. З сядла злезці ў цябе няма сілы, але калі злез — накармі каня, напаі, пачысці. Нам было вельмі цяжка, але ніхто не скардзіўся. Я і па сённяшні дзень ганаруся тым, што служыў у чырвонай конніцы, якая праславілася на ўвесь свет. Прайшло ўжо многа год, але і цяпер у маіх вушах яшчэ гучыць: «Па конях!», «Справа па звеннях шагам — марш!», «Пікі ў рукі, шаблі да бою, у атаку марш-марш!» Гэта для мяне — як музыка.

Наша конніца настолькі праславілася сваімі смелымі рэйдамі, маршамі, раптоўнымі атакамі, налётамі, што адны будзёнаўскія вусы наводзілі жах на ворага. Не смейцеся, дакажу!

Гэта было непадалёку ад Віслы. Наша палкавая разведка на світанні пад'язджае да вёскі пад назваю, калі не памыляюся,— Нежыўцы. Стаім на ўзгорку. Унізе — гэтыя самыя Нежыўцы. Касцёл. Ручай. Драўляны мосцік. Высокая каменная агарожа, а за ёю ў густой зяляніне — вялікі дом. «Панскі»,— мільгае ў мяне думка. Вёска прачынаецца. Мукаюць каровы, брэшуць сабакі. Бярэмся за павады і збіраемся ехаць у вёску. Раптам нашы коні затрывожыліся: па іх спінах прабеглі дрыжыкі. Яны настаўляюць вушы і раз-пораз косяць вокам у даліну.

— Коні трывожацца,—заўважае камандзір Каваленка.

Праз момант даносіцца цокат капытоў. Мы спешваемся, адводзім коней у лясок. Па дарозе ў вёску едуць белапалякі. Пераязджаюць ручай і паварочваюць у маёнтак.

— Не болей паўсотні,— паспявае палічыць Каваленка.

У мяне таксама ёсць палявы бінокль, які я здабыў у баі з палякамі. Гляджу і я туды, дзе спыніліся коннікі. Яны разыходзяцца. Трое стаяць на мосціку і нечага рагочуць. Ды так моцна, што і нам добра чуваць.

— Зараз у нас будзе язык. Амяльчук, Лукін, Шутаў, узяць языка! — загадвае камандзір разведкі.

Небяспечна. Але нічога не зробіш — загад. Мы разумеем Каваленку: што ж рабіць, калі мы ўсю ноч блукалі ў пошуках «языка» і не напаткалі ніводнага пілсудчыка.

Каваленка растлумачвае задачу. Калі палякі разыдуцца па хатах, трэба як-небудзь заспець аднаго з іх. Можа, куды выйдзе. Калі не ўдасца — сігнал: два стрэлы. Тады Каваленка з хлопцамі кінецца на выручку.

Непрыкметна, перапаўзаючы ад аднаго куста да другога, спускаемся па гліністаму адхону ўніз, да агарода, пасярод якога стаіць крывабокая хаціна. Бярэм на прыцэл даўганогага прышчаватага легіянера. Ён ідзе да хаты з другога боку. Амяльчук шэпча:

— Свядомая рыбка і без прынады на кручок ідзе...

Сланечнік. Высокія сцябліны кукурузы. Хмель на тонкіх шастах. Яшчэ некалькі метраў, і перад намі стаіць паляк. Калоціцца.

— Ш-ш-ш! — Лукін падымае палец і паказвае на вінтоўку.

— Езус-Мар...

— Цыц! — Амяльчук падносіць яму пад нос кулак.

Легіянер, убачыўшы на нашым шлеме зоркі, ліслівa ўсміхаецца.

— Чырвонаармейцы! Нарэшце мы вас дачакаліся...

— Гэта мы цябе ледзь дачакаліся. Кладзіся!

У гэты час з хаты далятае прарэзлівы жаночы крык. Амяльчук застаецца з палонным, а мы з Лукіным бяжым у хату. І вось што бачым. П'яны пілсудчык стаіць з наганам перад маладой жанчынай. У яе — акрываўлены рот, падраная на грудзях сукенка. Двое дзяцей, учапіўшыся за яе спадніцу, аж заходзяцца ад плачу. Момант — і малойчык у нашых руках. Затыкаем яму анучай рот, каб не крычаў, і звязваем. Жанчына зрывае з ложка саматканую коўдру.

— Закруціце гэтую свінню, — гаворыць яна і плюе пілсудчыку ў твар.

Вынесці з хаты «языка» нам не ўдаецца. На крык жанчыны збягаюцца легіянеры. Каб не параніць жанчыну і дзяцей, выбягаем з хаты на агарод і даем два ўмоўныя стрэлы.

З агарода, схаваўшыся за ворахам ламачча, страляюць па легіянерах Амяльчук і стары паляк.

— Нявестку хацелі згвалціць, псякрэў! — гаворыць стары, цэлячыся ў легіянераў.

— Ура-а! — нечакана даносіцца да нас магутны воклič нашых.

«У Каваленкі ўсяго адзінаццаць чалавек... І каб так крычалі!.. Мо падаспела ўся часць?» — мільганула ў мяне думка.

Белапалякі, што акружылі нас, разбягаюцца.

А ля рэчкі польскія коннікі налятаюць на нашых разведчыкаў. У паветры блішчаць клінкі. Лукін, Амяльчук і я не можам пайсці на дапамогу таварышам: пілсудчыкі, якія былі паразбягаліся, зноў насядаюць на нас.

Ля рэчкі завязваецца бой. Поспех — на баку палякаў, іх у некалькі разоў больш. І раптам у скопішча праціўніка на ўзмыленым кані ўрываецца Каваленка. Яго раскошныя будзёнаўскія вусы тапырацца ў страшэнным гневе.

— Будзённы!..— спалохана крыкнуў нехта з палякаў.

— Будзённы!

— Будзённы!

Палякі кідаюцца наўцёк. Коні ржуць, скідваюць з сябе коннікаў.

## 13

Я атрымаў з дому ліст. У гэтым жа канверце была кароценькая запіска ад Любашы.

«Сцёпа, — пісала Любаша, — не магу ад цябе таіць: у пачатку мінулага месяца ў баях з белапалякамі загінуў мой муж і твой старэйшы таварыш, камандзір кавалерыйскага эскадрона Юры Мяцельскі. Камандзір часці таварыш Валуеў мне сказаў: «Камісар быў для нас прыкладам мужнасці, геройства, вернасці Камуністычнай партыі. Памяць аб ім будзе жыць вечна».

Сцёпа! У мяне будзе дзіця. Хачу — каб сын. Маё жаданне, жаданне маці, каб ён вырас і быў такім, як яго бацька, добрым камуністам.

Грамі Пілсудскага!

Любаша Мяцельская».

Я не любіў тых, у каго вочы — на мокрым месцы. А тут і сам не вытрымаў. Каваленка гэта заўважыў, але і выгляду не паказаў. Толькі ўвечары, калі мы засталіся адны, ён спытаўся:

— Што з табою, Шутаў?

Паказваю яму пісьмо. Ён перачытвае яго некалькі разоў, аддае мне і, не сказаўшы ні слова, выходзіць. Я не крыўджуся на яго. Наш камандзір разведкі смелы салдат, чулы таварыш, патрабавальны начальнік, але ласкавых, спагадлівых слоў у яго мала. «Хопіць табе!», «Дзівачына!», «Ды кінь ты!..» — вось і ўсё, што можна ад яго пачуць.

Праз паўгадзіны мяне выклікаў камісар палка таварыш Ляонаў. У яго вельмі стомлены выгляд. Пад вачамі — цёмныя кругі. Галава

забінтавана, на марлі — крывавыя плямы. Ён паказвае на крэсла і сам садзіцца.

— Пісьмо, якое вы паказвалі Каваленку, пры вас?

— Пры мне, таварыш камісар.

— Пакажыце.

Ён чытае, а я сачу за яго тварам. Ён спакойны. Толькі калі падымае галаву, бачу ў яго вачах горыч.

— За апошнія тры дні, — гаворыць ён, — наш полк страціў восемдзесят забітых і параненых. З іх пяцьдзесят два камуністы. Чаму ж, таварыш Шутаў, выходзіць так, што гінуць часцей за ўсё камуністы?

— Таму, што камуністы ў баі ідуць уперадзе.

— Правільна, Шутаў, — неяк вельмі цёпла гаворыць камісар. — Камуністы заўсёды ўперадзе. У мінулым годзе разам са мной добраахвотна пайшло на фронт з адной толькі Масквы больш двухсот тысяч камуністаў.

Камісар, падпёршы рукой забінтаваную галаву, гаворыць ціха, спакойна. У яго, відаць, многа спраў, але гутарку з радавым байцом ён лічыць не менш важнай.

... Кулямётчык, цяжка паранены ў абедзве нагі, выпаўз на жываце з акружэння, цягнучы за сабой кулямёт. Хто ён такі? Камуніст.

Юнак-кіргіз сышоўся ў паядынку з групай польскіх коннікаў. Ён быў паранены, але знайшоў у сабе сілы выбіць з рукі пілсудчыка клінок, падхапіць яго з лёту і секчы галовы ворагам двума шаблямі. Хто гэты смяльчак? Камуніст.

Разведчыца Каця Бельская трапіла ў рукі белапалякаў.

Гарачымі шомпаламі выпальвалі яны на яе целе зоркі, дапытваючыся, дзе знаходзіцца наш кавалерыйскі полк. Дзяўчына памерла пакутлівай смерцю, застаючыся вернай Радзіме. Каця Бельская была камуністкай.

— Усе яны былі такія, як наш старэйшы таварыш Мяцельскі, як дзесяткі тысяч камуністаў, якія аддалі сваё жыццё за Радзіму. Але нашы рады — папаўняюцца, растуць. Закончыцца вайна, настане мір. Мы, камуністы, і ў мірны час будзем на правым флангу.

Я падхапіўся, стаў па камандзе «смірна» і выпаліў:

— Таварыш камісар, дазвольце мне ўступіць у камуністычную партыю.

Ляонаў па-сяброўску ўсміхнуўся:

— Гэта — ваша асабістая справа. Што датычыць мяне, то я вас рэкамендую.

Зазваніў палявы тэлефон. Камісар зняў трубку.

— Так, так... Адціснулі флангі?.. Зараз прыйду.

— Дазвольце ісці, таварыш камісар?

Ён кіўнуў галавой у знак згоды і тут жа спытаў:

— Мяцельскай вы ўжо напісалі?

— Не, таварыш камісар.

— Напішыце зараз жа, — параіў ён. — Скажыце, што мы адпомсцім ворагу за смерць Юрыя Мяцельскага. Сёння ж.

Суткі бесперапынна ідзе дождж. Выйшлі з берагоў і разліліся рэкі. Ад коней валіць пара, яны стаміліся. Каб даць ім адпачынак, спешваемся і брыдзем па пояс у вадзе, стомлена месім гразь. Разведчыкі на чым свет стаіць клянуць Пілсудскага, бога і ўсіх буржуяў на свеце, а я не заўважаю ні дажджу, ні гразі. У мяне цёпла і радасна на душы. Сёння раніцай мяне прынялі ў партыю. У самую перадавую, самую





адданую працоўнаму люду партыю, у якой Ленін, Дзяржынскі, Калінін. Сталін, Фрунзе, Варашылаў, Будзённы, Блюхер, Катоўскі. У партыю, у якой былі мае старэйшыя і блізкія сябры Юры Мяцельскі і Міхаіл Іванавіч Сінкевіч...

Перастаў дождж. Вецер разагнаў хмары. Выглянула сонца. Неяк адразу стала весялей. Байцы ўжо смяюцца, жартуюць, успамінаючы нядаўні бой.

— Што ні кажы, кумок, а я дома нават капусту так не сек, — жартаўліва звяртаецца да мяне Каваленка, а ён — не вялікі ахвотнік хваліцца.

Ноччу, ледзь толькі я задрамаў, мяне разбудзіў веставы камандзіра палка. Аказваецца, Каваленка паспеў далажыць, як мы трымаліся ў баі. Камандзір паціскае мне руку і кажа:

— У разведку сёння не пойдзеце. Застанецеся на провады камісара. Забіты...

Забіты таварыш Ляонаў!.. Не верыцца.

Таварны поезд. Жалобна іграе аркестр. На адкрытай пляцоўцы, сярод палявых кветак, стаіць абцягнутая чырвоным кумачом труна.

Кароткія прамовы. Клятва воінаў...

— Таварыш Шутаў, ты самы малады камуніст. Скажы слова, — гаворыць мне Марчанка.

Падымаюся на платформу. Падыходжу да труны. Хочацца многае сказаць, але душаць слёзы. Кажу толькі некалькі слоў:

— Мы, камуністы, клянёмся табе, таварыш камісар, што нашы шэрагі ніколі не будуць радзець. Клянёмся, што заўсёды будзем на правым флангу!

## 14

Трэці паход Антанты закончыўся такім жа правалам, як і два папярэднія. Ліквідавана армія «чорнага барона» Врангеля. Настаў канец вайне. Па ўсёй краіне застукалі сякеры, малаткі. Закруціліся шасцерні колаў, задымілі каміны фабрык і заводаў. Увачавідкі пачала расці, набірацца сіл першая ў свеце рабоча-сялянская дзяржава. Але і вораг не драмаў. Партыя папярэджвае: «Вораг вострыць зубы. Чырвоная Армія павінна быць напагатове». Пачынаецца перабудова і ўмацаванне Савецкіх Узброеных Сіл.

У адзін, як кажуць, цудоўны дзень мяне дэмабілізавалі з арміі. Прычына — мой год яшчэ не падлягаў прызыву.

Я перадаю свайго баявога каня Каштана маладому валагодскаму хлопцу. Пазіраю на яго з затоенай зайздрасцю. Мне цяжка расставацца са сваёй часцю, з канём... Перадаю повад навічку, а Каштан, нервова перабіраючы нагамі, трэцца аб маё плячо...

Пасля ўрачыстай перадачы каня падыходзіць Каваленка і адводзіць мяне ў бок. У вочы не глядзіць, быццам у нечым перада мною вінаваты.

— Ну, хопіць табе, не румзай! — кажа ён пасля доўгага маўчання.— Мне таксама... гэтае... цяжка з табою расставацца. Усё-такі разам шляхту білі... Бывай!

Паціскаю яго вялікую, моцную руку, і перад вачыма паўстае камісар Ляонаў. Здаецца, што і ён са мною развітваецца. З-пад тоўстых акуляраў ўсміхаюцца сінія, як васількі, вочы і нібы пытаюцца: «Як, таварыш Шутаў, наконт фланга?». Адказваю: «Клянуся, таварыш камісар, што заўсёды буду на правым флангу!»

Такіх, як я, «спісаных на бераг», многа. Нас праводзяць да станцыі з музыкай. Каваленка ідзе побач са мной. Маўчыць. І толькі калі пачулася далёкае шыпенне поезда, ён збянтэжана пагладзіў пышныя будзёнаўскія вусы і ціха сказаў:

— Сцёпа, просьба да цябе ёсць...

Дзяўчыну завуць Аксана. Пад Кіевам жыве, у сяле Бортнічы. Адна засталася. Маці памерла, бацьку пятлюраўцы расстралялі. Прыгожая дзяўчына. Часта прысылае пісьмы і пра любоў пытаецца. Каваленка не адказвае на пісьмы. Чаму? Неяк няёмка пра любоў пісаць. Вернецца дадому — на смех падымуць.

— Цябе на смех? — гарачуся я. — Цябе, героя грамадзянскай вайны?! Якога сам Тухачэўскі пахваліў у загадзе? Дзівак ты, Коля!

Каваленка збянтэжана маўчыць.

— Прыедзеш дадому, напішы Аксане, — адводзячы вочы ў бок, просіць ён нарэшце. — Напішы, што чалавек я строгі, з дзяўчатамі не знаюся. А пра гераізм, пра камандуючага — не трэба.

Цяжка, вельмі цяжка расставацца мне з гэтым храбрым, сціплым чалавекам...

Поезд, які яшчэ да нашага прыходу быў біткам набіты салдатамі і выпадковымі пасажырамі, павінен быў адысці ў адзінаццаць гадзін раніцы. Але пайшоў толькі праз суткі. Нарэшце! Мы ўсе аж падскочылі ад радасці.

Тыя, што занялі месцы раней і пазастаўлялі праходы мяшкамі, клункамі, чамаданамі, пацясніліся, і я ўціснуўся між пажылым мужчынам у форме інжынера-пуцейца і маладой жанчынай, захутанай ад холаду ў коўдру.

У пуцейца былі чырвоныя ад бяссонніцы вочы і вялікі рот. Калі ён гаварыў, у яго аскальваліся бледныя дзясны. Запомніліся цёмныя суседчыны вочы, такія сумныя, што, здаецца, у іх былі ўсе пакуты, якія перанёс у апошнія гады наш народ.

Насупраць нас сядзела пяць чалавек. І сярод іх — асілак-матрос. Скуласты твар, цвёрды падбародак, вялікія карыя вочы. У руцэ замест бесказыркі — скамечаны чырвонаармейскі шлем.

У вагоне стаяў нястройны людскі гоман. Да слыху даляталі асобныя словы, абрыўкі фраз: «Латышскія стралкі...», «Голад...», «Штурм Перакопа...»

Раптам за сценкай нехта злосна забасіў:

— Ленін — не рускі. Татарын, здаецца. Фактычна, ён быў адзін...

Мы з матросам пераглянуліся. Матрос падняў руку, папярэджваючы: пачакай, я сам...

А за сценкай той жа голас нудліва вёў:

— Рабочы — ведай свой горн, селянін — плуг. А камандаваць — не іх розуму справа. Яно, канешне, бывае, што і курыца пеўнем спявае... хе-хе-хе... І калі б не царскія генералы і афіцэры, якім Ленін абяцаў...

Матрос не сцерпеў. Ён падхапіўся і крыкнуў:

— Гэй, контра, дзе ты там? Пакажы сваю «паклю»!

У суседнім купэ засмяяліся. Пуцеец кашлянуў у кулак. Мая суседка задаволена бліснула вачыма.

Бас адгукнуўся:

— Ад лыка чую!..

Матрос праклаў сабе локцямі дарогу і праз момант ужо стаяў перад «пакляй».

— Ты чаму контррэвалюцыю разводзіш, гадзюка?

— А ты што мне рот заткнеш? Хіба я няпраўду кажу? Колькі царскіх генералаў і афіцэраў у Чырвонай Арміі?

— Многа.
— Вось бачыш! А чаго яны пайшлі? Бо Ленін абяцаў ім залатыя горы.
— Хлусіш! Ніхто нічога ім не абяцаў. У Чырвоную Армію пайшлі такія царскія афіцэры і генералы, якія захацелі сумленна служыць свайму народу.
— Агітацыя!
— Якая табе агітацыя? Праўду кажу. А што да таго, што рабочы ці селянін не можа камандаваць палкамі — заткніся! Салдаты, матросы, рабочыя кіруюць арміямі, сталі праслаўленымі палкаводцамі. Вось Блюхер. Хто ён, ты думаеш?
— Мой муж быў батраком, а цяпер камандуе дывізіяй, — падала свой голас мая суседка. — А яго галоўны начальнік — Блюхер. Мой брат таксама яго ведае — працаваў з ім на Мыцішчанскім заводзе, пад Масквой.
Адкашляўшыся ў кулак, уступае ў размову пуцеец:
— Будзённы таксама, кажуць, з простых данскіх казакаў.
— А Варашылаў — луганскі слесар, — падхоплівае нехта.
І ўжо з усіх канцоў вагона панеслася:
— Фрунзе — сын простага фельчара.
— Шчорсаў бацька — машыніст.
— Чапаеў — з беднай сялянскай сям'і.
— Пархоменка — рабочы.
— А хто былі палкаводцы ў царскай арміі і ў розных іншых буржуазных арміях? — зноў пытае матрос. — Буржуйскія сынкі, царскія сатрапы, сынкі банкіраў. Разумеюць яны простага салдата? Не. За зорку на пагоне цэлую армію ўтопяць у крыві. Яны пісьменныя — гэта так. Акадэміі паканчалі... А чаму вучылі іх у гэтых акадэміях? Бедны народ прыгнятаць. Вось яно як!.. А ты тут глупства рознае гародзіш...
Бас маўчыць.

## 15

— На колькі ж табе далі водпуск? — пытае мяне маці. Пра гэта ж пытаюцца сёстры, таварышы, аднавяскоўцы.
— Назусім, — адказваю і чырванею ад няёмкасці. — Год яшчэ не падышоў...
Знешне вёска мая амаль нічым не змянілася. Тыя ж нізенькія хаціны з гнілымі стрэхамі, тыя ж лахманы на людзях і тыя ж лазовыя лапці. Але ў словах маці я ўлаўліваю ўжо нешта новае.
— Я думала, ты ў водпуск... Паслужыш — і ў школу ваенную пашлюць. Вывучышся на камандзіра, як Насцін сын...
Я ўважліва прыглядаюся да жыцця вёскі. Сяляне па-ранейшаму аруць зямлю, сеюць хлеб, касяць сена, жнуць. Па-ранейшаму цяжкая іх праца. Але на кожным кроку адчуваецца, што жывуць яны па-новаму. Дыхаюць вольна, ходзяць смела, глядзяць на свет проста, упэўнена. Яны ўжо не батракі, не рабы. Маёнтак Жылінскага перайшоў у рукі народа.
Малодшая сястра расказвае мне пра знаёмых.
— А Любаша як? — пытаюся я.
Любаша нарадзіла сына. Выліты бацька: нос, бровы, рот. Перад родамі цётка Анісся забрала Любашу з Бабруйска. «Няхай, — кажа, — пры маці жыве». А цяпер Любаша ўжо шкадуе, што згадзілася. Не можа Анісся дараваць ёй смерці бацькі. Папракае на кожным кроку. І дзіця не любіць. Падыдзе да люлькі і кажа: «Твая маці і бацька



забілі твайго дзеда Пятра. Можа і ты такі бандыт вырасцеш?» А людзям скардзіцца: «Камісарчык спаць не дае... Так і хочацца прыдушыць!..»
— Чаго ж Любаша церпіць?
— А дзе ж ёй дзецца?
Толькі падумаў, як мне праведаць Любашу, як яна сама прыйшла. З дзіцём. Я разгубіўся, а яна — ніколечкі. Жартуе:
— Як жывем, таварыш камісар?
— Бачыш жа: жывы, здаровы, — стараюся гаварыць спакойна. — Сядай, Любаша.
Хлопчык сапраўды — выліты бацька. Бяру яго ручку ў сваю.
— Малюсенькая якая...
Любаша смяецца:
— А ты хацеў, каб у яго была такая лапа, як у цябе?
Размова не клеіцца. У мяне вельмі цяжка на душы, і я маўчу. Адчуваю, што Любаша глядзіць на мяне, але не магу падняць вачэй.
Скрыпіць табурэт. Любаша ўстае.
— Я пайду... Юру карміць пара...
— Ты назвала яго Юрам?
— Так.
У гэтым «так» столькі любві і пяшчоты і да гэтага жывога Юры, і да таго, якога ўжо няма...
Ля парога Любаша спыняецца.
— Сцёпа, ты ўступіў у партыю?
Ківаю галавой: уступіў.
— Цяпер у Дварцы будзе ўжо два камуністы...

Сакратаром партыйнай ячэйкі ў нас працаваў той самы таварыш Міронаў, па даручэнню якога я некалі арганізоўваў камсамольскую ячэйку.
Размова ў нас з ім была кароткая:
— Пойдзеш працаваць на пілараму. Цяпер вельмі патрэбны будаўнічы матэрыял.
— Калі на работу?
— Хоць заўтра. Калі не стаміўся з дарогі... Навядзі парадак. Там ёсць такія... з ліпкімі рукамі, да дзяржаўнага дабра падкія. Прагнаць іх трэба. Камсамольцаў добрых сабе падбяры...
— Зразумела.
— І, як былога франтавіка, назначаю цябе начальнікам узвода ЧОН. Гэта — партыйнае даручэнне. Трэба каб моладзь была гатова ў любы момант прыйсці на дапамогу раённай уладзе.
Неяк неўзабаве пасля таго, як я пачаў працаваць на пілараме, прыходзіць да нас аднойчы Міронаў. Пaглядзеў, як працуем, палаяў за тое, што не па-гаспадарску абыходзімся з гарбылём, — гэта ж каштоўны будаўнічы матэрыял! — а потым спытаўся, ці зможам мы па-камсамольску «націснуць», гэта значыць павялічыць выпрацоўку.
— Націснем! — горача адазваўся нехта.
— Пачакайце. Падумайце добра. Вы і так працуеце нямала, а харч цяпер які!.. Але нам вельмі трэба падрыхтаваць увесь неабходны матэрыял, каб пабудаваць у Дварцы адзін дом... — У Міронава заблішчэлі вочы. — Светлы, прасторны, з вялікімі вокнамі...
Я паглядзеў на яго.
— Не здагадваешся, Сцяпан, каму?.. Любашы! Нашаму цудоўнаму жаноргу!

Дом жонцы і сыну камісара Мяцельскага, які загінуў у баях за радзіму, будавалі не толькі жыхары Дварца, але і сяляне навакольных вёсак. Рос ён хутка, як грыб пасля дажджу. Паставілі яго ў тым месцы, адкуль, па меркаваннях дзядзькі Ягора, самага галоўнага будаўніка, возьме пачатак новая вуліца новай вёскі.

Мітынг, прысвечаны чацвёртай гадавіне Кастрычніка, адбываўся не на лузе ля Пціччы, а на двары новага дома. Не гаварылася ніякіх прамоў. Усе моўчкі глядзелі на Міронава. А ён падняўся на верхнюю перакладзіну лесвіцы і пачаў прыбіваць на шула белую таблічку, на якой сінімі друкаванымі літарамі было напісана: «Вуліца Леніна № 1».

Усе запляскалі ў далоні. А дзядзька Ягор падышоў да Любашы, пацалаваў яе і працягнуў ёй ключ ад дома.

— Прымі ад нас, Любаша, гэты падарунак. Жыві ў гэтых сценах доўгія гады і шчаслівa. Але пра камісара Мяцельскага не забывай...

Любаша хацела нешта сказаць, але ў яе не было слоў. Ды і ці ёсць на свеце такія словы...

## 16

Мы будавалі новае жыццё і змагаліся з тымі, хто нам перашкаджаў. Чаго-чаго, а ворагаў у нас хапала. Яны аб'ядноўваліся ў банды і помсцілі нам, як маглі. Я ўдзельнічаў у разгроме буйных нацыяналістычных банд, якія дзейнічалі ў раёне Шклова і Магілёва. Вось тут, у кавалерыйскім палку імя Сцяпана Разіна, я і атрымаў пуцёўку ў жыццё.

Аднойчы камісар палка ў прысутнасці камандзіра сказаў мне:

— Шутаў, вы добры баец, свядомы камуніст, а вось з граматай у вас — слабавата. Вы расказвалі чырвонаармейцам пра бой савецкіх эсмінцаў «Спартак» і «Аўтраіл» з англійскай эскадрай у Фінскім заліве?

— Расказваў, таварыш камісар,— адказаў я, а сам падумаў: «Здаецца ж, усё гаварыў як трэба».

— Вам задалі два пытанні. Вы не адказалі ні на адно.

Маё самалюбства было закранута.

— Адказаў, таварыш камісар. Вам няправільна далажылі... Нехта нагаварыў...

Камісар паглядзеў на камандзіра палка:

— Гэта я сказаў камісару, — усміхнуўся камандзір палка. — Праходзілі мы з камдывам міма і прыпыніліся на хвілінку...

«Нагаварыў!.. Во, ляпнуў!» — аблаяў я сам сябе.

— Дык я ж, па-мойму, адказаў...

— Адказаў,— згадзіўся камандзір.— Але як? Як пальцам у неба трапіў... Пытаюцца: «Хто такі Спартак?» А вы што адказваеце? «Быў такі чалавек, рэвалюцыянер вялікі. Герой грамадзянскай вайны ў Турцыі»... Пытаюцца: «А дзе гэты Фінскі заліў знаходзіцца?» Адказваеце: «Вядома, дзе: пасярэдзіне Фінляндыі».

— Дык я ж усяго тры зімы грамаце вучыўся і то...

— Ведаю, — перабіў мяне камісар. — Таму мы і пасылаем вас вучыцца. У Маскву, у аб'яднаную ваенную школу імя ВЦВК.

Кроў хлынула мне ў твар. У Маскву! На вучобу!

Камандзір палка дадаў:

— На кавалерыйскае аддзяленне. У Крамлі будзеце вучыцца.



«У Крамлі! Вось шчасце!»

Чую: «Можаце ісці...» А я з месца не магу крануцца. Як укапаны. І доўга стаяў так...

Першыя гадзіны ў Крамлі...

Старажытныя зубчатыя сцены. Вежы... Саборы... Я чуў крыху пра гісторыю Крамля. У 1156 годзе ён быў абнесены драўлянымі сценамі. Праз два стагоддзі былі ўзведзены сцены з белага каменю. Потым — з цэглы. Успенскі, Благавешчанскі, Архангельскі саборы... Вежы — Спаская, Нікольская, Троіцкая, Баравіцкая... Мяне, маладога хлопца, камуніста, гэта не цікавіць. Не цікавіць і тое, якія цары тут жылі, якіх паслоў прымалі.

Мае думкі заняты іншым: тут знаходзіцца штаб рэвалюцыі. Вось па гэтай дарожцы зусім нядаўна хадзіў Ленін. А вунь там, на пляцы каля Баравіцкіх варот, ён працаваў на суботніку. Уяўляю сабе: крыху нахіліўшы галаву, ён разам з курсантам нясе цяжкае бервяно.

«Уладзімір Ільіч, вам цяжка?» — пытаецца курсант.

«А вам?» — прыжмурвае смяшлівыя вочы Ленін.

«Не. Мне лёгка».

«І мне лёгка. Хадзем, галубок. Адстаем мы з вамі ад таварышаў...»

Спаскія вароты. Адсюль Ленін выходзіў на Красную плошчу, выступаў там з палымянымі прамовамі перад чырвонаармейцамі, якія адпраўляліся на фронт.

Я не адзін. Нас цэлая група, будучых курсантаў. З двума я ўжо знаёмы. Аднаго завуць Валодзя. Прозвішча — Глухаў. Ён з-пад Варонежа. Другі — грузін, аднафамілец героя грамадзянскай вайны Кіквідзе.

— Цікава, — пытаецца Саша Кіквідзе, — ты пра што думаеш?

— Пра Леніна.

— І я, — гаворыць Валодзя.

— І я таксама.

— І я...

Мы ўсе думаем пра адно.

— Ленін,— уздыхае Саша Кіквідзе. — Каб трохі раней мы прыехалі сюды, дык убачылі б яго.

Балюча, вельмі балюча, што Леніна няма жывога.

— Будзем вучыцца так, як завяшчаў Ленін, — гаворыць хтосьці з нас.

Ніхто не адазваўся. Але кожны падумаў тое ж.

Уступныя экзамены. Першыя ў маім жыцці! Як я іх баяўся! І не так палохалі страявая падрыхтоўка, чытанне і нават пісьмовая работа, як геаграфія і арыфметыка. Я падлічыў, што пакуль дойдзе мая чарга, міне чатыры дні. Што можна зрабіць за такі час! Ды з маімі ведамі! Правалюся. І сораму — не абярэшся...

Вакол мяне смяюцца, некага падкідваюць угору. Глухава! Ён здаў экзамен па арыфметыцы. Я падышоў да яго:

— Валодзя, выручай! Баюся, што не здам...

— Давай, — ахвотна сказаў ён. — Сядай, пачнем, каб не траціць часу.

Па начах я займаўся з «рэпетытарамі», а ўдзень сядзеў у класе, дзе прымалі экзамены. Гэта прынесла мне вялікую карысць. Выкладчыкі задавалі пытанні. Будучыя курсанты адказвалі. А я сядзеў і ўсё матаў сабе на вус. Адным словам, экзамены я здаў. І ўявіце сабе — нядрэнна.

— Не думайце, што вы мяне ашукалі, — сказаў мне мой экзаменатар. — Я ўсе чатыры дні наглядаў за вамі. І пытанні падабраў лягчэйшыя. Для мяне было важна, што вы — настойлівы, хочаце вучыцца.

З першых дзён вучобы курсанты аб'явілі вайну адзнацы «нездавальняюча», назваўшы яе «пацуком». Нават «здавальняюча» і «добра» мелі пагардлівыя мянушкі — «чарапаха» і «жаба». Павінен прызнацца, што я, нягледзячы на стараннасць і дапамогу таварышаў, доўга насіў цэлы кораб усялякіх «пацукоў» і «жаб». Але мала-памалу выраўняўся і нават вырваўся ўперад.

Вучыцца дрэнна ніхто не хацеў. Усведамленне таго, што жывеш у Крамлі, побач з выдатнымі дзеячамі партыі і дзяржавы, пастаянныя сустрэчы з імі і сардэчныя гутаркі самі сабою дысцыплінавалі кожнага з нас, патрабавалі самых сур'ёзных адносін да сваіх абавязкаў.

Была яшчэ адна акалічнасць якая аказвала на нас моцны ўплыў — гэта нясенне вартавой службы ў Маўзалеі Леніна. Тут стаялі на варце толькі выдатнікі вучобы.

## 17

Ленін... Ён ляжыць у сваім вядомым усяму свету фрэнчы. Твар яго спакойны. На грудзях — ордэн Чырвонага Сцяга, Міхаіл Іванавіч Калінін прыкалоў яго да гэтага фрэнча, калі Ленін ляжаў ужо на смяротным ложы. Які сціплы быў гэты вялікі чалавек!

Па той бок саркафага, тварам да мяне, стаіць мой сябар Іван Кузаўкоў.

Міма нас, апусціўшы галовы, павольным крокам праходзяць людзі. Рабочыя, сяляне, чырвонаармейцы, студэнты, служачыя, хатнія гаспадыні, дзеці. Сярод іх рускія, армяне, украінцы, палякі, кітайцы, негры, беларусы, французы. Яны з любоўю ўглядаюцца ў дарагія рысы правадыра.

Ля саркафага на імгненне затрымліваецца тоўсты чалавек у акулярах. Іншаземец. У куточках яго тонкіх вуснаў прытаілася крывая ўсмешка. Хто ён такі? Журналіст? Прафесар? Міністр? Вораг? Няхай не радуецца. Мне міжволі прыходзяць на памяць словы Маякоўскага, якія раніцай мы ўсім класам вучылі напамяць:

Ленин —
жил,
Ленин —
жив,
Ленин —
будет жить!

Доступ у Маўзалей спыняецца. Цішыня. Я думаю пра маці, пра Сінкевіча, Міронава, Мяцельскага, пра Любашу і яе маленькага сына, які ўжо гаворыць: «Дзядуля Ленін, я цябе любу!» Мне вельмі хочацца, каб цяпер яны стаялі побач са мною.

Крокі. Уваходзяць Надзежда Канстанцінаўна Крупская, Марыя Ільінічна Ульянава, Іосіф Вісарыёнавіч Сталін, Фелікс Эдмундавіч Дзяржынскі. Я кожнага з іх ведаю ў твар. А хто гэты вайсковец з чатырма ордэнамі Чырвонага Сцяга на грудзях? Малады яшчэ. Каранасты. Густыя чорныя бровы. Пад імі — шэрыя ўважлівыя вочы. Цёмныя, коратка падстрыжаныя вусы. Ён, відаць, упершыню тут. Голеная



галава яго апушчана, ногі шчыльна прыціснуты адна да другой, рукі — па швах...

Пастаяўшы некалькі хвілін у маўчанні, усе выходзяць.

Нас змяняюць. Выходзячы з каравульнага памяшкання, пытаюся Кузаўкова:

— Ваня, не ведаеш, што гэта за вайсковец прыходзіў? З чатырма ордэнамі Чырвонага Сцяга...

— А ты не пазнаў? У нас жа ў класе партрэт яго вісіць.

— Блюхер? Няўжо?..

— Васіль Канстанцінавіч Блюхер. Ён цяпер у Кітаі, галоўным ваенным саветнікам у Сун Ят-сена...

— Значыць, на радзіму прыехаў?

— Не ведаю. Не дакладваў, — жартуе Кузаўкоў.

На другі дзень у нашай школе адбылася сустрэча з легендарным героем Далёкага Усходу, таленавітым савецкім палкаводцам Блюхерам. Ён — валжанін. Паўтара года вучыўся ў сельскай школе, а потым яго адвезлі ў Пецярбург і аддалі «хлопчыкам» у магазін. Пасля працаваў на вагонабудаўнічым заводзе. Тут юнак-рэвалюцыянер выступае на мітынгу і заклікае рабочых да забастоўкі. За гэта яго саджаюць у турму. У васемнаццатым годзе — гераічны паход па уральскіх гарах у тыле ў белых. Паўтары тысячы кіламетраў праходзіць з баямі армія Блюхера! За гэта ён першы ў нашай краіне ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Праз год з 51-й стралковай дывізіяй Блюхер праходзіць праз усю Сібір. Потым — узяцце Перакопа. А яшчэ праз два гады ён ужо — старшыня Ваеннага Савета і Галоўнакамандуючы Узброенымі Сіламі Далёкаўсходняй Рэспублікі. Штурм славутай Валачаеўкі, Спаск...

Просім Блюхера расказаць пра сябе. Смяецца: нечым, маўляў, пахваліцца, сумна будзе. Мы настойваем... Яго чорныя бровы хмурацца. Пачынае сур'ёзна, стрымана:

— Пра сябе скажу коратка: я салдат. Звычайны салдат Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі. Калі гаварыць пра гераізм, то трэба расказаць пра маіх баявых таварышаў — радавых. Пра Валачаеўку? На станцыі Валачаеўка белыя стварылі другі, далёкаўсходні Перакоп. Высокая сопка Карам паблізу станцыі была аплецена калючым дротам у шэсць радоў. У ворага — акопы, бліндажы, гарматы, бронепаязды, танкі, цёплае адзенне. Наша армія мае на ўзбраенні адзін старэнькі танк. Яна раздзетая, разутая. А мароз — сорак пяць градусаў. І ўсё ж мы перамаглі.. Чаму? Вельмі проста. Салдат, які ведае, за што змагаецца, не можа не перамагчы. І рэзерв у нас цудоўны — наш гераічны, мужны народ.

## 18

Выпаў снег. Затрашчалі марозы. Курсанты зрабілі ў Крамлі свой каток. Амаль штодня тут наладжваліся спаборніцтвы канькабежцаў. Я адгаварваўся, калі таварышы звалі мяне на каток. І па вельмі простай прычыне: не ўмеў катацца на каньках. Аднойчы Саша Кіквідзе сілай пацягнуў мяне туды.

— Хоць паглядзі. Навука не хітрая: стаў на канькі — і ўперад, — даказваў ён. — Мядзведзь у цырку і той на каньках катаецца, а ты ж — крамлёўскі курсант!

Пайшоў. Прымацаваў канькі. Стаў — нічога: стаю! Ступіў на лёд, зрабіў асцярожны крок — і грымнуўся. Усе смяюцца. А мне хочацца

паказаць ім, што буду катацца. Устаю, ступаю больш рашуча — і зноў дагары нагамі. На гэты раз падаю так, што ўжо без старонняй дапамогі ўстаць не магу. Курсанты рагочуць, пацяшаюцца, а я ляжу, як распластаны.

Мяне выручыла дзяўчына. Пад'ехала на каньках, падала руку і, як малога, пасадзіла на лаўку.

— Ударыліся? — пытаецца са спачуваннем.

Дзяўчына мяне пашкадавала! Гэтага яшчэ не хапала!

— Для кавалерыста гэта — глупства, — усміхнуўся я, перасільваючы боль. — Мы — не паненкі...

— Ну, канешне! Кавалерысту ўпасці — глупства. Але адна справа падаць з каня, другая — на роўным месцы.

— Не вельмі дасціпна, — буркнуў я і паспрабаваў падняцца. Але куды там!..

Дзяўчына зноў узяла мяне за руку і сказала:

— Мы тут побач жывём... Пасядзіце крыху, сагрэецеся, і ўсё пройдзе.

Як сляпы за сваім павадыром, так і я, накульгваючы, ішоў за сваёю незнаёмкай.

Дзяўчына сказала праўду. Яна жыла недалёка ад катка.

Уваходзім у дом. Яна запрашае мяне распрануць паліто, усаджвае за стол, а сама знікае.

Аглядаю пакой. Звычайны. Чатыры акны, невялікі пісьмовы стол. Лямпа з зялёным абажурам, фатаграфія — Ленін у сваім рабочым кабінеце.

Вяртаецца дзяўчына. Частуе чаем, распытвае, адкуль родам. Адчыняюцца дзверы, і ў пакой уваходзіць чалавек у акулярах... Я настолькі разгубіўся, што ледзь не папярхнуўся гарачым чаем.

— Знаёмся, тата, курсант, — гаворыць мая незнаёмка і, ледзь стрымліваючыся, каб не пырснуць ад смеху, дадае: — Канькабежац, лепшы спецыяліст па сальта-мартале на лёдзе.

Чалавек у акулярах засмяяўся і падаў вялікую рабочую руку.

— Калінін.

Я падхапіўся і стаў па камандзе «смірна».

— Шутаў, курсант аб'яднанай ваеннай школы імя ВЦВК, таварыш старшыня...

Міхаіл Іванавіч замахаў рукамі:

— Сядайце, калі ласка, сядайце, будзьце як дома.

Яму таксама налілі чаю. Ён узяў шклянку, адпіў з яе і ўважліва паглядзеў на мяне.

— Вучыцеся на кавалерыйскім аддзяленні? — спытаў ён. — До-обра. І кім жа будзеце, калі скончыце школу?

Я зноў падхапіўся:

— Камузвода, таварыш Старшыня Усесаюзнага Цэнтральнага...

— Во зарадзіў! — па-сяброўску засмяяўся Калінін. — Відаць, з дзяцінства вас так муштравалі...

Я адчуваў, што ён жартуе, нават заўважыў, як ён весела падміргнуў дачцы, але адказаў сур'ёзна:

— З батракоў я, Міхаіл Іванавіч. З Беларусі. У памешчыка Жылінскага працаваў.

Калінін падсунуў крэсла бліжэй да стала і падрыхтаваўся слухаць. Але паколькі я больш нічога не гаварыў, ён спытаўся:

— Як жа вам жылося ў памешчыка? І як цяпер там жывуць? Лепш?

Многа добрага расказвалі ў нас пра «ўсерасійскага старасту». Пра яго прастату, пра тое, што сам ён — з сялянскай сям'і, а працаваў



токарам; што пасля смерці Свярдлова сам Ленін прапанаваў яго на пост старшыні ВЦВК. І, прызнаюся, я не паверыў, каб такога занятага дзяржаўнымі справамі чалавека магло зацікавіць жыццё нейкай маленькай вёсачкі.

— Ат, што там расказваць. Нецікава. Тры хаты, ды і тыя трухлявыя.

Міхаілу Іванавічу не спадабаўся мой адказ. Ён нахмурыўся:

— Нецікава? Такіх вёсачак у нас у Расіі сотні тысяч. Царскі ўрад менш за ўсё трывожыла тое, як жывуць там людзі. А мы з вамі, таварыш курсант, павінны там новае жыццё пабудаваць. Не-е, — пакруціў ён галавой,— так нельга! Што значыць — «нецікава»? — і прымусіў мяне падрабязна расказаць усё пра свой Дварэц.

Прайшоў месяц. Стаю аднойчы на пасту ля ўваходу ў галоўны будынак, куды без спецыяльнага пропуску нікога не прапускаюць. Падыходзіць Калінін. Шукае па ўсіх кішэнях пропуск — і не знаходзіць.

— Забыў, — збянтэжана ўсміхаецца ён, пагладжваючы бародку. — Што ж рабіць? Калі вярнуся па яго — спазнюся на нараду.

Маўчу. Размаўляць не маю права. Ківаю на дзверы: праходзьце, маўляў, я вас ведаю.

— Парушаць статут, таварыш курсант, не раю. Нельга. Успомніце маладога Суворава, як ён стаяў на варце, — гаворыць Міхаіл Іванавіч і вяртаецца па пропуск.

Дзякуючы Калініну, я па-сапраўднаму зацікавіўся жыццём Суворава. Больш за стагоддзе ў царскай Расіі афіцыйна не прызнавалі Суворава. Толькі Чырвоная Армія дастойна ацаніла палкаводчы геній Аляксандра Васільевіча. Яшчэ ў васемнаццатым годзе Ленін зацвердзіў кніжку чырвонаармейца, на старонках якой былі змешчаны вытрымкі з суворацкай «Навукі перамагаць». Іх я вывучыў напамяць.

Таварышы часта наладжвалі мне экзамен.

— Шутаў, атака калонай...

Я адным духам:

— Атака будзе! Калоны, ступай! Барабан б'е марш... Ступай! Ступай! Атакуй у штыкі! Ура!

— Шутаў, славеснае павучэнне салдатам аб ведах, для іх неабходных...

— Абцасы самкнуты, падкаленкі падцягнуты, салдат стаіць стрэлкай: чацвёртага бачу, пятага не бачу. Ваенны крок — аршын, у завароце — паўтара аршына; захоўвай інтэрвал!

На выпускным вечары нашай школы Міхаіл Іванавіч, віншуючы мяне з прысваеннем звання камандзіра ўзвода, успомніў гісторыю з пропускам. Потым абняў мяне і цёпла, па-бацькоўску сказаў:

— Ведаеце, я тады ледзь не спазніўся на нараду. Але ўсё абышлося. Галоўнае — вас не падвёў і сам не саграшыў.

І тут жа пацікавіўся:

— Што вам пішуць з Дварца?

Тут, у Крамлі, кіраўнікі партыі і ўрада асабістым прыкладам вучылі нас, будучых камандзіраў, сціпласці, сумленнасці, дысцыплінаванасці, вернасці інтарэсам рабочага класа, гарачай любві да партыі.

У Міхаіла Іванавіча была фенаменальная памяць. Праз чвэрць стагоддзя ён уручаў мне другую Звязду Героя. Я быў упэўнены, што ён не памятае мяне: прайшло ж столькі год! Але я памыліўся. Ён павіншаваў мяне і сказаў:

— Рад за вас. Не дарэмна мы з вамі вучыліся...

## 19

Улетку наша школа выязджала ў Хадынскія лагеры пад Масквой.

Хадынка — гістарычнае месца. Але вядомая яна не катастрофай, якая адбылася тут у час каранацыі Мікалая II. На Хадынцы 2 жніўня 1918 года перад чырвонаармейцамі, якія адпраўляліся на фронт, выступаў з прамовай Ленін. Адсюль на ўвесь свет прагучалі палымяныя словы правадыра: «Расійская рэвалюцыя ўказала ўсяму свету шляхі да сацыялізма і паказала буржуазіі, што набліжаецца канец яе панавання».

Курсанты, будучыя камандзіры, зрабілі для сябе вывад з гэтых слоў: «Значыць, мы абавязаны яшчэ лепш вучыцца». Таму нашы заняткі не абмяжоўваліся адной практычнай вучобай. Мы прадаўжалі самастойна, па-за праграмай, займацца агульнаадукацыйнай падрыхтоўкай. Выкладчыкі-камуністы прыязджалі да нас быццам бы так, між іншым, але тут жа, як кажуць, закасвалі рукавы і браліся за справу. Асаблівымі энтузіястамі сярод лектараў-камуністаў былі нашыя любімцы — выкладчык гісторыі таварыш Найдзёнаў і выкладчык літаратуры таварыш Кузьмін.

На свежым паветры, у цяньку, ідуць заняткі па гісторыі.

— Курсант Федчанка, раскажыце коратка, што вам вядома пра Спартака?

— Спартак — правадыр буйнейшага паўстання рабоў, якое адбылося ў Італіі ў першым стагоддзі да новай эры. Стварыў моцную армію і атрымаў шэраг перамог над рымскімі военачальнікамі ў Сярэдняй і Паўночнай Італіі. Пагражаў Рыму.

Федчанка адказвае чотка, ясна, а мяне раптам разбірае смех. І такі, што стрымацца не магу.

— Таварыш курсант, растлумачце свае паводзіны,— звяртаецца да мяне выкладчык.

Устаю і не магу слова прамовіць. Здаецца, вось-вось пырсну са смеху. Усе глядзяць на мяне, як на вар'ята.

— Курсант Шутаў, прадаўжайце...

Бяру сябе ў рукі.

— ...Потым Спартак рушыў у паход. Тут яго армія была разбіта войскамі рымскага палкаводца Краса. Сам Спартак загінуў у бітве.

— Што вы яшчэ можаце пра яго сказаць?

— Паўстанне Спартака нанесла ўдар па рабаўладальніцкаму ладу ў Італіі.

— Як ацэньвалі Спартака Маркс і Ленін?

— Высока. Ленін гаварыў, што Спартак быў адным з самых выдатных герояў аднаго з самых вялікіх паўстанняў рабоў.

— Добра,— задаволена ўсміхаецца выкладчык.— А цяпер скажыце, чаму гэта вам ні з таго ні з сяго захацелася смяяцца?

Я расказваю пра свае адказы чырвонаармейцу кавалерыйскага палка імя Сцяпана Разіна, калі той пытаўся: «А хто такі Спартак»?

Выбухнуў такі моцны, такі дружны смех, што з усіх палатак пачалі высоўвацца галовы. І раптам — звычная, усхваляваная каманда:

— Лагер, смі-і-ір-на! Таварыш Старшыня Рэвваенсавета Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік...

Што? Таварыш Фрунзе да нас прыехаў? Мы падхапіліся, застылі.

Па дарожцы, пасыпанай свежым пяском, у суправаджэнні вялікай групы вайскоўцаў ідзе таварыш Фрунзе. Ён уважліва аглядае лінейкі, дрэвы, кусты, плакаты, зазірае ў бакі з вадой.

— Не працякаюць?— пытаецца і сам адказвае:— Усё ў парадку.



Ці падыдзе ён да нас? Кожны ў думках паўтарае: «Таварыш Старшыня Рэвваенсавета СССР і Наркамваенмор!»

Я ўспамінаю расказ Юрыя Мяцельскага пра яго сустрэчу з Фрунзе ў мінскім гарадскім садзе. Яму, Фрунзе, шмат чым абавязаны беларускі народ.

Міхаіл Васільевіч спыняецца непадалёку ад нас. Нагінаецца і падымае ля ўрны акурак. Нас кідае ў холад — якая ганьба! Ні разу не здаралася такое, а тут — на табе... Будзе разнос!..

Фрунзе хмурыць бровы, разглядае акурак, а потым жартам заўважае:

— Курэц, відаць, вельмі спяшаўся... Ці ён проста дрэнны стралок.

Фрунзе праходзіць каля нас. Вітаецца. Мы адказваем. Ён ужо праходзіць далей, але яго спыняе нерашучым, хрыплаватым голасам Саша Кіквідзе:

— Таварыш Наркамваенмор, дазвольце звярнуцца...

Міхаіл Васільевіч ківае галавой:

— Слухаю.

— Акурак кінуў я.

Вочы ў Наркамваенмора акругляюцца. Хвіліну ён уважліва глядзіць на курсанта.

— Ваша прозвішча?

— Кіквідзе, таварыш Наркамваенмор,— адказвае Саша і бялее.

Адзін з вайскоўцаў, што суправаджае Фрунзе, дастае блакнот і нешта запісвае.

«Прапаў наш весялун Саша»,— падумалі мы.

— Кіквідзе?— перапытаў, нахіліўшы галаву, Фрунзе.— Вы часам не сваяк Васо Кіквідзе?

— Аднафамілец, таварыш Наркамваенмор.

— Я думаў, сваяк. Расказваюць, што ён быў вельмі сумленны...

Па скамянелым Сашавым твары прабягае цень прыемнага хвалявання. Мы таксама ўздыхаем з палёгкай.

— ...і акуратны!— дадае Фрунзе і спахопліваецца.— Таварышы, чаго ж мы стаім? Сядзем...

Садзімся вакол яго. Пачынаецца сяброўская гутарка пра тое, якім павінен быць камандзір Чырвонай Арміі. Міхаіл Васільевіч прыводзіць вельмі цікавы прыклад акуратнасці.

Гэта было ў час адной схваткі з калчакоўцамі. Два варожыя самалёты віселі нізка над пераправамі, паліваючы нашых байцоў кулямётным агнём, засыпаючы бомбамі. Побач з ім, з Фрунзе, стаяў Чапаеў. Пралятае самалёт і скідае бомбу. Калі асеў пыл, Фрунзе ўбачыў бледны твар Васіля Іванавіча і кроў на яго гімнасцёрцы.

— Зачапілі, сволачы,— вылаяўся Чапаеў.

— Ісці можаце?

— Магу, ногі ж у мяне — цэлыя.

Нядоўга, хвіліны дзве, ішлі яны пад агнём уперад, сярод залёгшых чырвонаармейскіх часцей. Але вось рады пачалі ажываць. Дагналі, потым перагналі Фрунзе і Чапаева і ярасна кінуліся на ворага.

Між тым, з раны ў Чапаева ўсё яшчэ ідзе кроў. І, як на злосць,— ніводнага санітара паблізу. Фрунзе дастае насавую хусцінку і падае яе Чапаеву.

— Прыкрыйце рану, Васіль Іванавіч.

— Дзякуй, Міхаіл Васільевіч! Ёсць у мяне хусцінка. Здаецца, чыстая.— І ён дастаў з кішэні белую, як першы снег, насавую хусцінку...

— Дык вось, таварышы,— сказаў у заключэнне Фрунзе,— нам патрэбны такі камандзір, які не толькі ўмее камандаваць, але і можа вы-

хоўваць байцоў, каб салдат, як вучань у свайго настаўніка, вучыўся ў яго ўсяму... Баец Чырвонай Арміі — гэта баец зусім новага складу. Да яго не падыходзіць старая руская пагаворка: «Салдат спіць, а служба ідзе». Наш салдат не спіць. Ён пільны, вучыцца, жыве паўнакроўным жыццём, — ён творца... Вы, таварышы, чыталі легенду пра тытана Праметэя, які выкраў для людзей агонь у багоў. За гэта Праметэя багі прыкавалі да скалы... Наша армія — гэта раскуты Праметэй. Служыць у ёй — вялікі гонар.

Праз некалькі месяцаў, 31 кастрычніка 1925 года пасля цяжкай аперацыі перастала біцца сэрца нястомнага барацьбіта-камуніста, выдатнага савецкага палкаводца Міхаіла Васільевіча Фрунзе. У нас у школе адбыўся жалобны мітынг. Уладзімір Глухаў, які выступіў на ім, выказаў думкі ўсіх курсантаў:

— Для нас Фрунзе — не памёр.

Позна ўвечары наш другі кавалерыйскі эскадрон выйшаў з варот Крамля і накіраваўся ў бальніцу, дзе знаходзіўся таварыш Фрунзе.

— Не веру... Таварыш Фрунзе не памёр,— ціха шаптаў мне Іван Кузаўкоў.

Труна з целам Фрунзе была ўстаноўлена ў Калоннай зале Дома Саюзаў. У першай чацвёрцы курсантаў, што сталі на ганаровую варту, былі Нерчанка, Кронін, Кузаўкоў і я.

Масквічы і прыезджыя, камандзіры і салдаты, прадстаўнікі ўсіх рэспублік нашай многанацыянальнай дзяржавы прыйшлі аддаць апошні доўг слаўнаму савецкаму палкаводцу. Непадалёку ад нас у ганаровай варце стаялі яго блізкія і таварышы па партыі — Калінін, Дзяржынскі, Варашылаў, Будзённы, Фабрыцыус, Якір.

Запомніўся мне і маленькі Цімур — сын таварыша Фрунзе, яму было тады не больш двух гадоў. Ён стаяў каля маці, трымаўся за яе руку і задумённа глядзеў на мяне. Я тады хацеў адгадаць, пра што думае асірацелы малы. Але пра што б ён ні думаў, я быў упэўнены толькі ў адным: ён пойдзе бацькавай дарогай.

Цімур Фрунзе вырас. Перад Вялікай Айчыннай вайной ён паспяхова закончыў спецыяльную школу ваенна-паветраных сіл і вучылішча ваенных лётчыкаў. У адным з паветраных баёў на Паўночна-Заходнім фронце лётчык-знішчальнік Цімур Фрунзе, змагаючыся супраць вялікай групы бамбардзіроўшчыкаў і знішчальнікаў, збіў чатыры самалёты праціўніка.

Герой Савецкага Саюза Цімур Міхайлавіч Фрунзе загінуў смерцю храбрых у дзевятнаццацігадовым узросце. Ён навечна залічаны ў спісы асабовага складу авіяцыйнага знішчальнага падраздзялення, у якім служыў.

# САЛДАТ НЕ СПІЦЬ...

## 1

З Крамлём звязаны самыя светлыя гады майго юнацтва. Тут жылі, працавалі, сюды з'язджаліся лепшыя людзі нашай Радзімы. Я не быў дэлегатам з'ездаў, канферэнцый, пленумаў Цэнтральнага Камітэта партыі, але па роду сваёй службы меў шчасце прысутнічаць на іх, слухаць выступленні дэлегатаў. Я прысутнічаў на XIV з'ездзе партыі, які ўвайшоў у гісторыю, як з'езд індустрыялізацыі краіны. Тут быў прынят і новы Статут партыі і рашэнне аб перайменаванні РКП(б) ва Усесаюзную Камуністычную партыю (бальшавікоў).



Шляхам ашуканства на XIV з'езд прабраліся трацкісты, зіноўеўцы і іншыя апазіцыянеры, якія дзейнічалі ўнутры партыі і спрабавалі захапіць кіраўніцтва ў свае рукі. Але яны атрымалі рашучы адпор, і партыя прадаўжала ісці па ленінскаму шляху.

Трацкісты спрабавалі заразіць сваімі гнілымі ідэямі рады Чырвонай Арміі. Памятаю, я тады толькі што закончыў школу імя ВЦВК і атрымаў назначэнне ў кавалерыйскі эскадрон камандзірам узвода. Склікаецца партыйны сход. Абмяркоўваем пытанні ўнутранага жыцця. На сходзе прысутнічае нейкі высокапастаўлены з лісіным выразам прадаўгаватага твару.

— Таварышы, — пачынае ён ласкава, з ліслівымі ноткамі ў голасе, — вы абмяркоўваеце пытанні дысцыпліны, вучобы, беражлівых адносін да зброі... Гэта — важныя пытанні, але, — ён падымае ўгору палец, — ёсць яшчэ важнейшыя. Троцкі заклікае ўсіх камуністаў...

Я азіраюся. Усе абураны. Хто незадаволена круціць галавой, хто іранічна ўсміхаецца, а хто гнеўна сціскае кулакі.

— Далоў з трыбуны, — крычаць з задніх радоў.

Ліслівасць імгненна знікае з твару высокапастаўленага прадстаўніка.

— Вывесці! Зараз жа!

— Прадаўжайце, — звяртаецца да яго старшыня сходу. — Потым разбярэмся.

— Потым?! — Дык вы анархію тут разводзіць будзеце? Загадваю! Я тут старэйшы па званню.

— Бачым, — спакойна гаворыць старшыня сходу. — Прадаўжайце.

Па зале праносіцца стрыманы гул адабрэння.

Трацкіст прадаўжае развіваць сваю «ідэю». Гаворыць доўга, эфектна, жэстыкулюе, робіць доўгія тэатральныя паўзы, прыводзіць прыклады, называе лічбы, нават у дасціпнасць кідаецца.

Нарэшце змаўкае.

— Хто просіць слова?

Нейкі момант усе маўчаць. Трацкіст весялее. Яго лісіныя вочкі свяцяцца ад задавальнення: «Пераканаў!»

Але вось слова просіць чырвонаармеец Логвінаў, рабочы з Тулы. «Што ён скажа?» — хвалююся я.

Логвінаў яшчэ і слова не вымавіў, а ўжо ўвесь узмакрэў і выцірае хусцінкай твар.

— Хто гэта? — пытаецца дакладчык у старшыні.

— Выдатнік баявой і палітычнай падрыхтоўкі.

— Цікава. Паслухаем, што нам скажа выдатнік. Спадзяюся, вы мяне зразумелі? — звяртаецца дакладчык да Логвінава.

— Зразумеў, — адказвае Логвінаў здзекліва. — Я вас добра зразумеў...

— І згодны?

— Згодзен... што вы, як тая сарока: дзе пасядзіць, там і напаскудзіць.

— Таварыш Логвінаў, выбірайце словы,— строга папярэджвае старшыня.

— Дык жа злосць бярэ! Што ж гэта выходзіць? Столькі крыві праліта за рэвалюцыю, за савецкую ўладу, а нам кажуць: у рабочага класа застаўся адзін выбар — стаць на калені перад капіталістамі ды яшчэ прабачэння ў іх папрасіць: «Даруйце, калі ласка!» Як жа гэта называецца, таварышы?

— Трацкізм, — крыкнулі з залы.

— Прадажныя шкуры!



— Дазвольце, таварыш старшыня, — зрываецца з месца дакладчык.

— Потым... Няхай людзі выкажуцца. А тады — зноў вы...

Логвінаў прадаўжае:

— Трацкісты выступаюць супраць саюза рабочых і сялян — гэта ж на руку сусветнай буржуазіі. Каб не было такога саюза, то мы не выстаялі б перад ворагамі рэвалюцыі.

— Правільна! — грыміць зала. — Правільна, Логвінаў!

— Слова мае чырвонаармеец Анішчанка.

Анішчанка дастае з кішэні пісьмо.

— Дазвольце прачытаць, — звяртаецца ён да старшыні. — Не ўсё, канешне...



— Чытайце.

— «Дарагі сыночак Іван! Да нас у Макараўку рабочыя з Харкава прыехалі. Слесары, токары, кавалі. Добрыя людзі. Плугі зрабілі нам, сохі, косы. Так, бясплатна. Потым быў сход. Нікадзім Далінюк сказаў: «Дзякуй вам, таварышы, за дапамогу. Нам, рабочым і сялянам, немажна быць адным без другіх. Мы павінны быць разам...» А калі госці ад'язджалі, уся Макараўка да станцыі іх праводзіла».

Анішчанка складвае пісьмо, кладзе яго ў кішэню і садзіцца.

— Усё, Анішчанка? — пытаецца старшыня.

— Усё.

Зала апладыруе. Трацкіст разводзіць рукамі:

— Глупства. Пры чым тут пісьмо?

— Дазвольце? — падымае руку камандзір другога ўзвода Галавін. — Не прыкідвайцеся, вы зразумелі Анішчанку, — кідае ён проста ў вочы трацкісту. — Пісьмо, якое ён прачытаў, вам проста нявыгадна разумець. Вы сцвярджаеце, што сялянства змагаецца супраць сацыялізма — факты гавораць аб адваротным. Тое, што адбылося ў Макараўцы, даказвае: ваша карта біта, панове трацкісты. Паміж рабочым і селянінам сутычак ніколі не будзе. Ніколі!.. Вы хочаце разлажыць нашу армію — не выйдзе! Пяцьдзесят тысяч камуністаў аддалі сваё жыццё за рэвалюцыю. Але, нягледзячы на гэтыя страты, рады партыі за час вайны падвоіліся. Чырвоная Армія была і будзе дзецішчам народа. Яе стварыла Ленінская партыя, і яна застанецца вернай Леніну.

Бяру слова я і заяўляю, што прадстаўнік скажае факты. Я сам прысутнічаў на з'ездзе і быў сведкам разгрому трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі.

У зале зноў выбух абурэння. Галасы: «Вон брахуноў-трацкістаў!»

Я прапаную прасіць камандаванне, каб нам прыслалі другога дакладчыка.

— Я таксама такой думкі, — падтрымлівае старшыня. — Няхай справаздачу аб з'ездзе зробіць сумленны камуніст, для якога рашэнні з'езда, генеральная лінія Цэнтральнага Камітэта — абавязковыя. Хто за гэтую прапанову?

Лес рук. Дакладчык з нянавісцю глядзіць на нас, хапае са стала партфель і ўжо на хаду трасе кулаком:

— Пачакайце! Я вам гэта прыпомню!

Смех. Галасы:

— Гадзюка ачкастая! Гнаць такіх з партыі!

— Лісіны хвост, ды воўчы рот!

— На дно іх, ракаў лавіць!

Праўду казаў Міхаіл Васільевіч Фрунзе, што старая руская прагаворка «Салдат спіць, а служба ідзе» не падыходзіць да савецкага салдата. Савецкі воін не спіць!

## 2

Такім чынам, я — камадзір узвода. Як настаўнік, які ўпершыню накіроўваецца ў свой клас, я іду прымаць вучэбны ўзвод. На сэрцы трывожна: ці змагу, як належыць, кіраваць людзьмі, выхоўваць іх? Ці знайду ключ да сэрца кожнага байца? Ці ўдасца заваяваць аўтарытэт?

Сорак два байцы стаяць па камандзе «Смірна!». Яны прыбылі сюды з розных гарадоў і сёл краіны. Гэта — людзі розных прафесій — хлебаробы, рабочыя, служачыя, шахцёры. Усе, як адзін, глядзяць мне ў вочы, і кожны, відаць, выносіць свой прысуд: «Хлопец, здаецца, нічога...», «Лопух...», «Свой...», «З'есць»...

Раблю пераклічку. Углядаюся ў кожнага: «Хлопцы, як на падбор»,— думаю сам сабе.

— Габідаў!

— Я!

У маладога башкіра не вочы, а гарачыя вугольчыкі: рад, што трапіў у кавалерыю.

— Любіце каня?

— Вельмі!

— Дазвольце, таварыш камандзір узвода...

— Слухаю.

— Карнавух маё прозвішча. Я — цырульнік. Прывёз з сабою інструменты.

Усе стрымана ўсміхаюцца.

— Зразумела. Хочаце працаваць па сваёй грамадзянскай спецыяльнасці?

— Так точна, таварыш камандзір узвода.

— Працуйце. Толькі... у вольны ад заняткаў час.

Карнавуху — не да спадобы мой адказ. Вочы яго становяцца сумныя.

— Я памылкова трапіў у кавалерыю,— гаворыць ён ціха.

Мяне гэта моцна крыўдзіць.

— Карнавух не задаволены тым, што трапіў у кавалерыю. Хто яшчэ гэтым незадаволены — два крокі ўперад! Не саромцеся...

Ніхто не крануўся з месца. У мяне адлегла на сэрцы. Я пачынаю расказваць байцам пра слаўныя традыцыі рускай і савецкай конніцы і папярэджваю, што служба ў кавалерыі — нялёгкая. Трэба добра даглядаць каня, клапаціцца пра яго здароўе, грамату...

Усе здзіўлена глядзяць на мяне: ці не памыліўся...

— Так, так,— пацвярджаю я.— Пра яго грамату. Конь павінен прайсці вялікую школу, перш чым стаць у строй. Вам, Карнавух, будзе цяжка, але я ўпэўнены, што з вас выйдзе сапраўдны кавалерыст. Паможам. Габідаў вам памагаць будзе. Праўда, Габідаў?

— Ёсць памагаць!

Габідаў слаба ведаў рускую мову і таму стараўся менш гаварыць. А калі гаварыў, то асцярожна азіраўся: ці не смяюцца з яго. Але ўбачыўшы, што таварышы і не думаюць смяяцца, ён пасмялеў.

Мой узвод станавіўся дружнай, згуртаванай сям'ёй. Няўдача аднаго трывожыла ўсіх, поспех таварыша быў поспехам усяго калектыву. Лепшыя коннікі Габідаў, Маліноўскі, Сірык, Шумаў разам са мной не пакідалі манеж, пакуль не ўдалося падцягнуць адстаючых.

Праз год да нас прыехаў карэспандэнт цэнтральнай газеты. Два дні прабыў у нашым узводзе. Спісаў увесь блакнот, зрабіў многа здымкаў. Перад ад'ездам паказаў мне некаторыя свае запісы.

Вось што я прачытаў на адным лістку:

«Коні ў вас нейкія дзікія,— сказаў я чырвонаармейцу Віктару Карнавуху.— У мястэчку, дзе я рос, помню, быў конь у аднаго вадавоза. Дык усе хлапчукі на ім верхам ездзілі. А тут — не падступішся!

Чырвонаармеец усміхнуўся і сказаў:

— На тым кані, таварыш карэспандэнт, у атаку не пойдзеш. А вазьміце майго каня — агонь! На ім птушак лавіць можна. Разумны, быстры, паслухмяны. Я не сяду есці, пакуль яго не накармлю. За любоў конь плаціць любоўю. Параняць у баі — пяць дзён будзе стаяць над табой, а не пакіне аднаго. Голас твой знае, думкі твае, чэснае слова, адгадаць можа. Але не думайце, што гэтага так лёгка дабіцца. Пакуль навучыш яго ўсёй гэтай мудрасці, не раз прамокне ад поту гімнасцёрка.



Я спытаўся:

— Таварыш Карнавух, вы заўсёды любілі каня?

— З малых год. Да арміі працаваў на конным заводзе...»

Дачытаўшы да гэтага месца, я засмяяўся:

— Няпраўда.

— Што няпраўда? Хіба Карнавух дрэнны коннік?

— Добры! Нядаўна мы яго адзначылі ў загадзе.

— Дык чаму ж — «няпраўда»?

— Ён ніколі не працаваў на конным заводзе. Быў цырульнікам. І, відаць, хоча хутчэй забыць тую сваю прафесію. Новая — больш да спадобы...

— Вось яно як!— здзівіўся карэспандэнт.— Я напішу пра гэта.

Два гады праслужыў я камандзірам узвода. У 1929 годзе мяне зноў накіравалі ў Маскву, на ваенна-палітычныя курсы імя Леніна. Тут я часта сустракаў Сямёна Міхайлавіча Будзённага. Праслаўлены коннік, знаўца салдацкай душы, ён заўсёды сачыў за поспехамі нашых часцей. Прычым, яго не задавальнялі агульныя звесткі, ён цікавіўся жыццём кожнага конніка. Аднойчы я расказаў яму пра Карнавуха.

— Чытаў пра яго,— весела засмяяўся Сямён Міхайлавіч.— Відаць, добры хлопец... Дарэчы, дзе ён цяпер?

— Вучыцца. На камандзіра ўзвода.

— Добра, вельмі добра! Пабачыце, Карнавух яшчэ конным корпусам камандаваць будзе! Трэба яму ліст напісаць, падбадзёрыць. Напішу. Сёння ж!

Мне стала радасна. Гэта ж толькі ў нас легендарны камандарм піша пісьмы простым чырвонаармейцам! У нас — і нідзе болей!

— Яму, я чытаў, памагаў на манежы таварыш, башкір па нацыянальнасці...

— Габідаў, Сямён Міхайлавіч.

— Добры коннік?

— Выдатны.

— А ён дзе цяпер?

— Таксама вучыцца. Разам з Карнавухам.

— Цудоўна! Трэба больш пасылаць на вучобу здольных чырвонаармейцаў. Няхай вучацца. Гэта — нашы кадры.

### 3

Эскадрон, якім я камандаваў пасля заканчэння ваенна-палітычных курсаў, вяртаўся з начных вучэнняў. Мы павінны былі прайсці вялікую вёску Піскаватка, размешчаную непадалёку ад станцыі Ліскі. Ехалі ціха, бо вельмі стаміліся коні. Уз'ехалі на ўзгорак, спыніліся.

— Піскаватка,— прамовіў нехта ўголас.

Гэтая вёска знаёмая кожнаму байцу нашага падраздзялення. Тут мы многа папрацавалі, каб пераканаць сялян у перавагах калгаснага ладу. Гэта было нялёгка. Кулакі шантажыравалі і запалохвалі сялян, па-зверску распраўляліся з актывістамі. Больш таго. Непадалёку адсюль, на Дану, яны нават спрабавалі падняць сялянства супраць калгасаў.

Ці магла Чырвоная Армія, плоць ад плоці нашага народа, стаяць у баку ад вялікай перабудовы вёскі!

Лепшым аўтарытэтам у селяніна карыстаецца той, хто і за плугам не адстане, і з касою не падвядзе. У Піскаватцы і навакольных вёсках байцы нашага падраздзялення карысталіся такім аўтарытэтам. У вольны ад заняткаў час яны прыходзілі ў поле, на ток, на сенажаць. Памагаючы селяніну ў рабоце, яны адначасова памагалі яму раза-

брацца ў палітыцы партыі. Так мала-памалу сяляне пацягнуліся да калектыўнай апрацоўкі зямлі, пачалі ствараць сельскагаспадарчую арцель.

— Таварыш камандзір эскадрона, там шум нейкі,— сказаў мой канавод.

Я прыслухаўся: сапраўды. Галасы, крыкі, плач. Можа, пажар? Але ж не відаць ні агню, ні дыму. Стрэлы!..

— Чуеце, страляюць!

— ...справа па аднаму, рыссю за мной, марш!

Улятаем у вёску. Насустрач бягуць людзі. Уперадзе — старая. Яна ў роспачы працягвае рукі:

— Сыночкі, мілыя! Майго Федзю забілі!

Старшыня толькі што створанага калгаса — забіты!

За некалькі дзён перад гэтым я, як член райкома партыі, прысутнічаў на арганізацыйным сходзе піскавацкіх калгаснікаў, дзе Фёдар Мацвееў быў выбраны старшынёй. Падкулачнікі рашуча выступалі супраць яго.

— Федзя — хлопец добры, нічога не скажаш... І заслугі перад савецкай уладай у яго ёсць: партызанам быў, на Дзянікіна хадзіў... Але старшынёй ён быць не можа. Малады. Тут патрэбны чалавек вопытны, з гаспадарскім вокам. Не ведаем мы, як і што будзе ў калгасе. Добра ж, калі добра... А калі не? Што траціць Федзя? Пяць курачак ды казу дохлую. А калі старшынёй будзе такі, які многае страціць? Гэта ж, браткі, адна яго трывога нам на карысць пойдзе...

— Ты куды гнеш, Яўхім? Ці не Макаравіча, Маліну, нам старшынёй выбраць? — спыталася жанчына, што сядзела ў прэзідыуме.

— Яго, браткі. Ён чалавек заможны — гэта праўда. Але савецкую ўладу любіць і справу разумее. Папросім яго добранька — пойдзе...

— Змоўкні ты, падбрэхіч кулацкі!

— Любіць ён Савецкую ўладу! Каб ён з'еў тое, што думае...

— Галасуйце за Фёдара!

Мацвеева выбралі аднагалосна.

Прайшло ўсяго чатыры дні, і вось малады камуніст ляжыць у сельсавеце на стале з прастрэленай галавой. А ў суседнім пакоі сядзіць злоўлены забойца — кулак Маліна.

— Таварыш камандзір, пры чым тут я? Федзя вырас на маіх вачах. Хіба ў мяне рука паднялася б? — спрабуе апраўдацца Маліна.

— Зараз прыедуць з раёна, разбяруцца...

— Не я страляў... Другія...

— А абрэз?

— Падкінулі...

Падыходжу да акна. Абураныя людзі гнеўна размахваюць рукамі. Чуваць галасы: «Крывапіўца», «Смерць забойцу!»

— Таварыш камандзір! — прасоўваецца ў акно чыясьці галава.— Дайце яго сюды! Мы самі судзіць будзем!

— Нельга. Самасуд забаронены.

Натоўп напірае. Тупат на двары, на ганку...

— Стойце! — крычу я.— Адыдзіце, страляць будзем!

Ніякай увагі на мае словы. Чырвонаармейцы накіроўваюць вінтоўкі ў акно. Натоўп спыняецца.

— Чаго спужаліся, дурні? — даносіцца крык з задніх радоў.— Чырвоная Армія ў сваіх страляць не будзе!

Я пазнаю, чый гэта голас: падкулачніка Яўхіма. Правакатар! Ён добра ведае, што мы ні ў якім выпадку не дапусцім самасуду, і таму спадзяецца на сутычку калгаснікаў і арміі.



Я высоўваюся ў акно і клічу:

— Яўхім, хадзі сюды! На хвілінку!..

Пасярод натоўпу ўтвараецца жывы калідор. Чакаюць. Яўхім не паказваецца.

— Уцёк,— крычыць нехта ззаду.

— Уцёк! Уцёк!

Тым часам прыехалі прадстаўнікі з раёна. Эскадрон строіцца. Хачу ўжо даць каманду «марш», але да нас падыходзіць група юнакоў і дзяўчат.

— Таварыш камандзір,— звяртаецца да мяне хлопец, відаць, смялейшы за ўсіх.— Мы, камсамольцы, папаўняем Чырвоную Армію, што зробім свой калгас лепшым. Толькі ж вы будзеце нам памагаць?

— А як жа!

Падыходзіць дзяўчына.

— Мы рыхтуем вечар самадзейнасці. Запрашаем вас усіх.

— Дзе ж мы памесцімся? Нас жа, бачыце, многа!

— Нічога,— усміхаецца яна.— Вечар гэты на вуліцы правядзём. Тады ўсе памесцяцца.

Раю дзяўчыне дамовіцца з сакратаром нашай камсамольскай ячэйкі. Паможа. Сам «гапака» станцуе.

— Ён вунь на тым кані,— указваю на чырвонаармейца Семчанку.

— Я ведаю,— у вачах дзяўчыны засвяцілася ўсмешка.

Гляджу на Семчанку. Твар яго ўспыхвае чырванню. «Любоў,— думаю.— Зачараваў наш коннік прыгажуню... Гэта — добра. Каханне ўпрыгожвае наша жыццё».

## 4

Мяне чамусьці раптам моцна пацягнула дадому. Ды так, што месца сабе нідзе знайсці не мог. Я расказаў пра гэта камандзіру палка.

— Што ж, з'ездзі,— сказаў ён.— Дзесяць дзён хопіць? Дык збірайся ў дарогу.

У поездзе я зноў перачытаў усе пісьмы з дому. Старэйшыя сёстры працуюць у калгасе, малодшая — у Мінску, у ЦК камсамола. У Гарадок прывезлі новую дынамамашыну для электрастанцыі. Адкрылі бібліятэку. Міронава зноў выбралі сакратаром райкома партыі. Ён, бедны, хварэе — турмы, ссылкі даюць сябе знаць. Любаша працуе ў райвыканкоме, намеснікам старшыні. Юрка вырас. Кемлівы хлопчык, у школе вучыцца лепш за ўсіх.

...Пераступіўшы парог сваёй хаты, адразу пытаюся:

— Як вы тут маецеся? Ці не здарылася чаго?..

На мяне глядзяць са здзіўленнем:

— Не. Усё добра.

— Я вельмі рад! Значыць, усе здаровыя?

— Здаровыя. А ты?

— Як бачыце.

У хату ўрываецца ватага шустрых хлапчукоў у чырвоных гальштуках. Прыйшлі паглядзець на камандзіра «цэлага эскадрона». Пытанням няма канца. Як будуецца метро? Ці бачыў я яго? Ці хутка пабудуюць у Харкаве завод, які будзе выпускаць трактары? А Кузнецкбуд?..

Калі дзеці ўжо сабраліся ісці, сястра просіць:

— Хлопчыкі, скажыце Юрыку Мяцельскаму, што дзядзька Сцяпан прыехаў...

Праводжу дзяцей на вуліцу, і яны бяруць з мяне «чэснае партыйнае», што заўтра прыйду да іх у школу на збор атрада.

— Вось якія дзеці растуць,— кажу сястры, калі мы вяртаемся ў хату.— Хіба мы такія былі ў іх гады?

Дзверы расчыняюцца насцеж, і на парозе паяўляецца чырванашчокі хлапчук.

— Таварыш камандзір кавалерыйскага эскадрона, я — Юры Мяцельскі,— ні то жартам, ні то ўсур'ёз рапартуе ён.

Выліты бацька! Пад густымі брывямі — цёмна-шэрыя вочы. Падбародак — з ямачкай.

— Вольна,— смяюся я.— Сядай, Юрка. Ты мяне ведаеш?

— Ведаю, вы — мамін таварыш.

— Яна табе расказвала?

— Расказвала. І пра Міцю Градзюшку... Мама прыязджае да нас толькі на выхадны дзень.

— Як жа ты вучышся, Юра?

— Як усе.

— Юра, не скромнічай,— умешваецца мая сястра.— Ты ж вучышся лепш за ўсіх!

— Дык я ж — старшыня савета атрада!

«Сціплы, як бацька!» — з задавальненнем зазначаю сам сабе.

— Кім жа ты будзеш, як вырасцеш?

— Танкістам,— не задумваючыся, адказвае хлопчык.

— Чаму танкістам?

— Цікава.— І каб не пакрыўдзіць мяне, дадае: — У конніцы таксама цікава... А калі вы былі малы, хацелі стаць коннікам?.. Пра што вы тады думалі, дзядзька Сцёпа?

— Каб хоць раз наесціся ўдосталь хлеба.

Юра ўсміхаецца.

— Я сур'ёзна, дзядзька Сцёпа.

«Гэта смешна ўжо нашым дзецям. А што скажуць унукі?..»

— І я сур'ёзна, Юрка. Хіба табе мама не расказвала, як мы жылі да рэвалюцыі?

— Расказвала, што цяжка... Дык трэба было раней рэвалюцыю зрабіць!..

Мая сястра смяецца. Я хачу растлумачыць Юру, чаму рэвалюцыю нельга было зрабіць раней. Малы стаіць на сваім...

— А як бабуля жыве? — загаварваю я пра другое.

— Бабулю нашу ў насценгазеце кожны дзень хваляць,— з гонарам гаворыць Юрка.— Яна — старшая даярка... Дзядзька Сцёпа, а ля рэчкі вы ўжо былі?

— Не, не быў. Я ж толькі прыехаў...

— Пойдзем!

Ідзём з Юркам да рэчкі.

— Вось закончу школу і пайду ў ваеннае вучылішча,— кажа хлопчык.— А мама хутка інстытут закончыць.

— Хіба яна вучыцца?

— Вучыцца. На той год паедзе здаваць экзамены...

Пціч, мне здаецца, павузела, але яна мне мілая, як і раней. Тут, ля яе, я пасвіў панскіх кароў і зайздросціў дзецям багацеяў, якія кожную зіму хадзілі ў школу, мелі сшыткі, кнігі, чаравікі. Прайшло ўсяго чатырнаццаць год, а як перамянілася жыццё! А што ж будзе праз трыццаць, праз пяцьдзесят год?..



5

Райвыканком і райком партыі размяшчаюцца ў адным будынку. Заходжу спачатку да Міронава. Яшчэ толькі восем гадзін раніцы, але я на ўсякі выпадак заглядваю ў яго кабінет.

— Заходзьце, таварыш,— чую знаёмы голас.

Міронаў. У акулярах. Я яго ледзь пазнаю. Пасівеў. На мяне глядзяць стомленыя вочы. Але раптам у іх загараюцца радасныя агеньчыкі.

— Сцёпа, ты?

Ён абдымае мяне і моцна прыціскае да грудзей. Садзімся на канапу.

— У адпачынак ці назусім? Работа для цябе, Сцёпа, ёсць. Старшыня калгаса нам патрэбен...

— Я — у адпачынак. На дзесяць дзён.

— Шкада... А як здароўе?

— Маё — нішто. А ваша?

— Сэрца здаваць пачало...

— Падлячыцца трэба. Абавязкова.

— Вось маё лячэнне,— працягвае ён руку да тэлефона, што зазваніў на стале.— Слухаю... Пяцьсот пудоў хлеба здалі? Малайцы. Трэба прэміраваць. Не, не, ні ў якім выпадку! Я забараняю табе заставацца там начаваць. Прыязджай і ўсё!

Міронаў кладзе трубку.

— Бач, што выдумала: начаваць у «Зары» збіраецца... Мала мы людзей страцілі за гэтыя тры гады! Двух старшынь калгасаў, інструктара, упаўнаважаных некалькі чалавек... Вось як, Сцёпа. А ты кажаш: падлячыцца... Вось падцягнем усе калгасы да ўзроўню «Савецкай Беларусі»,—ты ж чуў: пяцьсот пудоў дзяржаве здалі звыш плана! Тады і пра курорт падумаць можна будзе... У Крым ці там на Каўказ паехаць...

— А хто гэта званіў? Упаўнаважаны?

— Любаша! — і ён за галаву хапаецца: — Забыў сказаць, што ты тут. Раззлаваўся і забыў! Цудоўны яна работнік, Сцёпа! ЦК ёю зацікавіўся. Забраць ад нас хочуць. Не дам! Няхай трохі падвучыцца — і на маё месца! У раёне яе ведаюць, любяць. Толькі вельмі рызыкоўная. У дваццаць дзевятым па ёй двойчы кулакі стралялі... Вечарам яна будзе тут.

Сцямнела. Я прыходжу ў райвыканком і застаю адну прыбіральшчыцу.

— А вы па якой справе? — пытаецца яна.

Расказваю: чакаю таварыш Мяцельскую. Мы з ёю — даўнія знаёмыя, разам раслі.

Жанчына ківае галавой: яна ўсё разумее. А даўно не бачыліся?.. Ну, тады таварыш ваенны не пазнае яе. Прыгожая жанчына. На яе тут шмат хто заглядаецца. Ды яна не глядзіць на іх. Часу не мае. Многа працуе, вучыцца. Прыйдзеш, бывае, а ў яе — галава на кнізе. Спіць. Цяжка ёй. Адна... Каб знайшоўся такі чалавек, які ёй па душы прыйшоўся б...

— Ідзе,— абрывае сваю гаворку жанчына.— Я яе хаду пазнаю...

Уваходзіць Любаша. Яна пакруглела, але засталася па-ранейшаму стройнай. На загарэлым твары бліскаюць сінія-сінія вочы. Падстрыжаныя бялявыя валасы выбіваюцца з-пад чырвонай хусцінкі. Старэнькі жакет, вышываная белая кофта.

— Добры вечар, цёця Клава,— вітаецца яна з прыбіральшчыцай, не заўважаючы мяне.

— Добры вечар,— адказвае жанчына і ківае ў мой бок.— Да вас, Любоў Пятроўна.

Устаю. Абцягваю гімнасцёрку.

— Сцёпа? — пытаецца яна такім голасам, нібы мы толькі ўчора бачыліся.

Падыходжу да яе, працягваю рукі, каб абняць, ды раптам бянтэжуся: тут жа чужы чалавек.

— Гарачае чырвонаармейскае прывітанне намесніку старшыні райвыканкома,— імкнуся згладзіць жартам сваю няёмкасць.

— Цёця Клава, гэта мой сябар. Сем гадоў не бачыліся, а ён баіцца мяне пацалаваць,— смяецца Любаша.

— Дазвольце выправіць памылку, таварыш намеснік старшыні.

— Паспрабуйце,— зноў смяецца яна.

Заходзім у кабінет. Любаша садзіцца за стол і скідае з галавы хусцінку.

— Цяжка, Сцёпа, працаваць,— гаворыць яна стомленым голасам.— Але я не магла б жыць без гэтага.

Міжволі ўспамінаецца Чэхаў: «У чалавека ўсё павінна быць прыгожае: і твар, і адзенне, і душа, і думкі». Такая Любаша — у яе ўсё прыгожае...

— Як ты жывеш, Сцёпа?

— Па статуту...

— У Міронава быў?

— Раніцай. Калі ты званіла.

Больш яна ні пра што не пытаецца. Глыбока задумваецца.

— Ты аб чым?

— Аб мінулым...

Яна бярэ дарожны чамаданчык, дастае адтуль фота і падае мне. Юры Мяцельскі ў форме камісара кавалерыйскага эскадрона.

— Гэта мне прыслаў нядаўна адзін прафесар з Масквы. Некалі ваяваў разам з Юрам. Усе гады мяне шукаў.—У яе вачах блішчаць слёзы.— Юрку бачыў?

— Бачыў. Слаўны хлопчык. Разумны. Заладзіў адно: танкістам буду і больш нічога!

— Ён ужо што надумае — не адступіцца,— усміхаецца Любаша.

6

— Ну, што дома? — пытаецца камандзір палка, выслухаўшы мой рапарт аб вяртанні з адпачынку.

— Усё ў парадку. Дазвольце ісці?

— Што вы зараз збіраецеся рабіць?

— Прывесці сябе ў парадак. Разабраць рэчы...

— Разабраць рэчы? Вы павінны іх сабраць, а не разабраць.

— Як гэта?

— Мы расстаемся з вамі назаўсёды.

Я паспрабаваў усміхнуцца, хоць у мяне неяк пахаладнела ў сярэдзіне.

— Чаму? У чым я правініўся?

— Ні ў чым вы не правініліся, таварыш Шутаў. Атрыманы загад перасадзіць вас на іншага каня.

— На якога?

— На сталёвага. Паедзеце ў Ленінград на бранятанкавыя курсы.

Я быў ашаломлены: на бранятанкавыя курсы мяне, конніка? Ці не выйшла тут якое памылкі? Не, конніцу я пакінуць не магу.



— Спадзяюся, вы апраўдаеце давер'е...

— Пастараюся апраўдаць. Але мне шкада з конніцай расставацца... Таварыш камандзір, калі яшчэ не позна...

Камандзір паглядзеў на мяне са спачуваннем. Стары коннік, ён ведаў, што азначае расстацца з баявым канём.

— Для камуніста,— сказаў ён нарэшце,— не важна, дзе служыць, а важна, як служыць. Тэхніка развіваецца, патрэбны адукаваныя камандзіры.

Развітваюся са сваім эскадронам. Яшчэ раз прыходжу на манеж. Стаю з чамаданам у руцэ і ніяк не магу пайсці. Няўжо я больш ніколі не вярнуся сюды? Колькі разоў даводзілася ад'язджаць з роднай часці на курсы, у камандзіроўку, але я ведаў: калі не вярнуся ў свой полк, дык у другі, але кавалерыстам застануся. Я — коннік, будзёнавец. А цяпер, упершыню за ўсю службу ў Чырвонай Арміі, я зноў, як маладзенькі дапрызыўнік, еду ў невядомы свет.

Ленінград. Я многа чуў пра гэты слаўны горад — калыску рэвалюцыі. Тут рабочыя, салдаты, матросы штурмавалі Зімні. Як сустрэне мяне гэты горад? Я ж тут павінен пачаць сваё армейскае жыццё з самага пачатку!

З'яўляюся да начальніка курсаў. Дакладваю, хто я такі. Ён накіроўвае мяне ў інтэрнат, дзе жылі курсанты. Вялікі двор. Незнаёмыя, цікаўныя вочы.

— З конніцы?

— З конніцы.

Праходжу каля адной вясёлай групы.

— Шутаў!

Шукаю вачамі таго, хто паклікаў. Ніводнага знаёмага твару.

— «Спартак»! Што ж ты!..

Што за дзіва! «Спартаком» празвалі мяне некалі ў школе ВЦВК...

Група расступаецца, і перада мною — Саша Кіквідзе.

— А, «Акурак»! Здароў! І цябе скінулі з сядла?

— Так точна, таварыш былы камандзір эскадрона.

Я ўжо не адзін. Нас двое. А да канца дня ў мяне ўжо многа таварышаў. Гуляем па двары, ідзем разам вячэраць. Дамаўляемся «як-небудзь» трапіць у адну вучэбную групу.

Ноччу да мяне ў ложак перабіраецца Саша. Кладзецца ля сцяны і доўга маўчыць. Нарэшце глыбока ўздыхае.

— Што такое танк? Машына, жалезны шкілет,— пачынае ён дрыжачым голасам.— Тут галоўнае што? Гаручае, масла, запасныя часткі. Ты над ім не гаспадар. Ён камандуе табой. А конь? Жывая разумная істота! Ты яго разумееш, ён — цябе. Не. Падам рапарт. Няхай спісваюць на бераг!

— Не спяшайся, Саша, паглядзім.

— Вось дзівак! А чаго тут чакаць? — падхопліваецца ён.— Пішы рапарт — і баста! Адмовяць — скардзіцца будзем.

Супакоіць гэтага гарачага хлопца мне не ўдалося, таму што словы мае гучалі не вельмі пераканаўча.

Назаўтра нас сабралі ў вялікай зале і прачыталі грунтоўны даклад аб танках.

«Танк» — слова англійскае. Азначае яно — «бак». Першы танк паявіўся ў англічан, але радзіма яго — Расія. Яшчэ ў 1911 годзе сын славутага рускага вучонага Мендзялеева — інжынер пецярбургскага суднабудаўнічага завода Васіль Дзмітравіч Мендзялееў прадставіў ураду праект усюдыходнай гусенічнай машыны. Гэтая машына інжынера Мендзялеева лічыцца першым у свеце танкам, хоць і не была пабудавана

па віне царскіх чыноўнікаў. Толькі праз дзевяць гадоў у жніўні 1920 года з варот «Чырвонага Сормава» выйшаў першы савецкі танк. Рабочыя, выконваючы ганаровы заказ Уладзіміра Ільіча Леніна, у выключна цяжкіх умовах стваралі свайго першынца. Не было ў іх ні абсталявання, ні вопыту. Дэталі рабіліся ўручную. Адольваў і голад, і холад. Але танк нарадзіўся. Яму далі назву — «Змагар за свабоду таварыш Ленін». Следам за гэтай машынай было выпушчана яшчэ чатырнаццаць, куды лепшых, чым замежныя.

Заканчваючы гэтую першую сустрэчу з намі, дакладчык сказаў:

— Цэнтральны камітэт партыі і савецкі ўрад аддаюць шмат увагі гэтаму роду войск. На нас, будучых камандзіраў танкаў, партыя ўскладае вялікія надзеі.

Пачалася вучоба. Мы займаліся, як кажуць, да сёмага поту. Неўзабаве Саша Кіквідзе, я і многія іншыя курсанты пераканаліся, што танк — разумная машына.

— Саша, калі ж мы напішам рапарт? — напомніў я яму аднойчы нашу начную размову.

— Здаюся,— падняў ён рукі ўгору. І тут жа загаварыў пра танк з такім гонарам, з якім некалі гаварыў пра каня.— Што такое танк? Самая разумная машына на свеце. Пасябруеш з ёю — не падвядзе. Партыя паставіла перад намі задачу: авалодаць танкам, зрабіць яго грознай зброяй. І мы — кроў з носу!— з гэтай задачай справімся. Ды яшчэ як!

Ва ўсіх нас жыло гэтае пачуццё гордасці і адказнасці за даручаную партыяй справу. Мы стараліся настойліва вучыцца, пранікнуць ва ўсе таямніцы машыны. Нават ў вольныя хвіліны мы вывучалі матор, хадавую частку, вучыліся артылерыйскай справе.

Выхадны дзень. Хочацца паглядзець новы фільм, схадзіць у Эрмітаж або проста пагуляць па набярэжнай Нявы, а ідзеш у танкавы парк. Яшчэ і яшчэ раз правяраеш, што ўжо ведаеш, а што трэба падвучыць. Асабліва цікавыя былі заняткі на танкадроме. Тут спецыялісты танкавай справы не толькі выпрабоўвалі новыя мадэлі машын, але і правяралі нашы веды, нашы валявыя якасці. На гэтых курсах было нялёгка вучыцца. Колькі прыйшлося патраціць часу, сіл, каб быць дапушчаным да баявой машыны!

Вадзіць танк мы спачатку вучыліся на трэнажоры. Ён увесь час хістаецца, і ствараецца ўражанне, што знаходзішся ў баявой машыне. Тут трэба было прывучыцца адначасова працаваць рукамі і нагамі так, як гэта робіць танкіст, калі вядзе машыну. Пазней нам даверылі руль трактара, і толькі пасля гэтага — танк. Кавалерысту, каб зрушыцца з месца, дастаткова злёгку нацягнуць повад і ледзь кранучца наском конскіх бакоў. А каб зрушыць з месца танк, сіла спатрэбіцца немалая. Танкіст павінен быць дужы, фізічна развіты. Таму нам давялося трэніраваць свае мускулы ў спартыўных залах і на спортпляцоўках.

З асаблівымі цяжкасцямі многія з нас сутыкаліся тады, калі мы падышлі да вырашэння складаных тактычных задач. Адзін курсант, былы коннік, так і не вытрымаў — збег. Колькі мы яго не адгаворвалі, Кіквідзе праседжваў з ім у танку цэлыя гадзіны, нічога не памагло.

— Танкістам усё роўна не буду, — гаварыў ён нам. — Таварыш Будзённы мяне зразумее.

І вярнуўся назад, у конніцу.

Пасля курсаў мяне накіравалі камандзірам вучэбна-танкавай роты, якая знаходзілася ў некалькіх дзесятках кіламетраў ад майго роднага Дварца. Тут я пачаў вучыць навічкоў, якія потым, у час Вялікай Айчыннай вайны, камандавалі буйнымі танкавымі злучэннямі пад Масквой, Сталінградам, ля Дняпра, удзельнічалі ва ўзяцці Берліна.



Аднойчы ў нашу часць прыехала дэлегацыя калгаснікаў з майго раёна. Яе ўзначальвала Мяцельская. Госці прывезлі танкістам многа каштоўных падарункаў і тут жа пачалі іх раздаваць. У гэтай святочнай мітусні мы з Любашай перамовіліся некалькімі словамі:

— Чаму ты не ўзяла з сабой Юру?

— Баялася, што ён прымусіць цябе пры ўсіх пачырванець. Ты ж казаў, што ніколі не пакінеш конніцу...

— Прыйшлося, Любаша, перасесці на танк.

— Ты шкадуеш аб гэтым?

— Ніколькі. На ім, калі буду вучыцца, мне, відаць, прыйдзецца доўга сядзець.

Так яно і выйшла. Прамысловасць наша развівалася бурнымі тэмпамі. Удасканальваліся і баявыя машыны. Я зноў паехаў у Ленінград вучыцца і зноў атрымаў новае заданне. На гэты раз — у Кіеў.

7

Вясна 1936 года.

Поезд ідзе па зямлі Украіны. Шырокія палі. Лясістыя ўзгоркі. Хмызнякі. Успамінаю свайго сябра Міцю Градзюшку, яго маці, з якой перапісваюся ўсе гады. Яна жыве непадалёку ад Дняпра.

— Дняпро яшчэ далёка?..

— Не, таварыш старшы лейтэнант, блізка ўжо. Зараз убачыце, — адзываецца сусед па купэ.

Поезд прыцішае ход. Зеленавата-жоўтая вада цячэ паміж цяжкімі быкамі маста. Шырока разліўся сівы Дняпро!..

Праязджаем гарадскія ўскраіны. Ля вокан праплываюць домікі ў засені садоў. Ля аднаго з іх заўважаю пажылую жанчыну: стаіць і глядзіць услед поезду. Можа гэта Марыя Піліпаўна? Градзюшкава маці? Сёння ж я павінен пабачыцца з ёю.

...Саломенка. Недзе тут жыве Марыя Піліпаўна Градзюшка...

— Ву-унь у тым доміку, — указвае мне прахожы.

Адчыняю брамку. Змаўкае дзіцячы смех. Хлопчык і дзве дзяўчынкі глядзяць на мяне з цікаўнасцю. Здагадваюся, хто яны. Марыя Піліпаўна ўзяла іх з дзіцячага дома. Хлопчыка назвала Міцем, — як сына, а дзяўчынак Валяй і Соняй — імёнамі дочак, якія загінулі, як і сын, у гады грамадзянскай вайны.

— Міця, Валя, Соня, мама дома?

Дзеці пераглядваюцца: адкуль я іх ведаю?

— Вы хто такі, таварыш старшы лейтэнант? — пытаецца Міця.

— Вы — дзядзька Сцяпан? — здагадваецца Валя.

— Ты ўгадала.

— Ма-а-ма! Дзядзька Сцяпан прыехаў! — закрычалі дзеці хорам.

Я думаў, што сустрэну старую, прыбітую горам жанчыну, але Марыя Піліпаўна выглядае маладжава. Відаць, гэта чалавек моцнай духоўнай сілы.

Яна абдымае мяне, як роднага сына, дзякуе, што не забываю яе, і тут жа бярэцца накрываць стол.

— Боршч украінскі любіш? Са смятанай?..

Пасля абеду яна адсылае дзяцей гуляць і садзіцца побач са мною.

— А цяпер раскажы пра сына.

Я расказваю ўсё. Пра нашу дружбу, пра яго гераічную смерць. Нейкі момант яна маўчыць, а потым ціха гаворыць:

— Дзякуй за добрае слова пра Міцю. І бацька яго загінуў гэтак жа ў дзевяцьсот пятым, пакінуўшы мяне з трыма дзецьмі. Спачатку думала — не выжыву, з малымі хацела ў Дняпро кінуцца. Але чалавек — мацней за жалеза, вось я табе што скажу. Усё залежыць ад яго самога, ці хоча ён быць такім. Бачыў, якія ў мяне дзеці? Хоць і не родныя яны мне, але, будзь спакойны, вырастуць яны такія ж, як мой Міця, як мае дочкі. Ні бура іх не сагне, ні хваля не змые.

Пазней, калі я вучыў маладых танкістаў быць мужнымі ва ўсякіх складаных абставінах, перада мною заўсёды стаяў вобраз цудоўнай мужнай жанчыны — Марыі Піліпаўны Градзюшкі.

— Чалавек — мацней за жалеза,— паўтараў я яе словы.— Усё залежыць ад яго самога, ці хоча ён быць такім.

Я наведваў курсы ўдасканалення камсаставу пры кіеўскім Доме Чырвонай Арміі. З раніцы да вечара — у часці, з вечара да поўначы — на курсах. З поўначы да раніцы — падрыхтоўка ўрокаў, распрацоўка тактычных задач. Часам я проста валіўся з ног ад стомы. Але варта было ўспомніць словы Марыі Піліпаўны — і я зноў станавіўся мацнейшы.

Нарастала пагроза вайны. Трэба было хутчэй авалодваць новай тэхнікай. Наша часць не чакала добрага надвор'я для выезду на вучэбны палігон. Наладжваючы паказальныя баі, мы імкнуліся наблізіцца да той абстаноўкі, якая бывае на вайне. Мы не палягчалі сабе задач, бо ведалі: вайна — гэта найвялікшае выпрабаванне ўсіх якасцей, усіх маральных і фізічных сіл салдата.

... На акруговых манеўрах удзельнічала і мая танкавая рота. Камандуючы акругі пад'ехаў да нас на машыне разам з Клімentам Яфрэмавічам Варашылавым.

— Пакажыце, таварышы, як умееце падпарадкаваць сваёй волі машыну, — сказаў камандуючы.

Мы паказалі, як мы водзім танкі, як пераадольваем перашкоды, як выручаем адзін аднаго ў бai.

— Малайцы! — пахваліў нас маршал. — Вы бясстрашныя і верыце ў перамогу. А гэта — самае галоўнае. Наша машына павінна быць самай лепшай у свеце, таму што ёю кіруе савецкі воін, таму што яна служыць справе міру, справе сацыялізма.

8

«По морям, по волнам, нынче — здесь, завтра — там», — спяваецца ў старой матроскай песні. Гэтыя словы адносяцца і да салдата, асабліва да камандзіра. «Аседлае» жыццё для яго не існуе. Сёння — тут, заўтра — там. Камандаванне пасылае цябе туды, куды лічыць неабходным.

У канцы 1939 года белафіны напалі на нашу Радзіму. Я падаў рапарт з просьбай, каб мяне накіравалі на фронт. Атрымаў адказ: «Неадкладна выязджайце ў Маскву».

Перад ад'ездам пайшоў развітацца з Марыяй Піліпаўнай. Сядзім з ёю ля стала, гаворым, жартуем. Пра ад'езд — ні слова. Раптам Марыя Піліпаўна становіцца нейкаю заклапочанай, невясёлай.

— На фронт едзеш, Сцёпа? — пытаецца яна.

— Чаму вы так думаеце?

Яна сумна ўсміхаецца.

— Я — маці. А маці ўсё бачыць.

Прыйшлося прызнацца.



— Адпраўляюць ці сам, добраахвотна?

— Рапарт падаў, выклікаюць.

Жанчына трымалася, трымалася, а калі я пачаў развітвацца — заплакала.

— Ці ўбачымся мы яшчэ?

— Убачымся. Абавязкова.

Марыя Піліпаўна і дзеці праводзілі мяне да трамвая.

— Будзеш пісаць? — спыталася яна.

— Буду. Кожны дзень, — крыкнуў я ўжо з падножкі.

— Беражы сябе! Беражы-ы-ы!..

Выпускаючы белыя клубы пары, паравоз марудна цягнуў вагоны пад шкляны дах Кіеўскага вакзала. Я не мог дачакацца, пакуль ён спыніцца, і на хаду саскочыў з падножкі. Можа яшчэ заспею эшалон, што адпраўляецца на фронт...

На прывакзальнай плошчы ўзяў таксі.

— Братка, цісні на ўсе педалі! — папрасіў шафёра.

Праз паўгадзіны, выціраючы хусцінкай узмакрэлы лоб, я ўжо стаяў перад начальнікам, які выклікаў мяне сюды, у Маскву.

— Таварыш капітан, вы назначаны камандзірам цяжкага танкавага батальёна, — паведаміў ён і назваў незнаёмы горад у Сярэдняй Азіі.

Вось табе і фронт!

— Я пісаў рапарт...

— Чыталі, чыталі ваш рапарт... І знайшлі патрэбным накіраваць вас у другое месца. Ясна?

Ясна. Пытанняў няма. Дарэмна на хаду саскокваў з поезда, дарэмна шафёр гнаў таксі. Не спяшаючыся, іду ў білетную касу. Поезд адыходзіць ноччу. Куды дзець вольны час? Мусіць, трэба даведацца, што гэта за горад, куды мяне пасылаюць, і які Калумб яго адкрыў.

У бібліятэцы Дома Чырвонай Арміі бяру трыццаць сёмы том энцыклапедычнага слоўніка Бракгаўза і Эфрона. Ёсць! «Даволі добраўпарадкаваны горад... Больш шасці тысяч жыхароў — рускія, армяне, персы і іншыя. Некалькі цэркваў, малітоўных дамоў. Адзін урач, два фельчары і акушэрка...» Нічога сабе, добраўпарадкаваны, асабліва пасля Кіева!

Ці не заглянуць яшчэ ў Вялікую Савецкую? Не, не трэба. Том выдадзены некалькі год назад, а нашы гарады вельмі хутка мяняюць свой воблік.

Прыязджаю на месца і трапляю сапраўды ў добраўпарадкаваны гарадок. Вузлавая станцыя. Аэрапорт. Электрастанцыя. Чатыры школы. Тэхнікум. Парк культуры і адпачынку. Дзве бібліятэкі. Бальніца, дзіцячыя сады, яслі. Два кінатэатры. Вось і вер слоўніку пасля гэтага!..

Кідаецца ў вочы выключная ўдзячнасць і любоў да рускага народа, які абудзіў гэты далёкі, закінуты куток.

Байцы і камандзіры нашай часці з вялікай цікавасцю адносяцца да песень, якія тут пяюць, развучваюць з моладдзю новыя, савецкія песні.

Хутка ўсе мы палюбілі гэты гарадок і яго жыхароў. Ды гэта і зразумела: дзе б ты ні быў, у якім кутку нашай неабсяжнай Радзімы ні апынуўся б, — усюды ты дома, усюды ты — сярод сваіх.

Да аднаго толькі нам цяжка было прывыкнуць — гэта да клімату. Пражыўшы многа год у Беларусі, Маскве, Ленінградзе, Кіеве, я нялёгка пераносіў спёку. Зіма тутэйшая не падобная на маскоўскую ці кіеўскую. У лютым ужо цвітуць абрыкосы, зеленеюць палі, высокія барханы пакрываюцца прыгожым дыванам кветак. Асабліва прыгожа цвіце тут мак: ад яго гарыць усё наваколле.

Вучэнні праводзіліся ў стэпе. У пясках, на барханах танкісты праходзілі баявую і тактычную падрыхтоўку. Гарачыня дасягала 50—60 градусаў. Браня награвалася так, што да яе нельга было дакрануцца. Але самым страшным былі вятры. Яны падымалі горы распаленага пяску і кацілі іх па стэпу. Часам здавалася, што зямля плыве з-пад ног і ты правальваешся ў нейкае бяздонне. Гарачы пясок засыпаў вочы, — і акуляры не выратоўвалі! — забіваў вушы, ноздры, рот. Вецер лютаваў нядоўга, але паспяваў засыпаць танкі пяском так, што яны ледзь выбіраліся з-пад яго. Але нас нішто не магло спыніць: мы ведалі — цяжка ў вучэнні, лёгка ў баі.

Аднойчы да нас у лагер прыйшоў стары туркмен. Прывітаўся з байцамі і папрасіў, каб яго правялі да камандзіра.

— Таварыш камандзір, — прыклаў ён абедзве рукі да грудзей і пакланіўся. — Я кальхос, бальшая кальхос — панымайш?

— Разумею, — адказваю яму.

Стары растлумачыў, што яго прыслалі калгаснікі, каб папярэдзіць танкістаў: у пясках многа гадзюк.

— Вось, — і ён дастае з-за пазухі халата забітую, метраў з пяць у даўжыню, гадзюку.— Пакажы фсем. Фсем,— абвёў ён вакол сябе рукой.

— Дзякуй, — моцна цісну руку старому. — Перадайце калгаснікам нашу падзяку.

Стары абяцае перадаць мае словы. З хвіліну памаўчаўшы, ён уважліва глядзіць на мяне, потым, хутка-хутка замахаўшы рукамі, пачынае гудзець.

— Самалёт? — спрабую ўгадаць я.

Старшы лейтэнант Аўчарэнка выступае ў ролі перакладчыка:

— Вецер, кажа стары, будзе. Моцны, нядобры.

— Ведаем, — кажу я старому. — Мы не баімося ветру. Савецкія танкісты вучацца ваяваць пры ўсякіх умовах.

— Карош, — згаджаецца стары, прыкладвае руку да сэрца і раскланьваецца з намі.

9

Мне доўга не было пісем. А тут прынеслі адразу тры. Дырэктар саўгаса заве мяне ў госці. Прыязджай, маўляў, ты ж даўно не быў дома. А ў нас цяпер ёсць на што паглядзець.

Марыя Піліпаўна запрашае ў Кіеў. «Прыязджай хоць на тыдзень. Сумна нам без Міці. Ён у армію пайшоў...».

Саша Кіквідзе піша з Малдавіі. Яго танкавы батальён стаіць ля самага Днястра. Яму падабаецца гэтая рака, але Кура — куды лепшая. І даўжэйшая. На сто чатыры кіламетры... «Сінявокі эскулап» (ён мае на ўвазе сваю жонку-ўрача) нарадзіла маленькую грузінку. Так што бяры адпачынак — і ўсёй сям'ёй да мяне».

Паказваю гэтыя пісьмы нашаму доктару.

— Вам, таварыш капітан, лепш з'ездзіць на курорт. У Сочы або Ялту.

— Вось правядзем вучэнні, тады, можа, і падумаем...

— Не разумею, таварыш капітан, навошта вы мучыце людзей у такую спёку? На гарызонце — спакойна, вайны няма і не будзе...

Мне таксама не верылася, што нехта асмеліцца выступіць супраць нас, такой моцнай ваеннай дзяржавы. А між тым вайна ўжо ішла. Нямецкія фашысты акупіравалі Чэхаславакію, Польшчу, Данію, Нарвегію, Галандыю, Бельгію, Францыю...





— Можа вайны і не будзе,— кажу я доктару,— але рыхтавацца да яе ўсё-такі трэба... Ідзіце адпачываць, доктар. Заўтра выхадны...

Назаўтра раніцай я паголіўся, апрануў парадную форму і выйшаў паглядзець, як пачаўся выхадны дзень у часці. Дзень выдаўся сонечны. На небе — ні хмурынкі. Пачынала прыпякаць сонца.

Першая мне трапіла на вочы жонка нашага сакратара партбюро Кошалева. Гэтая заўсёды акуратная жанчына стаяла на вуліцы ў нейкім старэнькім халаце, непрычэсаная, і з трывогай пазірала ў той бок, дзе размяшчалася наша часць.

— Марыя Мікітаўна, што здарылася?

— Нічога... Нічога асаблівага...

— Кошалеў дома?

— Яго тэрмінова выклікалі ў часць. — Яна падышла да мяне і ціха, шэптам, дадала: — Вайна, кажуць, пачалася. Кошалеў пабег...



Пабег і я. Днявальны дакладвае: усё ў парадку, за ноч ніякіх здарэнняў не адбылося. І таксама па сакрэту:

— Чуткі ходзяць пра вайну, таварыш капітан. Правакацыя гэта... Самі ведаеце: усякія тут шаманы...

Імчуся з усіх ног у штаб часці. Адказны дзяжурны дрыжачым голасам паведамляе: фашысцкая Германія... без аб'яўлення вайны... вераломна напала на нашу Радзіму. На світанні нямецкія самалёты бамбілі Мінск, Кіеў Севастопаль.

Вушы чуюць, а сэрца не верыць. Няўжо вайна? Якія толькі меры ні прымаў наш урад, каб пазбегнуць яе! Усё роўна ўспыхнула! Рэкі крыві, слёзы, разбурэнне, голад, сіроты, удовы... Як жа гэта магло здарыцца? Толькі ўчора мы спявалі песні пра тое, як хутка імчаць нашы танкі, якая моцная іх браня, як высока ляцяць самалёты і якія моцныя нашы граніцы! І праз некалькі гадзін — прадуманы, распрацаваны ў штабах фашыстаў удар па ўсёй заходняй граніцы нашай Радзімы!

Фашысцкія забойцы вераломныя. Але як мы дапусцілі, каб яны грамілі нашы гарады? Дзе наша авіяцыя, зенітныя часці, артылерыя, танкісты, пехацінцы, пагранічнікі? Тут нешта не тое... Не тое...

Бамбілі Мінск! Родны, мілы горад! За апошнія гады ён так расцвіў... Кіеў! «Ен стары, але ўсё маладзее, маладзее»,— пісала мне Марыя Піліпаўна... У Кіеве мая жонка, дзеці.

Да мяне падыходзіць старшы палітрук Ціткін.

— Трэба склікаць мітынг,— стараецца ён гаварыць спакойна, але голас яго выдае.— Праўда, указанняў зверху няма, але будзем дзейнічаць так, як нам падказвае сумленне.

— Правільна. Збірай людзей разам з сем'ямі.

Радыё перадае заяву Савецкага ўрада. У ёй — цвёрдая ўпэўненасць

у перамозе. Слухае ўвесь асабовы састаў. Хмурыя твары танкістаў крыху весялеюць. Людзі ведаюць: наперадзе вялікая, цяжкая бітва з ворагам, але пераможцамі будзем мы. За некалькі тысяч кіламетраў адсюль ужо ідуць баі. У думках — мы там.

Мітынг. На трыбуну адзін за адным падымаюцца радавыя, камандзіры, жонкі камандзіраў. Яны гавораць аб сваёй гатоўнасці абараняць радзіму, бязлітасна біць ворага.

Выступае жонка камандзіра Аня Аўчарэнка. Вочы ў яе — чырвоныя ад слёз.

— Таварышы, я гавару ад імя жонак каманднага саставу,— заяўляе яна.— Мы просім, каб і нас, жанчын, здольных трымаць зброю ў руках, прызвалі ў армію. Будзем разам з мужамі, братамі, бацькамі біць ворага.— Яна працягвае старшаму палітруку Ціткіну спісаны ліст з вучнёўскага сшытка.— Гэта — спіс жанчын, якія жадаюць добраахвотна ісці на фронт. Мы заяўляем вар'яту-Гітлеру: «Настаў твой чорны дзень. Пасеяў вецер, пажнеш буру!»

Гэтую маладую, прыгожую жанчыну многія з нас недалюблівалі. Яна заўсёды трымалася неяк у баку ад усіх. Адмаўлялася ад грамадскай работы, не была ні на адным сходзе жонак камсаставу, выгаварвала мужу за тое, што на рабоце «прападае больш чым трэба».

Аўчарэнка, здольны камандзір і сумленны камуніст, не раз скардзіўся: «Люблю я яе вельмі, але цяжка мне з ёю. Мяшчанства ў ёй многа. І нічога з гэтым зрабіць нельга».

І вось гэтая жанчына запісваецца добраахвотніцай на фронт, гаворыць такія гарачыя словы! І мы не здзіўляемся. Відаць, пагроза, якая навісла над нашай Радзімай, разбудзіла і яе сонную дагэтуль душу.

Слухаючы кароценькую прамову Ані, я па-новаму адчуў, якія невычэрпныя сілы тояцца ў нашым народзе. Такі народ пад кіраўніцтвам сваёй роднай, выпрабаванай у баях, партыі, не можа не перамагчы.

## 10

Чырвоная Армія несла вялікія страты. Пад ударамі пераважаючых сіл нямецка-фашысцкай арміі яна вымушана была адступаць. Гітлер, загадзя сканцэнтраваўшы ля нашых заходніх граніц браніраваны кулак, выбраў зручныя пазіцыі для наступлення па ўсяму фронту — ад Баранцавага да Чорнага мора. Яго танкавыя і матарызаваныя дывізіі рваліся з Усходняй Прусіі цераз Прыбалтыку ў Ленінград, з Варшавы — на Мінск, Смаленск, Маскву, з раёна Любліна — на Жытомір, Кіеў... Гарэлі гарады, вёскі. Пярэмышль узяты. Львоў узяты. Мінск узяты...

— Таварыш капітан, чаму нас не адпраўляюць на фронт?

— Можа, Масква забыла пра нас?

— Няўжо будзем чакаць, пакуль фашысты сюды дабяруцца?

Тысячы такіх пытанняў задавалі танкісты, даўно гатовыя ўступіць ў бой. Адзін з іх нават адмовіўся ўзяць адпускную ў горад. «Мне сорамна! Людзям у вочы глядзець не магу...»

Нарэшце атрыманы загад: падрыхтавацца ў дарогу. Мець пры сабе толькі самае неабходнае.

— На вяселле едзем, — жартаваў Аўчарэнка. — Цёшча добрага зяця і без штаноў сустрэне з пашанай...

Ніхто не смяяўся. Усе былі ўзбуджаны: едзем на фронт!

Перад самым ад'ездам захварэў танкіст Ермалаеў. Доктар забараніў яго браць у дарогу — тэмпература. Камандзір роты Аўчарэнка



сказаў пра гэта Ермалаеву. Хлопец, нядоўга думаючы, як стаяў у адной бялізне, так і памчаўся ў штаб.

— Таварыш капітан! Я — здаровы. Дазвольце сесці ў танк — дакажу.

— Прыйдзецца застацца, таварыш Ермалаеў. Выздаравееце — дагоніце.

— Не пакідайце мяне, таварыш капітан. Па дарозе выздаравею. Я тут памру без сваіх...

Мы з Кошалевым, сакратаром партбюро, пераглянуліся. Ён мяне зразумеў і моўчкі згадзіўся са мною.

— Добра. Паедзеце. Толькі, канешне, не ў такім выглядзе...

Хлопец аж падскочыў ад радасці.

Потым я ўбачыў Ермалаева, калі ён разам з другімі танкістамі атрымаў зялёныя франтавыя пятліцы.

— Як вы сябе адчуваеце, Ермалаеў? Тэмпература яшчэ ёсць?

— У тэрмометры засталася, — бадзёра адказаў ён.

Наш батальён першы пагрузіўся ў эшалон. Усе гатовы: танкі размясцілі на адкрытых пляцоўках, людзей — у крытых вагонах. Пад'язджае апошняя машына з сухарамі і канцэнтратамі. З гары мяхоў і фанерных скрынак саскоквае малады высокі палітрук з нядаўнім глыбокім шрамам на скроні. На грудзях у яго — ордэн Чырвонай Зоркі.

— Палітрук Загарулька, — знаёміцца ён. — Назначаны вашым намеснікам па палітчастцы.

Паціскаю яму руку. Кажу тое, што звычайна кажуць у такіх выпадках: «Рад». А сам думаю: «Ці паладзім мы з табою?.. Ці знойдзем агульную мову?» Гляджу яму проста ў вочы: яны ў яго зеленаватыя, з залатымі іскрынкамі. Твар — просты, адкрыты.

— Бачу, вы ўжо абстраляны?

— Крыху...

Ён удзельнічаў у фінскай вайне. Быў камандзірам танка. За выкананне баявога задання ўзнагароджаны ордэнам. Потым быў цяжка паранены. Ледзь не згарэў у машыне. Доўга лячыўся. Са шпіталю пайшоў на курсы палітсаставу.

Палітрук мне спадабаўся з першага позірку. Ехалі мы з ім у адным вагоне. Ён быў не вельмі гаваркі. Чытаў Ясеніна. На прыпынках пераходзіў з вагона ў вагон. Не мітынгаваў, не гаварыў гучных слоў, а проста гутарыў з байцамі, як з таварышамі. За некалькі дзён яго ўсе так палюбілі, што, прызнацца, я нават пачаў яму зайздросціць. Чым жа ён прыйшоўся па сэрцы нашым байцам? Трэба паслухаць, пра што ён з імі гаворыць...

Палітрук Загарулька сядзіць, акружаны танкістамі з усіх бакоў. Яму задаюць пытанні. Ён адказвае.

— Раз на тое пайшло, то і я скажу, — умешваецца ў размову танкіст Васкабойнікаў.

— Гаварыце, гаварыце. Смялей, саромецца няма чаго. Начыстую!

— Такая справа... Гітлер напаў на нас нечакана. Добра, няхай будзе так — нечакана... На тое ён сволач. Але чаму, таварыш палітрук, народ наш дапусціў да гэтага? Драпаем, драпаем — колькі ж можна? Душа, таварыш палітрук, разрываецца...

— І ў мяне душа разрываецца. І ў Філімонава, Алмазава, Грыцюка, Аліханяна...

«Бач ты! — думаю сам сабе. — У часці — лічаныя дні, а колькі людзей ведае!»

— А вось народ, таварыш Васкабойнікаў, — прадаўжае палітрук, — па-мойму, тут ні пры чым.

— Выходзіць, вінаватага няма? — у словах Васкабойнікава адчуваецца і здзіўленне і крыўда. — Але ж так не бывае! Можа, вінаваты часці, што стаялі на граніцы? Сабраліся там адны баязлівцы і...

— Баязлівцы? — перабівае Загарулька. — Пад Львовам полк «трыццацьчацвёрак» разбіў цэлы фашысцкі корпус. Хто ж сядзеў у нашых танках — баязлівцы? Каля Рава-Рускай жменька пагранічнікаў два дні стрымлівала націск батальёна фашысцкай пяхоты і змагалася да апошняга дыхання. Баязлівцы яны?.. А пад Ноўгарад-Валынскім тры нашых «ястрабкі» ўступілі ў бой з шаснаццаццю нямецкімі знішчальнікамі. Дзевяць з іх збілі і самі згарэлі. Можа яны — баязлівцы?

— Выходзіць, таварыш палітрук, што вінавата начальства пагранічных акруг? — робіць вывад Філімонаў.

— Не,— круціць галавой Загарулька.— Камандуючых акругамі вінаваціць таксама нельга. Гэта будзе несправядліва. Тут, відаць, справа іншая. Нашы меры перасцярогі супраць раптоўнага нападу былі, відавочна, недастатковыя, запозненыя.

У вагоне настае цішыня. Танкісты апускаюць галовы. Я скоса паглядаю на палітрука. Ці да месца тут такія разважанні?..

Цішыню парушае Загарулька:

— Ну, чаго насы павесілі? Ведаеце, на што разлічаны план «маланкавай вайны»? На слабасць нашай арміі, на нетрываласць нашага грамадскага ладу. Гэта ж авантура! Няхай у Гітлера часовая перавага ў тэхніцы, але мы яго ўсё роўна разаб'ём. Дарэчы, тут і мне выпадае магчымасць звесці з ім свой рахунак,— паказвае Загарулька на шрам.

— Вас жа белафіны паранілі,— заўважае сержант Кананян.

— Мяне параніў белафін, праўда. Але страляў ён нямецкім патронам, з нямецкай вінтоўкі, па загаду Гітлера. Вы мяне, зразумелі, таварыш Кананян?

— Зразумеў, таварыш палітрук.

— У мяне таксама ёсць за што палічыцца з Гітлерам,— гаворыць старшына Даранскі.— За свой родны Мінск. Я там працаваў на заводзе, а яны, гады, бамбілі яго.

— А я — за Севастопаль.

Як трапна б'е ў цэль гэтая простая, шчырая гутарка! Загарулька ведае байца. Ведае, што для слухачоў няма нічога нуднейшага за аднастайнае, дзячкоўскае чытанне па пісанаму. І таму гаворыць проста, шчыра, пераканаўча.

— А цяпер спяем, хлопцы? — пытаецца палітрук.— Філімонаў, наш Лемешаў, пачынай!

Філімонаў запявае:

Если завтра война...

Хлопцы падхопліваюць:

Если завтра в поход,
Если темная сила нагрянет...

І ўжо спявае ўвесь эшалон:

Как один человек,
Весь советский народ
За Советскую Родину
встанет!

Два паравозы, цяжка сапучы, становяцца ўперадзе нашага састава. Свісток. Мы з Загарулькам пераходзім у свой вагон. У тамбуры палітрук спыняецца і, гледзячы мне ў вочы, пытае:

— Капітан, як вы думаеце: ці павінен доктар гаварыць праўду хвораму, калі яму пагражае небяспека?



— Гледзячы якому хвораму...

— Вось іменна: гледзячы якому! У нашага байца нервы моцныя і духам ён не слабы. Вось чаму я лічу, што яму трэба гаварыць праўду. Толькі праўду! Ён усё зразумее правільна.

## 11

Ішла самая вялікая, самая цяжкая з усіх войн, якія прыйшлося перажыць народам нашай Радзімы за ўсю іх шматвяковую гісторыю. Смерць стаяла ў вачах савецкага чалавека, але ён не адступіў перад ёю. Ён ішоў насустрач смерці, упэўнены, што пераможа яе.

На адной станцыі да нашага эшалона падышлі два пажылыя ўзбекі.

— Калі ласка, вазьміце нас з сабою... Калі ласка...— пачаў прасіць адзін.

— Вельмі просім,— падхапіў другі.— Мы будавалі вялікі Ферганскі канал. Медалямі вось узнагароджаны...

Пытаемся: куды, чаго?

— На фронт. Нашы сыны, мой малодшы, яго — старэйшы, пад Пярэмышлем ваююць.

— Дык што ж з таго?

— На вайне чым больш людзей — тым лепш. Дык вазьміце, вельмі просім. І заслугі ў нас ёсць. Сам Міхаіл Іванавіч Калінін нам рукі паціскаў за Ферганскі канал.

Доўга прыйшлося даказваць гэтым двум цудоўным людзям, што такія пытанні вырашаюцца ў мясцовым ваенкамаце.

— Вы лепей больш бавоўны давайце,— сказаў Загарулька.— Мы будзем біць Гітлера снарадамі, а вы — бавоўнай.

Наш эшалон рушыў у дарогу, а ўзбекі так і засталіся стаяць на станцыі. Яны, мусіць, рашылі паспрабаваць шчасця ў больш «свядомых» таварышаў.

На вялікай станцыі паміж Ташкентам і Бухарой проста да нашага эшалона пад'ехаў грузавік. З кабіны выскачыў шустры чалавек у цюбіцейцы.

— Падарунак вам, таварышы, ад калгаса імя Будзённага прывёз: два дзесяткі бараноў. У дарозе спатрэбяцца...

— Дзякуй, не трэба,— сказаў я яму і тут жа спытаўся.— Навошта ж вы разбазарваеце грамадскае дабро?

Чалавек пакрыўдзіўся і бліснуў на мяне вачыма. За каго яго лічаць? Жулік ён ці што? Ён — старшыня калгаса. А вось пастанова праўлення, чытайце!

«Пастанова праўлення калгаса імя Будзённага.

Выдзеліць для воінскіх часцей Чырвонай Арміі, якія адпраўляюцца на фронт, бясплатна сто бараноў (не ў лік дзяржаўнага плана)».

— Цяпер бярэш, таварыш начальнік?..

— Нашто яны нам? Дзякуй, не возьмем.

Але старшыня калгаса перахітрыў нас. Пакуль мы з ім гаварылі, шафёр падагнаў машыну да адной з задніх платформ і выгрузіў на яе два дзесяткі бараноў з кормам на ўсю дарогу. Са старшыны Дзесятнікава, які дазволіў грузіць бараноў на сваю платформу, танкісты доўга пасмейваліся:

— Цяпер у цябе, Дзесятнікаў, машына на чатырыста конскіх і дванаццаць бараніх сіл.

Мы набліжаліся да Масквы. Адчувалася ўжо дыханне фронта.

На станцыі, дзе паравозы набіралі ваду, насупраць нас спыніўся

эшалон з дзецьмі. Ён ішоў з Львова. Маладая настаўніца, якая ехала ў гэтым эшалоне, пачала расказваць, як нямецкая авіяцыя ў першы ж дзень вайны засыпала бомбамі кварталы горада.

— За нашым эшалонам да самага Тарнопаля гнаўся самалёт,— сказала другая жанчына.— Гнаўся, гнаўся, пакуль не падпаліў тры вагоны.

— З дзецьмі?!

— З дзецьмі... Яны згарэлі...

— Забойцы! — скрыпнуў зубамі Загарулька.

Старшы сержант Ігнатаў, які разам з другімі пазіраў з дзвярэй вагона і ўсё некага шукаў вачамі, раптам крыкнуў:

— Лена! — і выскачыў з вагона.

Жонка старшыны Лена Ігнатава працавала на гэтай станцыі стрэлачніцай. І трэба ж было, каб яе дзяжурства выпала якраз у гэты час!

Яны не бачыліся больш чым год, у іх было пра што гаварыць. Але ці скажаш усё ў гэтыя кароткія хвіліны!

— Лена,— старшына кіўнуў на акно вагона, з якога выглядвалі, абняўшыся, двое малых.— Вазьмі іх. Няхай растуць у цябе.

— У нас,— паправіла Лена.— Я веру, ты вернешся... Толькі з перамогай, Грыша!

— Толькі з перамогай! — паўтарыў ён.

За стрэлачніцай і другія жанчыны падаліся да вагонаў. Яны клапатліва, з мацярынскай любоўю бралі на рукі дзяцей, выратаваных з абдымкаў смерці, і неслі іх дамоў.

На вачах у мяне накіпалі слёзы. І мае дзеці засталіся ў Кіеве. Дзе яны цяпер?..

Бранск. Станцыя ўся забіта эшалонамі. Адны ідуць на ўсход, другія — на захад. У вагонах — салдаты, на платформах — танкі, гарматы, пантонныя лодкі, жалезныя пралёты зборных мастоў. Наш састаў заганяюць у самы далёкі тупік.

— Хочуць пазнаёміць з «месершмітамі»,— жартуе Аўчарэнка.

Накіроўваюся да каменданта станцыі, каб далажыць аб прыбыцці і папрасіць дазволу ехаць далей. Праходжу каля эшалона з абсталяваннем нейкага завода. Рабочыя стаяць ля сваіх станкоў, як салдаты ля баявых машын. У вачах — смутак, горыч, боль.

— На фронт ці ў тыл? — пытаецца ў мяне рабочы з шырокім скуластым тварам.

— Пазней будзе вядома... — няпэўна адказваю я.

— Калі на фронт — зайздрошчу. У ваенкамат хадзіў — не памагло.

— Без трывалага тылу і армія ваяваць не можа.

— Ведаю, таварыш капітан. І ўсё ж фронт ёсць фронт!

— А вам, можа, некаторыя зайздросцяць, што едзеце не з усходу на захад, а наадварот...— кажу асцярожна, каб выведаць, што ж ён думае пра нас, пра армію.

— Хто зайздросціць? Ваенныя? Нашы байцы? Не веру.

Пакой, дзе сядзіць камендант, біткам набіты ваеннымі — камандзірамі часцей і злучэнняў. Многія чакаюць ужо другія суткі і нічога пэўнага дабіцца не могуць. Камендант, грузны рыжавалосы маёр, стомленым хрыплым голасам размаўляе па тэлефоне і адначасова адказвае людзям, якія насядаюць на яго з усіх бакоў.





Аднаму падпалкоўніку адразу пашанцавала. Называе сваю часць — і ў той жа момант атрымоўвае накіраванне.

— Да пабачэння, таварышы! — крычыць ён, выбягаючы.

Даходзіць чарга да мяне. Дакладваю.

— Вельмі добра,— гаворыць камендант, разглядаючы мяне чырвонымі ад бяссонніцы вачамі.— Ваш эшалон гатовы адправіцца ў дарогу? Цудоўна! Так і запішам...

— Запісвайце, ваша справа. А нам далей ехаць трэба.

— Трэба,— згаджаецца ён.— І я з вамі паехаў бы, таварыш капітан, ды — нельга! І вам пакуль нельга.

— Чаму?

Звоніць тэлефон. Камендант бярэ трубку і пачынае з некім сварыцца.

— Трыбуналам вас трэба судзіць! — крычыць ён злосна і кідае трубку на рычаг. Тым жа злосным голасам адказвае на маё пытанне: — Таму, што ў мяне няма распараджэння. Мая справа — запісаць, далажыць і чакаць указанняў. Як толькі атрымаю — адпраўлю вас.

Яго спакойныя разважанні пачынаюць мяне злаваць:

— Званіце, што танкі прыбылі. Разумееце — танкі!

— Наступны,— гаворыць ён, даючы зразумець, што размова закончана.— Ну і народ, гэтыя танкісты!.. Ідзіце, адпачывайце, прышліце за сябе сувязнога.

— Сувязны са мною. Лейтэнант Казлоў.

— Цудоўна!— камендант падае мне руку, другой бярэ тэлефонную трубку.— Ало. Слухаю. Ёсць. Будзе выканана.— Руку маю не адпускае да таго часу, пакуль не заканчвае размову па тэлефоне.— Беражыце нервы, капітан. Яны спатрэбяцца для больш сур'ёзных атак, чым на каменданта станцыі.

## 12

Чацвёртыя суткі стаім у тупіку. Байцы злосна жартуюць: «Жывём ды хлеб жуём, спім ды неба капцім». А камендант станцыі ўсё не дае адпраўлення. Я тройчы на дзень хаджу да яго. Ужо не спрачаюся. Надакучыла. Маёр пачынае мне падабацца. За гэтыя дні ён зусім неяк змарнеў і да таго ахрып, што гаварыць ужо не можа, а толькі шыпіць, як гусак.

— А, Шутаў! — сустракае ён мяне, як старога знаёмага.— Выспаліся? А я — не. Начальства кажа: «Выспішся, як будзеш камендантам Берліна». Не веру: камендантам Берліна мяне не назначаць.

Цішком назіраю за ім і думаю: «Бач ты яго, не сумняваецца, што ў Берліне будзе савецкі камендант!»

Добра, што станцыю не бамбяць. Неяк адзін нямецкі разведчык паказаўся быў паблізу. Зенітчыкі яго збілі.

— Тое, што фашысты не бамбяць такую важную вузлавую станцыю, гаворыць пра многае,— з задавальненнем зазначае Загарулька.— Крыльцы «бліцкрыгу» не такія ўжо моцныя.

З гэтым нельга не згадзіцца. Авіяцыя Гітлера пачынае патроху захліпвацца. А танкавыя армады? Яны ідуць і ідуць уперад, прабіваючы нашы заслоны і адкідваючы іх. Усё далей і далей на ўсход...

Радыё перадае пра новы напрамак. «На Смаленскім напрамку нашы часці адбілі новую атаку праціўніка». Дзе гэта? На захад ад Смаленска ці на ўсход?

Мой намеснік па палітчастцы любіць ставіць кропкі над «і».



— Калі б ішлі баі на захадзе ад Смаленска, то так бы і ўказвалася — «на захадзе».

У нас з палітруком атрымалася маленькая сутычка. Пачалася яна, як часта бывае, з дробязі. Загарулька не курыць. Я пацікавіўся:

— А курыў?

— Курыў. Па два пачкі ў дзень, бывала, выкурваў. Абстаноўка прымусіла кінуць.

— Абстаноўка? Якая?

— Турэмная.

Я вочы вытрашчыў: Загарулька сядзеў у турме? За што?

— Два гады адсядзеў, з трыццаць сёмага па трыццаць дзевяты. Як... вораг народа...

— Ад мяне вы гэта хавалі,— сказаў я з папрокам.

Загарулька перайшоў на афіцыйны тон:

— Таварыш капітан, я поўнасцю рэабілітаваны. Партыя даверыла мне палітработу ў арміі. І хаваць ад вас што-небудзь, як бачыце, няма ніякай неабходнасці.

— Разумею. Але вы хоць бы сказалі.

— Калі вы думаеце, што гэта прыемны ўспамін, то глыбока памыляецеся.

— На фінскі фронт вы пайшлі добраахвотна?

— Добраахвотна, таварыш капітан. Да арышту камандаваў танкавай ротай. Але пакуль я сядзеў, тэхніка зрабіла вялікі крок уперад, і мне прыйшлося крыху падвучыцца. Мне далі машыну.

Я зірнуў на яго правую скронь, потым на ордэн.

— Вы даказалі...

— Я, таварыш капітан, пайшоў на фронт не для таго, каб даказваць,— ускіпеў Загарулька.— Ды і каму я павінен быў даказваць? Сабе? Партыі? Дык яна не сумнявалася ў маёй адданасці. Ежову? Дык яго ўжо не было. Далі мярзотніку па руках.

Міма нашага вагона праходзіць старшына Кавальчук. Вітаецца. Даходзіць да хваста эшалона і паварочвае назад. Я адчуваю, што ў яго нейкая неадкладная справа, але падысці ён не асмельваецца. Клічу яго.

— Што здарылася, старшына?

— Таварыш капітан, дазвольце звярнуцца да палітрука.

— Звяртайцеся.

— Таварыш палітрук, дазвольце з вамі пагаварыць...

Загарулька і Кавальчук адыходзяць у бок. Праз нейкі час я падыходжу да іх. Мне карціць даведацца: чым гэта так устрывожаны наш самы дысцыплінаваны старшына?

— ...не паслухаў я яго ды яшчэ ад злосці выпаліў: «Ідзіце вы... сваімі камандуйце!»

— Каго гэта ён не паслухаў? — пытаюся ў Загарулькі.

— Старшага лейтэнанта Вейса.

«За непаслушэнства і абразу камандзіра старшыну трэба арыштаваць», — думаю я, але чакаю, што скажа палітрук.

— Усё? — пытаецца Загарулька ў Кавальчука.

— Усё, таварыш палітрук.

— Чаму ж вы адмовіліся выканаць загад старшага лейтэнанта Вейса? Хіба загад быў няправільны?

— Загад быў няправільны...

— Дык чаму ж?

— Ён жа — немец!..

— Дык што, калі немец? Старшы лейтэнант Вейс добры камандзір, савецкі грамадзянін, камуніст. Хіба вы гэтага не ведаеце?

— Ведаю. Але ж ён — немец. Яны ж дзяцей маленькіх забіваюць, вёскі паляць, людзей расстрэльваюць. Усе немцы — ворагі.
— Усе? А Эрнст Тэльман? Вільгельм Пік? Таксама ворагі?
— Што вы, таварыш палітрук!
— А тыя нямецкія антыфашысты, што пакутуюць у гітлераўскіх канцэнтрацыйных лагерах, таксама нашы ворагі?.. Вось закончыцца вайна. Фашысцкія полчышчы будуць разбіты. Мы ўвойдзем у Германію. Дык няўжо, вы думаеце, мы возьмемся знішчаць усіх да аднаго немцаў? Не? Ну, вядома, не! Яшчэ Суворaў некалі вучыў рускіх воінаў: «Салдат — не разбойнік». Наша армія гуманная. Яна прынясе нямецкаму народу свабоду, а не смерць. Так, таварыш старшына? Так. Мы будзем граміць ворага не таму, што ён немец, а таму, што ён фашыст, акупант, таму што ён сее смерць.
— Так точна, таварыш палітрук,— згаджаецца старшына.— Але ж сэрца гарыць ад гневу...
— Вас трэба было б за непаслушэнства і абразу камандзіра аддаць пад суд,— кажа Загарулька,— але, улічваючы, што вы шчыра прызналі сваю памылку, абмяжуемся гэтай размовай. А ў старшага лейтэнанта трэба папрасіць прабачэння.
— Будзе выканана, таварыш палітрук. Мне сорамна, што сваю злосць на ворага не туды накіраваў.
— Вось іменна — не туды! — смяецца Загарулька.
Застаемся ўдваіх.
— Цяжка, таварыш капітан, байцу, на вачах у якога льецца кроў яго народа, разабрацца, які немец добры, а які дрэнны. Згодны?
— Згодзен.
— Веру, што Вейс — ён жа разумны чалавек! — зразумее Кавальчука гэтак жа, як і мы з вамі. І ўсё ж трэба з ім пагаварыць. Чалавек застаецца чалавекам. У яго ёсць самалюбства.
Успамінаю нашу нядаўнюю сутычку.
— Загарулька, ты на мяне не крыўдзішся? — першы раз звяртаюся да яго на «ты».
— Чаго? А-а, ты вось пра што! — смяецца ён.— У мяне так: адрэзаў — забыў... Глядзі, лейтэнант Казлоў бяжыць!
Наш сувязны яшчэ здалёк робіць нам нейкія знакі.
— Здаецца, едзем...
— Едзем! — дакладвае радасна Казлоў.— Зараз адпраўляемся.
— Па ва-го-на-ах! — раздаюцца каманды днявальных.
Танкісты развітваюцца з тымі, хто застаецца чакаць адпраўкі. Вусаты чыгуначнік дастае з кішэні сярэбраны партсігар і працягвае яго сержанту Зыкаву.
— Ад мяне, сынок. Вазьмі...
— Што вы! За якія заслугі?
— За будучыя,— гаворыць чыгуначнік, хаваючы ў вусы ўсмешку.
— Ды гэта ж няправільна!
— Не крыўдзі мяне, сынок. Ад душы даю. Мне яе некалі падарыў ведаеш хто? Сам Мікола Шчорс!

Весела грукочуць колы. Шпарка імчыць поезд. Здаецца, ён хоча нагнаць патрачаны на стаянцы час. Амаль ва ўсіх вагонах спяваюць адну і тую ж песню: «Бывайце здаровы, жывіце багата».
Куды мы едзем? Прыглядаемся да назваў маленькіх станцый, міма якіх праносіцца поезд.



— Па-мойму, у бок Ельні,— гаворыць старшы лейтэнант Аўчарэнка.— У мінулым годзе мы праязджалі тут з Аняй. Сваякі яе ў гэтай мясцовасці жывуць.
— Значыць, на Захodні? — пытаецца Загарулька.
— На Захodні,— згаджаюся я.

## 13

Дванаццатага ліпеня наш батальён уступіў у бой.
У раёне горада Рослаўля, у пяцідзесяці кіламетрах ад нас, праціўнік высадзіў дэсант. Нам загадалі яго знішчыць. Дарагая была кожная хвіліна. Ні ў якім выпадку нельга было дапусціць, каб дэсантнікі ўмацаваліся.
Мы з Загарулькам парашылі сказаць байцам некалькі слоў перад гэтым першым сапраўдным, а не вучэбным боем.
І вось палітрук ужо — сярод танкістаў.
— Два гады,— гаворыць ён сваім роўным, спакойным голасам,— Гітлер крочыў па многіх краінах Еўропы амаль цырыманіяльным маршам. Яго «стратэгіяй» былі правакацыя, распаўсюджванне чутак, рассейванне панікі. Няма чаго ўтойваць, у першыя дні вайны гэта мела некаторы поспех. Выступленне старшыні Дзяржаўнага Камітэта Абароны таварыша Сталіна абавязвае ўсіх савецкіх людзей, і перш за ўсё, воінаў Чырвонай Арміі пакласці гэтаму канец. Наш батальён атрымаў першы баявы загад Радзімы, і мы выканаем яго.
Я даў каманду, і танкі, выстраіўшыся ў паходную калону, рушылі ў напрамку Рослаўля.
Мяне вельмі хвалявала тое, як мы правядзем гэтую аперацыю. Танкісты нашага батальёна ўпершыню ішлі не на ўмоўнага, а на сапраўднага ворага. Тут, у агні, будуць правераны баявыя якасці кожнага камандзіра танка, кожнага механіка-вадзіцеля, кожнага стралка-радыста. Не заўсёды давядзецца дзейнічаць разам, прыйдзецца і асобнымі групамі, і ў адзіночку. Ці ўсе змогуць на справе даказаць, што савецкі салдат — і адзін у полі воін?
Падрабязна расказваць пра ход аперацыі не буду. Скажу толькі, што правялі мы яе як след. Падраздзяленне дзейнічала дружна. За некалькі гадзін узброены да зубоў фашысцкі дэсант, які налічваў да тысячы чалавек, быў ліквідаваны. Страт у нас не было, за выключэннем двух лёгка параненых — механіка-вадзіцеля Мазурука і стралка-радыста камсамольца Бурлыкіна. Сяброў гэтых ведала ўсё падраздзяленне: яны вечна спрачаліся паміж сабой.
Пры якіх жа абставінах былі паранены гэтыя два танкісты?
Гітлераўцы супраціўляліся з усіх сіл. Мы іх расстрэльвалі ва ўпор, прасавалі, але яны не здаваліся. То тут, то там, як з-пад зямлі, вырастала супрацьтанкавая артылерыя і біла па танках прамой наводкай. Асабліва надакучыла батарэя, якая замаскавалася за маленькім узгоркам на ўзлессі. Танк, у якім знаходзіўся Бурлыкін, як раз'юшаны тыгр, кінуўся на замаскаваную батарэю. Скрыгат, трэск, хруст... Канец? Не. Ля раздаўленай гарматы прытаіўся фашысцкі артылерыст. Ды яшчэ адзін фашыст у форме маёра пусціўся наўцёкі.
Вадзіцель накіраваў машыну наперарэз уцекачу.
— Стой! — крыкнуў вадзіцель Бурлыкін.— Глядзі, якая птушка важная! Зараз я яе — за крыльцы...
На хаду ён выскачыў з танка і кінуўся наўздагон за фашыстам:
— Хэндэ хох!

Гітлеравец быў не з храбрага дзесятка. Калоцячыся ад страху, ён падняў рукі ўгору. У гэты час трэснуў стрэл. Бурлыкін пахіснуўся і ўпаў. Мазурук, які сядзеў на другім танку, кінуўся на дапамогу таварышу. Праз момант і яго зваліла куля.

Заўважыўшы, адкуль страляюць, мы адразу знішчылі фашыста, што прытаіўся ля раздаўленай гарматы.

Перад тым, як адправіць у штаб дывізіі палоннага, камандзіра дэсанта маёра Шнэрке, мы яго дапыталі самі. Допыт вёў старшы лейтэнант Вейс.

— З кім маю гонар,— фанабэрыста спытаўся маёр Шнэрке, адтапырыўшы ніжнюю губу.

— Пытанні, пан маёр, будзем задаваць мы,— адрэзаў лейтэнант і акінуў маёра халодным позіркам.— Адказвайце: даўно служыце ў парашутных войсках?

— Трэці год!

— На тэрыторыі Савецкага Саюза высаджваецеся ўпершыню?

— Упершыню.

— Да гэтага ўдзельнічалі ў дэсантах?

— Так.

— Дзе?

— У Галандыі, Бельгіі.

— Удала?

— Удала.

— Дзіва што! — засмяяўся я.

— І за гэта вас фюрэр узнагародзіў? — Вейс кіўнуў на рыцарскі крыж на грудзях маёра.

Маёр апусціў галаву. Але праз момант ён нахабна паглядзеў на Вейса і сказаў:

— Цяпер я сам пераканаўся, што вы першыя збіраліся напасці на Германію.

— Што іменна вас у гэтым пераканала?

— Хоць бы тое, што вы добра валодаеце нямецкай мовай.

— Скажыце яму, хто вы па нацыянальнасці,— параіў я Вейсу.

— Вы — немец?! — зароў Шнэрке.— Чыстакроўны?

Вейс развёў рукамі і засмяяўся:

— Цяжка сказаць. Ведаю толькі, што бацькі маіх бацькоў і бацькі маіх дзядоў былі немцы. Жылі на Волзе і разам з рускімі бурлакамі цягалі баржы...

— Ён разумее, пра што мы гаворым? — Шнэрке кінуў ледзь прыкметны позірк у мой бок.

— Не. Вы ж бачыце: я ўвесь час яму перакладаю.

— Тады тое, што я скажу, павінна застацца паміж намі. Абяцаеце? Як немец немцу?

— Прадаўжайце...

— Пан старшы лейтэнант немец. Відаць і камуніст — раз афіцэр Чырвонай Арміі. Яшчэ месяц — і Германія ўстановіць тут, у Расіі, новы парадак. Усе да аднаго камуніста і тыя, хто ім спачувае, будуць знішчаны. Пану старшаму лейтэнанту сам лёс дае магчымасць пазбегнуць гэтага...

— Якім чынам?

— Мы разам уцячэм да нашых.

Вейс гучна засмяяўся:

— Няўжо Гітлер узнагароджвае «рыцарскім крыжам» не смелых, а дурных?

Шнэрке змоўк і перастаў адказваць на пытанні.



Якраз у гэты момант да нас падышоў Загарулька. Кавалер рыцарскага крыжа змерыў яго беглым, раўнадушным позіркам і, заўважыўшы чырвоную зорку на рукаве, адразу наструніўся. Куды падзелася яго фанабэрыстасць!

— Я буду адказваць на пытанні пана капітана,— сказаў ён Вейсу глухім, хрыплым голасам.

Але дапытваць Шнэрке нам ужо не было калі. Мы атрымалі новы загад: неадкладна заправіць машыны і рушыць на знішчэнне другога дэсанта, які высадзіўся ў Ельні.

Нашы танкісты разумелі: калі вораг захопіць Ельню, будзе створана непасрэдная пагроза Маскве. Таму, не адпачыўшы ні адной хвіліны, мы заспяшаліся туды. Ужо ў дарозе камандаванне паведаміла нам па радыё, што горад захоплен не дэсантам, а рэгулярнымі варожымі часцямі, якія рухаліся з боку Смаленска.

Бой за Ельню быў доўгі, кровапралітны. Гітлер лічыў гэты горад ключом да сталіцы. А Гебельс так і заявіў: «Ельня — гэта Масква. Учора войскі германскага райха ўвайшлі ў Ельню, заўтра яны будуць у Маскве». Рана вораг радаваўся! Стойкасць і мужнасць савецкіх войск сарвалі планы Гітлера. Яго армія вымушана была спыніцца ў трохстах кіламетрах ад савецкай сталіцы, часова перайсці ў абарону і заняцца перагрупіроўкай сіл. Не адна адборная дывізія вермахта лягла пад Ельняй. Звыш сямідзесяці тысяч фашысцкіх салдат і афіцэраў знайшлі тут сабе магілу. Мы, танкісты, ганарымся тым, што дапамаглі камандаванню паралізаваць наступленне ворага.

Немцы бесперапынна кідалі пад Ельню ўсё новыя і новыя сілы. Берлін шчодра раздаваў войскам узнагароды, абяцаў багатыя надзелы захопленай зямлі, адпачынак. Нічога не памагала.

Танкісты нашага падраздзялення многаму навучыліся пад Ельняй. Мы ўбачылі сапраўдны твар ворага, вывучылі яго стратэгію, яго слабыя месцы і пачалі больш упэўнена, больш рашуча біць яго.

*Літаратурны запіс* **М. ШМУШКЕВІЧА**

Пераклад **В. ПАЛТАРАН.**

(Працяг будзе).

**Мікола МАЛЯЎКА**

## РАДЗІМЕ


аднімай мяне ночу і днём,
Давай мне любую работу.
Хай твар апякаюць агнём
Ручаі закіпеўшага поту.
Хай будуць трывогі,
Хай будуць разлукі —
Не прытомяцца ногі,
Не апусцяцца рукі.
Мне —
Ссыпаць у засекі ячмень,
Мне —
Драбіць на зярняты каменне, —
Каб толькі за сённяшні дзень
Не мучыла потым сумленне:
Шкадуючы ног —
Шукаў лёгкіх дарог,
І ношку лягчэй
Выбіраў для плячэй;
Прастаяў, прасядзеў,
Незайздросны меў лёс:
Многа ўзяў ад людзей,
А людзям — ці прынёс?

## ПУЦЁЎКУ МНЕ, РАЙКОМ!


не сніўся рэйс цяжкі
Дзе-небудзь на экватары,
А сябра мой мяшкі
Цягаў на элеватары.

Я неспакойным рос,
Трызніў штоноч акопамі,
А сябра ў сенакос
І начаваў пад копамі.

Я ўвесь мінулым жыў,
Я засыпаў апоўначы,
А сябра падружыў
З мяцеліцай на поўначы.

Я слухаў кожны раз
З усмешкай нехаванаю,
Калі аб ім у нас
Расказвалі з пашанаю.

І зноў еў бацькаў хлеб,
А дні ішлі, адходзілі, —
І сябра хлопцы ў стэп
Усім сялом праводзілі.

І вось балюча так,
Што жыў, як замарожаны,
Што летам травы ўсмак
Ні разу мной не кошаны;

Што я не сек сасну,
Не камянеў у замеці,
А кнігі пра вайну
Мог расказаць па памяці.

І часта кіне ў жар,
Што многа так патрачана,
З-за тых бяскрылых мар —
Не чута і не бачана.

Жыві шчасліва, дом.
Я пешчу мару новую.
Пуцёўку мне, райком!
Хутчэй. Бестэрміновую.

## СТОЎБЦЫ


аедзем, хлопцы,
На станцыю Стоўбцы.

Здалёку прыезджы люд
За горад маленькі мой рады.
Як з чыстага золата тут
Антонавак зарапады.

А вечар у парк прывядзе —
Адцягваеш час адыходу;
Як на пасецы дзе,
Хмялееш ад кветак і мёду.

У недалёкім бары
Грыбоў — і вачам не
паверыш:
Усіх з інтэрната бяры —
На кожнага знойдзецца
неруш.

Слухаюць хлопцы
Пра станцыю Стоўбцы.

А ноччу на плечы рос
Табе не ссыпалі каштаны —
На светлыя скруткі кос
Аднойчы зірнеш закаханы.

І на вяселлі радня
Убачыць такую дзяўчыну,
Што сонца ў сярэдзіне дня
Закоціцца на хвіліну...

Збіраюцца хлопцы
На станцыю Стоўбцы.

## ЛЕСАРУБ


авесіць ватоўку на сук —
І чым не Дабрыня-асілак?
Аж б'юць з-пад напружаных рук
Фантаны гарачых апілак.

Праходзіць плячысты і юны,
І сосны, — траім не абняць, —
Як абарваныя струны,
Ля пнёў неастыўшых звіняць.

Мароз — хоць хавайся ў агні:
Да дна перамерзлі крыніцы,
Кавалкамі лёду на пні
Брызентавыя рукавіцы.

Уздрыгваюць чуць кулакі,
На твары — барознамі складкі.
Самога Дабрыню такі
Паложыць ураз на лапаткі.



**Міхась МІХАЙЛАЎ**

# АДНОЙЧЫ

**Апавяданне**

Мал. Б. Аракчэева.

Месца выбралі ў затоцы, якіх было многа на багністым беразе Дзвіны. Тут, недалёка ад кручы, утварылася нібыта выспа, з падветранага боку якой добра браліся ляшчы. Зручна тут было яшчэ і таму, што дрэвы падыходзілі амаль да самай вады.

Сонца ўжо заходзіла, калі я з Андрэем на лодцы падплылі сюды да берага. Працавалі мы з Андрэем на заводзе ў адным цэху — токары мы. І ўвесь вольны час, якога ў апошнія дні выпадала не так ужо і многа, бавіліся на рыбалцы.

Прывязаўшы лодку да пня, Андрэй усеўся на яго і задумаўся. А я не стаў перашкаджаць яму, набраў галля і распаліў вогнішча. Калі вясёлыя языкі полымя ласкава зірнулі ў твар, дастаў сала, яйкі, разгроб з краю вогнішча і паставіў патэльню.

— Што ты думаеш? — нарэшце запытаўся я.

— Так сабе.

— Так сабе будзе потым, а зараз трэба пераметы рыхтаваць. Ноч хутка.

— Пачакай з пераметамі. Паслухай, што я табе раскажу, — нечакана загаварыў Андрэй. — Памятаеш, ты ездзіў у камандзіроўку, новыя разцы атрымліваць?

— Ну, помню.

— Дык вось. Гэты дзень у мяне быў вольны. Хацеў я ў кіно пайсці — білетаў няма. Хадзіў я, хадзіў па вуліцах горада, спёка, рашыў пакупацца. Прыйшоў на рэчку. Іду між кустоў па беразе, шукаю месца. А бераг, сам ведаеш, які круты. Дык вось, калі спускаўся ўніз, ухапіўся за куст і... бачу — дзяўчына. Ускочыла яна ад спалоху і ледзь не звалілася з кручы. Мне смешна стала. А яна пакрыўдзілася і кажа:

— Не бачыце, што сядзіць чалавек? Праходзьце...

А я стаю. Разумееш, вочы ў яе вялікія, глядзяць на мяне. Стаю і — з месца крануцца не магу. Нарэшце яна ўсміхнулася і пачала збіраць раскіданыя вышыўкі. Сабрала і села на коўдру. А я стаяў, стаяў, а потым незнарок пытаюся: «Даруйце, як вас завуць?» «Ці вам не ўсё роўна?» — адказвае. Карацей кажучы, пазнаёміліся мы. Я сеў. І гаварылі мы гадзіны са дзве. Сказаў, дзе працую. Вось, з гэтага і пачалося. Ведаеш, што яна сказала пра нашу змену? «Зазнайкі, кажа, там працуюць. Пе-ра-да-вая зме-е-на».

— Адкуль яна ведае?

— Добра ведае. Яна працуе на нашым заводзе. Вось я і паспрачаўся з ёю. Разышліся мы, як у моры караблі.

— Дык якая ж тут гісторыя? — здзівіўся я.

Андрэй не адказаў. Разаслаўшы пінжак, ён моўчкі лёг крыху воддаль ад агню.

Вячэрнюю цішыню зрэдку парушала кукаваннем зязюля ды чутны былі ўсплёскі рыб. Зашыпела на патэльні сала.

— Эх, Лёша, Лёша, — нечакана са смуткам прагаварыў Андрэй.

— Ці не закахаўся ты? — пытаюся.

— Ды кінь...

— Ну, калі не закахаўся, сядай вячэраць. Час і перамёты ставіць, — зноў папярэдзіў я. — Вунь як плёхаюць ляшчы!

Падсілкаваўшыся, раскінулі перамёты. Зрабіўшы з хваёвых галінак і плашчоў нешта падобнае на тапчаны, ляглі. Але спаць — не спалася. Андрэй загаварыў пра завод:

— Вось мы з табой лічымся спецыялістамі. Нават званне ўдарнікаў камуністычнай працы носім, а мне здаецца, што мы яго не заслугоўваем.

— Несапраўдныя спецыялісты?

— Магчыма і не сапраўдныя. Мы зараз працуем нібыта добра. Але вось учора трапілася мне кніжачка. Я ў ёй такое вычытаў, што за сябе сорамна стала. Людзі імкнуцца рабіць нешта цікавае, новае. А мы што? Норму крыху больш сталі выконваць. На адзін працэнт якасць павысілі!..

Андрэй дастаў партабак, закурыў. Не хацелася гаварыць у такі вечар ні аб разцах, ні аб перадавіках. Таму я прамаўчаў. Змоўк і Андрэй. Ён паглядзеў на неба, устаў і пайшоў збіраць ламачча.

Як гэта заўсёды здараецца, аб чым загаворыш, тое ў галаве і круціцца. Хоць сёння мяне больш за ўсё цікавіў клёў рыбы, думка аб новым на рабоце не пакідала. Штосьці ўчэпістае і насмешлівае было ў гэтым «пе-ра-да-вая зме-е-на».

Андрэй — майстар. Усе гэта ведаюць. Вопыт у яго вялікі, практычных ведаў таксама не менш. І раптам мне ўсё стала зразумела. Прыгадаўся нядаўні выпадак. Адбылося вось што. Другая змена, якой кіруе Пётра Юраў, ніяк не магла выбрацца з прарыву. Хлопцы там справу ведалі дрэнна ці яшчэ што, але браку ў іх было заўсёды поўна. Наша змена з іх жартавала: «Куды вам да нас, хвастатыя». І вось аднойчы Пётра Юраў прыйшоў за дапамогай. Дэталі выраблялі мы тады складаныя, да спе-





цыяльных станкоў. Змена яго не спраўлялася з заданнем. Але Андрэй толькі пасмяяўся. «Няма часу», — сказаў. Так і пайшоў майстар ні з чым. І ніхто з нашых не дапамог. А вось Мікалай Шах паступіў інакш. Хоць ён і малады рабочы, але з запалам. Марудна ў змене Юрава ішлі справы, дык ён прапанаваў свае паслугі. Здаецца, і стаж у яго меншы, чым у Андрэя, і вопыту такога няма. А стварыў Шах станок, які дапамог амаль у дзесяць разоў узняць прадукцыйнасць працы.

Не ведаю, колькі б мы яшчэ праляжалі моўчкі, думаючы кожны аб сваім асабістым, калі б не пачулі моцныя ўсплёскі вады. З-за чароту паказалася маленькая лодка. Ішла яна неяк віхлява і накіроўвалася да нас.

— Ды ў ёй дзяўчына!

Мы разам ускочылі на ногі.

— Дазвольце, я дапамагу, — паспяшаўся я і, схапіўшы за ланцуг, выцягнуў лодку з вады.

— Дзякуй, — сказала незнаёмая. — А я да вас з просьбай.

— Калі ласка.

— Ды вось, бачыце...

У гэты час Андрэй стаў побач са мной, і дзяўчына раптам змоўкла.

— Добрага здароўя, Андруша, — сказала яна. — Вось ужо не гадала вас тут сустрэць.

Я паглядзеў на Андрэя. Ён стаяў збянтэжаны.

— У мяне вясло зламалася. Не магу дабрацца. А лодку кідаць шкада. Можа, у вас ёсць запаснае?

— Ёсць, ёсць... А як жа. Знойдзем, — замітусіўся Андрэй. — Знаёмцеся. Аляксей, мой сябар. Працуем разам.

Люба працягнула мне руку.

— А ў вас сапраўдны лагер: агонь, вуды... Ужо цёмна, а мне ехаць яшчэ...

— Мы вас умомант адвязем. Андрэй вяслуе — залюбуешся! Ён марак, — пажартаваў я.

Дзяўчына ўсміхнулася:

— Гэтага я не ведала.

Агонь асвятліў яе твар. Ён быў прыгожы. Вялікія вочы, здавалася, самі гарэлі. А калі ўсміхалася... І сапраўды, калі яна ўсміхалася, я верыў Андрэю, што ў той раз, пры першай сустрэчы, ён мог зачаравацца ёю.

Зараз Андрэй таптаўся на месцы, а я таропка падбіраў і кідаў у полымя дробныя галінкі.

— Дык вы мяне выручыце?

— Я давязу вас да горада, — сказаў Андрэй і рашуча накіраваўся да лодак.

...Вярнуўся Андрэй гадзіны праз дзве. Прывязаўшы лодку, ён адразу ж лёг і доўга глядзеў у начное неба.

— Памірыліся?

Ён павярнуўся на бок, тварам да мяне.

— Ты ведаеш, яна ў нас інжынерам тэхналагічнага аддзела працуе...

Доўга мы яшчэ размаўлялі і толькі на досвітку заплюшчылі вочы, прытуліўшыся адзін да аднаго. Нас разбудзіў гудок паравоза. Андрэй адразу ўскочыў.

— Лёша, паехалі! — схапіў ён мяне за плячо.

— Куды паехалі?

— Дадому.

— А перамёты?

Андрэй не слухаў. Нацягнуўшы на плечы плашч, ён пайшоў да лодкі.

На наступны дзень я сустрэў Андрэя ў цэху. У таго быў такі выгляд, быццам яго ўзнагародзілі ордэнам.

— У мяне ёсць нешта цікавае, — сказаў ён. — У абедзенны перапынак раскажу ўсё.

Апрацаваўшы дэталь, я падышоў да яго. Мяне злавала тое, што ён учора сарваў адпачынак.

— Штосьці ты на імянінніка падобны?

— Імяніннік не імяніннік, а вось... — ён прыкурыў і з апетытам зацягнуўся. — Табе, напэўна, хочацца ведаць, аб чым мы гаварылі, калі я адвозіў Любу ў горад? Дык вось. Ад'ехалі мы гэта ад берага. Вяслую, а сам вачэй ад яе адарваць не магу. А яна сядзіць, напявае сабе і робіць выгляд, быццам не заўважае майго настрою. І як гэта здарылася, я і зараз зразумець не магу. Замест таго, каб запрасіць яе на танцы ў гарадскі Дом культуры або ў парк, я загаварыў аб заводзе. Павёў гаворку аб тым, ці падабаецца ёй у нас, потым пра нашых токараў. Тут я і заблытаўся. Слухала яна мяне, слухала, ды і кажа:

— Ведаеце, Андрэй, я вам ужо гаварыла, энергічныя вы, а вось... Прабачце мне за прамату, гавораць пра вас на заводзе не зусім добра. Зараз кожны дапамагае адзін аднаму, а вы, вопытны токар, нават простае прыстасаванне ад іншых хаваеце. Сорамна мне за вас.

— Вунь куды кінула!..

— Пачакай. Гляджу я на яе і вачыма міргаю: чорт мяне пацягнуў за язык гаварыць аб заводзе. А яна яшчэ:

— Я, — кажа, — не магу зразумець. Малады хлопец, а трымаецеся за старое. Цяжка так працаваць. Нас у інстытуце вучылі апірацца на рабочых, а на такіх — апора малая.

Я потым думаў. Кніжачку ўсю перачытаў. А сёння рашыў прапанаваць брыгадзе працаваць на адзін нарад. Падлічыў, што гэта і нам карысць прынясе, і заводу. З начальнікам цэха ўсё дамоўлена. Ён згодзен.

І калі праз паўгадзіны я ўбачыў ля станка белую хусцінку і сіні камбінезон Любы і Андрэя, які расчырванеўся і, хвалюючыся, штосьці ёй даказваў, зразумеў: новае набірае сваю сілу.



**Юрась СВІРКА**

# ВОЛЬГА ПЯТРОЎНА

*В. П. Курпан, даярцы калгаса імя Сталіна Капыльскага раёна.*



Т вае рукі ўмеюць і песціць
малое
І сярпом падразаць каласістае
жыта.
Ты сябе адчуваеш заўжды маладою,
А не кожны б панёс,
Што табой пражыта.
Твае ногі прамералі сцежак
нямала,
Іх адбітак на твары
ў маршчынах глыбокіх.
Шмат гадоў раней сонца
на працу ўставала,
Шмат гадоў спаць кладзешся —
За поўнач далёка.
Твае плечы ніколі нягода не гнула,
Хоць дарога была не заўсёды і
роўнай...
Можа, слоў у мяне не хапае
прачулых?
Вы прабачце за гэта мне,
Вольга Пятроўна.
Мне няёмка,
Што рэдка бываю у полі,
Што прывыклі к машынам
Абутыя ногі.
Гэта Вы узялі на сябе маю долю
І не толькі маю —
А яшчэ вельмі многіх.
Я глядзеў,
Як Вы лубін лысухам насілі,
Што прывозілі хлопцы
На конях з палеткаў,
І падумаў,
Што Вы ўжо даўно заслужылі,
Каб штодзень Вам прыносілі
лепшыя кветкі.



*Гары Блум — таленавіты паўднёваафрыканскі пісьменнік, адвакат па прафесіі. Займаецца ён разборам палітычных спраў неграў і таму добра ведае іх погляды, жыццё і мэту, да якой імкнуцца ўсе негры Паўднёва-Афрыканскага Саюза.*

*«Прачка» — урывак з першага рамана Гары Блума «Трансвальскі эпізод». Падзеі, якія апісваюцца ў рамане, адносяцца да 1959 года і адбываюцца ў гарадку Нэлструме, які ў сапраўднасці не існуе. У жыцці гэтага выдуманага гарадка знайшлі сваё адлюстраванне жыццё і барацьба неграў у Паўднёва-Афрыканскім Саюзе. У рамане таксама адлюстраваны ўзаемаадносіны жыхароў «белага горада» і «рэзервацыі» — неад'емнай часткі кожнага паўднёваафрыканскага горада, выдзеленай для каляровага афрыканскага насельніцтва.*

**Гары БЛУМ**

# ПРАЧКА

Мал. А. Кашкурэвіча.

У рэзервацыі, каля горада Нэлструма, жыла прачка негрыцянка. Звалі яе Мары Лухеле. Яна зарабляла сабе на пражыццё мыццём бялізны для трох сем'яў белых — Уолмарансаў, Смітаў і Бекетаў. Памытую бялізну, загорнутую ў чыстую чужую прасціну, яна кожны панядзелак разносіла гаспадарам і забірала ў іх брудную. Гэты дзень для яе быў самы цяжкі, бо ёй трэба было тры разы хадзіць туды і назад паміж рэзервацыяй і горадам. Спачатку Мары Лухеле заходзіла да містэра Уолмаранса, які жыў далей за ўсіх, пасля да містэра Сміта і нарэшце — да містэра Бекета. Аднак панядзелак для яе быў і самым радасным днём. У гэты дзень ёй заўсёды плацілі за работу. Грошы, якія яна атрымлівала, Мэры заўсёды насіла ў жоўтым капшуку для тытуню



на поясе. Ёй было прыемна адчуваць звон манет, ён як бы памагаў ёй несці цяжкі клунак і змяншаў боль у спіне.

Яна прывыкла працаваць у адзін і той жа час, мыць мылам толькі аднаго гатунку і на адным і тым жа месцы. І гэтае месца на беразе рэчкі з гладкім цёмным каменем, дзе Мэры выбівала і шаравала бялізну шчоткай, гэтая невялічкая затока з мыльнай пенай і бурбалкамі была яе любімым месцам работы, яе пральняй.

Характар у старой Мэры Лухеле быў своеасаблівы. Яна не любіла, калі яе месца на беразе займаў хто-небудзь другі. І аднойчы здарылася так, што тую затоку, дзе яна звычайна мыла, заняла другая прачка. Мэры Лухеле раззлавалася і скінула жанчыну ў ваду.

Мэры Лухеле тут можна было бачыць кожны дзень, апрача панядзелка, бо ў панядзелак, як вядома, яна займалася сваёй звычайнай справай, адносіла і прыносіла бялізну, і ў гэты дзень яна была асабліва злоснай.

Яе муж, разносчык бакалейнай лаўкі, звычайна вельмі неахвотна вяртаўся дадому з работы па панядзелках. Ідучы праз рэзервацыю, ён не спяшаўся, заглядваў да сваіх сяброў і з кожным заводзіў гаворку.

У адзін з такіх панядзелкаў, гэта было ўжо на згон зімы, Мэры выправілася ў свой чарговы абход да дому Бекетаў. Нельга сказаць, што гэты абход чым-небудзь адрозніваўся ад другіх такіх абходаў. Калі яна выйшла на дарогу, то вельмі ўзрадавалася, што ў той дзень гэта ўжо быў яе апошні абход. Але радасць гэтая была заўчаснай. Мэры Лухеле не ведала, што стане прычынай трагічнай смерці і пакут многіх жыхароў рэзервацыі, прычынай звальнення з пасады ўпраўляючага рэзервацыі Ду Тойта. Запомнім гэты дзень: 10 жніўня 1953 года. У гэты дзень споўнілася два з паловай гады, як рэзервацыя знаходзілася пад кіраўніцтвам Ду Тойта, і дзевяць месяцаў з дня прыезду туды кіраўніка падпольнай групы Мабаса.

Позна ўвечары яна падышла да дому місіс Бекет і пачціва націснула кнопку званка на плеценых дзвярах кухні. Выйшла гаспадыня, забрала клунак, занесла яго на кухню і пачала пералічваць бялізну на кухонным стале. Мэры Лухеле чакала на двары.

Праз некаторы час місіс Бекет штурхнула нагой дзверы і з'явілася на парозе.

— Мэры, не хапае аднаго каўнерыка.

— Не, місіс, — адказала тая, адмоўна ківаючы галавой.

— Як гэта «не»? Аднаго каўнерыка не хапае.

— Не, місіс. Усё там.

Мэры Лухеле ўсё больш круціла галавой, пацепвала плячыма і мармытала нешта незразумелае на мове племені свазі. Місіс Бекет здзіўлена глядзела на яе.

— Хадзі сюды, — закамандавала гаспадыня.

Старая прачка ўзышла па ўсходцах.

— Зірні сама, аднаго ж не хапае. Якраз таго, што да гэтай кашулі.

Мэры Лухеле трымала кашулю, прыглядаючыся да каўнерыкаў, што ляжалі на стале. Ніводзін з іх да кашулі не падыходзіў. Старая прачка ніяк не магла ўспомніць, што гэта быў за каўнерык. Не, яна не брала яго мыць. Мэры Лухеле са злосцю скамячыла кашулю і кінула яе на бялізну.

— Значыць, вы яго мне не давалі. Навошта мне патрэбна было красці ваш каўнерык. Хіба я магу яго прышпіліць?

— Але ж тут запісана, што брала шэсць, а прынесла пяць. Палічы.

— А-а, запісана.

Нечакана для самой сябе, яна выхапіла ліст паперы з рук місіс Бекет.

— Вон адсюль, — прарэзліва крыкнула гаспадыня.
— А мае дванаццаць шылінгаў? — запыталася Мэры Лухеле і зрабіла крок у кухню.
— Прэч, грошай ты не атрымаеш. Қашуля без каўнерыка нікому не патрэбна.
— Не атрымаю? — запытала старая прачка, і вочы яе заблішчэлі.
— Не атрымаеш. Ты сапсавала кашулю. Ідзі, ідзі. Я сказала — вон! Прынясі мне каўнерык, і тады я заплачу табе. А цяпер пайшла прэч!
— Дык вы не заплаціце? — яшчэ раз запытала Мэры Лухеле.
Яна пачакала трохі, потым ухапіла клунак з бялізнай і ўскінула яго за плечы.
— Куды ты? — завішчэла місіс Бекет, стараючыся затрымаць яе. Мэры Лухеле з сілай адштурхнула яе, і гаспадыня стукнулася аб стол. Мэры Лухеле выйшла на вуліцу. Якраз у гэты момант праходзіла грузавое таксі. Калі Мэры ўжо была ў кузаве, пачуўся прарэзлівы свісток паліцэйскага з кухні місіс Бекет.
Даехаўшы да рэзервацыі, яна не пайшла дахаты, а прынесла клунак да ракі, села на сваім месцы і пачала думаць. Мэры Лухеле здагадвалася, што трапіла ў бяду. Яна не ведала ўсіх законаў, па якіх караюць за тое, што яна зрабіла, але добра разумела, што яе пасадзяць у турму.
Ныла сярэдзіна, і старая злавала. Мэры Лухеле думала аб дванаццаці шылінгах, якія павінна была атрымаць, і пачала ўголас клясці гаспадыню. Крыху супакоіўшыся, яна ўспомніла двухдзённую працу: уяўляла сабе рэчы Бекетаў, якія ляжалі мокрыя, намыленыя на гладкім камені перад ёю. Мэры ведала кожную латку, кожную зацыраваную дзірачку і кожны гузік на бялізне Бекетаў. Яна магла апісаць кожную рэч. Але каўнерыка яна не мыла. Раптам яна развязала клунак і вытрасла ўсе рэчы ў раку. Некаторыя зачапіліся за чарот. Яна палкай адпіхнула іх, села і глядзела на бялізну, пакуль тая не сплыла або не патанула на дно. Потым устала і пайшла дахаты.
Падыходзячы да вуліцы, дзе яна жыла, Мэры пачула гул сірэны паліцэйскай машыны — так званага «Лятучага атрада». Яна прыслухалася і зразумела, што машына спынілася ля яе хаціны; маланкай пранеслася ў галаве здагадка, што прыехалі па яе. Мэры затрымалася на хвіліну і не пайшла далей. Яна не магла ступіць ані кроку. Усё ўнутры яе як заледзянела; яна прысела на абочыне дарогі. Колькі прасядзела так, Мэры Лухеле не ведала, а потым нейкае пачуццё ёй падказала, што паліцэйская машына паехала і што гул сірэны паступова заціхае ў далечыні.
Нарэшце яна паднялася і павольна пайшла дахаты. Мэры Лухеле сустракалася з людзьмі, якіх ведала, але не віталася з імі. Нерашучасць ахапіла яе. Яна заглядвала ў чужыя двары, мяркуючы, ці не спыніцца дзе на хвілінку і расказаць людзям усё, аднак яна не прыняла ніякага рашэння і паволі пайшла далей. Мэры Лухеле спадзявалася, што сустрэне свайго мужа, які мог быць у адным з суседскіх двароў. Завярнуўшы за апошні вугал перад сваім домам, яна спынілася і акамянела. Паліцэйскія адразу заўважылі яе і кінуліся, каб затрымаць. Мэры павярнулася і пабегла той жа дарогай, якой толькі што прыйшла. Свіст паліцэйскіх і стук падкаваных абцасаў паднялі ўсю ваколіцу на ногі. Жанчына бегла неяк дзіўна, пераваліваючыся з боку на бок на сваіх пласкаступых старых нагах і час ад часу з крыкам ўскідваючы ўгору рукі. Раптам яна ўбегла ў вузкі завулак, потым у нейчы двор, тады ў адзін з незачыненых пакояў і схавалася пад ложак.
Праз хвіліну з'явіліся паліцэйскія. На двары ўжо быў вялізны натоўп. Гэта занепакоіла паліцэйскіх. Яны ўвесь час адступалі назад, адтапырыўшы локці і тым самым прымушаючы натоўп адысціся і даць месца.
— Дзе яна дзелася? — спытаў белы паліцэйскі, сержант. Ніхто не адказаў.
— Добра. Пачынайце вобыск адсюль.
Яны абшукалі некалькі пакояў, выганяючы ўсіх жыхароў на двор. Нарэшце паліцэйскія знайшлі Мэры і выцягнулі яе.
— Ты Мэры Лухеле? — спытаў сержант, моцна трасучы яе за плечы. Яна была вельмі напалохана і нічога не магла адказаць.
— Гэта яна, тая самая, — падказаў чорны канстэбль.
— Ты арыштавана за кражу і напад на белую жанчыну, — крыкнуў сержант, гледзячы ёй у твар.
— І за парушэнне недатыкальнасці хатняга жылля, — дабавіў белы канстэбль.
— І за парушэнне недатыкальнасці хатняга жылля, — паўтарыў сержант. Ён усё яшчэ моцна трымаў Мэры Лухеле за плячо, а левай рукой стараўся адчапіць наручнікі ад пояса.
Прачка стаяла і не супраціўлялася — хай робяць з ёй што хочуць. Але калі сержант намерыўся надзець на яе наручнікі, яна раптоўна апамяталася, ірванулася ўперад, ударыла яму нагой у жывот, вылузалася з яго рук і зноў кінулася ў пакой. Белы канстэбль выгнаў яе адтуль, б'ючы нагамі. Мэры спатыкнулася і распласталася на зямлі. У натоўпе раздаўся пагрозлівы гоман. Сержант умомант павярнуўся і схапіў карабін. Натоўп адхіснуўся назад, і сержант пайшоў за ім, трымаючы карабін ля папругі. Асадзіў людзей на некалькі крокаў назад, пакуль яны не аказаліся прыціснутымі да агарожы двара. Потым, накульгваючы, ён падышоў да Мэры Лухеле і штурхнуў яе нагою.
— Дык ты хочаш выраблядь такія штучкі? Ты, чорная шлюха, — працадзіў ён праз сцятыя зубы.
Сержант раптам ударыў яе карабінам. Здалося, што недзе зламалася дошка. Наўкола раздаўся жахлівы крык. Сержант зноў схапіў карабін, патрос ім над галавой і зароў:
— Заткніце глоткі, вы, чорныя кафры! — Ён нагнуўся над Мэры Лухеле і хацеў надзець ёй наручнікі. Тады яна ўдарыла яго нагой яшчэ раз. Ён адскочыў і скурчыўся ад болю, потым неяк паволі вырачыў свае бельмы, усхапіўся і ўдарыў яе прыкладам. Гэта было так маланкава, што наўрад хто што і бачыў. Мэры Лухеле страціла прытомнасць і распласталася на зямлі. Кроў хлынула ў яе з рота, пацякла па падбародку...
У натоўпе пачуўся нейкі дзіўны, прарэзлівы крык. Сержант ачухаўся і, выскачыўшы на сярэдзіну двара, пагражальна закрычаў:
— Вымятайцеся з гэтага двара к чорту, вы — чорная пена. Усе. Усе. Выбірайцеся!



Але з натоўпу выйшаў афрыканец і падаўся да сержанта:
— Вы не маеце права так біць жанчыну, — сказаў ён.
— Не ўмешвайся. Атрымаеш тое самае.
— Вы не маеце права так біць яе!
— Назад! Не лезь, куды цябе не просяць, пакуль не зарабіў сам! — крыкнуў сержант і патрос кулаком над галавой афрыканца.
— Ну што ж, біце! — адказаў афрыканец, узняўшы галаву. Сержант абвёў позіркам натоўп, які непрыкметна прыблізіўся да яго, і апусціў кулак.
— Выбірайся адсюль, калі не хочаш, каб я цябе арыштаваў.
— Ну што ж, арыштуй мяне.
— Вон адсюль! Я загадаў табе выбірацца. Ты чуеш, ці не?
Чалавек стаяў нерухома, і сержант глянуў на канстэбля.
— Арыштуйце яго, — параіў канстэбль.
— Арыштуйце і мяне, — крыкнула жанчына з натоўпу. Яна выйшла з прасцёртымі ўперад рукамі: — Наце, надзявайце на іх наручнікі!
— Арыштуйце і мяне, — сказала яшчэ адна жанчына.
— І мяне.
— І мяне таксама. Усіх нас...
Цяпер натоўп быў напружаны, але спакойны.
Сержант глянуў на Мэры Лухеле: яна ўсё яшчэ была непрытомная. Ён хацеў даведацца, ці не забіў яе. Нагнуўся над ёй, узяў пад пахі і паспрабаваў адцягнуць, але праз некалькі крокаў кінуў. Натоўп панура сачыў за ім. На яго руках і мундзіры была кроў. Узяўшы рукі ў бокі, ён паглядзеў на тых пяцярых, што прапаноўвалі сябе арыштаваць.
— Прападзіце вы пропадам! Я арыштую вас усіх! Вы, мурзатае стварэнне!
Ён загадаў чорнаму канстэблю надзець на іх наручнікі. Пяць чалавек працягнулі рукі і наручнікі замкнуліся на іх. Потым сержант падышоў да афрыканца, які першы выступіў з натоўпу, і рыўком прыцягнуў яго да сябе за наручнікі, зашчапіўшы іх на апошнюю зазубіну. Сталь урэзалася ў цела негра. У небаракі ўздуліся на шыі вены, як тоўстыя вяроўкі. Чалавек не праранііў ні гуку, толькі вялікія кроплі поту пакрылі ўвесь яго твар.
— Ну, як цяпер, сабака? — спытаў сержант і адштурхнуў негра ад сябе.
Падпёршы рукой падбародак, ён намагаўся сабрацца з думкамі. У яго не было машыны, і ён абдумваў, ці зручна весці арыштаваных праз рэзервацыю. Ён на нейкі час забыўся пра Мэры Лухеле і цяпер заўважыў яе зноў. Яна апрытомнела і сядзела, як п'яная, ля сцяны. Ён бачыў, што яна не зможа ісці пешкі. Ён аддаў загад аднаму з чорных канстэбляў:
— Бяжы і пазвані, каб прыслалі пікап.
— Кантора ўжо зачынена, — адказаў той.
— Тады вазьмі дзе-небудзь веласіпед і з'ездзі на ўчастак.
Пакуль прыйдзе машына, ён, каб не траціць дарэмна часу, рашыў ачысціць двор ад натоўпу. Але рабіць гэта самому яму не хацелася, і ён загадаў беламу канстэблю:
— Выпры ўвесь гэты зброд на вуліцу.
Ён любаваўся, як паліцэйскія дубінкамі падганялі людзей да варот. Людзі збіліся ў кучу ля вузкай каліткі, стараючыся выйсці. Усё гэта адбывалася ў зацятым маўчанні. Натоўп быў вельмі напружаны, і ён адчуваў гэта. Але людзі нічога не казалі і дазвалялі выганяць сябе. Калі двор апусцеў, сержант заўважыў, што афрыканец з тугімі наручнікамі страціў прытомнасць. Ён пастаяў над ім нейкую хвіліну, потым





нагнуўся, узяў ключ, аслабіў наручнікі і ботам перавярнуў самлелага чалавека на спіну. Падышоў белы канстэбль, яны закурылі цыгаркі і ўселіся на сходцах. Чорны канстэбль ахоўваў уваход у двор.
Ужо сцямнела, калі пад'ехала турэмная машына. Пакуль грузілі арыштаваных, людзей сабралася больш, як было. Цемната не дазваляла разгледзець, дзе канчаўся натоўп, але паліцэйскія адчувалі, што навокал іх тысяча людзей. Чуўся безупынны, прыглушаны гул галасоў і прыкметнае хваляванне. Цяпер паліцэйскія не звярталіся ні да натоўпу, ні адзін да другога. Яны хутка пагрузілі ўсіх, адчуваючы колкія позіркі тысяч вачэй. Закончыўшы ўсё, чорны канстэбль залез у машыну цераз задні борт, і дзверцы зачыніліся. Белы паліцэйскі абег вакол машыны і залез у кабіну. Яшчэ перад тым, як яны ўселіся, шафёр уключыў матор і святло, машына рванулася, з цяжкасцю пракладваючы сабе дарогу цераз натоўп. Звярнуўшы за рог вуліцы, паліцэйскія пачулі галасы абурэння і раптоўны крык.
Натоўп загаманіў, заварушыўся. Здавалася, што ён неяк адразу ўзрос, зрабіўся большы і хлынуў у бакавыя вулачкі. Потым ён стаў распадацца на групы, якія аддзяляліся і паволі рухаліся па вуліцах усё далей і далей, пакуль не разышліся па ўсёй рэзервацыі. І разам з людзьмі разышоўся ўзбуджаны енк, які пераносіўся з двара на двор. Доўгі час у рэзервацыі ўсё гуло ад злосці і абурэння.

Ніхто не ведаў, чаму гэты звычайны арышт выклікаў такое. І арышты, і лютасць паліцэйскіх былі вядомы кожнаму. Мэры Лухеле не была якой-небудзь папулярнай асобай у рэзервацыі. Яна сама наклікала на сябе бяду. І ніхто не мог ясна зразумець, чаму такая раптоўная хваля злоснага абурэння і нянавісці пранеслася па ўсёй рэзервацыі толькі таму, што Мэры Лухеле была арыштавана.

Ніхто не мог растлумачыць, чаму пяць афрыканцаў прапанавалі сябе арыштаваць, і ніхто не пытаўся, чаму яны так зрабілі. Але ўсе адчувалі сэрцам, што так павінна было быць.

Падзеі гэтага дня зламалі застаўку, і хваля нянавісці хлынула праз усе вуліцы, праз кожны двор.

Пераклад з англійскай мовы **А. Пракоф'евай і В. Няхай.**



**Віктар ХЛІМАНАЎ**

# ЧАЦВЁРА З «ВОЛМЫ»

«Да гэтага часу самыя разважлівыя бацькі цягнуцца з апошніх сіл, каб правесці сваіх дзяцей праз сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы і даць ім у рукі атэстат або дыплом; да гэтага часу кожны разважлівы бацька глянуў бы на вас з гнеўным здзіўленнем, калі б вы заікнуліся яму пра тое, што не дрэнна было б яго Мішачку або Валодзечку рамяству якому-небудзь навучыць; ды вы, як чалавек добра выхаваны, ніколі і не заікнецеся».

Словы гэтыя, сказаныя больш чым сто гадоў таму назад Пісаравым, і цяпер, на жаль, гучаць свежа, зусім актуальна. Не для ўсіх, вядома, але яшчэ для многіх. Не перавяліся ў нас яшчэ фанвізінскія недаросткі, якія не прэч, каб цалкам пакласціся на «рамізнікаў» — бацькоў. А тыя стараюцца абавязкова працягнуць сваіх нашчадкаў у навуку, прычым з чорнага ходу.

Не такі быў шлях у жыццё ў Івана Кароткага, простага хлопца з прыгараднага гароднінаводчага саўгаса «Волма». Учора — школьнік, сёння — лепшы трактарыст, а заўтра — інжынер сельскай гаспадаркі, — вось яго простая, але высакародная працоўная дарога ў жыццё, дарога, якой у апошнія гады ўсё больш аддаюць перавагу юнакі і дзяўчаты нашай краіны.

Вялікі горад зусім побач з «Волмай», усяго за дваццаць з невялікім кіламетраў з усімі сваімі тэатрамі, ВНУ. Але сумненні не мучылі Івана Кароткага. У яго ўжо быў вызначаны шлях у жыццё: праца ў саўгасе, пасля — вучоба, затым зноў праца ў саўгасе. Проста і лагічна: праца ў імя вучобы, вучоба — у імя працы.

Не задумваючыся, камсамолец Іван Кароткі падаў заяву ў смілавіцкую школу механізацыі. Неўзабаве атрымаў дыплом трактарыста і вярнуўся дадому. Далі новенькі трактар «Беларусь», блакітны, нібы ранішняе неба, проста боязна заводзіць. І пачалася, на першы погляд, суцэльная проза: зімой — рамонт, вывазка торфу на палі, вясной — свежыя скібы зямлі за плугам, летам — кволыя квадраты сцяблінак кукурузы, бульбы і буракоў, нібы намаляваныя пяшчотнай акварэллю на палатне зямлі. Вядзеш паміж імі трактар, і рукі дрыжаць — не



**Будуецца новы пасёлак для рабочых саўгаса «Волма».**

Фота **У. Адарыча.**

прымяць бы раслінку. За дзень у Івана вочы стамляліся ад напружання. Затое прыемна было глядзець, як дружна ішлі ў рост і бульба, і кукуруза, і буракі. Васіль Карпавіч Прышчэпа, стары трактарыст-камуніст, ужо, здаецца, які прыдзіра, а і то, гледзячы на Іванаву работу, гаварыў:

— Ну і вока ў хлопца! Як па нітачцы машыну вядзе.

У саўгасе пачалі ствараць механізаваныя звенні-тройкі. Адну з троек даверылі камсамольцу Кароткаму. На траіх — тры трактары, шэсцьдзесят гектараў кукурузы, восемдзесят бульбы і дваццаць гектараў гародніны. Усё пад асабістую адказнасць, на камсамольскае сумленне. Гэта было вялікім давер'ем. А давер'е — яно ж падымае дух, абуджае ініцыятыву, надае смеласць у справах. Вось чаму ў той год Іван Кароткі, Анатоль Рабец і Уладзімір Кароткі вырасцілі выдатны ўраджай усіх «падшэфных» культур. І яшчэ два гады запар яны збіралі добры ўраджай бульбы і кукурузы. І галоўнае — рэзка знізіўся сабекошт гародніны, напрыклад, да двух капеек за кілаграм. Але хлопцы не супакоіліся, іх дэвізам было: яшчэ больш, яшчэ лепш, яшчэ дзешавей!

Аднойчы ў спякотны ліпеньскі дзень сакратар парткома саўгаса Мікалай Сцяпанавіч Галаўнёў падышоў да трактара і папрасіў Івана Кароткага заглушыць матор.

— Слухай, Ваня, — сказаў ён. — Ці не здаецца табе, што час уступаць у партыю? Гляджу на тваю работу і бачу: па ўсіх пунктах падыходзіш.

Іван задумаўся:

— А паручацца? Скажуць — малады.

— Паручацца. Я першы дам рэкамендацыю.

Другую рэкамендацыю даў Васіль Карпавіч Прышчэпа, трэцюю — трактарыст Сяргей Філімонавіч Міронччык. Неўзабаве сябры-таварышы па звяну — Уладзімір Кароткі і Анатоль Рабец ужо віншавалі Івана са знамянальнай падзеяй у жыцці. Па твары хлопца было відаць, што ён вельмі хвалюецца. Нарэшце ён сказаў ім:

— Хлопцы, а што, калі мы пачнём змагацца за званне звяна камуністычнай працы. Як, па-вашаму?

— Што — як?.. Горшыя за іншых, ці што! Падтрымліваем! — было яму адказам.

І зноў трактары выйшлі з рамонту, нібы з канвеера завода. Зноў пачалося ўсё спачатку: тыя ж клопаты пра кукурузу, гародніну, бульбу; таксама, як і раней, зазелянелі ў полі квадраты. Усё абяцала яшчэ лепшы ўраджай.

І раптам чутка: Іван Кароткі вырашыў ісці вучыцца ў інстытут.

Спачатку не паверылі: няўжо іх звеннявы хоча збегчы ў горад, уцячы ад зямлі? Няўжо здаў? Няўжо пацягнула на чысценькую работу?

— Ды зразумейце ж вы, хлопцы, — апраўдваўся Іван. — Загад дырэкцыі...

Сакратар парткома растлумачыў:

— Не ў кансерваторыю ж Іван ідзе, а ў інстытут механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. А хто лепш ведае зямлю і машыны: наш Іван ці тыя, хто прыйдзе ў інстытут адразу са школы? Скончыць — прыедзе зноў у саўгас інжынерам. Так што прымай, Толя, звяно, і не трацьце сваю камуністычную марку. А Іван будзе да экзаменаў рыхтавацца.

Уздыхнулі хлопцы: шкада раставацца з сябрам, але трэба.

— Ну, чарцяка, глядзі, каб падцёр нос усім гарадскім...

Іван вытрымаў, здаў усе экзамены на «чатыры» і «пяць». Іншы і не падышоў бы больш да трактара да пачатку заняткаў, але толькі не Іван Кароткі. Які быў неспакойны, такі і застаўся малады кандыдат у члены партыі. Так да канца жніўня і памагаў трактарыстам на рамонце. А напярэдадні новага этапу ў жыцці Івана Кароткага прынялі ў члены КПСС.

Вывучаючы праект Праграмы нашай партыі, мы ўсё часцей гаворым пра маральны кодэкс чалавека камунізма, змагаемся за тое, каб кожны камуніст ва ўсім сваім жыцці выхоўваў у сабе высокія маральныя прынцыпы Праграмы — добрасумленнасць, высокае ўсведамленне грамадскага абавязку. Гэта той багаж савецкіх людзей, з якім яны павінны прыйсці ў наша заўтра. Так, не лёгка давядзецца многім, трэба будзе выкінуць са свайго духоўнага багажу ўвесь хлам старога, прывычку жыць па прынцыпу «мая хата з краю», А выкідваць давядзецца, і гэтак жа рашуча, як гэта робіць малады камуніст Андрэй Іванчык. Усё, да апошняй радзімай плямінкі мінулага — у архіў! Іменна высокая свядомасць і рабочае сумленне вылучаюць сярод іншых Андрэя Іванчыка. І яму не адмовілі ў давер'і камуністы.

— Ці ж можна адмовіць такому! — гаворыць пра Андрэя Іванчыка сакратар парткома. — Ідзём неяк мы ў нядзелю міма майстэрняў, чуем, гудзе станок... Заходзім і бачым: стаіць над станком наш Андруша і выточвае дэталь. Пытаемся: «Што, табе адпачыць не хочацца? Нядзеля ж». Смяецца ціхоня. «Хочацца». «Дык ідзі дамоў». «Вось закончу дэталь і пайду...»

Аказваецца, у суботу вечарам выйшаў са строю камбайн. Прынёс камбайнер гэтую зламаную дэталь і гаворыць Андрэю, маўляў, зробіш у панядзелак. Ну, а ён зрабіў яе ў нядзелю. І абодва ганарацца. Вось якія ў нас кандыдаты. А якія з іх камуністы будуць — памяркуйце самі! У нас іх чацвёра, і ўсе такія ж, як Андрэй Іванчык! А цяпер вось Антона Рабца, шафёра Івана Зайцава, даярку Кацярыну Шчыслёнак і ўпраўляючага Леаніда Чакаліна ў партыю рыхтуем. Добрая змена нам, старым камуністам, расце. Вось у такіх, як Андрэй Іванчык, трэба вучыцца, як жыць і працаваць...

Так, у гэтым учынку, на выгляд простым, і ёсць мараль камунізма, уся душа Андрэя Іванчыка, чыстая, нібы крынічная вада. Ды ці ж справа ў эпітэтах? Іх можна прыдумаць колькі хочаш, і ў дачыненні да Андрэя ўсе яны будуць дарэчы. Толькі Андрэй з імі не згодны.

— Што вы!.. — бянтэжыцца ён. — Знайшлі героя... Раблю, як усе... Падумаеш, дэталь вытачыў! Трэба было, дык і вытачыў. Гаворкі больш, чым тае справы.

З гэтым можна згадзіцца: вытачыць дэталь для токара Андрэя Іванчыка — сапраўды дробязь. Паглядзіце на яго збоку: не працуе, а чарадзейнічае чалавек. Ні аднаго лішняга руху, толькі вока прыжмурана, нібы бачыць тыя самыя мікроны, што зразае разец. І не заўважыш, як дэталь ужо гатова. Так працаваць Андрэй навучыўся на аўтамабільным заводзе, коміны якога над сіняй кромкай лесу відаць з саўгаса. Праца-



**Лепшы токар саўгаса Андрэй Іванчык.**

ваў ён там добра, не раз хвалілі і не хацелі нават адпускаць у сяло. А ён усё ж настояў на сваім, сабраў свае рэчы, сеў на прыгарадны аўтобус і прыехаў у «Волму». У саўгас з вялікага горада, ад прывычнага шуму вуліц, ад прыгожых афіш, што клічуць у кіно і тэатры, на «перыферыю», у гаспадарку, якая тады толькі-толькі станавілася на ногі.

Многія, вядома, шукалі прычыны гэтым «уцёкам» з завода. Большая зарплата? Не, у саўгасе яна была нават меншая. Жыллёвыя выгоды? Не. А можа гэта была цяга да прыроды, на прастор? Магчыма. А хутчэй за ўсё іншае: перспектыва. Дырэктар саўгаса Пятро Міхайлавіч Бабіцкі, якому тады было яшчэ каля двух год да пенсійнага ўзросту, заразіў яго сваёй неспакойнай ідэяй. Ляпаючы Андрэя па плячы, ён весела сказаў тады:

— Мы вось што з табой зробім, Андруша: горад вось на гэтай пустэчы, сапраўдны горад! Даю слова, буду працаваць да таго часу, пакуль не зробім саўгас самым лепшым у рэспубліцы ва ўсіх адносінах. Слова камуніста. Калі, вядома, не скажуць: хопіць, марш на пенсію! Ды і тады буду супрацўляцца!..

Паверыў старому камуністу Андрэй. І цяпер бачыць на свае вочы, як расце саўгас. Горад пачынаецца цяпер ужо тут, і многія, убачыўшы з шашы белы чатырохпавярховы дом з пад'ёмным кранам каля яго, роўную, прыгожую вуліцу з катэджамі, думаюць, што гэта ўжо Мінск. А вунь ужо зіхацяць светлымі вокнамі бальніца, дзіцячы сад, узвышаецца воданапорная вежа. А майстэрні якія! Неўзабаве будзе ґаз і вадаправод. Адным словам, наглядны прыклад таго, як знікаюць межы паміж горадам і вёскай. Праўда, тэатра свайго пакуль яшчэ няма, але ж Мінск побач, сеў у машыну і паехаў. Не, не адзін, а ўсе разам — дваццаць, трыццаць, сорак чалавек. Трэба толькі арганізаваць, зацікавіць людзей, загадзя закупіць білеты, навучыць людзей цаніць і разумець мастацтва. І гэтая клапатлівая справа ў саўгасе даручана яму, Андрэю Іванчыку. Гэтае даручэнне ён выконвае з уласцівай яму энергіяй.

Цікавыя лічбы росту саўгаса ў жывёлагадоўлі. Імення ў той галіне гаспадаркі, якая не лічыцца тут галоўнай. А гэта паказальна. Напрыклад, у 1958 годзе саўгас здаў дзяржаве ўсяго сто шаснаццаць тон мяса, а ўжо ў мінулым годзе — больш за паўтары тысячы тон. Тады было на фермах пяцьсот трыццаць сем кароў і чатырыста восемдзесят свіней, а цяпер кароў больш за васемсот, а свіней — намнога больш за тысячу. І калі гаворка заходзіць пра поспехі жывёлаводаў, дык вы абавязкова пачуеце пра работнікаў замасточанскай свінафермы. Была яна яшчэ нядаўна на самым апошнім ліку ў гаспадарцы.

— Ат, замасточанская! — махаў рукою бухгалтар. — Прахадны двор, а не ферма... Ці ж там парадак!..

Пятро Корсік стаў на гэтай ферме трэцім па ліку за тры гады брыгадзірам. Прыйшоў і ўбачыў: станкі паламаныя, свінні брудныя, хворыя, ледзь жывыя. Дзяўчатысвінаркі што ні рабілі, парадку навесці не маглі. А Пятро Корсік перш-наперш вось што зрабіў: моўчкі ўзяў у рукі сякеру і за некалькі дзён сам адрамантаваў усе станкі. Потым склікаў вытворчую нараду фермы: Рэню Сержановіч і Яню Ціхановіч, спытаў:

— Даўно, дзяўчаты, свінаркамі працуеце?

— Нядаўна... Скончылі дзесяцігодку і сюды на ферму прыйшлі, асвойваць свіную справу.

— Ясна! — усміхнуўся Пятро Корсік. — Значыць, будзем разам...

На гэтым «нарада» і скончылася. Узялі ўсе ў рукі вілы і сталі чысціць станкі ад леташняга гною. Потым усе разам заняліся раздачай кармоў. Так і не зразумееш збоку, хто тут брыгадзір, а хто падначаленыя...

Неўзабаве дзяўчат вадой, як кажуць, нельга было разліць: усё рабілі разам. І свінні сталі выглядаць лепш. Не забываў гэтую ферму і сакратар партбюро Галаўнёў, нібы шэфства ўзяў над ёй: і словам і справай памагаў. Прыедзе і перш-наперш, нібы жартам:

— Пятро Дзмітравіч, ну, як тут мой кандыдат, Рэня, працуе? Не падводзіць?

Корсік аднойчы зусім сур'ёзна адказаў:

— Можаце яе хоць сёння прымаць у партыю. Працуе сумленна. Кандыдацкі стаж праходзіць як трэба.

— А ты, Пятро Дзмітравіч, сам доўга будзеш хадзіць у беспартыйных? — нечакана спытаўся Галаўнёў.

— Прызнацца, думаў пра гэта не раз...

— Ну і да чаго дадумаўся?

— А вось да чаго: падцягнем ферму да перадавых — уступлю. А раней няёмка неяк.

Галаўнёў запярэчыў:

— Зрабілі вы ўжо і так нямала, не скромнічай, Пятро Дзмітравіч. Дырэкцыя табе давярае. Ведаем, зробіш больш.

— Добра, я параюся, — сур'ёзна сказаў Корсік.

— З кім? — здзівіўся Галаўнёў.

— З сумленнем, вось з кім...

Неўзабаве на замасточанскай свінаферме было ўжо два маладых камуністы: свінарка і брыгадзір. І справы там, гэта бачаць усе, прыкметна паляпшаюцца.

Пра кожнага камуніста саўгаса «Волма» можна напісаць апавяданне. І тых, у каго ўжо немалы тэрмін сумленнай службы сваёй партыі, і тых, хто нядаўна, напярэдадні XXII-га з'езда, уступіў у яе слаўныя рады, звязвае адно — высокае ўсведамленне грамадскага абавязку, бескарыслівасць, адданасць вялікай ідэі камунізма, у імя якой мы жывём і працуем.



**Надышла пара развітання. Трактарыст Мікалай Кароткі** (справа) **едзе на вучобу і перадае трактар, на якім працаваў, Анатолю Рабцу.**

Усе гэтыя людзі — веступы будучыні ў сучасным, дастойная змена старым камуністам. Імення ім ісці далей па дарозе ў будучыню, з гонарам несці сцяг камунізма. І такія, як чацвёра маладых камуністаў з «Волмы», ніколі не разгубяцца перад любымі цяжкасцямі, таму што мэта партыі — іх мэта, сэнс усяго іх жыцця.

**Саўгас «Волма»**
**Мінскага раёна.**

**Пятро ВАЛКАДАЕЎ**

# КУЁМ ДА ШЧАСЦЯ МЫ КЛЮЧЫ

**Нарыс**

## У КАМСАМОЛЬЦАЎ

Івана Пятровіча Ліпніцкага запрасілі камсамольцы на сход. Яны абмяркоўвалі праект Праграмы партыі. Стары каваль слухаў кароткія прамовы сваіх выхаванцаў, і сэрца яго напаўнялася невыказнай радасцю. Яна расла і расла ў грудзях, запаўняючы ўсю яго душу і заліваючы ўсё навокал урачыста-святочным святлом. Ветэран завода, стары камуніст, ён добра разумеў гарачыя пачуцці моладзі, узлёт яе думак...

Праект Праграмы чыталі ўсе. І ўсё ж, калі камсорг кавальска-зварачнага цэха Анатоль Сакалоў гаварыў аб праекце Праграмы, яго слухалі ўважліва. Гэты дакумент можна чытаць шмат разоў і заўсёды знаходзіць для сябе нешта новае. І вось што дзіўна — кожны чалавек сустракае ў праекце Праграмы радкі, звернутыя непасрэдна да яго. Таму, калі пачалі выступаць камсамольцы, у іх прамовах былі своеасаблівыя, цікавыя думкі.

Ліпніцкаму даводзілася часта быць на сходах, дзе кожны прамоўца як бы даваў справаздачу: маўляў, у нашым цэху вось так выконваецца план і вось колькі ўдарнікаў... Але тут не было такіх прамоў-справаздач. Тут гаварылі галоўным чынам пра недахопы, пра тое, што яшчэ не зроблена. За гэтымі прамовамі паўставаў вобраз заводскага камсамола — сапраўднага гаспадара свайго прадпрыемства.

— У праекце Праграмы адзначаецца, — усхвалявана сказаў каваль Юдзіцкі, — што ў стварэнні матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма галоўную ролю адыгрывае цяжкая прамысловасць. Мы тут усе працаўнікі цяжкай прамысловасці, мы робім станкі для нашых заводаў, імкнёмся працаваць так, як вучыць нас партыя. Але скажу шчыра: мы маглі б даваць куды больш нарыхтовак і паковак. Мы яшчэ не ліквідавалі страту рабочага часу. У награвальнай печы нарыхтоўкі ляжаць па тры-чатыры гадзіны, і мы пачынаем змену з перакуру. З гэтым час пакончыць!..

«Так, час!» — у думках згаджаецца Іван Пятровіч.

— Што ты прапануеш? — пытае Ягораў.



— Трэба падумаць.

— Тут страту рабочага часу ліквідаваць нельга! — заяўляе Яфрэмаў. — Нарыхтоўкі трэба награваць да паўтары тысячы градусаў...

Думаў стары каваль пасядзець моўчкі на гэтым сходзе, пагрэць сваю душу ў юнацтва ў гасцях. Але хіба змоўчыць сэрца камуніста! У родным цэху, на заводзе ідзе змаганне за камунізм, а Ліпніцкі заўсёды быў на пярэднім краі гэтага змагання. Ён не пайшоў з цэха нават тады, калі скончыўся яго працоўны век і яму напомнілі ў заўкоме, што, маўляў, час на адпачынак... Дзесяць год ён лічыцца ў спісе пенсіянераў завода, аднак свайго рабочага месца не пакінуў.

Калі Ліпніцкі падышоў да стала, усе прыціхлі.

— Можна пазбегнуць страт рабочага часу ў нас у цэху, — Іван Пятровіч прамовіў гэтыя словы ціха, але ў зале іх пачулі ўсе. — Як? Будзем закладваць нарыхтоўкі ў печ уначы... А раніцою — адразу каваць...

— Правільна! — захваляваліся камсамольцы. — Ноччу трэба распальваць печ...

Потым загаварылі пра тое, што занадта яшчэ шмат ручной працы ў кавальска-зварачным цэху; пра тое, што настаў час механізаваць загрузку і выгрузку печаў.

Нехта напомніў, што калектыў завода ўзяў на сябе абавязацельства ў гонар XXII з'езда партыі выпусціць 10 новых мадэлей працяжных станкоў, а вядома ж, ад кавальска-зварачнага цэха залежыць многае: прамарудзяць кавалі з пакоўкай дэталей — завод не выканае свае абавязацельствы. Вось чаму нарыхтоўкі для дэталей новых станкоў цэх павінен выдаць датэрмінова.

З гневам гаварылі камсамольцы пра тых, хто хоча ўзняць на нас руку. Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў ад імя партыі заклікаў увесь савецкі народ мацаваць магутнасць нашай Радзімы. Маладыя патрыёты-кіраўцы рашылі адпрацаваць адзін дзень у тыдзень у Фонд міру.

Камсамольцы кавальска-зварачнага цэха гавораць пра будучыню.





Міхась Жур калісьці вучыўся кавальскай справе ў Івана Пятровіча Ліпніцкага (справа). Сёння Жур вучыць моладзь майстэрству гарачай апрацоўкі металу, але бывае, што падыходзіць да свайго былога настаўніка, каб параіцца аб новай рацыяналізатарскай прапанове.

Фота **А. Дзітяава.**

Іван Ліпніцкі таксама думае пра яе. Яму вельмі хочацца ўбачыць будучыню. Ён спадзяецца, што ўбачыць яе. Няхай к гэтаму часу ён яшчэ больш састарыцца — нічога! Але ён вельмі хоча жыць, і таму дажыве да запаветнага дня.

За акном на шкляным даху цэхаў мільгацяць сонечныя блікі. Іван Пятровіч глядзіць праз акно і думае пра сваё. Не было іх, гэтых карпусоў, тады... Выраслі яны на яго вачах... Вырас завод, а разам з ім вырасла новае пакаленне людзей. Надзейная ўзнялася змена. Смелыя мары ў маладых, і яны па душы Ліпніцкаму. Некалі і ён быў такі малады і парывісты. Аб чым жа ён марыў у дні свайго юнацтва?

## ДАЛЁКІЯ ГАДЫ

Ужо каторы дзень хлапчукі бегаюць за вёску да старой сукаватай сасны, што адзінока прытулілася збоч дарогі. Узлязаюць на самую вершаліну і доўга глядзяць

на дарогу — абодва чорнагаловыя, бы тыя грачаняты.

Недасяжны горад хаваецца за парыжэлымі асеннімі ўзгоркамі. Маці гаворыць, што да Мінска недалёка, усяго дванаццаць вёрст. Аднак не бачна ж яго адсюль...

Недзе там у каменнай рабочай слабодцы бацька. Яго чакаюць дамоў з грашыма, а ён усё не вяртаецца. Напэўна не было палучкі яшчэ на заводзе. У хаце даўно няма хлеба. Апошнюю жменю мукі звялі на зацірку. Старэйшыя сёстры пайшлі да пана Ельскага, але ніякага заробку не прыносяць у хату.

Галоднымі вачыма хлапчукі абшукваюць апусцелы бальшак.

— Вечарэе ўжо, — гаворыць Іван малодшаму брату Адзіку: — Злазь!..

Яны злазяць з дрэва, чапляючыся за сучча кашулямі, на якіх паблісквbooюць латкі. Потым па ржышчы бягуць дадому.

— Не дачакаліся? Сядайце, гулякі, вячэраць...

Маці выцягнула з печы чыгунок. Прыкрыўшы анучай, аддадзіла з яго зялёную юшку і высыпала на стол жоўтыя, гарачыя кавалкі гарбуза.

На світанку на парозе з'явіўся бацька. Ён зняў з плячэй прапахлы кавальскім гарам пінжак і прысеў да стала, паклаўшы на калені жылістыя, у глыбокіх драпінах рукі.

У нізкія, падслепаватыя вокны заглядвала світанне — шэрае, мокрае. Бацька сядзеў ля стала і маўчаў. Ад гэтага на душы станавілася яшчэ маркотней. Ніколі ён не прыходзіў дадому такі прыгнечаны. Напэўна, нешта здарылася на заводзе...

— Зволілі, — злосна выдыхнуў бацька. — Баставалі мы... Вось пяцярых і выпхнулі за вароты.

— Як жа жыць будзем? — голас маці дрыжыць, яна закрывае твар фартухом. — Зямлі ў нас няма... Памруць дзеці з голаду. Васьмёра ж іх...

— Неяк пражывём, пракідаемся...

У той жа дзень бацька стаяў ля панскага ганка, зняўшы шапку. Злоснымі насмешкамі сустрэў «бунтаўшчыка» пан Ельскі. Аднак насміхаўся нядоўга. Добры каваль патрэбен быў у маёнтку. Пан пабяцаў свайму новаму батраку самую нізкую плату, але давялося згадзіцца: трэба ж было неяк пракарміць васьмёра малых дзяцей.

У тыя далёкія дні і нарадзілася ў душы хлапчука мара стаць кавалём. Рабіць, як бацька, з жалеза патрэбныя людзям рэчы.

Але не давялося Івану навучыцца кавальскаму рамяству ў свайго бацькі. Памёр той на панскім двары: забіў яго каля кузні падкаваным капытом панскі жарабок. Жмінда-пан не захацеў пабудаваць станок для падкоўвання коней. Прывязаў каваль жарабка да слупа і не паспеў падкаваць яго...

Чорная нястача зусім прыціснула асірацелую сям'ю Ліпніцкіх. На пана цяпер працавалі старэйшыя сёстры і маці. Праз усе дні яны гібелі ў маёнтку, але хлеб быў на стале хіба толькі на свята.

## НА РАНІШНЯЙ СЦЯЖЫНЦЫ

— Адпачні крыху, бо пуп надарвеш, — гаворыць дзед Яўсей і выцягвае скураны капшук з тытунём.

У грубаватым жарце старога гучыць бацькоўская ласка. Іван кладзе кувалду ля накавальні і, ацершы рукавом пот з ілба, садзіцца на парог. Яўсей пыхкае цыгаркай, злосна сапе і моршчыцца. Яго таксама знясільвае цяжкая работа, рукі ў яго трымцяць ад стомы, а мокрая кашуля аж дыміцца на спіне.

— Слабы ты кувалду няньчыць, — наракае ён на хлапчука. — Тут патрэбна конская сіла... Ды і гадоў табе мала... Чатырнаццаты, кажаш? Та-ак... Табе б яшчэ панскім цялятам хвасты накручваць, а не кувалдай махаць...

— Цяляты пасе брат, — абзываецца Іван. — А я хачу за каваля... Як бацька...

— Што ж, калі ахвоту маеш, вучыся... Вазьмі вунь тую кувалду... з кароткім дзяржаком... Яна для цябе зручнейшая.

Маці прывяла Івана ў кузню неўзабаве пасля пакроў, калі над зямлёй загулялі першыя белыя мухі. А вось ужо і трава зазеленела на прыгрэве. Снег растаў і збег гуллівымі ручаямі ў раку. На вярбіне, што згорбілася ля кузні, праклюнуліся кволыя лісточкі. Калі прайшла зіма — Іван не прыкмеціў. Кожную раніцу ўсхопліваўся з трэцімі пеўнямі і бег у кузню.

Маці аддала сына ў памочнікі да Яўсея за пракорм. Але стары ў канцы першага ж месяца выдзеліў Івану са свайго небагатага заробку тры рублі. Дома не паверылі. На другі дзень маці прыйшла з грашыма ў кузню. Пахмуры Яўсей сустрэў яе дабрадушнай усмешкай: бачыш, падзяліў сваю палучку пароўну.

З пагорка, дзе стаяла кузня, адкрывалася неабсяжная прастора з шырокім гасцінцам. Гэты старажытны абсаджаны бярозамі гасцінец трывожыў душу каваля-вандроўніка, клікаў у далёкія далі, да новых людзей, у іншыя краі, дзе няма гора і зла. Але такога кутка на зямлі не было. І напэўна таму Яўсей глушыў сваю скруху сівухай...

Аднойчы, пасля чарговай стычкі з панскім аканомам, Яўсей прызнаўся свайму памочніку:

— Толькі ты, Іванка, і трымаеш мяне тут. Паабяцаў я сабе вывесці цябе ў людзі... Навучу вось малатком такаваць і пайду зноў па свеце... Трыццаць год бадзяўся. Зноў душа просіць прастору. Хіба гэта жыццё! Бухаеш малатком ад світанку да цямна, куеш барышы пану Ельскаму, аж горб трашчыць... А якая мне радасць ад гэтай работы? Не, браце, тут як ні старайся, а з нястачы не выцерабішся... Але так і быць, застануся яшчэ на адзін год у злыдня. Дзеля цябе, хлопча...

Яўсей пакінуў сядзібу ўвосень, калі апусцелі палі і гарбатая вярбіна абсыпала на парог кузні паржавелыя лісты.

Адыходзячы, стары каваль паклаў памочніку на плячо сваю шурпатую далонь.

— Ну вось, Іванка, — сумна ўсміхнуўшыся, сказаў ён, — я табе больш не павадыр. Цяпер сам церабі сваю сцяжынку ў жыцці. Пачынаецца яна ў цябе тут, у кузні... А я здымаюся з прыколу. Не магу жыць на прывязі. Я — вольная птушка. Пайду ў белы свет... А ты, хлопча, мацней трымай у руках молат. Магчыма, гэтым молатам будзеш каваць новае жыццё... Чуў, што салдаты пішуць з фронта? Збіраюцца на цара штыкі павярнуць... Варушы мазгамі сам...

## ЗА ЎЛАДУ САВЕТАЎ

Раніцою нечакана ў дзвярах кузні з'явіўся Паўлюк — панскі фурман. На яго твары блукала загадкавая ўхмылка. Іван узрадаваўся яго прыходу. Фурман ледзь не кожны дзень ездзіў у Мінск, прывозіў адтуль заўсёды шмат навін. Аб усім расказваў так, нібы сам удзельнічаў у кожным здарэнні.

— Цара турнулі з прастолу, — паведаміў ён таямніча. — Вось як мы...

Бednякі ў Дзергаях зашумелі. Маўляў, час за пана Ельскага брацца. Зямлю патрэбна адабраць у яго, коней... Больш заможныя сяляне прапанавалі пачакаць, пакуль з'явіцца дазвол. Але ішлі дні, а дазволу наконт пана ніякага не было. Настала вясна. Ельскі па-ранейшаму сядзеў на мужыцкай зямлі, а дзергаёўцы батрачылі на ёй ад цямна да цямна. Замест цара цяпер кіравалі краінай міністры-капіталісты. Хіба яны дадуць у крыўду пана Ельскага!

Іван Ліпніцкі жыў у тыя дні чаканнямі. Ён верыў, што павінна адбыцца нешта такое, што зменіць яго жыццё ў корані. Гэтую веру падагравалі дэзерціры, якія хаваліся ў навакольных лясах. Яны запэўнялі, што салдаты ў акопах рыхтуюцца да паўстання. Уцякаюць з фронта, каб рабіць у Расіі рэвалюцыю. Ад салдат Ліпніцкі ўпершыню пачуў імя — Ленін. У тыя дні панскі батрак яшчэ не ведаў, што гэта бессмяротнае, палымянае імя будзе ўсё жыццё асвятляць яму дарогу.

Неўзабаве цікаўны Паўлюк расказваў, што па вуліцах Мінска ўжо адкрыта хадзілі рабочыя дружыны з чырвонымі палотнішчамі, на якіх было напісана: «Уся ўлада — Саветам!»

Віхура ў Расіі нарастала.

Гарматныя залпы «Аўроры»

пракаціліся па ўсёй краіне. Іх набатны гул пачулі і дзергаеўскія сяляне.

У вёсцы быў створаны камітэт беднаты. Івана Ліпніцкага таксама выбралі ў яго. Камітэтчыкі ўзялі на ўлік у маёнтку ўсё дабро. Аказваецца, пан не паспеў распрадаць маёмасць. Усё засталося ў Дзергаях.

— Камуну створым тут, — выказаў сваю запаветную думку Ціхан.

Але радасць на гэты раз была нядоўгай. Чорнай хмарай з захаду хлынулі кайзераўскія войскі. Выкарыстаўшы цяжкасці (рускія салдаты вялі вайну ўнутры краіны), немцы пачалі забіраць амаль без бою беларускія гарады. У сярэдзіне зімы салдаты Вільгельма захапілі Мінск. Камітэтчыкі Ціхан і Паўлюк пайшлі з чырвонагвардзейскім атрадам. Ліпніцкаму ж адмовілі, бо не хапала гадоў. Ён застаўся ў Дзергаях.

І зноў пан Ельскі стаў гаспадаром дзергаеўскай зямлі. Праўда, праз дзесяць месяцаў яму давялося зноў бегчы на захад. Але Ельскі, напэўна, моцна спадзяваўся на кайзераўскіх салдат, бо нешта дужа шчыраваў на гаспадарцы.

А падзеі нарасталі. Раніцамі вецер прыносіў з усходу водгулле далёкай кананады. Гарматны гром то заціхаў, то мацнеў. А выпадалі такія дні, што гарматныя стрэлы чуліся зусім побач. Значыць, Чырвоная Армія падыходзіць ужо да Мінска.

Ельскі замітусіўся. Пачаў зноў рыхтавацца да ўцёкаў. На гэты раз ён рашыў гнаць у Германію коней, кароў і вывезці сёе-тое з маёмасці. На дапамогу выклікаў з Мінска нямецкіх салдат. Але войска акупантаў само патрабавала дапамогі — Чырвоная Армія наносіла яму ўдар за ўдарам. І ў Дзергаі прыехала ўсяго шасцёра немцаў. Хоць у іх, апрача вінтовак, на возе ляжаў кулямёт, гэта не спалохала Ліпніцкага.

Ліпніцкі стварае атрад з сялян і вядзе яго да панскай сядзібы. Немец-кулямётчык, нічога не падазраючы, падпусціў сялян зусім блізка, ён нават не паспеў крыкнуць, калі Ліпніцкі выхапіў з-пад крыса абрэз. Кулямётчыка звязалі, заткнулі анучу ў рот і кінулі на фурманку, што стаяла побач. Каля свірна звязалі яшчэ двух немцаў. Астатніх спаймалі на двары, дзе яны рыхтавалі да адпраўкі каровы.

Не паспелі аддыхацца дзергаеўцы пасля нямецкай навалы, як з захаду прыйшла новая бяда. На беларускую зямлю ўварваліся белапалякі. Зноў запалыхалі злавесныя пажарышчы і залемантавалі на папялішчах асірацелыя дзеці.

Першымі пайшлі ў лес камуністы навакольных вёсак. За імі следам пацягнуліся былыя батракі. Так увосень 1918 года пачалася партызанская барацьба з белапалякамі, яна працягвалася ледзь не ўвесь год. У адзін з асенніх дзён таго ж навальнічнага 1918 года Іван Ліпніцкі павесіў на плячо абрэз і прыйшоў да партызан. Але камандзір атрада вярнуў каваля ў вёску.

— Будзеш у сваёй кузні рамантаваць нам зброю, каваць штыкі, кінжалы... З сённяшняга дня лічы кузню ружэйнай майстэрняй... Такі загад рэвалюцыі! — усміхнуўся партызанскі важак.

За зіму Ліпніцкі накіраваў шмат зброі ў лес да партызан. Вось калі спатрэбіліся яго ўмелыя рукі! Каваль рамантаваў вінтовачныя ствалы, затворы, каваў кінжалы. Адрамантаваў нават два станкавыя кулямёты. А калі адгрымелі на Міншчыне баі, ён зноў прыгадаў сваю даўнішнюю мару. Нейкая неадольная сіла цягнула яго ў горад, у заводскія цэхі — туды, дзе, некалі шукаў свой лёс яго бацька.

Убачыўшы, што Іван спяшаецца ў Мінск, яго маці пляснула рукамі:

— Атрымалі мы волю, зямлю... Цяпер самае што жыць ды радавацца, а ты, сынок, уходзіш ад свайго шчасця.

— Маё шчасце, маці, у горадзе, у заводскім цэху...

— Бацька твой таксама шукаў яго ў горадзе ды, бачыш, не знайшоў...

— Бацька не знайшоў, а я знайду. Цяпер і ў вёсцы, і ў горадзе наша ўлада, рабоча-сялянская...





Сапраўды залатыя рукі ў старэйшага на заводзе каваля Міхаіла Лейбавіча Райхліна. Яго доўгагадовая высокапрадукцыйная праца адзначана ордэнам Леніна.

## МЫ — КАВАЛІ

Іх накавальні стаялі побач, Ліпніцкаму добра было бачна, як працавалі яго таварышы — Рымнік і Пінчукоў. Нахіліўшы чубатую чарнавалосую галаву, Рымнік учэпіста трымаў абцугамі пакоўку і паважна, але ўпэўнена біў молатам. Ён усміхаўся і ледзь чутна заводзіў: «Мы — кузнецы...» А Пінчукоў усё піхаў у горн кавалак жалеза. Бровы яго нахмураны, вусны моцна сціснуты. Напэўна, не ладзіцца ў яго.

Ліпніцкі падышоў да таварыша, паглядзеў на яго пакоўку. Так і ёсць, замінка. Перакаваў. Ён не злуе на Пінчукова: яны ж працуюць побач і гэтую рэч робяць упершыню. Тут не адразу скеміш, што да чаго...

— Давай разам абмазгуем, — прапануе Іван Ліпніцкі, — Знойдзем промах...

— Не ўжо, адзін буду шукаць, — каваль упарта ссунуў бровы. — Калі ўсё спадзявацца на таварыша, сам думаць перастанеш.

Іван у думках згодзен з хлопцам. На самай справе, навошта перашкаджаць яму? Зараз ён пакешкаецца, затое потым нагоніць страчаны час. Хлопец ён кемлівы.

Ліпніцкі вярнуўся да сваёй накавальні, выцягнуў з горна гарачы абрубак жалеза і зноў узяў малаток у рукі.

Кавальскі цэх гудзеў, нібы асенні лес на ветры. З ранняга світанку бушавала полымя ў горнах, звінеў метал, вухалі малаты, у куце свірчэў свідравальны станок. А ў вокны глядзела ранішняе сонца — такое ж чырвонае, як выцягнутая з горна жалезная плаха.

У час перакуру да Ліпніцкага падышоў Рымнік.

— Глядзі ты, хутка ўдарнікам станеш, — усміхнуўся таварыш. — Я толькі другія ціскі пачынаю, а ты ўжо трэція паставіў на цялежку. Дзе налаўчыўся гэтак?

— У панскай кузні... Бадзяжны каваль вучыў...

— Бачу, добры настаўнік быў у цябе...

Ліпніцкі выканаў дзённую норму на дзве гадзіны раней. Некалькі дэталей адкаваў у лік заўтрашняга дня і выйшаў з цэха. На двары падсобніцы капалі канаву для вадаправода, а каля механічнага цэха задзірыста вуркатаў адрамантаваны «Пуцілавец». Вось ён, былы Кашарскі завод. «Камунарам» яго цяпер называюць. На беразе Свіслачы стаяць тры прызямістыя, закопчаныя будынiны.

Гэта цэхі завода — ліцейны, механічны і кавальскі. Вокны нізкія, амаль што квадратныя. Страха глухая, без прасветаў. Аднак пад гэтым змрочным дахам грукала заводскае сэрца. Горача дыхаюць яго горны і гудзяць станкі. Зусім нядаўна ў каменных хлявах шаргацелі лятучыя мышы ды хаваліся бяздомныя сабакі. Ад старога дарэвалюцыйнага абсталявання тут не засталося ні аднаго станка, ні адной накавальні. Усё разграбілі нямецкія і белапольскія акупанты. Разняволеныя людзі за кароткі час нанова абсталявалі цэхі. Спачатку пабудавалі кавальскі цэх. У ім і пачалі каваць будучую славу завода. Ён, кавальскі цэх, жывіў іншыя цэхі. Цяпер «Камунар» даўно прымаў заказы на рознае ліццё і на абсталяванне. Вырабляў і рамантаваў вадзяныя турбіны, млынавыя і вальцавыя паставы, крупадзёркі, сукнавалкі, гантарэзкі, рамантаваў трактары, аўтамабілі, рухавікі.

Разбуранай гаспадарцы рэспублікі патрабавалася самае разнастайнае абсталяванне, і рабочыя «Камунара» рамантавалі любыя машыны і ўсё, што траплялася пад руку.

...Ліпніцкі накіраваўся да варот механічнага цэха. Там яго сябар Сяргей Скрыпка. Токар. Яны прыйшлі на завод амаль што ў адзін час. Юнакоў згуртавала цяжкае жыццё. Яны абодва далі слова, што будуць працаваць на заводзе па-ўдарнаму.

Скрыпка сустрэў таварыша раднасай весткай:

— Ёсць навіна, Іване. З мая пачнем асвойваць выпуск камбінаваных цыркулярных і гантарэзных станкоў... Новы цэх будаваць пачнем...

Ён па-заліхвацку ссунуў шапку набакір і дадаў:

— Расцем, таварыш! Расцем...

А ў хуткім часе Ліпніцкі перажыў яшчэ адну радасць. У заводскай насценгазеце «Ударнік» з'явіўся артыкул, які называўся: «Яны апераджаюць час». Аўтар артыкула расказваў пра тых, хто на заводзе працаваў па-ўдарнаму, пералічваў вытворчыя поспехі перадавікоў. У гэтым артыкуле Іван убачыў і сваё прозвішча. У спісе ўдарнікаў упаміналася таксама і прозвішча Скрыпкі. Ліпніцкаму прыемна было, што яны з сябрам крочаць разам.

Неяк раніцою, калі заводскі гудок абвясціў пачатак змены, у кавальскі цэх забег усхваляваны Скрыпка. Ён паклікаў Ліпніцкага ўбок і загаварыў збянтэжана:

— Нехта станок мне заклініў... Памажы адрамантаваць...

Каля такарнага станка хлопцы знайшлі запіску. На папяроснай паперы зміяліся злосныя непісьменныя словы: «Хочиш больше нас получать денег! Бросай ударничество, а то...»

— Паскуды! — абурыўся Скрыпка. — Гэта яны, прагульшчыкі. Больш некаму... Самі лайдачаць і іншым перашкаджаюць працаваць.

У канцы рабочага дня у механічны цэх прыйшоў дырэктар завода Ласоўскі. Ён прапанаваў спыніць работу і выйсці ўсім на двор. Там ужо сабраліся кавалі і ліцейшчыкі. На гэтым незвычайным мітынгу камунараўцы ганьбай закляймілі лодыраў і прагульшчыкаў, якія ў карыслівых, шкурніцкіх мэтах плявузгалі на ўдарнікаў.

Два гады Ліпніцкі рыхтаваў сябе да ўступлення ў партыю. Кантраляваў кожны свой крок, кожны ўчынак. З дня ў дзень ён вывучаў праграму партыі, працы Леніна і Сталіна. У 1931 годзе камуністы завода прынялі Івана Ліпніцкага ў свае рады. Той вясновы дзень застаўся ў памяці назаўсёды. Неўзабаве каваля Ліпніцкага прызначылі начальнікам кавальскага цэха.

## ДРУГАЯ МАЛАДОСЦЬ

У самы разгар змены новы дырэктар завода Драбышэўскі выклікаў Ліпніцкага ў кабінет. Каваль не здзівіўся. У тую гарачую восень часта праводзіліся нарады. Але, увайшоўшы ў кабінет, каваль убачыў там з цэхавых кіраўнікоў толькі Скрыпку. Начальнік механічнага цэха і дырэктар сядзелі за сталом. Перад імі на стале ляжалі новыя чарцяжы.

— Пачынаем вялікую справу, Іван Пятровіч, — сказаў дырэктар, паказаўшы на чарцяжы. Потым зноў павярнуўся да Скрыпкі: — Вам, як начальніку механічнага цэха, давядзецца нямала папрацаваць. Пакуль у нас няма сваіх канструктараў, і мы часова будзем працаваць па чужых чарцяжах. Падкрэсліваю — часова. Хутка будуць у нас і канструктары свае...

Размова ішла аб пераходзе на станкабудаванне. Завод выпускаў ужо даволі складаную прадукцыю, але стварэнне станкоў было справай новай і невядомай. Таму Скрыпка спачатку нават разгубіўся: з чаго ж пачынаць?

— Пачынаць будзем з людзей, — сказаў дырэктар. — Падбярыце спрактыкаваных токараў, слесараў, фрэзероўшчыкаў, расточнікаў... Прадумайце гэтае пытанне, а ўвечары збярэмся і абмяркуем...

Ліпніцкі слухаў размову дырэктара з начальнікам механічнага цэха і думаў аб новым лёсе завода. Як усё крута змянілася! За такі кароткі час... На беразе Свіслачы няма болей паўсаматужнага прадпрыемства па рамонту трактараў і крупадзёрак. Узняліся новыя карпусы станкабудаўнічага завода. Вырас і кавальскі цэх. Цяпер вухаюць-перагукваюцца там два пружынныя молаты і спявае магутны металарэжучы станок.

Нібы адгадаўшы думкі Ліпніцкага, дырэктар сказаў:

— Кавальскі цэх пашыраем. Паставім трэці молат і раздзьмем яшчэ адзін горн...

Гэта было ў канцы 1933 года. Завод паспяхова выканаў першую пяцігодку за чатыры гады, узмужнелым прыступіў да выканання другога пяцігадовага плана. «Камунар» стаў ужо механізаваным прадпрыемствам, узброеным даволі багатай тэхнікай. Партыя і ўрад, праводзячы палітыку індустрыялізацыі краіны, аддавалі ўсё больш сродкаў для развіцця завода. Выраслі новыя карпусы, цэхі папоўніліся новым абсталяваннем. Аднак выпуск першых станкоў быў справай нялёгкай.

Дырэктар разумеў, якія думкі трывожылі Ліпніцкага і Скрыпку.

— Вы камуністы, — узмахнуў ён шырокай, нібы ў малатабойца, далонню. — Дырэкцыя і партком даручаюць вам пусціць завод на поўную магутнасць да першага студзеня. А ў лютым павінны стаяць у зборачным цэху першыя станкі, — дырэктар патушыў піпку аб попельніцу, выбіў незгарэлы тытунь. — Гавораць, вы ўжо рабілі гантарэзныя станкі?

Ліпніцкі хацеў сказаць, што той станок мала што мае агульнае з новымі станкамі. Там усё было проста і зразумела. А тут...

— Канструкцыя станкоў складаная, — нібы падслухаўшы думкі каваля, сказаў дырэктар, — але мы павінны авалодаць станкабудаваннем. Заўтра ў цэхі прыйдуць навічкі. Вучыце іх і самі вучыцеся...

Ліпніцкі разумеў, якая цяжкая справа даручаецца яму, але, ступіўшы да стала, коратка паабяцаў:

— Станкі зробім...

Увесь дзень упарта думаў, каго ж паставіць да металарэжучага станка. Рашыў: вучыць Александровіча — кемлівы хлопец. А для другой змены падрыхтаваць Мамантава.

Раніцою Ліпніцкі паклікаў кавалёў у канторку, расказаў пра размову з дырэктарам. Хлопцы зашапталіся. Першым загаварыў Мамантаў:

— Канешне, можна падумаць пра нас, што мы тут, як у цёмным лесе,— нясмела сказаў ён.— Няправільна! Пакуль ішоў мантаж цэха мы вывучалі механізмы... — Пасмялеўшы, ён дадаў: — Мы тут гаварылі паміж сабой, Іван Пятровіч, і рашылі: будзем вучыцца начамі, насля работы!

Увечары Ліпніцкі запрасіў навічкоў да металарэжучых піл.

— Гэта вельмі капрызныя механізмы,— сказаў ён.— Пры няўмелым абыходжанні яны часта псуюцца. — Ён паклаў правую руку на штурвальчык, а левай узяўся за рычажок выключальніка. — Вось глядзіце, як заводзіцца станок.

Позна ноччу Ліпніцкі павёў навічкоў да спружыннага молата, выцягнуў з горна гарачую плашку і пачаў навучаць, як выкоўваць дэталі.

Аднойчы Ліпніцкі затрымаўся на заводзе больш звычайнага. У гэтыя дні кавалі рабілі дэталі да

новых станкоў. Справа спачатку не ладзілася, і вялікая частка паковак ішла ў брак. Даводзілася пачынаць вучобу нанава.

— Ты зусім забыў дарогу дадому, Іван, — дакарала каваля жонка. — Цэлы месяц корпаешся ў цэху, не бачыш, як растуць сын, дачка...

— Хіба ты не ведаеш, што заводам патрэбны станкі? — адказваў Ліпніцкі. — Мы жывём з табой не першы год, не першы раз даводзіцца мне начаваць у цэху.

— Але я хвалююся, калі не ведаю, як ідуць у цябе справы на заводзе. А хто, акрамя цябе, мне раскажа пра гэта?

Ліпніцкі ўсміхнуўся. Вельмі добра, што жонка разумее яго. І, адклаўшы газету, расказаў ёй, як рабочыя кавальскага цэха ў гэтыя дні змагаліся з бракам.

Камуністы завода стрымалі сваё слова. У студзені 1934 года былі выпушчаны першыя тры станкі: працяжна-механічны, нажовачна-гідраўлічны і цэнтравальны. Гэта была вялікая вытворчая перамога не толькі для калектыву завода, але і для ўсёй прамысловасці рэспублікі. У Беларусі стваралася свая станкабудаўнічая прамысловасць.

Першая перамога акрыліла станкабудаўнікоў, павяла іх да новых поспехаў. Ужо к канцу года было адпраўлена на металаапрацоўчыя прадпрыемствы краіны 12 працяжных, 57 цэнтравальных і 100 нажовачных станкоў.

У гэтым жа 1934 годзе пасля зладзейскага забойства Кірава па просьбе рабочых заводу было прысвоена яго імя.

## СВАІМІ РУКАМІ

Трэці дзень Ліпніцкі сядзеў дома. Па загаду ўрача яму трэба было ляжаць у пасцелі. Ціха ў кватэры. Сонечная раніца. Дзеці і жонка пайшлі ў парк. Ён чытаў кнігу, потым задрамаў. Раптам з пакоя, дзе быў рэпрадуктар, пачуўся трывожны голас дыктара:

— Бамбілі нашы гарады... Львоў, Брэст...

Прыбегла дадому жонка з дзецьмі. Голас у яе дрыжыць, твар спахмурнелы:

— Вайна!.. Немцы напалі...

Ліпніцкі скінуў з грудзей гарчычнікі і пачаў апранацца.

— Ты ж хворы, — упрошвала жонка. — Паляжаў бы яшчэ дзень-два...

Але хіба мог Ліпніцкі ляжаць дома ў такі час! Пакуль ён дабраўся да завода, там пасярод двара ўжо ішоў мітынг. Адзін за другім выступалі кіраўцы і заяўлялі аб сваёй гатоўнасці аддаць усе сілы на абарону Радзімы. Многія адразу пайшлі на фронт. Ліпніцкі ўзяў у рукі партызанскі аўтамат.

Тры гады камуніст Ліпніцкі помсціў гітлераўскім акупантам за разбураны завод, за родны Мінск. Дзесяткі варожых эшалонаў з ваеннай тэхнікай і боепрыпасамі былі скінуты пад адхон мінамі, якія рабіў каваль Ліпніцкі ў партызанскай кузні.

У ліпені 1944 года Савецкая Армія выбіла фашыстаў з Мінска, Ліпніцкі вярнуўся на родны завод. Вярнуўся з партызанскага лесу не адзін, а прывёў з сабой былога падрыўніка, плячыстага хлопца з вясёлымі дапытлівымі вачамі. Называлі яго — Хведар Макараў. Прафесія ў яго была — слесар. Ведаў Ліпніцкі, што ўмелыя рукі спатрэбяцца на заводзе вунь як!

На месцы былога завода засталіся груды цэглы ды пакручанага агнём металу. Але для ўсіх было ясна, што завод трэба аднавіць, што зноў раніцамі павінен гучаць яго прызыўны гудок. Кіркамі, ламамі, а то і проста рукамі кіраўцы разбіралі руіны заводскіх карпусоў. Токары, ліцейшчыкі, фрэзероўшчыкі бралі ў рукі кельмы і станавіліся на рыштаванні. За кароткі час адбудавалі кавальскі і інструментальны цэхі. Адрамантавалі абгарэлыя станкі. Пачалі выпускаць першую прадукцыю — механічныя пілы.

Днём былыя партызаны працавалі ў цэхах, а па вечарах разбіралі заводскія руіны. З Масквы, з Урала прыбыло новае абсталяванне. Узняліся, зашумелі новыя цэхі — ліцейны, механічны, зборачны.

Красавіцкім днём 1945 года вагранкі ліцейнага цэха далі першы метал. У ліцейцы сабраліся рабочыя. У кожнага твар свяціўся радасцю. З першага ж металу была адліта чыгунная дошчачка, на якой занатавана дата першай пасляваеннай плаўкі. Дошчачка была ўрачыста прымацавана да сцяны аднаўленага цэха.

У канцы 1946 года рабочыя механічнага цэха адправілі з варот першы гарызантальна-працяжны станок-паўаўтамат. Цяпер завод асвоіў выпуск іншых, больш складаных станкоў. Сур'ёзныя цяжкасці, якія давялося пераадольваць тады кіраўцам, ужо неяк сцерліся, пачалі забывацца. Але ў той час не адну ноч без сну давялося правесці галоўнаму канструктару Талаку і канструктару Белякову разам з іншымі спецыялістамі, працай якіх стварaўся станок-паўаўтамат. Праз два гады кіраўцы адправілі заводам краіны 17 мадэлей арыгінальнай канструкцыі працяжных і абразных станкоў — аўтаматаў і паўаўтаматаў.

Вырас завод, выраслі і яго людзі. Ужо станкабудаўнікі другога пакалення, што прыйшлі на завод у пасляваенныя гады, кіруюць у цэхах.



**Малады каваль камсорг цэха Анатоль Сакалоў сустракае XXII з'езд партыі ўступленнем у яе рады. Наш фотакарэспандэнт засведчыў той момант, калі малады каваль Анатоль Сакалоў падае заяву аб уступленні ў рады ленінскай партыі сакратару цэхавага партбюро Васілю Лабазаву** (справа).

## ГАРАЧЫЯ БУДНІ

Зборачны цэх. Ля пульта кіравання — майстар Макараў. Ён раз-пораз націскае на чорныя кнопкі, падобныя на клавішы пішучай машынкі. Але — дарэмна. Паўзунок праскоквае кантрольны зуб і не выключае станок.

Побач — галоўны канструктар завода Талака. Ён нервуецца. Для хвалявання ёсць прычына. На станкі паступіў заказ з Кітая і Індыі, але адпраўляць іх з такім кіраваннем нельга.

Канструктар над чарцяжамі правёў не адну ноч. Забракаваны дзесяткі варыянтаў, аднак і гэты варыянт аказаўся непрыгодны. Здаецца, усё было ўлічана, усё прадумана, але вось сабралі станок, і механізм кіравання адразу паказаў «характар».

Тут жа, ля эксперыментальнага станка, стаялі начальнікі іншых цэхаў — ліцейнага, механічнага і кавальскага. Ім таксама не хацелася прапусціць момант нараджэння новага станка. І хоць на іх няма нараканняў, але начальнікі стаяць пахмурыя. Тут промах аднаго хвалюе ўсіх. Чужую няўдачу перажываюць, як сваю ўласную.

— Паўзунок не дзейнічае, Георгі Сафронавіч, — сказаў Макараў.

— Бачу, — адказаў Талака.

— Што будзем рабіць? — спытаў майстар.

— Ствараць новае кіраванне, — прамовіў галоўны канструктар. — З такім механізмам нельга пасылаць станок за мяжу!..

Неўзабаве ў цэх падышоў парторг. Ніхто не заўважыў, калі ён увайшоў.

— Ну, як станок? — спытаў ён, здароўкаючыся з усімі.

— Кіраванне падвяло, — адказаў Талака. — Я толькі цяпер зразумеў, што ўскладнілі мы яго вельмі... Тут напрошваецца нешта прасцейшае. А што? Ніяк не магу дадумацца...

— Давайце думаць разам, — сказаў парторг. — Магчыма, хто са зборшчыкаў што-небудзь падкажа... Зрабіў жа вясной майстар Макараў тэхнічнае ўдасканаленне. Дарэчы, вельмі вартае...

Ад нечаканай пахвальбы Макараў разгубіўся. Ён стаяў з паружавелымі шчокамі ля станка і ад

хвалявання не мог нічога прамовіць. Супакоіўшыся, адказаў:

— Якое там удасканаленне? Дробязь... Эканомія ўсяго трыццаць тысяч рублёў у год.

— Справа тут зусім не ў эканоміі... Ты сваім удасканаленнем вызваліў пару рабочых рук ад непатрэбнай работы. А гэта, браце, вялікая справа. — Ідучы з цэха, парторг дадаў: — Станкі нашы чакаюць у Індыі... Не забывайце, таварышы!..

Выпрабаванне ўнікальнага аўтаматычнага станка прыпынілі. Начальнікі другіх цэхаў пайшлі. Пакінуў цэх і Талака. Ля станка засталіся Макараў і тэхнолаг цэха Аксенкруг. Яны доўга яшчэ корпаліся ля станка. Ім усё яшчэ верылася, што кіраванне можна адрэгуляваць. Іншы раз іх думкі пацвярджаліся — кіраванне дзейнічала, але потым зноў пачынаў пераскокваць паўзунок, і тады ў душы эксперыментатараў гаслі надзеі.

Ішлі дні, а з канструктарскага бюро ўсё яшчэ не паступалі чарцяжы новага механізма кіравання.

— А калі зрабіць пласцінчаты рычаг? — размаўляў сам з сабою Макараў. — Каробкі канечнага выключальніка перанесці з пультавага шчытка ўнутр...

У зборачным цэху па-ранейшаму кіпела работа: гудзелі машыны, успыхвалі блакітныя агеньчыкі аўтагену, угары грукатаў пад'ёмны кран.

На суседнім участку стаяў тэхнолаг Аксенкруг. Макараў падышоў да яго.

— Думка адна прыйшла ў галаву, — сказаў Макараў. — Давай разам памяркуем...

Яны спыніліся ля станка. Макараў выцягнуў з кішэні свой блакноцік. Яго думка заключалася ў тым, каб замест паўзунка паставіць пласцінчаты рычаг, а мікравыключальнік перанесці ў іншае месца.

— Як жа так, здаецца, такая простая думка, а не прыйшла нікому ў галаву раней, — прамовіў тэхнолаг. — Ты знайшоў тое, чаго шукаюць канструктары... Ідзі зараз жа да Талакі.

Галоўны канструктар доўга глядзеў на чарцёж. На яго твары нельга было прачытаць, што ён думаў у гэты час. Ён моўчкі стукаў алоўкам па шкле і хмурыў бровы. Макараву здалося, што зараз Талака скажа: «Не тое, брат, не тое...»

Выслухаўшы майстра, галоўны канструктар сказаў:

— Рыхтуй эксперымент.

Раніцою, калі новы варыянт кіравання быў гатовы для эксперыменту, Макараў заспяшаўся да галоўнага канструктара. Дзверы прыёмнай былі прыадчынены, і ён пачуў голас сваёй жонкі:

— Павінен быў вярнуцца ўчора ўвечары, а вось і сёння ўсё няма... Можа здарылася якое няшчасце на паляванні.

Макараў увайшоў у прыёмную.

— Не злуйся, Ліза, — сказаў ён. — У нас у цэху гарачыя дні цяпер... Я новае прыстасаванне да станка прыдумаў...

— Во яшчэ знайшоўся мне вынаходнік! — усміхнулася жонка. — Усю ноч не спала праз цябе, усялякія думкі ў галаву лезлі. І дзеці хвалююцца. Хоць бы зайшоў, папярэдзіў.

— Вінават, што зробіш...

Праз некалькі хвілін Макараў з галоўным канструктарам ужо былі каля станка. На гэты раз Талака сам стаў ля пульта кіравання. Час ад часу ён кратаў кнопкі, то ўключаючы станок, то выключаючы. Новае кіраванне працавала бездакорна.

— Малайчына, — проста сказаў галоўны канструктар майстру. — Выручыў ты наш завод.

Аб прапанове Макарава хутка даведаўся і яго даўнішні сябар Ліпніцкі. Ён прыйшоў павіншаваць майстра з поспехам, а заадно не прамінуў выпадку расказаць, што робіцца ў кавальскім цэху.

— Ведаеш, Федзя, — сказаў стары каваль, — Анатоль Сакалоў прапануе прыстасаванне да металарэжучага станка... Скарасць абаротаў пілы павялічваецца ў два разы. Цяпер і ў кавальскім цэху зашуміць работа! Яшчэ адзін падарунак рыхтуем XXII з'езду партыі... Вось яна наша моладзь якая!.. У заўтрашні дзень выкіравалася!





# НЕСПАКОЙНАЕ ЮНАЦТВА

**Рэпартаж з Гомельскага абласнога рускага драматычнага тэатра**

...Жылі-былі на заводзе: Галя (засл. арт. БССР Т. Скарута), Косця (арт. У. Грышын), Таня (арт. Л. Місько), Сярго (арт. В. Айвазян), Ігар (арт. С. Каменскі), Міша (арт. Ф. Іваноў), Шура (арт. Г. Вінаградава). Быў яшчэ на заводзе і Ваня (арт. Э. Цурбакоў). Хлопцы шчыра стараліся ўцягнуць яго ў агульнае жыццё. А Ваня трымаўся ў баку. Не так даўно ён быў злодзеем. І хлопцу ўвесь час здавалася, што ён чужы для ўсіх. Ды яшчэ ж ён любіў гарэлку.

Весела жыла заводская моладзь. Гэтая весялосць пераходзіла і на старэйшых таварышаў. Старшыня заводскага камітэта таварыш Кузоўкін удзельнічаў у маладзёжных вечарынках, любіў пажартаваць і сам ахвотна станавіўся аб'ектам сяброўскіх жартаў. Гляньце на





наш здымак — як весела таварыш Кузоўкін (арт. В. Смердаў) спявае куплеты з Таняй і Зінай...

Але здараліся ў жыцці моладзі часам і непрыемныя хвіліны. Здараліся нечакана і без асаблівай на тое, здавалася б, прычыны. Пакахаў Міша добрую дзяўчыну Шуру. Ну і што ж тут такога! Кахае ж, хоць і не гаворыць пра гэта, Сярго бялявую Галю... Але бяда ў тым, што Шура запала ў сэрца яшчэ аднаму хлопцу. І каму б вы думалі? Ваню! Але Міша і слухаць не хацеў, каб паміж «яго Шурай» і былым злодзеем было што-небудзь агульнае, ну хоць бы сяброўства. І вось аднойчы ледзь не пабіліся хлопцы з-за рэўнасці. Добра, што Шура падаспела ў час і супакоіла гарачыя сэрцы. Непрыемнасць, але не такая ўжо вялікая. Здараецца горшае...

Аднойчы непадалёку ад інтэрната, дзе







жыла моладзь, здарыўся пажар. Камсамольцы кінуліся тушыць агонь. І адзін з іх, самаахвярна ратуючы людзей, сам трапіў у бяду — з другога паверха ўпаў у агонь. Гэта быў Ваня. Фотааб'ектыў засведчыў якраз той момант, калі Зіна, пабываўшы ў бальніцы, расказвае сябрам пра вельмі цяжкі стан таварыша. Ване пагражае смерць, калі яму неадкладна не зрабіць перасадку скуры. Трэба памагчы, пакуль не позна. «Я павінен даць сваю скуру злодзею?» — разважае Міша, які пакутуе ад рэўнасці... «Даць скуру, гэта значыць самому легчы ў бальніцу на доўгі час... А як жа экзамены ў інстытут?.. — блытаюцца думкі ў Сярго. «Вось калі б адразу ўзялі скуру, хоць сабе паўметра, і адпусцілі дахаты, — тады, калі ласка!..»

Не ўсе знаёмыя ўжо нам заводскія хлопцы былі на пажары. Не пайшоў туды, дзе людзям пагражала небяспека, аматар прыгожых слоў Косця. Не пайшоў і Ігар. Ігар, наогул, быў загадкай у калектыве. Найбольш адукаваны сярод хлопцаў, ён быў занадта разважлівы. Ён вырашыў, што тушыць пажар павінны пажарнікі, і ў той час раскрываў свае пачуцці Тані. Таня толькі нядаўна скончыла сярэднюю школу і не разбіралася як след у жыцці. Яна паверыла Ігару, што ён добры хлопец.

Перасадка скуры Ваню была зроблена. На гэта пайшлі ўсе яго таварышы па інтэрнату. У тым ліку і Ігар. Але хлопцу не станавілася лепш. Жыццё яго магло выратаваць на гэты раз толькі пераліванне крыві, узятай ад чалавека, які ў свой час таксама перанёс моцны апёк. Такім чалавекам аказаўся галоўны ўрач бальніцы Павел Фёдаравіч Купрын (засл. арт. БССР М. Цурбакоў). Ён доўга не верыў у магчымасць выратавання Ване і прапанаваў замест хірургічнага ўмяшання толькі клопаты аб палягчэнні пакут хворага. Але даведаўшыся пра тое, што яго кроў можа зрабіць цуд, ён без ваганняў даў сваю кроў хвораму.

Праходзіць яшчэ некалькі дзён. У хваробе Ване настаў рашучы пералом. Цяпер ужо ніхто не сумняваўся, што ён будзе жыць. Каля яго пасцелі пастаянна дзяжурыць Шура, якая назвалася нявестай Ване. У часе адной з кароткіх размоў Ваня просіць, каб Шура пацалавала яго. Адзін раз. Шура не адразу выконвае гэту просьбу, а пацалаваўшы, выбягае з палаты і шчыра расказвае аб тым, што здарылася, сваім таварышам. «І ты яго сапраўды пацалавала?» — пытаецца Міша. «А што ж тут такога, калі памагае!..» — адказвае Шура і ледзь не самлелая апускаецца на ложак. Усе адобрылі ўчынак Шуры. Усе, нават Міша! Так пачуццё таварыскасці перамагае рэўнасць. Так хлопец вылечваецца ад душэўных пакут і становіцца шчаслівы. Шура выходзіць за Мішу замуж.



У бальніцы адбываецца яшчэ адна цікавая сустрэча. Прыходзіць маці Ігара (арт. А. Каменская). Аказваецца, што Ігар трапіў на завод, уцёкшы з дому, дзе яму жылося вельмі ўжо бесклапотна на бацькавым хлебе. Маці, якой цяжка зразумець, што адбылося ў душы сына пад уплывам здаровага калектыву, спрабуе пераканаць яго вярнуцца дамоў. «Я пагутару з татам. Ён даруе!» — угаварвае яна Ігара. «Не! — гаворыць юнак. — Не трэба. Я не дарую ні яму, ні табе, ні сабе!»

Так на вачах гледачоў гэтага хвалюючага спектакля адбываецца станаўленне нашага маладога сучасніка, які трапіў быў у бяду, але пад уплывам дружнай заводскай моладзі знайшоў свой сапраўдны шлях у жыцці.



* * *

Спектакль аб моладзі, пастаўлены ў асноўным моладдзю Гомельскага абласнога драматычнага тэатра па п'есе І. Шура «Заводскія рабяты», сыграны шчыра (у гэтым немалая заслуга рэжысёра А. Каменскага) і ўспрымаецца гледачом, як размова аб тым, што адбываецца вакол нас.

**А. ДЗІТЛАЎ.**



**Г. Скамарохаў. Ідзе мантаж.** З будоўлі Бярозаўскай ДРЭС.

**Сцяпан КУХАРАЎ**

# АГНІ БЕЛАЗЁРСКА

**Рэпартаж**

Збоч магістралі на Брэст, на вялікім чыстым гале між двух азёр — Белага і Чорнага — за два гады вырас новы горад беларускіх энергабудаўнікоў Белазёрск.

Белазёрска яшчэ няма на карце. Але такі горад ёсць. У ім больш як дзве тысячы жыхароў. Ужо ўгадваюцца яго вуліцы і плошчы. Ля дамоў шапочуць галінкамі маладыя дрэўцы. На новым стадыёне ідуць гарачыя спаборніцтвы мясцовых аматараў спорту.

Белазёрск яшчэ будуецца. Ён скрозь застаўлен кранамі. І зусім недалёка той дзень, калі святло адсюль па правадах пойдзе ў іншыя гарады і сёлы рэспублікі.

Ад гарадка, як рукою падаць, раскінулася пляцоўка, дзе ўзводзіцца буйнейшая ў рэспубліцы Бярозаўская ДРЭС.

Электрастанцыя — навінка ў будаўніцтве. Яна, калі можна так сказаць, будавалася на заводах, а тут ідзе толькі зборка і мантаж. Вось галоўны корпус. Ён вырас непрыкметна, за некалькі месяцаў. У лютым кранаўшчыкі паставілі першую калону, а сёння ўжо амаль гатова ўсё збудаванне — аб'яднаны корпус. Злева, пад самы дах, на вышыні сарака метраў металічнымі аграмадзінамі ўзвышаюцца два катлы — чэрава электрастанцыі. Катлы ўжо ўстаноўлены. Гэта чатырохкантовыя металічныя вежы, складзеныя з трубак, нанізаных адна на адну. Ужо адзін кацёл прайшоў гідраапрабаванне. Між тым, зваршчыкам работы яшчэ хапае. Яны працуюць у дзве змены і ледзь упраўляюцца. Нядаўна прыбыло новае папаўненне — вялікі атрад зваршчыкаў. І работа пайшла спарней.

Паміж бэмаўцамі — так называюцца мантажнікі з участка «Белэнергамантаж» — і ўкраінскімі мантажнікамі, ютэмаўцамі, разгарнулася ўпартае спаборніцтва, каб з поспехам выканаць баявое, ударнае заданне.

«Не кочегары мы, не плотники, — спяваецца ў вядомай песні-маршы. — ...Мы — монтажники-высотники...»

І сапраўды, на хлопцаў, што працуюць на такой страшэннай вышыні, глядзіш з нейкай асаблівай павагай і зайздрасцю. Верхалазы-зваршчыкі чарадзейнічаюць пад воблакамі, іншы раз забыўшыся нават падперазацца поясам.

Калі пачаўся мантаж галоўнага корпуса, слесары-зваршчыкі, механізатары і кранаўшчыкі працавалі ў тры змены, не зважаючы на надвор'е, не лічачыся з часам і адпачынкам.



На такім ударным участку, як мантаж, гартуюцца людзі, набываюць майстэрства і працоўную сталасць. Вось майстар змены Альберт Аляксандраў, сакратар камсамольскай арганізацыі беларускіх мантажнікаў, яшчэ зусім малады спецыяліст, леташні выпускнік Беларускага дзяржаўнага політэхнічнага інстытута. Аматар спорту, рамантык па характару, камсамолец Аляксандраў упадабаў небяспечную, але захапляючую працу мантажнікаў. Прыехаўшы на будоўлю, хутка здружыўся з хлопцамі, знайшоў ключ да іх сэрцаў. І, думаецца, гэта таму, што ён сам такі ж няўрымслівы і неспакойны, як і яго маладыя сябры.

— Нашы хлопцы смелыя, працавітыя, — расказвае Альберт Аляксандраў. — Сваёй спецыяльнасцю яны ганарацца. І гэта зразумела. Яны — на адказных рубяжах. Каго ні вазьмі з іх, кожны працуе ад душы, па-ўдарнаму, як і належыць актыўным байцам камунізма.

Гэта так, усе працуюць старанна, ад душы. І ўсё ж сярод мантажнікаў ёсць лепшыя, ёсць свае маякі, людзі, якія самаадданай натхнёнай працай нібы асвятляюць шлях калектыву наперад, да сапраўднага майстэрства.

У прыклад часта ставяць брыгаду Сяргея Троцкага, якая занята на мантажы аб'яднанага корпуса ДРЭС. Сам Сяргей — мантажнік, улюбёны ў сваю рамантычную спецыяльнасць. Яго спрактыкаванасць і акуратнасць у працы захапляе сяброў. Кожны, хто працуе побач з Сяргеем, імкнецца, як кажуць, патрапіць з ім у крок, стараецца рабіць так, як Сяргей, — хутка і дакладна.

Са сваіх трыццаці год, якія пражыў Сяргей, дванаццаць аддадзены любімай справе — мантажу. Гэты малады чалавек пабыў на вялікіх будоўлях і на поўдні, і на поўначы. Для яго работа на вышыні — звычайная рэч. Вярнуўшыся ў родныя мясціны, Сяргей адчуў прыліў новых сіл. У яго ўжо ёсць шмат вучняў, з імі ён шчодра дзеліцца сваім вопытам і майстэрствам.

У такім калектыве, дзе ў пашане дружба і дапамога, не можа быць адстаючых, не можа быць браку ў рабоце. У брыгадзе Сяргея Троцкага людзі працуюць, не шкадуючы сіл, з шчырай думкай — стрымаць слова, дадзенае Радзіме.

Сярод тых, хто ідзе наперадзе, хто з месяца ў месяц перавыконвае вытворчае заданне і змагаецца за якасную, дакладную работу, — маладзёжныя брыгады Сяргея Ялізава, Пятра Рагуліна, звяно камсамольца Барыса Балакіна. Гэта правафланговыя. Яны вядуць за сабой шматлікі калектыў. Але і ў так званых сярэдніх брыгадах, такіх, як брыгада Міколы Арлова, ёсць таксама свае маякі, свае разведчыкі, для якіх праца — крыніца творчасці. Камсамольцы Віктар Мінянок і Міхась Белых з'яўляюцца такімі людзьмі, якія працу лічаць сваім грамадскім абавязкам і ніколі не адмаўляюцца ад таго задання, што даецца ім сёння, не шукаюць лёгкай сцежкі ў жыцці.

На мантажы катлоў сярод шматлікага калектыву слесараў-мантажнікаў і зваршчыкаў з участка «Паўднёваэлектратэхмантаж» ёсць брыгада, якую ўзначальвае камсамолец Міхаіл Марцюхін. Здаецца, звычайная брыгада. У ёй, як і ў іншых калектывах, ёсць розныя людзі і па характару, і па адукацыі, і па практычнаму вопыту. Праўда, па ўзросту яны амаль што аднагодкі: усе «марцюхінцы», як яны сябе называюць, маладыя, неспакойныя, смелыя хлопцы. Што ж вылучае іх?

Маладзёжнай брыгадзе Міхаіла Марцюхіна амаль што першай на будоўлі прысвоена ганаровае званне калектыву камуністычнай працы. І гэта заслужана. Бо ўсе хлопцы-марцюхінцы свядома, з уласцівай людзям будучыні гарачынёй адносяцца да свайго грамадскага абавязку, усе яны працу лічаць сваёй першай жыццёвай неабходнасцю. Узаемадапамога, сяброўская ўзаемная павага, нецярпімасць да недахопаў, сціпласць — вось тое, што вызначае гэты дружны калектыў.

Узяўшы высокія абавязацельствы ў гонар XXII з'езда КПСС, члены маладзёжнай брыгады Міхаіла Марцюхіна моцна, па-камуністычнаму трымаюць слова. Паўтары нормы за змену — вось дэвіз перадавікоў.

Мантажнікаў-верхалазаў называюць рызыкантамі. Гэта недакладна. Яны не рызыканты, а людзі бясстрашныя, валявыя, такія, што здольны на подзвіг. Каго ні вазьмі з іх, — ці загарэлага да чарнаты, каранастага, з мускулістымі рукамі беларуса Сяргея Троцкага, ці танклявага чарначубага ўкраінца Толю Кучарэнку, ці невялікага ростам, спакойнага і стрыманага ў рухах, але гарачага па характару здаравяка Міхаіла Марцюхіна — рускага хлопца, — усе яны аднаго гарту, усе ні на хвіліну не задумваюцца над тым, якой сілы волі і вытрымкі патрабуе іх праца на вышыні.

Думаецца, што — рызыка не галоўнае, чым яны кіруюцца, узнімаючыся з дня ў дзень на вялікую вышыню, а пачуццё свядомай адданасці любімай справе.

Ад таго, як будуць завіхацца мантажнікі, як зладжана арганізуе сваю работу вялікі атрад зваршчыкаў, — залежыць набліжэнне таго дня, калі запрацуе першая турбіна Бярозаўскай ДРЭС і з Белазёрска пойдзе электрычнае святло.

Каб над беласнежным будынкам новай ДРЭС хутчэй запаліліся залатыя агні, стараюцца не толькі мантажнікі. Больш як чатырохтысячны калектыў будаўнікоў — людзей самых розных спецыяльнасцей — штурмуюць адказныя рубяжы, на



**Г. Скамарохаў. Мантажнікі.** З будоўлі Бярозаўскай ДРЭС.

сваіх пастах змагаюцца за датэрміновы пуск першага блока.

Нельга не расказаць тут пра дружных і вясёлых хлопцаў, што нясуць адказную вахту на 75-тонным вежавым кране. Гэта чацвёрка — Зміткок Сцяшэнка, Рыгор Карабан, Віктар Грыневіч і Алесь Дзямідаў. Хлопцаў здрэжыла яшчэ Васілевіцкая ДРЭС, дзе яны вытрымалі свой экзамен на сталасць. На новым месцы яны атрымалі адказны ўчастак — самаходны 75-тонны вежавы кран, якім адважная чацвёрка ўпраўляецца забяспечыць падачу канструкцый, дэталей і матэрыялаў вялікаму калектыву мантажнікаў. Кранаўшчыкі на вахце па чарзе, бо кран працуе ў тры змены. Алесь Дзямідаў у іх — падменнік. Калі каму спатрэбіцца адгул ці адпачынак, Алесь становіцца за кіраванне кранам.

Гэты вежавы кран — унікальная машына. Кіраваць ёю — не простая рэч. Трэба быць не толькі тэхнічна ўзброеным чалавекам, але і разумець машыну, адчуваць яе душой. Трэба яшчэ тыя якасці, якімі валодаюць верхалазы-вышыннікі. Гэта ўсё і ёсць у хлопцаў, што гаспадараць на кране «БК-1425». І тое, што мантаж ідзе без затрымак, што заўсёды падтрымліваецца патрэбнае працоўнае напружанне, — заслуга чацвёркі дружных кранаўшчыкоў.

Людзей дужых і смелых, што свядома твораць працоўны подзвіг, на будоўлі многа. А заўтра іх будзе яшчэ больш. Перад будынкам ДРЭС устаноўлена Дошка гонару, на ёй занесены імёны ўдарнікаў камуністычнай працы. Тут і мантажнікі, і слесары-зваршчыкі, і бетоншчыкі, і муляры, і бульдазерысты, і рабочыя-пуцейцы... Нядаўна спіс папоўніўся новымі героямі.

Ударнікі камуністычнай працы — гэта разведчыкі будучыні, людзі, якія ўжо сёння валодаюць тымі якасцямі, што ўласцівы членам камуністычнага грамадства. Яны сёння наперадзе. Яны першыя працярэбліваюць сцежку ў будучыню.

Сёлета да Дня будаўніка ў ліку лепшых пяці энергабудаўнікоў званне ўдарніка камуністычнай працы прысвоена і камсамолцы Антаніне Гарус. Хто ж такая Тоня? На будоўлю дзяўчына прыйшла з вёскі, не мела ніякай спецыяльнасці. Працавала на розных работах, падносіла цэглу, раствор, памагала мулярам. Старанна робячы ўсё, што ёй даручалі, Тоня ўвесь час прыглядалася, як працуюць муляры. Ёй спадабалася гэтая на першы погляд нецікавая работа. І неўзабаве сама стала побач з майстрамі. Яшчэ няма двух год, як Тоня ў брыгадзе працуе мулярам, але сёння пра яе ведае ўся будоўля. Яе імя побач з лепшымі праслаўленымі ветэранамі запісана на Дошцы гонару чырвонымі літарамі.

Тоня — такая ж простая і сціплая дзяўчына, як і ўсе яе сяброўкі, і разам з тым у яе ёсць адметныя рысы — гэта яе выключная працавітасць, свядомыя адносіны да грамадскага працоўнага абавязку. Іншыя дзяўчаты скардзяцца, што ім цяжка, не хапае часу, а Тоня паспявае ўсюды. Працуючы, яна скончыла з поспехам вячэрнюю школу, атрымала атэстат сталасці.

— Абавязкова паступлю ў інстытут, — абяцае Тоня. — Стану інжынерам.

Сёння кожны, хто імкнецца заваяваць ганаровае званне ўдарніка камуністычнай працы, хто ўступае ў спаборніцтва за камуністычную працу, занатоўвае для сябе: «Свята захоўваць маральны кодэкс будаўніка камунізма».

У гэтыя хвалюючыя дні як ніколі вялікая цяга людзей да партыі: бязмежная ў сэрцы кожнага савецкага чалавека любоў да камуністаў, якія ідуць у авангардзе змагання за нашу светлую будучыню. Напярэдадні XXII з'езда КПСС сталі камуністамі выхаванцы камсамола бульдазерысты Уладзімір Суміч і Аляксандр Ламейка, брыгадзір маляроў Валянціна Ярашэвіч, бетоншчык Ульян Вішнеўскі... Хіба пералічыш тых, хто душой з роднай камуністычнай партыяй.

— Стаць членам партыі Савецкага Саюза, — шчыра прызнаўся кранаўшчык Віктар Грыневіч, — і мая запаветная мара.

Гэта — голас сэрца.

...Ужо сёння далёка відны агні Белазёрска, горада нашага акрылёнага юнацтва. Можна ўявіць сабе, як зменяцца тутэйшыя мясціны, калі патокам пальецца святло новай Бярозаўскай ДРЭС. Гэты дзень ужо блізка!





Гэтых дзяўчат часта можна сустрэць на Святах вуліцы. Далёкім рэхам разносяцца іх задорныя песні над старадаўнім, але вечна маладым Пінскам.

Фота **У. Адарыча.**

# ВЕЧНА МАЛАДЫ ПІНСК

**Рэпартаж**

Вы едзеце ў Пінск упершыню? Раім ляцець самалётам, калі хочаце сэканоміць час і грошы. Не здзіўляйцеся. Самалётам да Пінска дзешавей, чым аўтобусам ці поездам. На Пінск няма прамой дарогі ні шасейнай, ні чыгункі. Амаль суткі трэба быць у дарозе, а самалётам нейкія там сорак мінут, і вы на месцы.

Перш, чым пайсці на пасадку, самалёт зрабіў круг над горадам. Пад крылом усё, як на далоні. Мая суседка, відаць пінчанка, дзяўчына з камсамольскім значком на грудзях, паказвае, дзе фанерна-запалкавы камбінат, суднарамонтна-эксплуатацыйная база, завод штучнай скуры, новая ЦЭЦ, заводы, якія яшчэ будуюцца. Спадарожніца вельмі ўжо, як мне здалося, пачала выхваляцца сваім горадам. Я нават не стрымаўся і заўважыў ёй, што кожны кулік сваё балота хваліць. Дзяўчына не пакрыўдзілася, а толькі засмяялася.

— Ніякі я не кулік, — адказала яна. — Сама толькі другі год жыву ў Пінску. Прыехала сюды пасля заканчэння тэхнікума. А цяпер была ў адпачынку, але сяброўкі напісалі, што фабрыка выйшла пераможцам — заўтра баль у гарадскім Доме культуры. Вось я і лячу, каб пабыць...

— Што гэта за баль такі?

— Адразу відаць, што здалёк вы. У нас гэта кожны малы і стары ведае... Добра, запрашаю вас на наша свята. Паглядзіце...

Пінск зялёны і чысты. Усюды кветнікі. Чырвоныя палотнішчы цераз вуліцу, яркія маляўнічыя афішы. На іх вы знойдзеце і кры-

латыя словы з песень, і трапныя прымаўкі. «Зробім наш Пінск горадам высокай прадукцыйнасці працы, узорнага парадку і высокай культуры», — напісана на адным са шчытоў. Потым буйнымі літарамі: «Баль пераможцаў прысвячаецца працаўнікам пінскай трыкатажнай фабрыкі імя Крупскай. Гэтае прадпрыемства выйшла пераможцам у сацыялістычным спаборніцтве. Царыцай балю будзе ўдарніца камуністычнай працы Туманава Галіна Васільеўна».

На іншых палотнішчах і афішах — паведамленні аб тым, што ў горадзе адбудзецца «Марш брыгад». Чытаем далей і дазнаемся, што гутарка ідзе пра лепшыя брыгады, якія змагаюцца за права называцца камуністычнымі. І яшчэ адна аб'ява: «Свята на нашай вуліцы». Ленінская вуліца выйшла на першае месца ў горадзе па добраўпарадкаванню. З гэтага выпадку і наладжваецца свята.

...Назаўтра надвячоркам калона па-святочнаму апранутых людзей выйшла на цэнтральную вуліцу. Рух машын прыпынен, у цікаўнасці спыніліся людзі на тратуарах. Неўзабаве з рэпрадуктара пачуўся голас. Называліся прозвішчы людзей, якія добрымі справамі заслужылі такую павагу.

Перад уваходам у Дом культуры мая спадарожніца ўручыла мне запрашальны білет. На адным баку яго напісана: «Для вас, слаўныя трыкатажніцы! БАЛЬ ПЕРАМОЖЦАЎ». А на адваротным баку: «Гэта Ваш баль, дарагія сяброўкі! Ён прысвячаецца Вам! Вы яго заваявалі ва ўпартай барацьбе за выкананне плана! Запрашайце і прыходзьце!»

— А ці пусцяць мяне? — выказваю сумненне.

— А вось тут глядзіце, што напісана: «Запрашайце і прыходзьце».



**Баль пераможцаў сацыялістычнага спаборніцтва — калектыву фанерна-запалкавага камбіната. На першым плане гаспадыня балю Ніна Калчаганава.**

* * *

У цэнтры залы стаяць у белых бальных сукенках дзве дзяўчыны. Адна з іх здымае са сваёй галавы бліскучую карону і надзявае яе сяброўцы. А пасля шчыра пад воплескі прысутных дзяўчаты цалуюцца.

— Гэта царыца папярэдняга балю з фанерна-запалкавага перадае карону нашай Галі, — тлумачыць мая знаёмая Ніна. — Сёння — мы пераможцы. Зараз сакратар гаркома ўручыць пераходны сцяг.

Чырвонае палотнішча сцяга ўзвілося пад самы купал. У цэнтры залы засталася адна царыца балю Галя Туманава. Яна села ў крэсла, нібы на трон, уладарна павяла рукой і сказала: «Хай запаляцца агні балю!» Спачатку нібы згасла святло, але не паспела цемра як след ахутаць залу, як успыхнулі, зазззялі рознакаляровыя гірлянды, праекцыйныя ліхтары. Людзі, стаіўшы дыханне, глядзелі на гэтае цудоўнае відовішча, на прыгажуню-царыцу.

А Галя тым часам зноў павяла рукой і загадала: «Хай запаліцца факел працоўнага агню!» І гэты агонь успыхнуў у глыбіні сцэны, ён зашугаў весела і ўрачыста, пераліваючыся ўсімі колерамі вясёлкі. Дзіву даешся, колькі фантазіі і выдумкі праявілі арганізатары свята, каб дасягнуць такой прыгажосці, узнёсласці!

Галя аб'яўляе вальс пераможцаў. Яна першая запрашае аднаго з гасцей. Зала адразу напоўнілася гукамі музыкі, гоманам, смехам. Усё тут здавалася так прыгожа, казачна чароўна, урачыста.

Канчаецца вальс. Разыходзяцца пары. Многія працягваюць пачатую ў танцы размову. Тут, у гэтым сяброўскім асяроддзі, сустрэліся людзі розных прафесій.



**Маладыя пінскія друкары з брыгады камуністычнай працы Леаніда Жоўнера застылі ва ўрачыстым чаканні, калі будзе запалены агонь працоўнай славы.**

Фота з фондаў Дома культуры.

Царыца балю тым часам не дае гасцям сумаваць. Яна заводзіць песню: «Называют меня некрасивою...» Голас у Галі чароўны. Спявае яна хораша.

— Відаць, канчала дзяўчына музычную школу або тэатральную студыю?

— Не, — тлумачыць Ніна, — яна — удзельніца самадзейнасці з нашага Народнага тэатра. Каб вы толькі паглядзелі, якія канцэрты ён дае! Прафесіянальны тэатр пазайздросціць. А царыцаю ж балю выбіраюць лепшую з лепшых. У Галі рукі залатыя, яна — ударніца камуністычнай працы, актывістка, прыгажуня... — Ніна схамянулася, а пасля паўзы дадала: — Праўду кажучы, такімі якасцямі не адна яна валодае. Дарэчы, першай царыцай нашага балю была Ніна Пруднікава, матальшчыца. Пабудуць у гэтай ролі і іншыя — не апошні раз у пераможцах ходзім...

Лепшым з лепшых працаўніц дастаецца пачэснае права быць царыцай балю. І як тут не прыгадаць трапныя словы Мікіты Сяргеевіча Хрушчова — «яго вялікасць працоўны народ». Дзе, у якой краіне можа быць, каб тыя, хто сваімі рукамі стварае дабрабыт, былі адначасова гаспадарамі свайго лёсу, лёсу свайго калектыву, горада?

Баль — свята пераможцаў. У гэты дзень усе пакоі Дома культуры да іх паслуг. У кутку ціхіх гульняў мераюцца сіламі шашысты і шахматысты. У фае прыцягвае ўвагу выстаўка трыкатажных вырабаў — гэта прадукцыя гаспадароў балю. І можа толькі сёння яны і госці даведаліся, што праца іх рук ідзе па ўсёй краіне. Аб гэтым гаворыць спецыяльная карта-дыяграма.

Хочаце пазнаёміцца з перадавікамі вытворчасці — калі ласка. Вось стэнд з іх партрэтамі. Гэтых людзей вы можаце сустрэць у зале. Яны тут.

З надпісаў-паведамленняў даведваемся, што вязальшчыца Хрысціна Цудзіна выканала план апошняга месяца на 190 працэнтаў. Побач чырвонымі літарамі: «Прывітанне аварлочніцы Рэгіне Сарока, слаўнай паслядоўніцы



**Камсамольскія вяселлі сталі ўжо традыцыйнымі ў гарадскім Доме культуры. На гэты раз з пачаткам сумеснага шчаслівага жыцця віншуюць загадчыцу лабараторыяй гарадскога харчовага камбіната Валянціну Пунчык і выкладчыка вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі Лявона Бароўскага.**



**Задушэўна спявае бібліятэкар Галіна Серада. Ей акампануе Віктар Главацкі.**

Валянціны Гаганавай!» Больш дэталёва хочацца даведацца пра іх, калі ласка: запрасіце на вальс гераінь, і яны раскажуць пра сябе, пра свае справы і радасці...

Сярод гасцей — людзі з розных прадпрыемстваў. Усе яны змагаюцца і не сёння-заўтра заваююць права быць гаспадарамі балю. Яны прынеслі сюды шчырыя віншаванні ад сваіх калектываў, падарункі.

Баль усладўляе чалавека працы, ставіць яго ў цэнтр увагі, раскрывае цудоўную душу, лепшыя парывы. А як прыемна адчуваць, што праца твая, твае клопаты аб вытворчых паказчыках, выкананні плана сталі тэмай вось такога яркага вечара — балю славы працоўнай!

Хто ж падрыхтаваў гэта ўсё?

Мая спадарожніца Ніна жартуе:

— Арганізатары мы ўсе — пінчане. Такіх баляў у нас адбылося адзінаццаць. Акрамя іх, у нас праводзяцца і тэматычныя, ці як іх празвалі «Пінскія вечары». Хіба ж гэта аднаму ці некалькім чалавекам пад сілу?

Асноўных завадатараў гэтага мерапрыемства так і не ўдаецца высветліць. Атрымоўваецца нешта накшталт «Паддубінскіх частушак» — усе складаюць, усе спяваюць, а «вінаватых» няма.

Фанерна-запалкавы камбінат прысвяціў свой баль пераможцаў XXII з'езду Камуністычнай партыі. Кожнае такое мерапрыемства — гэта хвалюючы рапарт партыі і Радзіме.

Хто атрымоўвае права быць гаспадыняю балю або ўдзельнічаць у «Маршы брыгад камуністычнай працы» або справіць свята на нашай вуліцы? Пераможцы ў сацыялістычным спаборніцтве! А падводзяць вынікі партыйныя, савецкія і прафсаюзныя арганізацыі. Значыць, усё пачынаецца адтуль. Потым уключаецца мастацкі савет Дома культуры. У савеце 15 чалавек. Тут і сакратар гаркома камсамола, і работнік аддзела прапаганды і агітацыі гаркома партыі, і мастацкі кіраўнік Дома культуры, і кіраўнік хору і балетмайстар Дома культуры, і культработнікі многіх прадпрыемстваў.



Кожная прапанова ўлічваецца, хто б яе ні падаў. Важна, каб яна была цікавая, арыгінальная...

Скажам, вызначыць гаспадыню, ці, як часцей называюць, царыцу балю, справа зусім не лёгкая, прынцыповая. У гэтым удзельнічае ўсё прадпрыемства-пераможца. Бо царыца балю — гэта ж іх гонар.

Усё афармленне месца балю — гэта справа саміх гаспадароў. Да іх паслуг мастакі, фатографы, электрыкі, музыканты і, вядома, добрыя парады кваліфікаваных таварышаў. Адзін рабочы падаў думку, каб увесь горад, вуліца ўбачылі пераможцаў, а не толькі прысутныя на балі. Гэтая прапанова была прынята мастацкім саветам. Калона пераможцаў з песняй праходзіць па цэнтральнай магістралі да Дома культуры, а на працягу ўсяго шляху па радыё расказваюць аб людзях і іх справах.

Калі пераможцам балю быў фанерна-запалкавы камбінат, брыгада лушчыльшчыкаў Фёдара Глінскага стала на ўдарную вахту. Баль быў у разгары: адны кружыліся ў танцы, другія спявалі, трэція проста гаварылі між сабой... І раптам уключылі гучнагаварыцель. Пачуўся знаёмы шум станкоў у цэхах завода, потым галасы тых, хто стаіць на ўдарнай вахце: Фёдара Глінскага, Любы Натаніч, Уладзіміра Палонскага, Антаніны Кавалёвай, Надзеі Сялюжыцкай. Яны перадавалі сваім сябрам-пераможцам шчырыя пажаданні, віншавалі іх з балем. Людзі, якія стаяць за станкамі, заслужылі права разам з усімі ўдзельнічаць у балі. Яны паведамілі, што ў гонар свайго свята пераможцаў перавыканалі зменныя заданні і ўзялі абавязацельства штомесячна перакрываць вытворчыя планы.

Гэтыя паведамленні тонуць у гуле воплескаў удзельнікаў балю. Нехта падае думку накіраваць дэлегацыю ў цэх. Задумана — зроблена. Дэлегаты вязуць з сабой магнітафонны запіс балю, эмблемы пераможцаў, падарункі. Сустрэча ў цэху перадаецца па радыё. Гэта стварае хвалюючую, радасную атмасферу, натхняе на новыя подзвігі.

Марш брыгад. Што гэта? Гэта



**Калектыў мясакамбіната наладзіў у гарадскім Доме культуры ўрачысты прыём удзельнікаў «Маршу брыгад». Пра вытворчыя справы калектыву расказвае Раіса Даніловіч.**

не менш хвалюючае відовішча, чым баль, хоць знешне выглядае інакш. Кожны з разведчыкаў будучыні ўдзельнік маршу мае спецыяльную эмблему.

У цэнтры залы велізарны макет цюльпана. Гэта эмблема ўдзельнікаў маршу брыгад. Чаму іменна цюльпан? Дырэктар гарадскога Дома культуры, заслужаны дзеяч мастацтва БССР Сакольскі сказаў, што цюльпан вылучаецца сярод кветак — ён дае самую вялікую колькасць адросткаў, хутка разрастаецца. Для ўдзельнікаў брыгад, якія змагаюцца за права называцца камуністычнымі, — гэта сімвал росту новага патрыятычнага руху. Пра дэвізы гэтых маршаў можна даведацца з плакатаў на вуліцах: «Дабіўся сам — памажы другому!», «Наш марш — за камуністычную працу, высокую культуру, за здаровы быт!»

Каля макета цюльпана калона маршу спыняе свой рух. Брыгадзіру пераможцаў даецца ганаровае права запаліць агонь славы. Агонь гэты своеасаблівы. Ён запальваецца ў пялёстках цюльпана, ад чаго кветка ўспыхвае рознымі колерамі. Ва ўрачыстай цішыні падымаецца сцяг. Усе прысутныя спяваюць Гімн Савецкага Саюза. Пасля ўрачыстай цырымоніі гаспадары маршу робяць прыём: запрашаюць гасцей сесці за стол. Удзельнікі маршу расказваюць аб

планах і задумах. Завязваюцца новыя знаёмствы, мацуецца сапраўдная дружба.

Раптам у зале гасне святло. Становіцца ціха. На экране паказваюцца ўрыўкі з кінафільмаў. Вось Васіль Іванавіч Чапаеў і Пецька мараць пра будучыню, за якую іх пакаленне ішло цяжкімі дарогамі грамадзянскай вайны. «А ведаеш, якім будзе жыццё, — гаворыць Чапаеў у захапленні, — і паміраць не захочаш!..» І вось ён настаў, той дзень, пра які марыў легендарны герой.

Уключаецца магнітафон, і прысутныя чуюць словы жывога Леніна аб тым, што такое Савецкая ўлада, якой яна павінна быць. І кожны яшчэ з большай вастрынёй адчувае, як сённяшняе наша жыццё сагрэта святлом ленінскіх ідэй. Сустрэча мінулага з сучаснасцю памнажае радасць і гордасць за сваю краіну, за свой народ.

Потым развучваюцца новыя песні, танцы.



А на вяселлі павінна быць весела. Вось і стараюцца ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці Пінскага народнага тэатра...

Запрошаныя госці па традыцыі прыносяць падарункі. Часцей за ўсё гэта рэчы, зробленыя рукамі калектыву ў нерабочы час. Мэблёўшчыкі, напрыклад, дораць столік для тэлевізара, а аўтатранспартнікі — валейбольны мяч з сеткай. Пажаданні кароткія, ясныя: хай яшчэ цясней гуртуецца калектыў вакол мяча, ля тэлевізара!

Часта ў гэты ж дзень прысуджаецца перадавікам званне ўдарнікаў камуністычнай працы. «Імяніннікаў» фатаграфуюць, віншуюць. Марш брыгад — гэта школа абмену вопытам, прапаганды ўсяго новага, перадавога, адначасова — і змястоўны, вясёлы адпачынак.

* * *

«Будзе і на нашай вуліцы свята». Каму не вядомы гэты крылаты выраз! Напэўна, пінчане ўспаміналі яго, калі прысутнічалі на балі пераможцаў, пінскіх вечарах. Якімі б масавымі ні былі гэтыя мерапрыемствы, але ахапіць усё насельніцтва горада яны не могуць. Многія жыхары заставаліся ў баку ад спаборніцтва за горад высокай прадукцыйнасці працы, культуры і быту. А хіба ж кожны жыхар не можа прыняць удзел ў гэтым? Вядома, што можа. Заваяваць права быць гаспадаром урачыстасці можа кожнае прадпрыемства, кожная вуліца і дом.

Хто першы падаў думку аб тым, каб праводзіць свята на кожнай вуліцы, якая выйдзе пераможцам па добраўпарадкаванню, невядома. Відаць, і тут — вынік калектыўнай творчасці, выдумкі. Аднак іменна пад такім дэвізам разгарнулася ў Пінску спаборніцтва за лепшую вуліцу.

Афішы, рэкламы — вельмі цікавыя і прывабныя ў Пінску. «Дарагія землякі! — кліча адна з афіш. — Мы законна ганарымся сваім старадаўнім і вечна юным горадам, яго зялёнымі вуліцамі, прыгожай набярэжнай, маладымі цяністымі скверамі. У нашым горадзе нам усё дарага. Нам дарагая кожная вуліца, кожны двор, кожны дом. Мы многа зрабілі і можам зрабіць яшчэ больш. Вам, жыхарам, якія пастараліся на добраўпарадкаванні сваёй вуліцы, гарадскі Дом культуры наладжвае Свята на вашай вуліцы... Жыхары роднага горада! Змагайцеся за добраўпарадкаванне сваёй вуліцы! Хай наступнае свята будзе на вашай вуліцы».

Змаганне за свята на нашай вуліцы ахапіла ўсіх ад старога да малога. Тут абыякавых няма. Кожны стаў не толькі наводзіць парадак каля свайго ганка ці ля дома. Кожны пачаў непакоіцца, каб не падвесці суседа. І ўсюды стала чысцей, чысціня запанавала на кожнай вуліцы.

Першай была прызнана пераможцай вуліца імя Леніна. Мастацкі савет Дома культуры з удзелам прадстаўнікоў кіруючых устаноў горада падумалі, каб зрабіць гэтае свята для ўсіх цікавым, змястоўным. Дарэчы, што вядома жыхарам пра гісторыю сваёй вуліцы? Ці не варта папрасіць работнікаў краязнаўчага музея, каб яны падрыхтавалі лекцыю на гэтую тэму. І сапраўды, гісторыя вуліцы імя Леніна аказалася надзвычай цікавая. У далёкія часы яна называлася Купецкай, потым — Вялікай Купецкай. Тут жылі міраеды-эксплуататары, а побач з імі — абрабаваныя беднякі. Жыхары даведаліся, што па іх вуліцы ў свой час прайшоў з арміяй геніяльны палкаводзец Сувораў, змагаўся паўстанец-дэмакрат Налівайка. Пакінуўшы свае разбітыя палкі пад Палтавай, паказаў тут свае пяты шведскі кароль.

А хто жыве цяпер на гэтай вуліцы? Аб гэтым лектар таксама расказаў. Прыемна было чуць свае прозвішчы тым, хто ўслаўляе сябе працай, агульнакарыснымі справамі. Праўда, лектар не забыў і тых, хто яшчэ не актыўнічае, а



Гэты прыз «Жывая гусь» уручаецца лепшаму танцору на балі.

стараецца адгарадзіцца ад калектыву, — ім прыйшлося чырванець.

Свята на нашай вуліцы праходзіць у яркім убранні, з ілюмінацыяй. На перасоўных падмостках выступаюць мастацкія калектывы, кружацца пары ў танцы, наладжваецца гульні. На галоўнай плошчы — вялікі канцэрт Народнага тэатра. Проста на вуліцах дэманструюцца кінафільмы. Спаборніцтва за свята на нашай вуліцы — пачатак карыснай справы. Кожная вуліца абавязкова адсвяткуе сваю перамогу.

* * *

Зноў самалёт у паветры. Колькі хвалюючых, незабыўных уражанняў пакінуў горад, які па-сапраўднаму змагаецца за высокую культуру працы і быту.

**Мікола ЦІМОШАК.**

ZaH

MIROSLAV
ZIKMUND
A
JIŘÍ
HANZELKA



Чарнявая Эс-Сувейда.

**Іржы ГАНЗЕЛКА, Міраслаў ЗІКМУНД**

# ПА ДАРОГАХ СВЕТУ

## КАНЕЦ, АЛЕ ПАЧАТАК

Эс-Сувейда азначае па-арабску «чорная», «чарнявая». Назва добра характарызуе і горад, і ўвесь навакольны край. Ландшафт тут прыкметна пацямнеў, каменне, скінутае злымі дэманамі з неба, чорнае, як вулканічнае шкло, — з такога вось матэрыялу і пабудаван горад. Не дзіва, што ўся гэтая сумная чарната прыглядзелася ўжо людзям. Можа з гэтай прычыны мужчыны не дазваляюць жонкам насіць чорнае адзенне, а тыя ў сваю чаргу прымусілі мужчын аздабляць свае чырвоныя фескі белымі хусткамі. Уехаўшы ў Эс-Сувейду, можна ўявіць, што вы трапілі ў горад, дзе ўмовіліся спаткацца феі з усяго наваколля. Жанчынам вельмі да твару белыя цюлевыя пакрывалы, што развяваюцца пры хадзе, асабліва, калі яшчэ на плячо ўскінута алавянае вядро, з якім тут ходзяць па ваду. І, здаецца, гэтае вядро з двух конусаў, прыстаўленых адзін да другога, неад'емна ад белых пакрывал, стройных фігур і той, амаль дзявочай, сарамлівасці, з якой тутэйшыя жанчыны адварочваюцца ад чужаземца.

Працяг. Гл. № 7.

Па беламу колеру, які дамешан да «чарнявай» Эс-Сувейды, можна меркаваць, што вы сярод друзаў. Эс-Сувейда — гэта галоўны горад гарыстай мясцовасці Джэбель-Друз і застаецца ім і сёння, хоць цяперашняе сірыйскае кіраўніцтва імкнецца выкарчаваць назву Джэбель-Друз і замяніць яе на Джэбель-Араб.

* * *

У Джадата Барудзі, нашага сірыйскага гіда, сёння спраў па горла. У Шэйх-Мескіне («Бедным Шэйху») аказалася недастаткова прад'явіць дакументы, якімі нас узброіла міністэрства ўнутраных спраў перад стартам на поўдзень. І хоць Джадат дасканала валодае сірыйскай гаворкай (родам ён — сірыец), але яго блакітныя вочы і зусім не арабскі выгляд, відаць, не выклікаюць у пагранічнікаў асаблівага даверу — яны звоняць у Дамаск у міністэрства ўнутраных спраў і міністэрства абароны.

— Халас, — з вайсковай лаканічнасцю вымаўляе, нарэшце, камандзір паста.

І хоць «халас» азначае «канец», але для нас гэта пачатак — мы можам уязджаць у прыгранічную паласу.

## ЖЫВІЦЕ ПА-РАЙСКУ!

У Эль-Аале зноў прад'яўляем дакументы, можа ў дзесяты ўжо раз за гэтую раніцу.

Барудзі выскачыў з машыны — ён убачыў свайго прыяцеля, ваеннага ўрача. Той толькі што вярнуўся знізу, з Гомы. У руцэ — мокрыя плаўкі. Ён быццам бы там, унізе, купаўся.

— Што? Купанне? У такі сабачы холад?

Сёння мы нават у пакой бралі спальныя мяшкі з гагачага пуху — так холадна было ў ненапаленым атэлі «Раудат-Эль-Джэбель» у Эс-Сувейдзе. А тут нам яшчэ гавораць пра купанне!

— Вы самі ўбачыце, — смяецца капітан, прыкладваючы руку да казырка ваеннай шапкі.

— Наіман, — гукае яшчэ Барудзі, стараючыся перакрычаць шум ад'язджаючых машын. — Жывіце па-райску!

Мы ўжо ведаем гэты арабскі выраз, якога, відаць, няма ні ў якой другой мове свету. Вы пачуеце яго ў атэлі, калі двое знаёмых сустрэнуцца перад ваннай.



Такім плугам аруць тут яшчэ ў XX стагоддзі.

Так прывітае сірыец свайго прыяцеля, убачыўшы яго з зубной шчоткай у руцэ. Такое пажаданне адрасуюць і таму, хто толькі што выйшаў ад цырульніка. Усе гэтыя прывітанні, усе праявы клопатаў аб чысціні цела падводзяцца пад паняцце арабскага раю — «наім».

— Алах ін'ам алейк! (І табе хай алах пашле рай!) — так адказвае той, каго ўшанавалі прывітаннем «наіман».

Ну, добра, паспытаем у Гоме арабскага раю. Сапраўды, чаму ж не паспытаць? Толькі дзе нам узяць плаўкі? Зараз, у снежні, за тыдзень да Новага года.

## ЦУД ВАДЫ

Рай пакуль што не ўключаны ў нашу праграму. Затое мы ўбачылі нешта падобнае да яго, але значна больш канкрэтнае — Зямлю Абяцаную. За вёскай Фік трэба толькі звярнуць управа, праехаць дзвесце метраў ад шашы, і перад вамі — Ціверыяд, біблейскае возера Галілейскае. Яно, як прывід: ззяюць у пяску жамчужыны, вада пасярод пустыні, а далей на поўдзень рассцілаецца чароўны дыван, сатканы з усіх адценняў зеляніны... І пасярод гэтага стракатага дывана рака Іардан выгінаецца па незлічоных лукавінах, нібы ёй зусім не хочацца расставацца з Галілейскім возерам...

Амаль усё ўзбярэжжа Галілейскага возера было некалі палесцінскім, толькі малы выступ на паўночным усходзе належаў Сірыі. Сёння гэтыя землі не нале-

жаць нікому. Узгоркі, якія спадаюць да ракі Ярмук, вызнаваны калючым дротам. Дарогі спаласаваны барознамі, у якіх, відаць, закладзены міны. За камуфляжнай сеткай ашчэрваюцца кулямёты, схілы перакрэслены зігзагамі акопаў, правы бок шашы ўпрыгожаны проціпяхотнымі загародамі — бясконцым скруткам калючага дроту, для пэўнасці раскінутым у тры рады.

Паводле ўсіх законаў, мы павінны пускаць бурбалкі з-пад вады, бо ўжо даўно мінулі таблічку з надпісам: «Узровень мора». Ва ўпадзіне ніжэй гэтага ўзроўню прыемная цеплыня, лішнім доказам якой з'яўляюцца кусточкі дзікіх цюльпанаў на схілах, хоць там, наверсе, каляндар паказвае снежань. Мы скідаем мехавыя курткі.

Направа паказваецца глыбокая лагчына, адхоны якой абрэзаны так, нібы яны былі з масла. Правы бераг належыць Сірыі, левы — Іярданіі, адразу за лагчынай пачынаецца Ізраіль. Іменна па гэтай прычыне мост, які злучаў абодва берагі, — узарваны.

Праз дзесяць мінут мы ўжо на ўзроўні двухсот метраў ніжэй паверхні мора. Над Ярмукам схіляюцца галінкі пальм, а зеляніна садоў усміхаецца чырванню квітнеючых мальваў.

* * *

Каб зразумець, што азначае вада для жыхароў пустыні, трэба паглядзець на іх у Гоме — каля вады. Моўчкі сядзяць яны на беразе Ярмука, гледзячы на яго спакойную роўнядзь, што ціха адплывае ў Зямлю Абяцаную. Часам перакідваюцца парай слоў, не для таго, каб атрымаць адказ, а проста так, самі сабе, і потым зноў маўчаць, узіраючыся ў хвалі, на якія кладзецца імгла. І ў гэты час думаюць яны аб руне сваіх авечак, якія цярпліва шукаюць хоць маленькі след жыцця ў сухой глебе пустыні, аб тым, як было б цудоўна, калі б такая спакойная, лагодная вада цурчэла каля іх хат...

Жыхары пустыні сядзяць над вадой яшчэ доўга пасля таго, як над далінай Ярмука ўзнялося трохкроп'е Арыёну, сядзяць і пасля таго, як яно зрабілася цьмяным у святле поўнага месяца, што выкаціўся з аблыселых гор. Усё пазіраюць у пакрытыя рабізною хвалі, якія, быццам бліскучыя металічныя пласцінкі, прыцягнутыя магнітам, узбіраюцца на гладкія валуны і скочваюцца з іх, спяшаючыся пад серабрыста-зялёную траву на берагах. Гэта бязмоўнае багаслужэнне, падзяка цуду Вады...

Ля калодзежа.



## ТОСТ

У гасцініцы ўжо ўсе павячэралі і цяпер або гуляюць у бержыс — арабскія шахматы — або пацягваюць вадзяную люльку.

— Ванны замыкаюць у сем, але я дамовіўся, каб нас пусцілі на гадзінку адных, — прывітаў нас Барудзі. — А пакуль што — не хочаце пакаштаваць наргіле?

Па сутнасці, гэтая канструкцыя выглядае несамавіта. З шкляной банкі тырчыць нейкі абструганы падсвечнік, у які ўпушчана зашытая ў стракатую тканіну вужака з загорнутым у кавалак плюшу хвастом. Пад шырокім канцом падсвечніка — бляшаны падносік, зараз мы ўбачым, для чаго ён служыць.

Шынкар задаволены тым, што госці сочаць за кожным яго рухам і нават нарыхтавалі фотаапарат з успышкай. Ён грунтоўна вымачыў у вадзе жменьку тытуню, зляпіў з яе галушку і паклаў на дзірчасты канец «падсвечніка». Зверху яшчэ паклаў нейкі капсуль з ямкай пасярэдзіне і запаліў. О, і арабы ведаюць такія каганцы для акурвання? Каганец між тым разгараўся, пырскаюць іскры, па ўсім пакоі ідзе прыемны пах. Калі ў каганцы напалілася да чырвані, шынкар дазваляе пачынаць. Цяпер можна зацягвацца як мае быць. Дым астывае ў вадзяной ванне.

— А што ў гэтым каганцы?

— Размолатыя драўляны вугаль і хларыт калію — каб добра гарэла...

Учора Барудзі расказаў нам, што яго імя азначае па-арабску «порах». Мабыць нейкі яго прапрадзед займаўся вырабам пораху.

— Застаецца толькі дадаць у гэты каганец крышку серы, і можна было б прымацца за рамяство вашага дзеда, містэр Барудзі!

* * *

У 1938 годзе ў Гоме быў забіты нейкі англійскі разведчык. Уварваўшыся з суседняй Іярданіі, дзе былі іх казармы, англічане для запалохвання спалілі чатыры вёскі і зноў адышлі за раку Ярмук. А кампанія «Аль Гома Мінерал Спрынгс» атрымала на 99 год права эксплуатацыі багатых серных крыніц.

З таго часу ўжо сплыло многа вады, — каштоўнай мінеральнай вады, — але Гоме яна не дае ніякай карысці. І хоць тут збудавана некалькі домікаў з ваннамі, куды праведзена лекавая вада з дзвюх крыніц, і хоць плата за гэтыя домікі не такая ўжо высокая, але гэта ўсё-такі ніяк нельга назваць курортам. Гома — проста своеасаблівае выключэнне, нешта накшталт дачы ў халодныя зімовыя месяцы. Дзве крыніцы — Рыг (Вецер) і Матла (Кіпень) — выведзены ў пакрыты страхой басейн з прыемным камяністым дном і цьмяным асвятленнем, астатняя ж вада цячэ без усякай карысці ў Ярмук.

Усё ж, калі за намі зачыніліся дзверы ванны, мы адчулі сябе, як у арабскім «наіме». Наверсе, на горным плато, тэрмометр апускаецца да нуля, а тут, пенячыся, як шампанскае, бруіцца цёплая трыццаціградусная вада, у паветры стаіць сярністы пах. Нават і праз гадзіну, так шчодра адпушчаную нам, мы не хацелі выходзіць з вады. Лазеншчык прынёс залацісты чай у круглых кубках і, схіліўшыся над краем басейна, пусціў іх да нас па вадзе — «пагрэйцеся яшчэ чаем».

Гэта быў надзвычайны тост — кубачкі павольна падплывалі да нас, пакуль не пачуўся серабрысты звон, містэр Барудзі сказаў «сахтэн» — на здароўе, а лазеншчык, калі мы выходзілі з вады, дадаў ад сябе непаўторнае арабскае «наіман» — жывіце па-райску!

— Хай і табе алах пашле рай!



Надвячорак у сталіцы Іярданіі — Амане.

## ІЯРДАНІЯ — МОЖАЦЕ ЕХАЦЬ!

Назаўтра, калі мы ўязджалі ў Дамаск, лічыльнік паказваў пяцісоты кіламетр шляху ўздоўж паўднёва-сірыйскай граніцы.

Калі б стары Джозуэ 26 красавіка не быў заняты іншымі, больш важнымі справамі, дык, відаць, узняў бы вочы ў неба і ўсклікнуў: «О, хвала табе, алах, гэты трук у цябе выйшаў адмыслова». А Джозуэ, жывучы ў краіне на рацэ Іярдан, да ўсяго прывык — спрадвеку тут адбываліся найдзіўнейшыя цуды, і здзівіць яго не так лёгка. Нават тым, што краіна

раптам павялічваецца, хоць яе назва пры гэтым скарачаецца. «Аднак я не хацеў бы ручацца за скуру караля Абдулы», — прабурчэў яшчэ Джозуэ, пакідаючы нас.

Сапраўды — учора была Трансіярданія, сёння — ужо толькі Іярданія! Учора налічвала 91 000 квадратных кіламетраў, сёння — 96 500. Учора яна размяшчалася толькі на ўсходнім беразе Іярдана, цяпер жа ёй належаць абодва берагі. Карацей кажучы, Абдула далучыў да сваёй імперыі пяць з паловай тысяч квадратных кіламетраў.

І, прызнацца, шмат каму папсаваў гэтым кроў — не толькі ў суседнім Ізраілі, але і сярод сваіх саюзнікаў — арабаў, з якімі ён заваяваў перамогу ў палесцінскай кампаніі. Калі можна было яшчэ як-небудзь ускладніць заблытаную сітуацыю ў гэтым экзатычным кутку Міжземнамор'я, дык каралю Абдуле, нядаўна яшчэ эміру пад брытанскай апекаю, гэта ўдалося зрабіць. У снежні 1948 года, за чатыры месяцы да таго, як была паведамлена свету новая назва каралеўства, ён прысвоіў землі на заходнім беразе Іярдана, хоць гэта супярэчыла не толькі ўмовам перамір'я, але і рашэнням Лігі Арабскіх дзяржаў. За гэта Іярданію ледзь не выключылі з Лігі, але і без гэтага яна апынулася ў абсалютнай ізаляцыі.

З цягам часу ўзнікла яшчэ новая варожасць — з Егіптам. Для рэспубліканскага рэжыму, які нарадзіўся на Ніле неўзабаве пасля заканчэння арабска-ізраільскай вайны, Іярданія была «бервяном на шляху» злучэння яго з паўночнай правінцыяй — Сірыяй. У маі 1957 года аманская газета «Аль-Урдун» змясціла на першай старонцы паведамленне, што Егіпет разам з Сірыяй рыхтуе змову супраць Іярданіі, што іярданскі начальнік генеральнага штаба Алі Абу-Нувар падкуплен егіпецкім пасольствам у Амане з мэтай арганізаваць замах на караля.

Такія хваляванні ўжо даўно ўлягліся, але напружанне ўсё яшчэ адчуваецца ў паветры, а сутычкі паміж Каірам і Аманам у друку і па радыё не спыняюцца да гэтага часу.

Вось і цяпер, калі мы неслі з іярданскага пасольства ў Бейруце свежую візу на ўезд, агенцтвы друку паведамілі аб узброеных сутычках на сірыйска-іярданскай граніцы. «Усякая сувязь паміж абедзвюма краінамі спынена на нявызначаны тэрмін...»

* * *

Ужо трыццаць мінут мы на тэрыторыі Іярданіі.

Каля пагранічнага шлагбаума — цэлая калона аўтамашын, мытнікі пры святле лямп заўзята корпаюцца ў чамаданах падарожнікаў з такім выглядам, быццам гэтая справа дае ім найвялікшае задавальненне. Міма машын праходзяць узброеныя людзі ў форме Арабскага легіёна, на галаве ў іх развяваюцца клятчастыя чырвоныя хусткі, надаючы іх выгляду ўсходнюю рамантыку. У другіх — чорная форма, а на галовах узвышаюцца старадаўнія прускія шлемы з бліскучым грамаадводам. Сярод натоўпу прабіраецца прысадзістая жанчына ў шэрай форме, з завязанай пад бараду хусткай. Яе таксама адкамандзіравалі сюды. У памяшканні побач з мытніцай яна робіць агляд у дзвюх жанчын, што прыехалі на аўтамабілях з сірыйскім нумарным знакам.

Пашпарты машын ужо праштэмпелявалі, мы цярпліва чакаем, калі нам вернуць нашы пашпарты.

— Гэта будзе працягвацца прыблізна гадзіну, — заявіў хлапчына, які, за адпаведныя чаявыя, узяў апеку над намі, — яны павінны яшчэ пазваніць у Аман. Пакуль што можаце спакойна павячэраць, — і ён завёў нас у малы ўтульны рэстаранчык.

— Вось гэта арганізацыя!

...Праз гадзіну хлопец прыбег з усмешкай на вуснах: «Пашпарты гатовы!»

Падаючы нам пашпарты, малады чыноўнік энергічна, па-ваеннаму казырнуў.

Пераклад з чэшскай мовы
**А. МАЖЭЙКІ.**

(Працяг будзе.)



**Віктар КАВАЛЕНКА**

# ПРА ТЫХ, ХТО ПАЧЫНАЕ ЖЫЦЬ

У жыцці кожнага чалавека некалі настае час, калі яму трэба пачынаць свой самастойны шлях. Бесклапотнае дзяцінства і юнацтва застаюцца ззаду, а перад маладым чалавекам жыццё адкрывае свой сапраўдны твар, паўстае ва ўсёй сваёй складанасці і суровасці, ва ўсёй прывабнасці і харастве. У адных мяжа паміж бесклапотнасцю і сталасцю бывае вельмі выразная, яркая, быццам яны пераплылі раку і адразу апынуліся па той бок новага жыццёвага рубяжа. Другія сталеюць паволі, непрыкметна, як непрыкметна за вясной прыходзіць лета. Але пара духоўнага ўзмужнення надыходзіць няўхільна, бо такі закон жыцця. І кожнаму новаму пакаленню ў свой час даводзіцца браць на сябе адказнасць не толькі за свой уласны лёс, але і за будучыню ўсяго грамадства.

Здольнасць працаваць, дзейнічаць, тварыць і ёсць тая прыкмета, якая паказвае, што маладое пакаленне ўжо не мае патрэбы ў засцярожлівай апецы. Але грамадства паверыць у яго самастойную сілу толькі тады, калі яно заявіць аб сабе моцна і энергічна, калі выявіць самастойнае адчуванне і разуменне свету, калі будзе настойліва пракладаць шлях у будучыню. Маладыя гады — гэта яшчэ не адзнака маладосці ў грамадскім сэнсе. У камедыі А. Грыбаедава «Гора ад розуму» толькі Чацкі варты гонару належаць да маладога пакалення Расіі, бо ён адзін жыве ідэаламі будучыні. Маўчалін жа, — хоць ён і малады, — усёй сваёй істотай належыць старому свету. Старое заўсёды імкнецца, наколькі можа, весці за сабой моладзь, бо ў гэтым для яго найпершая і самая важная ўмова таго, каб прадоўжыць сваё існаванне.

Моладзь сцвярджае сябе ў барацьбе са старым. З развіццём грамадства мяняюцца ўмовы і сродкі барацьбы, таму кожнае пакаленне па-

свойму ўступае ў жыццё. Але моладзь заўсёды застаецца ворагам застою і самазаспакоенасці, яна нястомная ў пошуках новага. Актыўныя адносіны да жыцця — вынік не толькі маладога запалу, непатрачанай энергіі. Моладзь мае права на ўласную ініцыятыву яшчэ і тэму, што будучыня належыць ёй.

Бывае, старэйшыя людзі не разумеюць імкненняў моладзі або не хочуць іх разумець. Тады ўзнікае праблема «бацькоў і дзяцей». Канфлікт паміж бацькамі і дзецьмі лічыцца вечным, ён быў зместам многіх мастацкіх твораў. Тургенеў у рамане «Бацькі і дзеці» з вялікай сімпатыяй намаляваў вобраз Базарава, чалавека новай фармацыі, які належаў да маладога пакалення працаўнікоў і рэалістаў, што ішлі на змену сібарытам-панам, няздольным адчуць патрэбы новага часу, залішне палахлівым і раўнадушным, каб асмеліцца ўзяць на сябе чорную практычную работу па перабудове грамадства. Базараву цяжка змагацца са старым светам, які акружае яго, пазбаўляе сяброў і блізкіх, але ён цвёрда перакананы ў перавазе свайго светапогляду, кіруецца ім паслядоўна і смела, адкідаючы звыклыя паняцці, рушачы аўтарытэты і сцвярджаючы іншае, больш прагрэсіўнае, на яго думку, разуменне жыцця. І хоць у асобных выпадках ён памыляецца, пафас яго думак і спраў усё роўна выклікае спачуванне і павагу.

Такім чынам, канфлікт «бацькоў і дзяцей» часта набываў у мінулым ідэалагічныя формы.

А як жа сёння? Ці засталася надзённай праблема «бацькоў і дзяцей»? Вядома, марксісцка-ленінскае вучэнне, практыка сацыялістычнага будаўніцтва, рэвалюцыйныя традыцыі складаюць аснову для глыбокай ідэйна-палітычнай пераемнасці пакаленняў.

Але і ў нас часам можна пачуць ад старэйшых такія наракання на моладзь: «Эт, цяперашняя моладзь... Лёгкадумнасць адна... Цікавіцца толькі модамі ды танцамі. А пачнеш катораму пра абавязак гаварыць — іранічна ўсміхаецца. І пра ўсё ў яго свая думка. Калі ты яе вынасіць паспеў, другі каторы? На якім грунце яна ў цябе вырасла? Ты ж яшчэ смаку заробленага хлеба добра не ведаеш, а ўжо хочаш быць усяму суддзёю!..»

Танцы, моднае адзенне, захапленне Хэмінгуэем і Пікасо, свой погляд на жыццё, свае аўтарытэты... Што гэта: імкненне ўсё ў жыцці выверыць сваім уласным розумам і сэрцам ці, можа, даніна часу, як і вузкія штонікі? Мо і на самай справе наша сучасная моладзь эгаістычная, не здольная на вялікія справы?.. Але як жа ў такім выпадку вытлумачыць працоўны энтузіязм моладзі на цаліне, на будоўлях сямігодкі?

«Безідэйныя», — кідае папрок у адрас маладых хто-ніхто са старэйшых. Можа наша моладзь і сапраўды не мае высокіх ідэй? Але, у такім разе, як жа растлумачыць тую кіпучую энергію, з якою яна ўступае ў жыццё?

Адказаць на ўсе гэтыя пытанні, узбагаціць уяўленні грамадства аб сучаснай моладзі абавязана літаратура «маладых». Каму ж найбліжэй і найдаражэй інтарэсы моладзі, каму так знаёмыя і зразумелыя яе імкненні, як не тым пісьменнікам, чый талент складваўся ў маральнай атмасферы ўзмужнення новага пакалення? Мусіць таму пра моладзь найбольш пішуць маладыя пісьменнікі. Гэта іх «асабістая» тэма — тая тэма, якая найбольш моцна звязвае іх з сучаснай рэчаіснасцю, бо яна ўжо стала вопытам іх душы. У творах маладых пісьменнікаў паказаны многія характэрныя рысы сучаснай моладзі — як станоўчыя, так і непажаданыя.

Лепшыя творы рускай і беларускай літаратуры «маладых», у якіх адлюстраваны рэальныя асаблівасці маральна-грамадзянскага аблічча сучаснай моладзі, пераконваюць нас у адным: няпраўда, што наша моладзь — пакаленне стыляг і індывідуалістаў, абыякавых да грамадскага жыцця. Наадварот, яна не ўяўляе свайго існавання без грамадскай барацьбы.

Працэс абнаўлення жыццёвых норм у нашай краіне, які пачаўся пасля XX з'езда, перадавая моладзь лічыць сваёй справай і аддае ёй многа душэўных і разумовых сіл. Яно, гэтае абнаўленне, азначае зварот



да першапачатковай чысціні маральных і грамадзянскіх прынцыпаў часоў рэвалюцыі. Сучасная моладзь хоча быць вернай паслядоўніцай рэвалюцыйных традыцый, выказвае гатоўнасць развіваць і ўзбагачаць іх усім сваім жыццём. Таму у творчасці маладых пісьменнікаў тэма рэвалюцыі, тэма абароны рэвалюцыйных заваёў займае вялікае месца. Добра выказаў пачуццё духоўнай з'яднанасці і пераемнасці з пакаленнем, якое ў дзевятнаццатым годзе гінула «па-геройску за марксізм», Яўген Еўтушэнка ў вершы «Партызанскія магілы» (пераклад В. Макарэвіча):

Бывайце,
партызанскія магілы,
дапамаглі усім мне, чым змаглі, вы.
Бывайце!
Мне пакутваць і шукаць
да мускульнай канвульсіі
ў шчаках.
Чакае свет мяне
з травою мокрай,
чакае з шчасцем і дабром сваім,
свет, дзе жывыя думаюць
аб мёртвых,
дзе памагаюць мёртвыя жывым.

Памагаюць мёртвыя жывым... Памагаюць прыкладам бескарыслівай і самаахвярнай адданасці рэвалюцыйным ідэалам, вучаць уменню служыць гэтым ідэалам. Крытэрый тых часоў, прыкладзены да спраў сённяшняга дня, памагае выявіць тое шкоднае, што з'явілася на шляху нашага народа як вынік адступлення ад ленінскіх прынцыпаў кіравання грамадствам.

Барацьбу супраць перажыткаў моладзь пачынае з таго, што стварае ў сваім асяроддзі атмасферу, якая адпавядае лепшым традыцыям нашага грамадства. Максімаў, герой аповесці В. Аксёнава «Калегі», гаворыць свайму сябру Зяленіну: «Ух, як мне гэта надакучыла! Уся гэтая балталогія, усе гэтыя высокія славясы. Іх гаворыць вялікае мноства цудоўных ідэалістаў, такіх, як ты, але і тысячы нягоднікаў таксама. Напэўна і Берыя карыстаўся імі, калі ашукваў партыю. Цяпер, калі нам многае стала вядома, яны сталі мішурой. Давай абыдземся без балбатні. Я люблю сваю краіну, свой лад і, не задумваючыся, аддам за гэта руку, нагу, жыццё, але я адказваю толькі перад сваім сумленнем, а не перад нейкімі слоўнымі фетышамі. Яны толькі замінаюць бачыць рэальнае жыццё. Зразумела?»

Зяленін спрачаецца з Максімавым, называючы новыя рысы светапогляду маладога пакалення: «Ты няпраўду кажаш, Алёшка! Мы адказваем не толькі перад сваім сумленнем, але і перад усімі людзьмі, перад тымі, з Сенацкай плошчы, і перад тымі, з Марсавага поля, і перад сучаснікамі, і перад будучыняй асабліва».

У апсвесці «Калегі» ёсць эпізод, дзе былы салдат Ягораў пытае студэнтаў-медыкаў, а ў іх асобе ўсё маладое пакаленне: «Чым вы жывяцё? Вось вы, моладзь? Куды хіліцца індэкс, дакладней, індыферэнт вашых замахаў?» Вуснамі франтавіка Ягорава гаворыць пакаленне, якое вынесла на сваіх плячах вайну, таму яно мае права на такое пытанне. Каб пацвердзіць гэтае права, пісьменнік прымушае Ягорава сказаць: «Мы, франтавікі, і цяпер ведаем, што рабіць». Такая самаўпэўненая фраза наўрад ці патрэбна была, бо права пытаць і трывожыцца за будучыню больш чым дастатковае ў тых, хто плаціў за перамогу ў час вайны сваёй крывёй і сваім жыццём. Натуральнасць такога пытання і не аспрэчваюць героі аповесці. Таму Зяленін проста адказвае на яго: «Мы не піжоны, мы дактары», хочучы гэтым падкрэсліць, што ён і яго сябры сваёй працай дакажуць, чаго яны варты.

І яны даказваюць. Праца для іх нешта большае, чым звычайны занятак. Яна становіцца іх грамадзянскай справай. Праца, карысная народу, праца як крыніца духоўнага росту чалавечай асобы — адзін з ідэалаў сучаснай моладзі. Той, хто здолеў знайсці сваё прызванне, надзвычай цэніць гэта. Адна з гераінь аповесці «Калегі» ахвяруе каханнем,

каб толькі не страціць работы, якая стала зместам яе жыцця. Учынак гераіні натуральны, бо ён — не паказная ахвяра. Любімая праца для яе — вельмі асабісты, індывідуальны момант, без якога нельга ўявіць свайго жыцця.

Хлопцы і дзяўчаты 60-х гадоў не толькі спрачаюцца з «честными производственниками», па многіх пытаннях (верш Я. Еўтушэнкі: «Нігіліст»), але і самі становяцца не менш сумленнымі людзьмі працы. Таму велізарныя планы будаўніцтва камунізма ў нашай краіне, якія вызначыць XXII з'езд партыі, — гэта планы моладзі. Не, зусім не бяздзейнае і не бесклапотнае жыццё ў хлопцаў і дзяўчат, якія носяць моднае адзенне і робяць модныя прычоскі. Пра гэта сказала Ю. Друніна ў вершы «Па вуліцы Горкага» (пераклад Х. Жычкі):

Па вуліцы Горкага — што за
паходка! —
Красуня плыве, як пад ветразем
лодка.
Прычоска па модзе,
Па модзе адзенне,
Губная памада з ліловым
адценнем.
Ідзе не стыляжка — дзяўчына
з завода,
Дзяўчо нараджэння ваеннага года
(Па выгляду вы не мяркуйце
ніколі!),
І крыўдзіць яе мы ханжам не
дазволім!
Хай туфлі на шпільках,
І сумка «мадэрн»,
Спадніца ледзь-ледзь дастае да
кален, —
Скажыце, што дрэннага тут?
На заводзе
Станкі перад ёю на дыбачках
ходзяць!
(Камсорг нездарма пра яе так
сказаў:
«На хлопца такую б я не
памяняў!»)

Воблік маладога сучасніка куды складанейшы, чым уяўляецца некаторым людзям старэйшага пакалення, у тым ліку і некаторым пісьменнікам.

Наколькі ж глыбока і поўна адлюстравала воблік новага пакалення беларуская літаратура?

За апошнія гады ў нас з'явілася досыць многа аповесцей, раманаў і п'ес пра жыццё моладзі. У большасці выпадкаў аўтары гэтых твораў і іх героі — аднагодкі.

А. Савіцкі — умелы, эмацыянальна чулы, здольны малады пісьменнік. Яго творы можна пахваліць якраз за тыя якасці, якіх так не стае маладым: за ўвагу да сюжэтнай стройнасці і кампазіцыйнай завершанасці, за натуральнасць дыялагаў, псіхалагічную напоўненасць вобразаў. Яго апошняя аповесць «Кедры глядзяць на мора» адразу зацікаўлівае чытача, бо яе героі жывуць і працуюць там, куды скіраваны позіркі ўсіх людзей краіны — да буйнейшай новабудоўлі сямігодкі, да Брацкай ГЭС. У гэтым сэнсе яна нагадвае вядомую аповесць А. Кузняцова «Прадаўжэнне легенды». Але далейшае параўнанне гэтых двух твораў не ў карысць беларускага пісьменніка. Першыя ж старонкі аповесці А. Кузняцова пераконваюць, што сучасная моладзь уступае ў жыццё з хвалюючымі думкамі пра лёс свайго пакалення. А героі А. Савіцкага неяк бяздумна, вельмі лёгка пачынаюць самастойную дзейнасць. Яны выглядаюць праставатымі, прыземленымі, бо не цікавяцца падзеямі агульнаграмадскага значэння, не імкнуцца асэнсаваць сваё месца ў агульнай стваральнай працы.



Але ці справядліва будзе ад галоўнага героя аповесці Пятра Каваля, звычайнага хлопца, радавога працаўніка, шафёра па прафесіі, патрабаваць інтэлектуалізму ў адносінах да рэчаіснасці? Думаецца, што нічога перабольшанага ў такім патрабаванні няма. Па-першае, не зусім і звычайны гэты хлопец, Пятро Каваль. У яго — вялікая школа жыцця і даволі высокае агульнае развіццё. Па-другое, гаворка ідзе не пра нейкі філасофска-навуковы аналіз жыццёвых з'яў, а пра здольнасць думаць, абагульняць, уласцівую кожнаму чалавеку. І вось такой здольнасці ў Пятра няма. Па волі аўтара ён цалкам заняты сабой і сваёй каханай. Вядома, не абавязкова, каб у навакольным жыцці маладому чалавеку ўсё да крошачкі было зразумела, але ён павінен многае бачыць, многае адчуваць, на многае шукаць адказу. А ў аповесці «Кедры глядзяць на мора» атрымалася так, што гераічны Брацк з яго перамогамі і цяжкасцямі застаўся ў баку, а героі жывуць самі па сабе, ізаляваныя ад вялікіх спраў.

Паліна, якую кахае Пятро, — інжынер. Але яна таксама чалавек з вельмі абмежаваным кругаглядам. Ствараецца ўражанне, што яна ўведзена ў твор толькі для таго, каб было каго кахаць галоўнаму герою.

Аўтар вельмі спрасціў карціну жыцця будаўнікоў Брацка, схематычна расставіўшы герояў твора. З аднаго боку стаяць крыштальна-чыстыя, бездакорна сумленныя Стаеў і Паліна, з другога — нягоднік і злачынец Лапацін, а паміж імі — блудная душа Пятра Каваля, які, вядома, далучаецца ўрэшце да першай групы.

А. Савіцкі ў асобных месцах старанна абыходзіць рэальныя жыццёвыя супярэчнасці, спрашчае адносіны паміж людзьмі. Вось адзін з такіх эпізодаў. Пятру Кавалю прапануюць пасаду брыгадзіра. Прапануюць у той час, калі ён не мае сталай працы, мала зарабляе. І што ж? Адразу ж, без жадных роздумаў і ваганняў, «Каваль пакрыўджана скрыгатнуў зубамі».

Раскрываючы ў аповесці грамадскую праблему перавыхавання чалавека, Алесь Савіцкі абмежаваў яе вырашэнне маральным аспектам, таму аповесць «Кедры глядзяць на мора» камерная нават па сваёй задуме, нягледзячы на тое, што героі яе жывуць на фоне панарамы вялікай будоўлі.

Маральная праблематыка, асэнсаваная вельмі аднабакова і вузка, у плане інтымных ўзаемаадносін юнакоў і дзяўчат, — асаблівасць многіх празаічных твораў пра моладзь. Але ці ж барацьба за чыстую мараль можа вычарпаць усю складанасць барацьбы за пабудову камунізма? Вядома, не можа.

Зусім іншая справа, калі маральная праблема раскрываецца ў сацыяльным плане. Тады твор набывае жыццёвую глыбіню. Але мараль, пададзеная толькі як звычайны выпадак з асабістага жыцця і не пастаўленая ў сувязі з агульнымі тэндэнцыямі грамадскага развіцця, мараль як адкрытая павучальнасць зводзіць мастацкі твор да ўзроўню ілюстратыўнай белетрыстыкі. Ілюстратыўнасць — гэта агульшчына, бо ілюструюцца даўно і добра вядомыя думкі. Героі ў ілюстратыўных творах таксама стандартныя, іх цяжка адрозніць аднаго ад другога. У п'есе І. Мележа «Пакуль вы маладыя» паказваецца жыццё маладых інжынераў, а ў п'есе А. Гутковіча і Ф. Казоўскай «Праўда і шчасце» — жыццё маладых педагогаў. Але сваімі паводзінамі і думкамі героі абедзвюх п'ес істотна не адрозніваюцца. І гэта таму, што і ў адным, і ў другім творы няма колькі-небудзь значных пошукаў, адкрыццяў, а ёсць гатовыя ісціны, якія пацвярджаюцца прыкладамі, ілюструюцца.

Вядома, маральныя пытанні хвалююць нашу моладзь, і не толькі моладзь. Выхаванне новай маралі — надзённая задача эпохі. Але нельга згадзіцца з крытыкам Б. Сучковым, які, робячы агляд «маладой» рускай літаратуры, піша («Литературная газета» ад 15 жніўня 1961 года), што «маральныя праблемы выходзяць сёння ў літаратуры і жыцці на першы план». Б. Сучкоў хваліць маладых пісьменнікаў за раскрыццё сучаснага канфлікту як канфлікту маральнага. Але ж дух нашага часу праяўляецца ў першую чаргу ў барацьбе паміж перадавым і ўстарэлым у грамадскім

жыцці. Залішняя прывязанасць «маладой» літаратуры да маральнага канфлікту, без раскрыцця яго сацыяльнага сэнсу, з'яўляецца хутчэй за ўсё яе слабасцю, а не сілай. Было б куды лепш, калі б у творах маладых пісьменнікаў на першы план выступаў грамадскі аспект адлюстраваных з'яў, калі б яны больш рашуча і смела ўмешваліся ў складаныя жыццёвыя працэсы ўсенароднай важнасці.

Маладыя беларускія пісьменнікі хоць і асцярожна, але закранаюць вострыя сацыяльныя пытанні. Адным з самых цікавых апавяданняў Б. Сачанкі з яго першага зборніка, думаецца, варта лічыць апавяданне «Ён павінен зразумець». Пісьменнік праводзіць думку аб адказнасці за памылкі перад уласным сумленнем і перад народам. Цяперашні сакратар райкома, будучы калісьці ў партызанах, забіў замест здрадніка сумленнага чалавека. Гэта тая памылка, якая не даруецца. Вось чаму сакратар не перастае дапамагаць удаве-калгасніцы. Ён не з тых, хто можа заспакоіць сябе выратавальнай фразай: «Лес сякуць — трэскі ляцяць».

Заслугоўвае сур'ёзнай увагі драма П. Васілеўскага «Любоў, надзея, вера». Маладыя будаўнікі хімічнага камбіната жывуць не толькі сваімі ўласнымі інтарэсамі. У паводзінах, думках, спрэчках праяўляюцца асаблівасці светапогляду гэтых людзей, іх грамадзянскія імкненні. Менавіта самастойнасць, сур'ёзнасць разважанняў і спраў надае рабочым хлопцам тыповы воблік нашых маладых сучаснікаў. Важнай для характарыстыкі моладзі з'яўляецца сцэна з першай дзеі. Будоўля толькі пачынаецца, а маладыя рабочыя ўжо намерыліся ўцячы адсюль. Намеснік начальніка будаўніцтва Дэраш і яго падпявала падхалім Жур называюць хлопцаў анархістамі, гультаямі і абібокамі. Можа тыя сапраўды спалохаліся цяжкасцей? Паслухаем, што кажуць яны самі:

Сямён. Гэта мы гультаі? Ты работу давай!
Зорын. Работы непачаты край.
Кісялёў. Вось што, начальнік. Не магу я ў вочы хлопцам глядзець. Механізмы прастойваюць. Грошай у хлопцаў ні капейкі.
Сямён (да Зорына). Таварыш начальнік, дазвольце запытацца. Колькі вы ў гэтым месяцы пеці-меці агрэблі?
Зорын (ухіляючыся). Колькі належыць, столькі і агроб.
Сямён. А іменна. Колькі соцень?
Зорын. Ну-у... дзве.
Сямён. Чулі, грамадзяне рабочы клас?
Кісялёў. І мы б маглі, каб быў толк на будоўлі.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Сямён. Вербавалі — горы залатыя абяцалі.
Зорын. Няпраўда! Не абяцаў я залатых гор, а ствараць іх клікаў.
Дэраш. А каб ствараць, папацець трэба.
Сямён. Пацеем, толькі ад бязладдзя.
Дэраш. А гэта не твайго розуму справа. Смаркач ты яшчэ вучыцца.
Кісялёў. Вось што, таварышы начальнікі. У вас свой розум, а ў нас свой.

Хлопцы ідуць на станцыю. Але даведаўшыся, што ў шахце аварыйнае становішча, бягуць ратаваць яе. Што гэта — імгненнае «перавыхаванне» ці аўтарская супярэчлівасць у характарыстыцы герояў? Не тое і не другое. Усё тут лагічна і перакананальна. Наша моладзь згодна пераносіць самыя вялікія цяжкасці, калі яны не з'яўляюцца вынікам нейчай безадказнасці, абыякавасці або ляноты. Героі драмы П. Васілеўскага добра бачаць і разумеюць, што яны пакутуюць ад бязладдзя, якое прыкрываецца высокімі словамі, і таму пратэстуюць у самай рашучай форме.

Вядома, начальніку будоўлі Дэрашу хацелася б, каб яго «высокія словы» ўздзейнічалі на моладзь. Куды лягчэй сказаць некалькі высакапарных фраз, чым па-сапраўднаму клапаціцца пра людзей. Адсюль ідзе схільнасць Дэраша да фразёрскага «патрыятызму»; яму спакайней жывецца за дымавою заслонаю слоў. Ён баіцца моладзі, баіцца яе самастойнасці. «Кожны смаркач, разумееш, нацягне на сябе штаны-дудачкі і пачынае свае прэтэнзіі выстаўляць, пачынае, разумееш, за рэспубліку думаць. Ёсць каму думаць і без яго...»



Калі Дэрашу раяць пайсці на пенсію, ён адказвае: «Я б пайшоў. Але ж боязна на вас, блазнюкоў, дзяржаву пакідаць. Загубіце!» На самай справе Дэраш баіцца не за дзяржаву, а за сябе. Ён адчувае, што змены ў грамадскім жыцці, да якіх мае дачыненне і моладзь, набліжаюць яго канец.

Ці ж можна не верыць у маладых людзей, якія разгадалі Дэраша і не скарыліся перад ім! Гэта — перадавыя людзі.

У драме П. Васілеўскага ёсць спроба асэнсаваць лёс сучаснай моладзі ў цэлым, даць яе калектыўны вобраз. Робіцца гэта ў сімвалічна-філасофскім плане. Трэба сказаць, што гэты план недастаткова распрацаваны ў п'есе. Ён неглыбокі і не заўсёды лагічны. Любоў, надзея, вера — тры паняцці, якія, на думку драматурга, кладуцца ў аснову сучаснага быцця савецкага чалавека, мала канкрэтызаваны ў п'есе, бо вобразы трох жанчын: Любы, Надзі і Веры — занадта невыразныя, духоўна пасіўныя, каб увасобіць такія ёмістыя па філасофскаму зместу паняцці. Апрача таго, уведзены ў п'есу патрабавальны Голас Часу выклікае на размову чамусьці толькі Зорына і Любу. А як бы ўзмацнілася тэма выкрыцця Дэраша, калі б і ён быў пакліканы на суд Часу, перад якім нельга двурушнічаць і выкручвацца.

Але якімі б ні былі недахопы п'есы П. Васілеўскага, у ёй ёсць сур'ёзны роздум аб сучаснасці. А гэта галоўнае.

Празаічных і драматычных твораў, у якіх сур'ёзна ставяцца пытанні, звязаныя з жыццём моладзі, у маладой беларускай літаратуры пакуль яшчэ нямнога. Нашы маладыя празаікі і драматургі ўсё яшчэ застаюцца ў даўгу перад часам і перад сваімі равеснікамі.

У сапраўднага мастака ўся творчасць нясе на сабе адбітак светаадчування яго пакалення. Лірычны герой паэта — заўсёды яго аднагодак.

У лепшых вершах маладых беларускіх паэтаў гучыць голас нашага часу.

Характэрная рыса нашай маладой паэзіі — пераадоленне завучана-рытарычных ходаў, пабудова верша на праўдзівым і шчырым пачуцці. Яе лірычны герой стаў больш патрабавальны і да людзей і да сябе, яму менш за ўсё ўласціва пачуццё самалюбавання.

Безумоўна, сіла інерцыі і ў маладой паэзіі яшчэ дае сябе адчуць. Некаторыя паэты яшчэ часам збіваюцца на рыторыку і агульшчыну. Вялікі недахоп маладой паэзіі — у няўменні аддзяліць істотнае ад другараднага, у імкненні паэтызаваць усё ўбачанае, у тым ліку дробязнае, нязначнае.

Маладыя паэты нямала напісалі вершаў пра родны край, пра родныя мясціны, так ці інакш звязаныя з успамінамі дзяцінства. Гэтую тэндэнцыю можна зразумець і вытлумачыць. Хіба не папракалі ў недалёкім мінулым тых, хто апісваў прыроду Беларусі, што яны ідэалізуюць патрыярхальшчыну? І вось паэты, што называецца, адвялі душу. Гаі і дубровы, ручаі і бярозкі, пералескі і сцяжынкі занялі вялікае месца ў паэзіі. Добра гэта ці дрэнна? Было б нядрэнна, каб гэтая тэндэнцыя не стала аднабаковай, каб кветкі не засланілі людскога жыцця. Упамінанне камбайна ці трактара яшчэ не робіць верш сучасным па зместу. Сучаснасць у літаратуры — гэта ўласцівы нашай эпосе погляд на жыццё. Ці ж можа лірычны герой раскрыцца цікава для чытача, калі яго позірк мала скіроўваецца да людзей? Хіба людзі, якія жывуць у родным краі, не складаюць вобраза радзімы? Аб гэтым цудоўна сказаў А. Яшын у вершы «Твая радзіма», нібы спецыяльна прысвечаным маладым паэтам:

«Великая!» — мы говорим о ней,
Даём присягу в верности сыновней
И воспеваем с пристальной
любовью
Берёзки, речки, ширь её полей.
А все ли помним
И всегда ль
о том,

Что родина была, и есть, и будет
Не только реки, горы, отчий дом,
Не просто небо и земля,
А — люди?
Все те, что рядом, под боком у нас.
И — далеко,
чужие нам по крови,
И все они нуждаются подчас
В тепле, в участье,
В братском добром слове.
И если ныне он, товарищ твой,
Твой соотечественник — пусть
не близкий,
Безвестный пусть —
в беде, нужде какой,
Спеши ему помочь, он не чужой,
Не отмахнись служебною запиской.
Спеши на выручку, других зови,—
Пусть не найдётся душ глухих
и жёстких!
Без этого к чему слова любви
О родине,
О речках,
О берёзках?!

Абавязак маладой літаратуры — глыбока і ўсебакова раскрыць воблік свайго пакалення. Гэты абавязак не навязваецца ёй звонку. Ён вынікае з самога яе імкнення дасягнуць узроўню сапраўднага мастацтва.

# ГОЛАС СЭРЦА

Маладосць! Колькі звязана з ёю ў кожнага з нас светлых, радасных успамінаў! Гэта пара летуценняў і надзей, самых шчырых парыванняў і імкненняў, калі чалавек свядома рыхтуецца ў вялікую жыццёвую дарогу. І як не пазайздросціць таму, чыя душа перапоўнена чыстымі і смелымі намерамі і перад чыімі вачамі толькі пачынае раскрывацца ва ўсім сваім багацці і красе навакольны свет. Іменна гэтае адчуванне свежасці ўспрыняцця жыцця перш за ўсё кранае чытача, калі ён знаёміцца са зборнікам вершаў Дануты Бічэль «Дзявочае сэрца» *

Хочацца тут жа зазначыць, што назва зборніка найлепшым чынам адпавядае характару лепшых вершаў маладой паэтэсы. Пафас гэтых вершаў — нястомнасць, нястрымнасць маладога сэрца, яго прага зведаць асалоду працы і стомы, яго парыванні ў невядомыя прывабныя далі:

Цэлы дзянёк да працы дасужая
Жыта вязала, сена зграбала.
Ногі самлелі, рукі знядужалі,—
А сэрцу, а сэрцу ўсё мала.
І пацягнула яно, невыноснае,
Млечнай дарожкай па ночы...
— Час бы дамоў—збажына
шэпча росная.
Сэрца вяртацца не хоча.
Вёска засне, перапёлка
ўгамоніцца,
На'т вецярок задрамнуў у таполі.
Сэрца! Калі ж ты прагоніш
бяссонніцу?
Сэрца грукоча:
— Ніколі!
(«Сэрца дзявочае».)

* Данута Бічэль. Дзявочае сэрца. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1961.

У маладой паэтэсы ёсць вершы, напісаныя як бы адным дыханнем. Гэта своеасаблівы гімн жыццю, роднай зямлі, свайму народу:

Кахаю... Люблю... Беларускаму
краю
Бясконца я слова «люблю»
паўтараю.
Калоссям жытнёвым, у шчырых
размовах,
Вялікім будовам і шчырым
размовам,
Краіне Саветаў, авеянай славай,
Усім, хто душой за народную
справу;
Палеткам калгасным, зялёнай
дуброве
Кажу гэта слова на матчынай
мове.
(«Роднае слова».)

У адных творах Данута Бічэль выказвае сваю любоў да Радзімы, да свайго прынёманскага краю, у другіх — гучыць захапленне жыццём і гераічнымі справамі савецкага чалавека, у трэціх — любаванне красой роднай прыроды. У кнізе ёсць і вершы, якія належаць да так званай лірыкі інтымных перажыванняў. Але які б верш мы ні ўзялі, за выключэннем двух-трох («Пра бяду і каляду», «Смуглатварай, сінявокай...»), ён мае ярка выражаны лірычны характар. І хай сабе гэтыя творы часам яшчэ не акрылены глыбокім роздумам над бачаным і чутым, хай у іх яшчэ слаба адчуваецца аўтарская ацэнка таго, што пабуджае да творчасці, але многія з іх здольны закрануць нашае сэрца.

Удалымі з'яўляюцца прырода-апісальныя вершы Дануты Бічэль.

Многія з іх — гэта яркія мастацкія эцюды з дакладна і дасціпна выпісанымі дэталямі. Сярод іх можна назваць верш «Бяроза»:

Снежная пустэча.
Бель у вочы коле...
І адна бяроза —
Вартаўніца поля.
Лёгкадумны вецер
Між галін смяецца,
Хоча запалоніць
Белакосай сэрца.
Хоць бярозу вабіць
У даль начную зорка,
Стыне, не пакіне
Роднага пагорка.

Вобраз бярозы тут персаніфікаваны, ён робіць праекцыю на іншы план — план чалавечых пачуццяў і перажыванняў. Арыгінальны, самабытны вобраз, свежая паэтычная думка нараджаюцца тады, калі яны з'яўляюцца вынікам непасрэднага ўспрыняцця мастаком рэчаіснасці. Мастак заўсёды павінен заставацца верным сваім думкам і пачуццям. Толькі ў такім выпадку могуць з'явіцца ў яго свае словы, свае вобразы, сваё вырашэнне тэмы.

Аб тым, каб пракладваць свае дарогі ў жыцці, марыць і Данута Бічэль. Супраць такога жадання нічога благога не скажаш. Насцярожыць тут хіба толькі тое, што яно — дэкларацыйнае, нават некалькі запазычанае:

Я на раздарожжы не заблуджуся
І не збочу, каб чакаць падмогі.
Па шляхах зялёных Беларусі
Буду пракладаць свае дарогі.
(«Многім цёпла ў бацькі пад
страхою...»)

Чытаючы гэтыя радкі, адразу ўспамінаеш верш Петруся Броўкі «Не буду я стаяць на раздарожжы», напоўнены глыбокай думкай і сагрэты шчырым пачуццём.

Нейкай ненатуральнай позай павявае ад такіх радкоў:

Можа, прыйдзе калі чарга
І мне як паэту праслаўіцца...

Перадаючы свой настрой, свае эмоцыі, паэтэса часам імкнецца адразу паясніць іх, растлумачыць, ці, груба кажучы, «разжаваць» тое, што выказана адным удалым штрыхом. У выніку паслабляецца эмацыянальнае напружанне верша: яго тканіна расцягваецца, разрэджваецца, і ён ператвараецца ў набор фрагментаў, слаба звязаных між сабой. Для прыкладу можна ўзяць такі добры па задуме і па асобных паэтычных дэталях верш, як «Радзіма»:

Салома стрэхаў мохам
перакрыта,
Хвайняк калючы б'ецца пад
рукой.
Загон курамі зблытанага жыта...
Цябе я змалку ведала такой.
Зашмыгаў мой кірпаты нос над
міскай.
Вакол сінеў нязведаны
прастор,—
А ўжо мне быстры Нёман стаў
калыскай,
Стаў шалашом цяністы шэры
бор.

У гэтым вершы відавочна імкненне паэтэсы то асэнсаваць, што такое Радзіма, то расказаць аб сваім жыцці, то даць апісанне цудоўнага кутка Беларусі. І ні адна з гэтых задум не знайшла свайго мастацкага вырашэння. Амаль няма ніякай лагічнай сувязі не толькі паміж страфамі, але і паміж асобнымі радкамі.

Жыццё адкрылася паэтэсе пакуль што не ва ўсёй сваёй глыбіні, не ва ўсіх узаемасувязях. Адсюль — незакончанасць многіх паэтычных вобразаў, іх невыразнасць. Шматкроп'і, багата рассыпаныя па вершах, не ўказваюць на падтэкст, як гэтага хочацца паэтэсе, а наадварот, часам зацямняюць сэнс верша («На пачлезе»).

Наша літаратурная моладзь не заўсёды правільна разумее вобразнасць мовы. Яна імкнецца гаварыць абавязкова так, каб моўны вобраз быў бачны здалёк, бо інакш, маўляў, што гэта за паэзія! Але ўспомнім, як умела і ашчадна карысталіся вобразным словам такія паэты, як Купала, Колас, Крапіва, Танк і іншыя. У іх вершах проста цяжка «ўбачыць», само майстэрства, але ж як лёгка ўспрыймаюцца і запамінаюцца паэтычныя вобразы і думкі!

Павярхоўнае разуменне вобразнасці ўласціва часам і Данусе Бічэль. У яе «ўсё наваколле смяецца», «усё спявае і смяецца» і г. д. І нарэшце гэты бясклапотны, смяшлівы свет неяк ужо нават пачынае надакучаць сваёй аднастайнасцю. Паэтэса не ўмее яшчэ берагчы свае знаходкі. Знойдзены ўдалы выраз, параўнанне, метафару яна паўтарае раз за разам. Надта палюбіліся ёй такія выразы, як: «маладзік двурогі» (ён жа бывае і «месік двурогі»), «шляхі зялёныя» і іншыя.

Данута Бічэль — паэтэса здольная, і хацелася б, каб выказаныя тут заўвагі пайшлі на карысць развіцця яе шчырага лірычнага таленту.

**Уладзімір БОГАН.**

# РАЗМОВА З МАЛЫМІ

Амаль кожную кнігу для дзяцей чытаюць дарослыя. Адны робяць гэта, каб задаволіць патрэбу ў чытанні, другія — для таго, каб накіроўваць і выхоўваць густы дзяцей, трэція, у якіх не было сапраўднага дзяцінства, каб хоць цяпер перажыць яго хваляванні і радасці. Словам, рэдка які твор, разлічаны на юнага чытача, не праходзіць праверкі свядомасцю і пачуццямі дарослага чалавека.

Калі твор з ахвотай чытаюць таты і мамы, значыць, у ім ёсць тое, што абавязкова павінна быць у кожным творы для дзяцей, — багаты змест. У новай, адрасаванай дзецям, кніжцы Міхася Даніленкі * змястоўнасць таго, аб чым расказвае пісьменнік, не падлягае сумненню і дазваляе сцвярджаць, што «Зачараваны гарлачык» — кніга, безумоўна, патрэбная.

Пазнаёміўшыся з ёю, малады чытач даведаецца, што ўсякая работа пачэсная, калі толькі яна выконваецца добра і накіравана на карысць чалавеку («Самая галоўная работа»), што сапраўдная павага прыходзіць да тых, хто не толькі добра працуе, але і вучыць іншых, дапамагае ім дабівацца працоўных поспехаў («От які ў мяне тата»), што ў працы — крыніца вялікай радасці («Боты-скараходы»). Расказвае пісьменнік і пра карысныя справы саміх дзяцей, пра іх цікавыя гульні і захапленні прыродай («Мамін памочнік», «Садоўнікі», «Кармушка», «Кірылка фатаграфуецца са сланіхай» і іншыя).

Часцей за ўсё пісьменнік вядзе сваіх маленькіх герояў, а з імі і чытача, у свет прыроды і, трэба адразу сказаць, праяўляе пры гэтым добрую назіральнасць.

«Умей толькі глядзець: чагочаго не ўбачыш», — гаворыць ён у апавяданні «Каля Выдрыцы». Героі гэтага апавядання Яша і Паўлік падоўгу любуюцца тым, чаго другія і не заўважаюць. Вунь «прыгожы, быццам зроблены са срэбра, званочак каля тонкай чароціны пад вадой». Павук з калматымі ножкамі, які жыве ў ім, вельмі асцярожны, і хлапчукі радуюцца, што галаватаму бычку не ўдаецца яго злавіць. А ці не цікава паназіраць, як збіраюцца плоткі, каб паласавацца ягадамі крушыны, як кружыць вакол шчупак...

Радуе ўменне пісьменніка пераводзіць казачныя матывы ў нешта вельмі блізкае і знаёмае дзецям па ўласнаму вопыту і ў той жа час павучальнае для іх («Боты-скараходы», «Зачараваны гарлачык»). Толя, якому ніяк нельга было падабраць чаравікі ці сандалеты (то ціснуць, то занадта вялікія, то нязграбныя, то цяжкія), ног пад сабой не чуе, абуўшы пашытыя дзядзькам Арцёмам боты: то ж не проста боты, а боты-скараходы, бо Толя сам памагаў дзядзьку шыць іх.

Малы Косцік ніяк не можа набраць поўную пасудзіну суніц, і яго сястра Святлана «зачароўвае» гарлачык. Апускаючы ў яго ягады, трэба прыгаварваць:

Сунічкі, сунічкі,
Гарлачык невялічкі.
Сыпцеся роўна —
Тады будзе поўна...

Гарлачык сапраўды стаў хутка напаўняцца: не будзеш жа «загаварваць» яго з набітым суніцамі ротам.

У цэнтры ўвагі пісьменніка — вясковыя дзеці, іх жыццё. Нават гарадскім хлопчыкам Толю, («Бо-

* Міхась Даніленка. Зачараваны гарлачык. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1961.

ты-скараходы») і Сашку («У Багатай Градзе») усё самае цікавае адкрываецца іменна ў вёсцы. Убачыўшы Кірыка, на бялявым тварыякога, «нібы прасяное насенне, густа пасеяны вяснушкі», пераконваешся, што «сельскім духам» прасякнуты і выяўленчыя сродкі пісьменніка.

Асноўны герой кніжкі — чалавек пераважна такога ўзросту, як Сашка з апавядання «У Багатай Градзе»: яму яшчэ хочацца падкруціць вусы сустрэчнаму дзядзьку, а папрасіць аб гэтым або крануць іх без дазволу ён ужо не асмельваецца; з усякай крыўдай ён яшчэ бяжыць да матулі, а ад яе пацалункаў пры людзях ужо адбрыкваецца...

Сабраныя ў кніжцы апавяданні адрасаваны чытачам і слухачам такога ж, як Сашка, і крыху старэйшага ўзросту. А гэтыя чытачы, разгортваючы кнігу, чакаюць ад пісьменніка, каб яго гаворка з імі была не толькі сур'ёзная, але і цікавая, займальная, захапляючая.

Трэба сказаць, што пры ўсіх бясспрэчных вартасцях кнігі многім апавяданням М. Даніленкі нестае іменна той добрай займальнасці, якая абуджае дзіцячую дапытлівасць, цікаўнасць, не дае дзіцяці адкласці недачытаную кніжку ўбок.

Многія апавяданні зборніка вельмі ўжо апісальныя, слаба насычаны дзеяннем, расцягнутыя. Убачылі, напрыклад, дзеці буслінае гняздо — «падзівіліся на буслоў», «знайшлі на зямлі велічэзнае пяро з крыла» — агледзелі яго з усіх бакоў і г. д.

Пісьменнік часам траціць пачуццё мастацкай мэтазгоднасці малюнка, пераходзіць тую мяжу, за якой усё незнаёмае і цікавае становіцца надакучлівым і сумным. «Хлопчык паказаў дзеду на шматлікія надрэзы, што віднеліся на многіх дрэвах.

— Навошта гэта?..

— Навошта? — перапытаў дзед. — Гэта так збіраюць з дрэў смалу-жывіцу. Яна вельмі патрэбна ў гаспадарцы...»

Некаторыя апавяданні пісьменніка нагадваюць хутчэй за ўсё кароткія замалёўкі з натуры, пазбаўленыя эмацыянальнага фокуса. Такімі з'яўляюцца «Мамін памочнік» і «Садоўнікі». Гэта — голая фактура без сюжэтнай арганізацыі і мастацкага асэнсавання.

Пісьменніку яшчэ нестае добрай мастацкай выдумкі. Рэдка дзе сустрэнеш нечаканыя асацыяцыі, што ўзнікаюць у дзяцей пры знаёмстве з новымі для іх прадметамі, з'явамі.

Агульнавядома, што ілюстрацыі ў кнізе, тым больш у дзіцячай, павінны раскрываць змест мастацкага твора. Добры мастак заўсёды ў нечым нават дапаўняе пісьменніка.

Ілюстрацыі Г. Клікушына да кнігі М. Даніленкі нельга прызнаць удалымі. Яны не толькі не раскрываюць змест твораў пісьменніка, а ў некаторых выпадках нават неяк зацямняюць яго.

На стар. 5, напрыклад, бачыш не таго дашкольніка, з якім пазнаёміўся ў апавяданні «Боты-скараходы», а нейкага стомленага жыццём дэндзі. На маленькі столік, што стаіць перад ім, замест намаляванага там чаравіка, так і просіцца попельніца, а ў пальцы хлопца — цыгарэта.

Мала ўлічвае мастак узроставыя асаблівасці герояў кнігі. Дзецям, пра якіх піша М. Даніленка, не ўласціва адгароджанасць ад навакольнага, паглыбленне ў свой унутраны свет. Іх цікавасць заўсёды накіравана на тое, што ляжыць зне. А прыгледзішся да малюнка на стар. 24 — ні машыны, ні пяску, з якімі ў апавяданні цэлы дзень возіцца Віталік, для хлопчыка не існуе. Перад намі чалавек, які стаіць або перад вялікім адкрыццём, або перад самагубствам. Дзе ўжо там чакаць, каб малюнак упісваўся ў твор, калі ў ім няма нават агульнай праўды дзіцячай псіхалогіі.

Талент пісьменніка — гэта не толькі здольнасць і ўменне назіраць, гэта і ўменне адбіраць. Для дзіцячага пісьменніка не менш важна валодаць і сакрэтам займальнасці, дынамічнасці дзеяння. Міхасю Даніленку трэба дамагацца ўсяго гэтага, каб яго творы чыталіся дзецьмі не толькі з карысцю, але і з прыемнасцю і ахвотай.

**Сяргей ГУСАК.**





# ЗДЗЕЙСНЕНАЯ МАРА

Поезд ішоў з Гродна. За вокнамі стаяла цемра, якую дзе-нідзе прабівалі зыркія агеньчыкі. Насоўвалася ноч. Ужо заснулі амаль усе пасажыры, і толькі адна дзяўчына ўсё яшчэ стаяла ў калідоры ля акна. Яна прыслухоўвалася да доўгай, бясконцай песні, што спяваюць колы, суладна пастукваючы на стыках рэек, і аб чымсьці думала. Яе хвалявала сустрэча з вядомымі ўсяму свету савецкімі гімнасткамі Ларысай Латынінай, Палінай Астахавай, Маргарытай Нікалаевай, Тамарай Манінай і многімі іншымі спартсменкамі ў змаганні за ганаровы прыз — кубак Савецкага Саюза.

— Бачу, не спіцца табе сёння, Лена,— падышоў да дзяўчыны невысокі чарнявы мужчына.

— Не спіцца, Ранальд Іванавіч.

— Дарэмна хвалюешся. Усё будзе добра. Я ж ведаю, як ты рыхтавалася...

Алена задаволена ўсміхнулася — не такі ўжо шчодры на пахвалу быў яе трэнер Ранальд Іванавіч Кныш.

Упершыню Лена Валчэцкая прыйшла ў дзіцячую спартыўную школу яшчэ пяцікласніцай. Усё там яе так усхвалявала і захапіла, што яна цвёрда парашыла стаць гімнасткай.

Лёгка сказаць: парашыла. А ці пройдзе яна адборачныя спаборніцтвы? Многія хлопчыкі і дзяўчынкі марацьзаймацца ў Ранальда Іванавіча, але пасля адбору толькі лепшыя, найбольш здольныя застаюцца. Аленка таксама засталася ў групе. Яна старанна выконвала ўсё, што загадваў трэнер, а калі штонебудзь не ладзілася — не хныкала, не плакала, як гэта рабілі некаторыя яе юныя сяброўкі. Зноў і зноў практыкавалася яна на брусах, бервяне, рабіла «мосцікі», «шпагаты», пакуль не атрымлівалася так, як трэба.

Лена вызначалася працавітасцю, смеласцю, некаторыя практыкаванні яна выконвала асабліва прыгожа. Але наперадзе была вялікая работа. Аленцы і яе трэнеру прыходзілася многа працаваць, каб засвоіць «галоўную азбуку» тэхнічнага арсеналу гімнастыкі. І толькі калі яна навучылася лёгка выконваць кожны элемент з гімнастычнага мнагаборства, набыла сілу, фізічна падужэла, трэнер пачаў рыхтаваць яе па праграме майстра спорту.

Першы поспех прыйшоў праз чатыры гады. На рэспубліканскай спартакіядзе школьнікаў 15-гадовая вучаніца-васьмікласніца з Гродна атрымала сваю першую перамогу: упершыню здолела выканаць нарматыў майстра спорту.

Нарэшце здзейснілася мара Лены Валчэцкай. Маленькі срэбраны квадрацік заззяў на яе грудзях.

Радасць дзяўчыны была радасцю і яе трэнера. Выхавацель, настаўнік, сябар, Ранальд Іванавіч заўсёды быў побач, заўсёды ўмеў падбадзёрыць, даць добрую параду, падтрымаць. І Лена адчувала сябе смялейшай, больш упэўненай.

За першым поспехам прыйшоў другі,



**Трэнер заўсёды сярод сваіх выхаванак.** Злева направа: **гімнасткі Алена Валчэцкая, Тамара Аляксеева і трэнер Ранальд Кныш.**

Фота **М. Зісмана.**

трэці... Неўзабаве Алена Валчэцкая заваявала званне абсалютнай чэмпіёнкі Беларусі, апярэдзіўшы многіх майстроў гімнастыкі рэспублікі.

— Тады яна таксама многа хвалявалася, не спала, — прыгадаў Ранальд Іванавіч. — А я, як і цяпер, больш за ўсё трывожыўся за апорны скачок. Дома, у Гродна, зала маленькая і разбег зусім не такі, як у вялікай зале Мінска. Праўда, і вопыту ў яе больш стала, але... Калі скачок будзе ўдалы, то Алена выступіць добра, — загадаў ён сам сабе. — За астатнія снарады можна не хвалявацца...

Столькі «алімпійскіх зорак» не збірала яшчэ ні адно першынство, якое праводзілася да гэтага часу ў Мінску. І не дзіўна, што палац спорту «Працоўных рэзерваў» не змог змясціць усіх, хто жадаў паглядзець змаганне мацнейшых гімнастак краіны, якія аспрэчвалі кубак СССР. Іх з'ехалася сюды больш сямідзесяці чалавек, і, зразумела, кожнаму хацелася сваімі вачыма паглядзець на заслужанага майстра спорту Ларысу Латыніну — абсалютную чэмпіёнку двух алімпіяд, алімпійскіх медаляў якой хапіла б на тое, каб упрыгожыць зборную каманду гімнастаў любой краіны. Хацелася ўбачыць выступленне чэмпіёнак алімпіяды ў Рыме Паліны Астахавай, Маргарыты Нікалаевай, вопытных майстроў савецкай школы гімнастыкі Т. Мохінай, Т. Манінай, Т. Івановай, Я. Гарадковай і многіх іншых.

Здарылася так, што Алене Валчэцкай давялося выступаць у адной шасцёрцы з усімі «свяціламі». Гэта было не толькі вельмі адказна, але і не зусім выгадна для нашай дзяўчыны: яна бянтэжылася перад вядомымі ўсяму свету гімнасткамі.

— Смялей, дзяўчынка, — падбадзёрваў Алену Ранальд Іванавіч. — Спакой і смеласць — перш за ўсё. Бачыш, колькі землякоў з надзеяй глядзяць на цябе. Яны, як і я, жадаюць табе ўдачы. Трымайся, не падвядзі!..

Ранальд Іванавіч жартаваў, рабіў выгляд, быццам ён вельмі спакойны. Алена ж добра ведала, што трэнер хвалюецца не менш за яе. Экзамен трымалі яны абодва, і цяжка сказаць, каму з іх было цяжэй — Алене выступаць ці трэнеру «хварэць» за яе.

І вось спаборніцтвы пачаліся. Першае практыкаванне — раўнавага на бервяне. Што і казаць — вузкі і здрадлівы масцік на шляху да кубка. Гэты снарад гімнасткі нездарма вобразна назвалі кантрольна-прапускным пунктам: самая малая недакладнасць можа вырашыць лёс...

Пачын робіць Валчэцкая. Другая на яе месцы мабыць разгубілася б у такі напружаны момант. Алена ж — не з такіх. Яна старанна падрыхтавалася і ўсю складаную камбінацыю, усе цяжкія элементы выканала, як кажуць, з бляскам— вельмі выразна і прыгожа. Цяжка было нават уявіць, што ўсе гэтыя павароты, стойкі, танцавальныя крокі дзяўчына праводзіла не на зямлі, а на тоненькім бервяне, якое ўзвышалася пасярэдзіне залы.

Суддзі высока ацанілі гэтае выступленне — 9,4 бала.

Такую адзнаку змагла атрымаць яшчэ толькі алімпійская чэмпіёнка Ларыса Латыніна. Пачатак быў зроблены добры.

«Што пакажуць скачкі?» — хваляваўся цяпер Ранальд Іванавіч — Хоць бы яна разбег правільна вымерала. На гэтым снарадзе можна лёгка нуль атрымаць...»

Нават трэнер не спадзяваўся, што Алена так выдатна справіцца з «канём». Зрабіўшы невялікі разбег, яна скокнула на мосцік, амаль імгненна адштурхнулася рукамі і, перавярнуўшыся бокам, пераляцела праз снарад. Прызямлілася, быццам урасла ў маты — не зварухнулася! 9,8 бала! Гэта была лепшая адзнака. Яна вывела Алену Валчэцкую на трэцяе месца ў спаборніцтвах! Пра такое яна, можа, нават і марыць баялася, едучы сюды. Наперад яна прапусціла толькі алімпійскіх чэмпіёнаў — Ларысу Латыніну і Тамару Маніну.

Але радасць, як і гора, не ходзяць паасобку. На другі дзень гэтых адказных спаборніцтваў, калі толькі 6 лепшых гімнастак атрымалі права аспрэчваць першынство на асобных снарадах, Алена яшчэ раз даказала, што з'яўляецца сур'ёзнай сапернiцай славутых гімнастак. Яна зноў пацвердзіла сваё выдатнае майстэрства, атрымаўшы самую ганаровую, самую высокую да таго ж адзіную на спаборніцтвах адзнаку — 10 балаў. І як ні дзіўна, вызначылася яна ў апорных скачках, за якія так хваляваўся Ранальд Іванавіч.

Буйныя гімнастычныя спаборніцтвы ў Беларусі праводзіліся ўпершыню. Як вядома, першы праклаў шлях беларускіх спартсменаў у гімнастыку мінчанін Мікалай Мілігула, які стаў чэмпіёнам краіны. Але там, дзе прайшоў адзін, пройдуць і другія. І вось ужо камсамолка Алена Валчэцкая — студэнтка першага курса Гродзенскага педагагічнага інстытута — смела крочыць па гэтаму шляху.

Сёлета яна ўпершыню прымае ўдзел у буйнейшых міжнародных спаборніцтвах студэнтаў — Універсіядзе, якая будзе праходзіць у сталіцы Народнай Рэспублікі Балгарыі — Сафіі. Алена будзе выступаць пад першым нумарам — а гэта вялікі гонар для маладой беларускай гімнасткі.



**Алена Валчэцкая выконвае практыкаванне на бервяне.**

Радаснай вярталася Алена дадому з тых спаборніцтваў. Хацелася як мага хутчэй сустрэцца з сябрамі, распытаць пра навіны, падзяліцца сваімі ўражаннямі. Не цярпелася збегаць і ў родную школу, дзе яна на грамадскіх асновах рыхтуе юных гімнастак, убачыць сваіх маленькіх выхаванак. Яны, вядома ж, таксама засумавалі па сваёй настаўніцы. Хутка ў дзяўчатак будуць першыя спаборніцтвы на значок «Юны гімнаст», першы выхад у спорт. І хто ведае, можа маленькай Валі Вашкевіч альбо Люсі Князевай, што так старанна выконваюць кожнае Аленіна заданне, прыйдзецца выйсці на змену старэйшым сябрам і ісці тым жа цяжкім, але ганаровым шляхам да перамогі.

**Ніна ПРАКАПОВІЧ.**




# НА ДУДЗЕ МАНАПАЛІСТАЎ...

## МІР

«Я за мір!» — за акіянам
Дзядзька Сэм дзярэ свой рот...
Толькі гэтую стараннасць
Разумей наадварот.
На дудзе манапалістаў
Грае Сэм паходны марш:
Заклікае экс-фашыстаў
На Усходзе ўзяць рэванш.
Сэм скупляе за далары
Міжнародную шпану:
Хоча светам уладарыць —
Мірам ён заве вайну.

## ПРАЦА

«Хто сказаў, што ў нашых Штатах
Беспрацоўных вельмі шмат?
Гэта ж выдумка вар'ята! —
Сэм даводзіць, як вар'ят. —
Сёння ў нас дастатак поўны,
Добра ўвесь жыве народ...»
Сэм, а тыя шэсць мільёнаў,
Што без працы круглы год?
Дык навошта ж выхваляцца
І лухту вярзці-плясці!?
Ох, і многа ж трэба працы,
Каб работу ў вас знайсці!






## СВАБОДА

«Дзе, скажыце, на Усходзе
У краіне у якой
Пакланяюцца свабодзе,
Як у нас? Няма такой!» —
Славу Сэм пяе штодзённа
Той свабодзе, што ў бетон
Закавана ў Вашынгтоне,
І не можа ўзяць разгон.
О, заморская свабода!
Ты нясеш цяжкі свой крыж:
Паліцэйскі дзяржымордa
«Апякае» — не збяжыш.






## РОЎНАСЦЬ

Ёсць аб роўнасці славуты
Біль у Сэма з даўніх год.
Нездарма цярпіць пакуты
Чарнаскуры там народ.
Нездарма Марган з Дзюпонам
І ракфелераўскі спрут
Абдзіраюць, — роўны з роўным, —
Нібы ліпку, просты люд.
Роўнасць Сэмава вядома:
«У турму — як камуніст!
Гаспадарнічай, як дома,
Куклукскланавец-фашыст!»

## ШЧАСЦЕ

«Шчасце — ў золаце купацца,
Па даларавай гары
Да улады дабірацца, —
Разважае Сэм стары. —
А дабраўшыся да ўлады,
Новы бізнэс пачынай:
Кулі, бомбы і снарады —
Для нажывы ўсё пускай!»
Гэтак Сэм-забойца к шчасцю
Цэлы век ужо ідзе
Праз пакуты і няшчасці
Абяздоленых людзей.



**Васіль МАЕЎСКІ.**

Мал. У. Лося.

